# ПОЛЫМЯ

КНІГА ДЗЕВЯТАЯ





ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
1931
БЕЛАРУСІ

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ

ВЕРАСЕНЬ
1931

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК — 1931

# НАША СОНЦА

*Аповесьць*

**Барыс Мікуліч**

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### Дваццаць адзін

1

Ён ляжыць тварам угару, галава адкінута назад, рукі распласталіся па траве—адна—правая—ляжыць у вадзе, другая сударгава скамечыла завяўшы ўжо жмут чамярыцы.

Над ім ляжыць неба: спакойнае ў сваёй размашыстасьці, а гэтая размашыстасьць—бяскрайная блакіць—купаецца ў хвалях ракі.

Яго, напэўна, хацелі кінуць у раку (—цягнулі па зямлі—трава прымятая—), нешта—раптоўнае і непрадбачанае—перашкодзіла дацягнуць да вады: так вось і кінулі на беразе.

Уначы ішоў дождж—буйны, імклівы—і вада засталася аж да раньня ва ўпадзінах вачэй, на моцна сьцятых вуснах.

Стаялі і маўчалі.

Ішлі купацца з рогатам і песьнямі, рушнікі паскручвалі—учынілі гэтымі рушнікамі бойку, каб целы разьмяліся пасьля сну. Хлопцы кпілі над Самайловічам—ня дужа любіў купацца—што ён абавязкова трапіць на топленіка,—Самайловіч, трацячы спакойны тон, агрызаўся ў адказ.

Раньне стаяла такое-ж маладое, як і тыя, што прышлі купацца. Маўчала—густа ўмасьленая расой—высокая трава. Спакойна ішла вада, аблізваючы берагі. Час-ад-часу падалі з алешніку кроплі, яны гулка шлёпаліся аб траву, фігурантна пабліскваў на сонцы расяны россып.

Кінуўшы некаму на рукі рушнік, Калесьнікаў—сьвіснуўшы—разагнаўся, каб кінуцца—у трусіках—у ваду в разьлёту. Ён пабег, а ўсьлед пасыпаліся жарты, рогат, улюлюканьне. І раптам напоўдарозе Калесьнікаў рэзка абарваў бег. За сьпіной выбухнуў рогат.

— Калесьнікаў! Ці не кракадзілу ўбачыў?

— Га-га-га!

— Не, хлопцы, пэўне дзяўчаты купаюцца... Янычка і здрэйфіў!..

— Трымай трусы, Янычка, падаюць!

— Ха-ха! Глядзіце, аж загарэўся ўвесь!

Усе зірнулі на Калесьнікава цела, якое раптам пакрылася густой чырваньню. Галава ўнурылася ў плечы—постаць неяк скрывілася на бок.

— Хлопцы! Гайда сюды!

Штырхаючы адзін аднаго, пабеглі навыперадкі, а рогат і крыкі злучыліся ў адзін гуд, і гэты гуд ляцеў разам з хлапцамі.

Сталі.

— Караткевіч?

— Ігнась?

— Што гэта?

Стаялі і маўчалі. Глядзелі на яго—Ігнася Караткевіча, сакратара райкому—а ён ляжаў нярухомы і бесклапотны, нярухома стаяла вада ва ўпадзінах вачэй. на моцна сьцятых вуснах.

Маленькі Андрыенка, не чакаючы на тое, калі прыдуць у сябе здэтанаваныя таварышы, сказаў:

— Я пабягу ў міліцыю. Трэба што рабіць.

І ён пабег лугам—напрост—да мястэчка, а ўжо наўздагон крычаў Самайловіч:

— Да Патапенкі забяжыся. Расштырхай, калі сьпіць. Хай сюды ідзе.

Неўзабаве на беразе сабраўся народ.

Раззлаваны і ўстурбаваны прыбег Патапенка, на-хаду зашпільваючы гумавы паліто,—ён апрануў яго проста на кальсоны.

— Возьмем, хлопцы, яго адсюль.

У райком нясіце.

Караткевічава цела паднялі і тады ўбачылі: на траве застаўся крывяны сьлед—вырыс чалавечага цела.

— Яшчэ доўга жыў,—заўважыў Калесьнікаў.—З мёртвага столькі крыві ня выльлецца.

— Тры раны цесаком,—агледзеўшы труп, констатаваў начальнік міліцыі.—Эх, і сволачы-ж!.. Ён ужо гатоў быў вылаяцца, моцна ад усяе сілы, каб адвесьці душу, але стрымаўся, махнуў рукой, і ад таго, што лаянка засталася ненароджанай—схмурнела аблічча, зыйшліся бровы, засталося прыкрае нейкае адчуваньне ва ўсёй істоце.

Забітага несьлі мястэчкам у райком.

Ля варот зьбіраліся абывателі, праважалі вачыма ішоўшых, перакідаліся меркаваньнямі—сусед за суседам. Ісакава жонка пад вялікім сакрэтам паведаміла Беневу жонку, што Караткевіч, бязумоўна, застрэліўся сам, і прычынай гэтаму—палец Ісакавай жонкі: стрэліў угару—ні што іншае, як гарачая любоў да дачкі рабіна.

— Яна з ім гуляла...

— Ну, не яна гуляла, а ён гуляў, гэта зусім не адно і тое самае.

— Эт, вялікі мне клопат—ён ці яна. Адно я магу сказаць, што дачцы рабіна гуляць з гоем...

Але маральныя сэнтэнцыі суседак скончыліся нечаканым выпадкам. Па вуліцы бегла, заламваючы рукі, Роза. Спазмы сьціскалі горла, сьлёзы

каціліся па твары—сьлёзы былі буйнымі, цяжкімі. Яна забылася на ўсё навакольнае, не зьвяртала ўвагі на крытычныя пакіўваньні галоў, на грэблівыя ўсьмешкі, на спачувальныя позіркі. Не зьвяртала ўвагі, бо было вялізарнае гора—яна ня мела сілы стрымацца, не хацела стрымлівацца: стрымаешся, схаваеш гора і яно—ня сьпіць-жа, а дбае!—будзе ціснуць мацней і даўжэй, пячы нутро нявымерным болем.

— Ну, ну, Розачка!..

— Усьцешыла старую маццеру, няма чаго сказаць.

— Дачка прылічных бацькоў-яўрэяў! Ай-я-я!

Забітага паклалі ў чырвоным кутку. У пакоі засталося некалькі чалавек: іншыя разышліся хто куды—справы свае рабіць, уражаньні разносіць, рупіцца аб пахаваньні.

— Вораг, таварышы, блізка,—парушыў цішыню Патапенка.

2

Да Стаходу трэба ехаць цягніком да маленькай станцыі (самотны лабаз, цёмная будыніна вакзалу, зьнясілена матляецца звон), з якой—згадзіўшы рамізьніка (а іх тут багата і згадзіць зусім ня цяжка)—прасёлкавымі дарогамі, памінаючы добрых і благіх продкаў, трэба трэсьціся на калёсах пяцьдзесят кілёмэтраў.

Трэба мець на ўвазе, што пяцьдзесят кілёмэтраў на стаходзкіх калёсах—гэта амаль тое-ж самае, падарожжа па нязьведаных краінах, над апісаньнем якіх трацяць сваю развагу дзеці сярэдняга і старэйшага ўзросту. Будзьце ласкавы паехаць у Стаход са станцыі ўначы (а ўдзень гэта вам і ня ўдасца, бо стаходзкія рамізьнікі маюць зазвычай выбірацца на ноч): у вашым зморанным дарогай уяўленьні паўстануць дзівосныя вобразы, пад кожным кусточкам вам будуць здавацца розныя (у тым ліку—і палескія) робінзоны, на пышным лісьці хвой (не рабіце страшкіх вачэй—менавіта хвой, бо дзе-ж на Беларусі растуць пальмы) будуць чылілікаць райскія птушкі, а напрыканцы падарожжа вы захварэеце на непрадбачаную мэдыцынай хваробу, імя якой—амок.

На перадзе вазка сядзіць стаходзкі рамізьнік, портрэт якога даваць тут ня трэба: гэта той-жа Беня-балагол—стары наш знаёмы—што вёз аднойчы Міхася Лынькова, а Міхась Лынькоў, захварэўшы па дарозе на дробнабуржуазны эстэтызм (як сьцьвярджае дыягноз доктара Бэндэ—захвораньне мясцовае), зрабіў з гэтага рамізьніка героя.

Вазок кідае то ўлева, то ўправа: рамізьнік мужна застаецца на сваім пасту—зьвесіўшы галаву, ён сьпіць. Конь ідзе спакойным крокам, выбіраючы больш роўную дарогу, конь ведае, што яго не патурбуюць—гаспадар будзе спаць аж да Забуднянскіх хутароў (пры пачатку гэтых хутароў—заезны двор).

Маўчыць ноч. Маўчаць бесклапотныя дрэвы, абступілі яны дарогу бязудзельна пазіраюць на праезжых.

Анатоль ня можа заснуць. Дый ці можа спаць чалавек, якога чакае новае жыцьцё, новае месца, новыя варункі і людзі. Так! Новыя людзі. Ад іх—ад людзей—залежыць бадай і ўсё іншае—і жыцьцё, і месца, і варункі. Ня сьпіць Анатоль, бо думы ходзяць вал за валам (для аматараў вобразаў заўвага: ніхто ня выкарыстаў роўналежнасьці—морскі вал вал сена), думы концэнтруюцца на людзях, на тэй іх безьлічы, што прышлося бачыць, з якой прышлося працаваць.

Ад'яжджаючы, Анатоль меў гутарку з Арансонам—апо акругкому, які—хлопнуўшы яго па плячы—сказаў:

— Эх, таварыш Шастакоў! Думаеш—хочацца цябе выпраўляць у Стаход? Дый ты нам тут патрэбен, тут, у горадзе...

І, запальваючы дрыжачымі пальцамі папяросу, дадаў ужо цішэй:

— Але там, Шастакоў, небясьпечны фронт. Ведаеш—балаты, лясы, глушыня... Ну, а работнікаў нямашака, хоць гвалту крычы. Моцных людзей няма, а тут вось яшчэ Караткевіча ўгробілі, зусім пуста. Караткевіч у нас рабіў там за чатырох, сьветлая галава, хлапец на вялікі палец.

Нэрвова біўся дым ад папяросы, нэрвова вылёталі словы з ахрыплага Арансонавага горла: у гэтых дзьвюх дэталях быў увесь Арансон—над звычай добры прамоўца—агітатар, спрактыкаваны нэрвовай работай партыец.

— Моцных людзей няма,—гэтыя словы глыбака запалі ў Анатолеву сьвядомасьць, яны неяк акрылілі яго: у гэтых словах ён пачуў падмацаваньне сваім уласным сілам.

Ноч распусьціла свой машастовы веер (аматарамі вобразаў заўвага: ноч зялёных і блакітных пераліваў можна параўнаць з хвастом паўліна),—а дрэвы маўчаць, маўчыць далячынь, маўчыць конь.

Сьвітаньнем былі на-паўдарозе.

Заезны дом стаяў пры дарозе, абнесены нізенькім парканам, а вароты—новыя, яны пахлі яшчэ смалой—былі высокімі і шырокімі: нешта сьмешнае было ў гэтым спалучэньні нязграбных варот і нізенькага паркану.

У хаце народу было мала. За сталом (заплямлены чаем і рукамі абрус)—сядзеў каранасты чалавек—з чатырохкутным лбом, пад якім гарэлі зялёныя вочы (цьвікі дый толькі).

Гаспадар стрэў ля варот, спытаўся, як ехалася, якія навіны ў горадзе, папрасіў закурыць і тады ўрачыста—прыставіўшы напаўкружочкам руку да вуснаў—паведаміў:

— У вас ёсьць папутчыкі, весялей будзе ехаць. Стаходзкі сакратар... Вы, таварыш, чай будзеце піць?

Павіталіся. Вочы (цьвікі дый толькі) гарэлі цёплым гумарам, дый у гэтым агні была яшчэ нейкая—няўлоўная—прымесь: радасьць нейкая.

— У нас шмат работы, а людзей—адзін-два і ўсё тут.

— Мне аб гэтым Арансон казаў. Але думаю, што актыў усё-ж скалоцім.

— Як-жа іначай! Моладзі поўнае мястэчка, але моладзь, ведаеш, такая... як табе лепш сказаць? ну, местачковая. Сам разумееш...

Пілі чай. Патапенка трымаў сподак усёй рукой, растапырыўшы пальцы, дзьмуў, надуваючы няголеныя шчокі, студзіў чай.

Бралася на ўсход сонца. Быў контраст: брудная шэрань заезнага дому і ружовае (кроў у малацэ) расьцьвітаньне раніцы.

У дарозе Патапенка расказваў пра забойства Караткевіча, пра забойцаў, яшчэ неадшуканых.

## 3

Раней гэта было ўрачыстасьцю. Праўда, што-кольвек ад яе—ад гэтай урачыстасьці—засталося і цяпер. Але скажыце на ласку, што гэта за ўрачыстасьць, калі нават стары Шолам—паважаны яўрэй—не адмаўляецца браць грошы, лічыць іх, сварыцца з-за недаданага рубля ў суботны дзень?

Не! І Стаход рэволюцыянізуецца. Гэта можна заўважыць у дробязях, ня кажучы аб рэволюцыянізацыі вуліц (шыльды, лёзунгі, палотнішчы).

Дробязі! Яны формуюць цэлае, монолітнае, галоўнае, яны формуюць жыцьцё. Дробязі! Яны робяць новае—спачатку ледзь прыкметнае, ледзь улоўнае для няўзброенага вока, а гэтае новае расьце, дробязь + дробязь,—яны—гэтыя дробязі, даведзеныя да бесканцовасьці, нараджаюць двуістасьць у тым, што было, што здавалася да зьяўленьня гэтага нового монолітным, двуістасьць супярэчнасьцяй: абалонка монолітнасьці—толькі чадра ўсходняй жанчыны.

Ахутаны дзедаўскімі звычаямі, што з любасьцю праносіліся праз гады, нібы тора ў руках прапаведніка, угрунтаваны мядзянымі падсьвечнікамі і падносамі, чыстымі сурвэткамі ў вечары пятніц—быт у сям'і рабіна прашоў праз рэволюцыю незакранутым, монолітным. Рабін Калмановіч быў тым чалавекам, які ўмеў утойваць ад сям'і раптоўныя няпрыемнасьці, а іх—гэтых няпрыемнасьцяй—была безьліч, дамінуючай адзінкай з якой было зьмяншэньне заработку. Дачка—Роза—аб гэтым ня ведала. Калмановіч ганарыўся мудрасьцю сваёй развагі, што аднойчы падказала яму так:

— Рабін Калмановіч! Калі ты хочаш, каб лёх твой быў сухім і цёплым, калі ты хочаш, каб хмары над домам тваім прайшлі без навальніцы, калі ты хочаш, каб дачка твая—адзіная дачка, рабін Калмановіч!—вырасла вартай годнасьці свайго бацькі—ты маўчы, ты не абурайся на тое, што робіцца навокал, ты рабі выгляд, што жыцьцё цячэ старым рэчышчам.

І Калмановіч гэта рабіў. Ён быў з выгляду спакойным, заўсёды мяккім і аднатонным. Ці стаяў ён каля ўсходняй сьцяны ў часе малітвы ў сінагозе—пачэснае месца, ці гаварыў на вуліцы з набожнымі яўрэямі, ці даваў парады, ці—нарэшце—вячэраў дома—ён быў аднатонным.

Але бывае так: чатырохкутнік вакна адкідае на сьцяну сьветлы стэрэотып; за вакном—на вуліцы—праяжджае воз, устаўлены бутэлькамі з півам; сонечныя промні вар'юющца; па сьветлым стэрэотыпе бягуць зялёныя, чырвоныя, чмурыя хвалькі:—стэрэотып парушан законам пераламленьня промняў. Аднатоннасьць—зьявішча часовае.

Рабін Калмановіч забыўся на закон пераламленьня промняў. Аднатоннасьць была парушана самым нечаканым, раптоўным чынам.

Эстэр у роспачы сказала:

— Твая дачка, Мэер, плакала па гоі. Мне пра гэта казала Бенева жонка. Ты і цяпер будзеш маўчаць, Мэер?

Ішоў вечар у шэрым гарнітуры. Вечар быў ладным юнаком—прайдзісьветам—і ўсё назакольнае ўраз сваю ўвагу скіравала на яго. Вечар штукарыў, галузаваў. Вечар быў шляхетным.

— Ну?—перапытаў рабін Калмановіч.

Эстэр глядзела ў вакно. Яна бачыла, што навычвараў на вуліцы штукар-вечар—моладзь ішла гуляць, пара за парай, нібы ў фігуровым мэнуэце, але дзіўным было тое, што пары былі злучаны самым нечаканым чынам: хто-б гэта даў веры, калі-б сустрэў удзень на мястэчку Хаю Пэрэль—машыністку РВК—побач з шаўцовым сынам Айзікам.

— Ну?—у другое перапытаў рабін Калмановіч.

Эстэр павярнулася да яго, запанаваў на твары клопат, турботны—матчын—роспач.

— Вунь зірні, калі маеш ахвоту, — і яна ткнула рукой у шыбіну—(адказам быў тупы звон).

З-за фіранкі — ён прытрымліваў яе аднэй рукой — зірнуў рабін на вуліцу. Вочы ўраз набрылі на дачку—на ягоную дачку Розу: ішла яна самотнай, воддаль ад вясёлага грудку моладзі.

— Ну?

Эстэр узлавалася. Гэта было відаць па тых лілёвата-барвянцовага адценьня плямах, што ў момант упрыгожылі твар.

— Хіба ты ня бачыш, Мэер, якая сумная твая дачка?

— Ша!—рабін узьняў рукі ўгару. — А чаму маладой жанчыне пажурыцца няможна? Дзе гэта такі закон ёсьць?

— Эт, што з табой гаварыць. — Лілёвата-барвянцовыя плямы пачалі бляknуць. — Бенева жонка Соня казала, што як хавалі гэтага самага Караткевіча, каб яму лёгкай зямля была, дык Роза траха ў магілу не ўвалілася. Шэйна казала Соні, што Фаня Рузіна казала яе дачцы Песі, як Іда Абрамаўна бегала ў аптэку да Сары Сапожнікавай за валер'янкай для...

— Уух! Шэйна казала Соні, Соня казала Фані, Фаня казала Песі,—ня сьцерпеў рабін Калмановіч.—Ну, і што, што з гэтага выцякае?

— Ой, Мэер, я бачу, што ў цябе мазгі выцякаюць. Ты, Мэер, асьлеп, не на людзях кажучы. Убі сабе ў галаву, што Роза ад рук адбі-

лася, мне сорам па мястэчку прайсьці. Усюды, усюды гавораць пра мой няшчасны лёс!

Эстэр да такой ступені расхвалявалася, што доўга не магла патрапіць рукой у кішэню, каб знайсьці насоўку і абцерці сьлёзы.

Мэер задумаўся.

Ён пайшоў у суседні пакой, бразгаў умывальнікам, доўга абціраў рукі. Пасьля гэтага, уявўшы маліцьвеньнік, ён сказаў безапэляцыйным тонам:

— Добра. Я заўтра пагавару з Розай. Запалі лямпу.

Хістаўся ў маліцьве рабін. Хісталася лямпа. Хісталіся цені.

4

Навіна (ад Менскай вуліцы, дзе жыў Беня-балагол, яна завярнула на Аптэкарскую, трапіла на рынкавы пляц, папаўзла, нібы вусень па дрэве, перавулкамі і завулкамі)—усіх зацікавіла.

Цяпер, сустрэўшыся ля вазоў, гаварылі так:

— Добры дзень, Шэйна!

— Здаровенькі былі! Нешта дарага сёньня масла. Ліхія часы наступаюць...

— Эт, аб чым гаварыць, Шэйна! Масла дорага, недакупішся. — Пауза. Прыкры рух рукой.—Ды што масла! Вось людзі і тыя дзешава каштуюць.

— Чаму вы так кажаце, Соня? Няхай бог усьцеражэ нас.

— Я кажу пра Караткевіча.

— Ну?

— Вось я і кажу—забілі яго, а новага прыслалі на яго месца. Самі людзі на сьмерць ідуць.

— Новага прыслалі?

— Так, прыслалі. Сёньня прыехаў.

Навіна ішла з хуткасьцю пажару. Увечары ўсё мястэчка павысыпвала на вуліцу, каб пачуць больш пэўныя весткі аб прыехаўшым, каб угледзець яго.

Вырашалі проблему:

— Яўрэй ён ці рускі?

— Беня сказаў, што няможна зразумець. З твару — рускі, але-ж гаварыў з Бенем па-яўрэйску.

— А што значыць—з твару? Хіба ў яго напісана на ілбе, ці што?

— Але-ж відаць.

— Эт, відаць! Пажывем, убачым.

Чаканьні цікаўных няспраўдзіліся. Прыехаўшы не прайшоў тым вечарам па местачковых вуліцах.

У адзін голас вырашылі:

— З гонарам.

— Гарэдзкі.

У гэты-ж самы час, у цесным пакойчыку Патапенкі ішла гарачая гаворка. У пакоі было пяць чалавек — райкомаўцы. Сваволіў самавар. Яму падпяваў гарачы яшчэ хлеб: ён пыхцеў пад нажом.

— Комсамолу тут шмат працы. Мястэчка вялікае, раён ладнаваты. А вось комсамольцаў у нас—як таго гароху на каменьні.

— Колькі ў местачковай ячэйцы?

— Даведкі даваў Андрыенка. Ён прыкладваў сярэдні палец да ілба, прыжмурваў вочы і адказваў:

— Было дваццаць адзін чалавек. Аднаго трэба лічыць выбыўшым.

— Малавата, малавата. Ну, а як з дысцыплінай, з культурным, політычным разьвіцьцём?

Андрыенка на гэты раз адказаў не адразу. Яго універсальны протакол—галава—страціў у гэтым месцы сваю дакладнасьць.

— Дысцыпліна, кажаш ты? Трэба сказаць шчыра: з дысцыплінай—алох. Гэта бадай першачарговае пытаньне, што трэба вырашыць.

Патапенка дадаў:

— Было некалькі выпадкаў простага хуліганства. Яшчэ і цяпер прыходзіцца расхлёбваць. Нават справа да нас дайшла. Але... у мяне такое ўражаньне, хлопцы, што Шастакоў не вячэраў.

— Дзе ты думаеш асесьці?

Анатоль усьміхнуўся.

— На кватэры Караткевіча. Я там ужо з Самайловічам быў. Будзе добра. А наконт вячэры ты не памыліўся, ад раньня нічога ня еў.

Сваволіў самавар. Пыхцеў пад нажом хлеб. Ценкія скуркі ад кілбасы сьвяціліся апэтытным бляскам.

— Лі чай, Шастакоў, наварочвай.

Праз поўгадзіны разьвіталіся.

Анатоль застаўся ў сваім новым пакоі. Распакаваў чамайданы. Агледзеўся. Пакой быў сярэдняга памеру: два вокны глядзелі ў ноч. На этажэрцы ў бязьладзьдзі навалены былі кнігі. Анатоль узяў адну з іх. Гэта быў зборнік аб моладзі і мяшчанстве. Кніжка была густа ўмалявана алаўком, на палях дробных почыркам упісаны заўвагі. Далей Анатолю трапіўся зборнік рашэньняў пленуму ЦК, а наступная кніжка разьвесяліла яго. Гэта была—„Без черемухи“ Раманава.

— „Значыцца,—думаў Анатоль,—пытаньне бытавое тут на першым месцы. Як ня дзіўна, прыдзецца пачынаць з самых азоў“.

І яму ўспомнілася прайшоўшае.

... Зіма люцее. Какафонія мяцеліцы заўладала горадам — перавулкі і вуліцы ў сьнежнай цемры паглынулі рэдкія ліхтары. Пуста. Ён—Анатоль — сьпяшаецца дахаты. Наставіў каўнер, на вочы шапку насунуў. Вецер гудзіць, вецер зьвярэе, а яму—цёпла, і з гэтай прычыны—весела. Наперадзе на рагу — ліхтар. Падыходзячы да яго, убачыў постаць: дзяўчына.

— Таварыш... Слухайце... Праводзьце мяне дахаты.

У галаве мільганула—„вулічная напэўна“, але—каўнер высокі, шапка цёплая, гарацъ шчокі ад ветру—лёгка і весела. Падышоў.

— Хадземце,—і нечакана для сябе зарагатаў.

Какафонія мяцелі заўладала горадам — перавулкі і вуліцы, цёмныя кубы камяніц, танклявы стогн ветру—усё гэта ўспомнілася толькі праз колькі часу, тады, калі ён абчышчаў у сенцах з паліто сьнег, тады, калі прыемнай—ня часта перажыванай — утульнасьцю засьпявалі спружыны канапы.

Пры сьвятле адбылося перараженьне цёмнай жаночай постаці: яна была зусім маладой, з махнатай шапкай ільняных валасоў, з тонкімі — майстэрскі падфарбаванымі—губамі.

— Эх, як гарыць цела ад марозу, — жанчына млявала выцягнула ўгару рукі, пазяхнула, а ў вейках хаваўся ледзь улоўны сьмех.

Ён—механічна—пацягнуў яе да сябе, пасадзіў на калены. Яна, усьміхаючыся, церабіла ягоны гальштух, песьціла валасы, мякка дакраналася сваімі грудзьмі да ягонага цела.

— Які ты малады,—сказала яна.—Напэўна, недзе маці чакае... А я цябе ня пушчу. Мы вось зараз віна вып'ем, павячэраем. Ты любіш віно? Так, ты любіш віно... Табе падабаюцца такія, як я? Чаго ты пазіраеш так? Я прыгожая?.. — Яна абхапіла рукамі ягоную шыю, засыпала пацалункамі.

Як выпілі — сьвятло пайшло акружынамі, цела пружынілася вясёласьцю і безразважнасьцю. Плакаў за вакном вецер, настывала на вакне дзівосная маразовая росьпісь.

Перараджэньне цёмнай дзявочай постаці адбылося канчаткова: яе цела паблісквала сьвежай ружовасьцю. Ён схапіў яе, падняў, паваліўся на канапу: акружыны пайшлі шалёнай быстрынёй.

Яго сустрэў дзяжурны.

— Гэта што значыць, Шастакоў?

У адказ было бяссэнсавае мычаньне.

— Эй, братка, з табой такога ня было. У нас ты лічышся ўжо выхаваным, прыкладам. А тут... Ды зірні на сябе, што з тваім тварам?

З глыбіні чатырохкутнага люстра выплыў адлюстровак бледнага твару, густа ўмаляваны чырвонымі плямамі (—„яна цалавала фарбаванымі губамі, вось сволач!“).

— А ўдзень будзе сход ячэйкі, цябе вылучаюць сакратаром. Ты разумееш, што гэта азначае? Першы-ж раз у комуне са сваіх сакратара выбіраюць, цябе, значыцца. А ты...

Быў сорам перад рыжым Ромкам — дзяжурным па комуне, а разам з сорамам войстра паўставаў боль, накіпам пеніўся ён.

— Ромка,—схапіў за руку Анатоль.—Слова даю... Чуеш? Толькі не кажы гэтага нікому заўтра... Гэтага ніколі ня было, ты-ж ведаеш мяне з першага дня комуны... Ведаеш, яна стаяла адна, ёй было халодна...

ну, вось... жаласьлівым голасам папрасіла давесьці дахаты... я нават рагатаў... Чуеш, Ромка, слова даю...

У канцы калідору вырасьлі бомы гадзіньніка, вырасьлі і рассыпаліся гулкім пошчакам пад каменнаю стольлю калідору.

— Ідзі спаць... Толькі цішэй, не пабудзі хлапцоў... Сам будзеш вінен, калі даведаюцца,—адказаў Ромка.

... Анатоль шпурганаў кніжку Раманава. Нават пры ўспамінах нешта драпанула па целе—войстрае, дужа няпрыемнае. Як здарыўся гэты выпадак—прышлося шмат працаваць над сабою, каб вытруіць тое благое, што яшчэ засталося ад блуканьня бяспрытульным, у „сламе“ з злодзеямі, налётчыкамі, марафэтчыкамі, і ён—Анатоль—у гэтай барацьбе са сваім уласны я выперадзіў шмат каго з іншых насельнікаў комуны.

Ён адчыніў вакно.

Лёгкай прахалодай павявала ноч. Недзе за мястэчкам,—ля ракі,—сьпявалі зашмальцаваную, нібы хвастач, патрапаною, нібы саракагадовая жанчына, песьня.

Сьляці к нам, ціхі вечар,
На мірныя палі...

5

Гэта быў першы сход пасьля доўгага перапынку. Яшчэ за дзень да сходу былі выклеены абвесткі, у якіх асабліва падкрэсьлівалася, што гэты сход адчынены для ўсіх, што на гэты сход запрашаецца беспартыйная моладзь. Так ніколі не рабілі ў Стаходзе. Але актывісты—Самайловіч, Адрыенка, Длугач—не протэставалі, не супярэчылі новаму сакратару:

— Хлапец свой. Ведае, што робіць.

Анатоль тымчасам рыхтаваўся да сходу. Гэты сход павінен быў вырашыць багата пытаньняў: ад яго залежыла праца ячэйкі, а галоўнае—рост яе.

— Ведаеш, Патапенка, яшчэ сам не ўяўляю, як павесьці сход,—казаў Анатоль.—Адно толькі ведаю, што ад сходу трэба узяць усё, што можна, зрушыць справу з мёртвай кропкі трэба.

— Як павесьці, будзе відно. Абы ўпэўненасьць у патрэбе гэтага сходу.

Адзін за адным сыходзіліся ў нардом. Андрыенка перапыняў кожнага прыйшоўшага ля дзьвярэй, цягнуў да стала, соваў у рукі алавок і—падштырхваючы—казаў:

— Зарэгіструйся, братка. Прозьвішча і імя, дзе працуеш.

— А як па бацьку?

— Бацьку з маткай можаш сабе пакінуць. Гэтага ня трэба.

Прышоў Мікола Длугач. Ён быў у чорным гарнітуры, у белай кашулі з мяккім] каўнерыкам, нядбайна выпушчаным напаверх. Гэты белы каўнерык надаваў усёй постаці Длугача нейкі асаблівы выгляд: буйны—

рымскіх абрысаў—нос, тонкія, нібы жаночыя, губы, бязладзьдзе расчэсаных угару русых валасоў,—усё гэта было неяк падпарадкавана беламу мяккаму каўнерыку, нядбайна выпушчанаму напаверх. Прышоў Мікола Длугач не адзін. Разам з ім прышоў сьмех, прышлі галасы чатырох дзяўчат. З іхным прыходам абстаноўка неяк ураз зьмянілася: зрабілася весела, цесна, шумна.

— Дуглач, цябе Шастакоў кліча.

— Дзе ён?

— У чытальні. Ідзі хутчэй.

Адчыніў дзьверы. Чытальня была пустой. Ля вакна, сьпіной да яго, стаяў новы сакратар райкому, пра якога Мікола чуў шмат, але якога яшчэ не пасьпеў убачыць.

— Добры дзень.

Анатоль павярнуўся, працягнуў руку.

— Я бачыў праз вакно, як ты ішоў з дзяўчатамі. Мяне гэта дужа зацікавіла.

— Што менавіта цябе зацікавіла?—ня ведаючы, як зразумець словы сакратара, перапытаў Длугач.

Анатоль ледзь прыкметна ўсьміхнуўся. Длугач хацеў стрымацца, але гэта не ўдалося: ён усьміхнуўся таксама.

— Мы падумалі, відаць, адно і тое-ж. Не, не дзяўчаты мяне зацікавілі... Гэта ня так важна... Вось ты з імі неяк абыходзішся лёгка... Трэба гэта выкарыстаць.

— Ну?

Анатоль бачыў, як паволі чырванее Міколаў твар. Як кладзецца па кутках губ вінаватая нейкая ўсьмешка.

— Ды, як я бачу, ты не разумееш мяне,—засьмяяўся Анатоль.— Трэба выкарыстаць у тым сэнсе, каб дзяўчат уцягнуць у ячэйку. У нас-жа ніводнае няма. Толькі трэба асьцярожна. Нам трэба самае лепшае, самае здаровае. Вось было-б нядрэнна, каб сёньня на сходзе да нас у ячэйку падала заяву якая-небудзь дзяўчына.

Мікола зарагатаў.

— Ну, таварыш Шастакоў, ты-ж і можаш страху паддаваць. А я ўжо думаў, што табе нагаварылі на мяне нямаведама чаго. Чысьціць мяне ўзяўся. А наконт дзяўчат гэта можна. Я гэта зраблю.

— Толькі вазьмі ў апрацоўку такіх, якія нам карыснымі будуць.

— Добра, добра, я гэта зраблю.

Убег Самайловіч.

— Братцы, давайце пачынаць. Восьмая гадзіна ўжо.

— А комсамольцы ўсе?

Самайловіч разьвёў рукамі.

— Дзе там усе! З дваццаці толькі чатырнаццаць.

— Пойдзем пачынаць.

Калі сярод прышоўшых, што бяз жаднага парадку расьселіся па пакоі, вырасла постаць Шастакова—высокі, з прыгожым тварам (энэргічныя сінія вочы пад дужкамі чорных брывей)—ён адразу завалодаў увагай усіх прысутных, тады ўраз сьціхлі, абарвалі гаворку на сярэдзіне, наважыліся слухаць.

— Таварышы! Шэсьць комсамольцаў ня прышло на сёнешні сход. Я думаю, што аб іх трэба паставіць пытаньне на бюро. Ячэйкі даўно ня было, сходы нячастыя, і ня варта багата разважаць аб прычынах. якія перашкодзілі ім зьявіцца на сход.

Самайловіч, перагнуўшыся праз сьпінку крэсла, шаптаў Андрыенку:

— Ой, братка, навошта ён гэта кажа? З гэтага сход пачынаць няможна.

— Маўчы.

— Цяпер, калі перад нашай організацыяй, перад нашай ячэйкай на ўвесь рост паўстала пытаньне аб большай гнуткасьці ў працы, мы павінны асабліва войстра паставіць пытаньне аб дысцыпліне. І ня толькі, таварышы, мы яго ставім, мы яго павінны вырашыць і вырашаем. Наш аўторытэт, аўторытэт комсамолу, формуецца нашай зьяднанасьцю, нашай адзінасьцю ў працы. А без дысцыпліны, пры нядбайнасьці да выконваемае работы—гэтай адзінасьці ня будзе. Перад намі паўстала яшчэ адно пытаньне,—казаў далей Шастакоў.—Гэта пытаньне тычыцца нашай стаходзкай ячэйкі ў значна большай ступені, чым усе іншыя пытаньні. Мы абвяшчаем барацьбу за рост нашых шэрагаў, за прыліў у шэрагі комсамолу лепшай часткі беспартыйнай моладзі.

Длугач казаў да Жэні:

— Слухай, Жэня, ты павінна ўступіць у ячэйку.

— Гэта гарыць?—гэтак-жа ціха пыталася Жэня.

— Ды не гарыць, а ведаеш...—моцна сьціснуў руку.—... Так лепш будзе. Я цябе...

— Мацней любіць будзеш?

Длугач змоўк. Потым лучыўшы спадручны момант, сказаў зноў:

— Дый пра што, Жэня, казаць. Ты-ж у нас самая актыўная, самая баявая. Здаецца, сама не адзін раз аб комсамоле думала... А я, Жэнь, мацней любіць буду... усё-ж свая, комсамолка.

— Ну, ты... слухай лепш.

Пасыпаліся запытаньні. Пыталіся рознае: як у гарадзкіх ячэйках з дысцыплінай, чаму шэфства для абмену практыкай няма, ці організуем дыспут пра комсамольца ў быту, чым скончылася сьледзтва па справе забойства Караткевіча, ці будуць узімку працаваць гурткі.

— Сьледзтва яшчэ ня скончана. Аб выніках будзем ведаць. Дыспут організуем. На мясцовым матэрыяле. Для гэтага трэба рыхтавацца. Хто за тое, каб гэту справу даручыць Самайловічу? Гурткі будуць. Яшчэ не абмяркоўвалі плян працы, але яны будуць.

Апошняя запіска—акуратна складзеная—была наступнай:

„Таварыш Ш. Я чула, што ты быў бяспрытульным. Як ты трапіў у КСМ? Раскажы аб сабе“.

Анатоль засьмяяўся.

— Тут, таварышы, пытаюцца пра мяне. Як-небудзь наладзім вечар самадзейнасьці, я на ім і раскажу што-кольвек цікавае з свайго жыцьця. Цяпер скажу толькі адно. У КСМ уступіў у працоўнай комуне для бяспрытульных. Пытаньняў больш няма?

— Хто хоча выказацца,—запытаўся Андрыенка, абмацваючы вачыма прысутных.

Цяпер пачалося звычайнае. Кожны чакаў, калі пачне гаварыць іншы, пачуліся галасы:

— Ды аб чым гаварыць багата.

— Усё зразумела.

— Абы работу пачыналі...

Ля сьцяны ўзьнялася з месца дзяўчына сярэдняга росту, войстравокая, з задзёрыстым вырысам губ. З чырвоным грабянём у валасох. Яна сказала:

— Дай, Андрыенка, мне слова.

— Ну, ну, шпар!

Дзяўчына кашлянула. Мэханічна правяла па валасох рукой, прыгладзіла іх—валасы паблісквалі чорным гладзем.

— Вось Шастакоў правільна сказаў аб дысцыпліне. Гэта ў ячэйцы павінна быць на першым месцы...—Яна раптам замяшалася.—Ды я не пра гэта... Я хацела сказаць пра сябе...—Чырвань заліла твар.—Слухай, Андрыенка, лепш сам прачытай... вось тут я напісала,—і яна сьпехам перадала паперу.

Андрыенка прачытаў:

— У комсамольскую ячэйку мястэчка Стаход. Заява.

— Ой, Жэня!—штырхнула яе суседка. Ты ў комсамол паступаеш. А што цётка скажа?

— Што яна скажа? Хіба я не сваім розумам жыву?

Праз крэслы прабіраўся да яе Шастакоў. На твары была цёплая, вясёлая ўсьмешка, ёю-ж—гэтай усьмешкай—гарэлі вочы. Ён схапіў Жэню за руку і, цісьнучы яе, сказаў на поўны голас:

— Цісну руку, бо гэта першая комсамолка, першая дзяўчына, што не пабаялася... цёткі!

Яго словы захлынуліся ў гулкіх аплёдысмэнтах і рогаце.

6

Калі-б Калмановічу сказалі, што ў пятніцу яму ня прыдзецца есьці фаршыраванай, туга нашпігаванай цыбуляй і перцам рыбы, калі-б яму сказалі, што ягоная ўласная жонка Эстэр, выпрабаваная за трыццаць гадоў сумеснага жыцьця, упадабала маладога мужчыну і кінула ягоны

дом—дык і тады-б Калмановіч ня зьдзівіўся, ня страціў-бы свайго спакойнага, аднатоннага выгляду.

Дый ці можна параўнаць з гэтым усім тое, што ўчуў толькі што рабін Калмановіч? Ці можна паверыць, што вушы недачулі, вочы недагледзелі? Не! Хочаш—ня хочаш, а паверыць прышлося.

— Хай сьцеражэ бог, Мэер. Але што гэта будзе, калі дзяўчаты ў комсамол папісаліся? Аб гэтым трэба падумаць.

— Так, аб гэтым трэба падумаць,—падмацаваў рабін Калмановіч, і, ашчарэпіўшы рукамі галаву, пачаў думаць.

Сусед сядзеў насупраць. Сусед спадзяваўся на розум рабіна, верыў у яго, як у самога сябе. Ён і ня ведаў, якое выйсьце знойдзе рабін, але выйсьце знайсьці трэба абавязкова—гэта сусед ведаў добра.

— Гэта яшчэ палова бяды, Мэер, калі хлопцы пішуцца. Ну, яны самі сабе гаспадары, нічога не парадзіш. Але, Мэер, дзяўчаты!

— Так, дзяўчаты,—пакіўваў галавой рабін Калмановіч.

— Калі ўжо яны пайшлі, дык тут трэба бачыць канец.

Рабін Калмановіч дэталізаваў словы суседа:

— Гэта пачатак канца, Нохім. Гэта азначае... Што гэта азначае? Адбіліся ад рук, ад хаты, ад законаў... ну, і канец яўрэйству...

— Эт, аб чым думаць багата! Трэба ратаваць маладых ад пагібелі.

Даўшы „спакойнага сна“, бразгаючы клямкамі, пайшоў з хаты сусед. Калмановіч паменшыў агонь у газоўцы, сеў за стол, паклаўшы перад сабой сухія, з сінімі жыламі, рукі. Калмановіч задумаўся. Дума была важкай і цяжкой нязьмерна. Трэба было ламіць свае старыя звычкі, пераконваць сваю ўласную развагу, што аднойчы падказала правілы аб аднатоннасьці. Аднатоннасьць гэтую трэба было адкінуць, трэба было забыцца на яе. Што з таго, калі ён будзе безрупатлівым і аднатонным звонку?—ссаць, драпаць, балець будзе ўсярэдзіне, усёй істотай будзе валодаць турбота, будзе хадзіць турбота цэлам, і ці добра, ці блага гэта абыйдзецца—хто-ж ведае?

У Калмановіча—дзьве існасьці. Адна—карэнная—што, уцаляваўшыся аднойчы ў развагу, прадыктавала ўстойлівы, здавалася, закон:

— Рабін Калмановіч! Калі ты хочаш, каб лёх твой быў сухім і цёплым, калі ты хочаш, каб хмары над домам тваім прайшлі без навальніцы, калі ты хочаш, каб дачка твая—адзіная дачка, рабін Калмановіч!..

Ходзіць цэлам турбота, важкімі ды цяжкімі думамі, засела турбота ў галаве. І настойліва, і балюча, і войстра гудзіць у істоце, у падсьвядомасьці другая, толькі што народжаная, існасьць:

— Слухай, слухай, рабін Калмановіч! Лёх твой, дом твой, дачка твая... так, дачка твая кіне бацькаўскі дом, будзе жыць з гоем... Дзякаваць боку, аднаго забілі. Дык ша! Знойдзецца новы,—хіба мала комсамольцаў, што зазіраюць у вочы твае дачкі?

Калмановічу раптам здалося, што за сьпіной у яго стаіць нейкі незнаёмы чалавек, чалавек уняў позірк у ягоную сьпіну, чалавек ашчэр-

вае ў злыдушным рогаце рот. Калмановіч усхапіўся. У хаце нікога ня было. На вуліцы, пад самым вакном, стаяла Эстэр з Шэйнай, пра нешта ціха перагаварваліся.

Рабін падышоў да вакна.

— Эстэр,—паклікаў ён жонку.—Хадзі ў хату.

І тады, як ля дзьвярэй вырасла маленькая пагорбленая жончына постаць, у істоце Калмановіча другая існасьць канчаткова перамагла першую.

— У пятніцу,—сказаў Калмановіч,—трэба прымаць гасьцей. Няхай Роза павесяліцца з таварышкамі. Я хочу, каб у нашай сям'і панавала весялосьць. Трэба, каб была поўная хата маладых, каб было весела, Эстэр.

Жонка стаяла ля дзьвярэй, прымарожаная нечаканым рашэньнем рабіна, стаяла старая Эстэр і пазірала на мужа, а ў вачох вырасьлі—

— ??

Калмановіч правёў рукой па машастовай зялёнага колеру сурвэтцы, разгладзіў складкі.

— Трэба ратавацца, Эстэр. Я—яўрэй, і для мяне ўсе яўрэі—яўрэі. Трэба ратаваць іх.

Трагічным быў голас рабіна, трагічным быў цень рабінавае постаці, што, пераламіўшыся, лёг на сьцяну і столь, але гэтага не магла зразумець старая Эстэр, бо гардэроб умоўных чалавечых пачуцьцяў местачковаму жыхару невядомы. Аджа трагічнасьць—зьява адносная, бо я ведаю, што зайздросны позірк Бэрнарда Гэтцке выклікае ў часткі гледачоў сьлёзы спачуваньня, а іншым—у тым ліку і мне—хочацца дзёрзка рагатаць над кволасьцю застарэлага буржуа-лёвэласа: дык ці-ж у часе кіносьансу распачынаць спрэчкі аб жанры, аб амплюа Бэрнарда Гэтцке?

Гэта мы, чытач і аўтар, можам уявіць сабе трагічнасьць рабіна Калмановіча: чорны цень, пераломлены на сьцяне і столі, доўгая шызая шыя, войстры вырыс твару з чорнай мяккай барадой; у вачох захаваўся празрысты адлюстровак турботы і... мне хочацца рабіна Калмановіча ў гэты момант параўнаць з Ісусам хрыстом Врубэля.

Але старая Эстэр сваёй жаночай інтуіцыяй, сёмым пачуцьцем чалавека зразумела, што трэба слухацца мужа, муж ведае, што робіць.

— Ой, цорэс,—сказала ў роспачы Эстэр.

7

Квадрацік паперы, густа ўпісаны дробнымі літаркамі, ляжыць перад імі на стале. Далей—за сталом перад імі вакно, шкло ў вакне ў дробных пухірках, і вуліца, якая відна праз шкло, камэдна ліліпуцiцца: хочаш разгледзець добра, што робіцца на вуліцы, шчыльна вачыма прыхініся да шкла, захіні вочы рукой напоўкружочкам—дагістарычным тэлескопам—і тады ўбачыш людзей на вуліцы ня ліліпутамі, не акторамі „Пятрушкі“, а самых сапраўдных людзей на звычайны чалавечы рост.

Гэтае—дрэнна зробленае шкло—дадзела папярэдніку Шастакова, і вакно было завешана вялікім аркушам тоўстае паперы. Дакладчыкі, рыхтуючыся ў гэтым пакоі, кавалак за кавалкам падралі фіранку на тэзісы,—плян, што ляжаў у выглядзе папяровага квадраціка перад імі, быў таксама кавалкам гэтае фіранкі.

— Галоўнае што? Нардом трэба зрабіць сапраўды культурнай установай, а ня месцам для спатканьняў. Яго трэба загрузіць цікавай, карыснай і вясёлай працай. Значыцца, мы пачынаем з вечара самадзейнасьці?

— Ёсьць. Расплаціроўка гурткоў. Ты бяры сабе гурток марксізму і ленінізму. Патапенка вельмі заняты, ад яго нічога ня возьмеш.

Дробным, акуратным, як і сам, почыркам Длугач напісаў побач з „Маркс—Ленін" прозьвішча сакратара. Анатоль усьміхнуўся ад раптоўнага зьбегу слоў.

— Слухай, Длугач. Так і ўмаўляемся. У суботу павінен быць вечар самадзейнасьці. Зьбяры хлапцоў, няхай нардом у чалавечы выгляд прывядуць.

— Добра, добра. Усё будзе зроблена,—Длугач сунуў папяровы квадрацік у кішэню, вышаў з пакою, прыгладжваючы рукой непаслухмяныя валасы.

Анатоль пайшоў да Патапенкі.

Цьвіў твар мяккай усьмешкай, і гэтая ўсьмешка рабіла Патапенку дарослым дзіцянём: стваралася ўражаньне, што не ў паперах—за пісьмовым сталом—корпаецца Патапенка, а рукамі па лужыне плёскае русявы прыгажун, ці лепіць з жоўтага пяску бабкі.

— Ай, братка!—агрэў далоньню па ўласнай патыліцы Патапенка.— Ты ведаеш, дрэнная ў нас справа з паступленьнем падатку. Па Ціхвінскаму сельсавету, прыкладам, на сёнешні дзень траха да дзесяці процантаў даходзіць. І ў хвост і ў грыву крыў Жолуда, а рады нямашака. Чорт ведае, што рабіць!

Ён зьвёў бровы—шырокія ды густыя бровы,—не, ня ўмее сакратар парткому рабіць твар строгім. Бровы былі зьведзенымі, на ілбе італьянскім алаўком намаляваны зморшчыны (—пад войстрым кутом сяклі яны бровы), а губы тапырыліся ўсьмешкай.

— Пашлі ў Ціхвінічы Самайловіча, я яго праінструктую,—прапанаваў Анатоль.

Патапенка махнуў рукой.

— Яго ўжо фінчастка ў Ніўкі выправіла. Я аб гэтым думаў.

Шастакоў узяў са стала дырэктыўны ліст, прабег яго вачыма: за звычайнымі радкамі (друкавалі пад сьвежую капірку, літары пасталі густымі плямкамі) была трывога—націснуць на фронт сельгаспадатку.

— Выправім Длугача, Патапенка. Ён справіцца.

Патапенка войстра зірнуў на Шастакова.

— Не, не,—засьпяшаўся ён.—Длугача ня трэба, нешта ў ім ёсьць гэткае... фацэтнае.

— Табе гэта здаецца.

Але Патапенка, расьсякаючы паветра рубам далоні, шпарка сыпаў далей:

— Ня люблю я яго, і цябе хацеў папярэдзіць... Ты нешта з ім шмат гаворыш, нагружаеш работай...—Сьцішыўся. Узяў Шастакова за руку.— Ня ў той бок, Шастакоў, глядзіць хлапец. У галаве адно, каб толькі шчыблеты блішчэлі, каўнерык быў чыстым? Не, не, я ведаю, я не памыляюся, ня люблю яго...

— Не падыходзь так да людзей, Патапенка, цяпер-жа ў нас не ваенны комунізм, што мы ў апорках мусім хадзіць. Якраз гэта не загана.

Сказаў Анатоль і зірнуў неспадзеўкі на свае боты: забыўся пачысьціць, густа ляжаў на іх пыл.

— Яно так, дык так,—мякка сказаў Патапенка.—Але вось ня люблю я яго, што хочаш рабі...

— Калі ўсе партыйцы заняты, паслаць няма каго,—настойваў Шастакоў,—дык справа ясная—мы павінны дапамагчы. Ведаеш што? Няхай Длугач едзе разам са мной. Я ячэйкі наведаю, па сваёй лініі рабіць буду, адначасова-ж і яму дапамагу. Згодзен?

— Круцíся ні круцíся, а згадзіцца трэба. Асабістую антыпатыю ня возьмеш-жа за прынцып.

Шастакоў засьмяяўся.

— Так-бы вось і разважаў заўсёды.

Па дарозе дахаты зайшоў на ўсякі выпадак у РВК. У шырокім сьветлым калідоры—райвыканком зьмяшчаўся ў былым панскім палацы—было пуста. Падыходзячы да габінэту старшыні, Анатоль пачуў за сьпіной дзявочы рогат. Ён абярнуўся.

— Добры дзень, Шастакоў,—колючы яго вачыма, павіталася Жэня. — Не заўважыў хіба?

Разам з ёю быў і Длугач. Анатоль успомніў словы Патапенкі, позірк мімаволі прыпыніўся на старанна наваксаваных Длугачовых шчыблетах, Анатоль усьміхнуўся.

— Добра, што ты тут. Заўтра раніцою паедзем у Ціхвінскі сельсавет. Сход будзеш праводзіць. Ну, як жыцьцё маладое. Жэня?

— Ой, трымайце мяне за контрафалды!—зарагатала Жэня.—А як старое жыцьцё? Ці не зарана ў старыя запісвацца, Шастакоў?

Анатоль паспрабаваў быў нацягнуць на твар маску сур'ёзнасьці.

— У ангельцаў ёсьць добрая пагаворка. Рэчы столькі гадоў, на колькі яна паказвае...

— Ну! Гэтая добрая пагаворка якраз і ўгробіла твае аргумэнты.

Утрох яны пайшлі ў сталоўку. Па дарозе Жэня расказвала аб тым, як задумала яна мэханізаваць кравецкую майстэрню, як цяжка перакана́ць райвыканкомаўцаў, каб адпусьцілі на гэтую справу грошы. Жэня

расказвала, падмацоўваючы словы свае энэргічнымі рухамі і звонкім—гуд бубнаў—рогатам, ад якога рассыпаліся ў розныя бакі курыцы, што дагэтуль спакойна і рупліва разграбалі нязьмеценае яшчэ, сьвежае сьмецьце.

8

Восень стаіць цёплая. Паветра пахне мускатам, такім, што кружыць мяккім вальцам галаву, бродзіць кроў ад гэтага восеньскага водыру, нібы віно. І як людзі—п'янеюць туманы, яны густой пенай асядаюць па юрох, за імі—туманамі—хаваюцца лысіны юроў, туманы асядаюць тлустым накіпам, а калі сонца абудзіцца—вар'ююцца яны, рассыпаюцца ў прасторах кор-дэ-балетам, каб наступнай ноччу зноў зьбірацца на бяседу—пракаветнымі рыцарамі—наўкола нязьлічоных сталоў — лысін юроў.

У мястэчку-ж восень куды бяднейшая за тую багатую сястру сваю, што асталявалася на палёх, наўкола мястэчка. У мястэчку восень аднатоўвае сваё бытаваньне выпарэньнямі лужын, пасохлымі трупікамі кляновага лісьця, галузваньнем сьцяжкоў, якімі ўпрыгожаны чырвоныя абозы, сьмяротнай хваткай мух у сталоўцы—дармовая прыправа да абеду з апенак.

Восень стаіць цёплая. Хіба можна паверыць, што надыходзіць бабіна лета, калі стаіць гэткая пагода? Млоснасьцю кладзецца на целы сьпека—лезь у раку дый сядзі ў ёй дзень цэлы. Але рака... Рака дбае аб восені: іржой лісьця скрозь вада ўсеяна, вада сьцюдзёная, гусінымі пупышкамі паробіцца скура—брр!

Сонца густым алеем льлецца па зямлі, сонца плавіцца на зямлі, нібы на вялізарнай патэльні.

У рацэ халодна, на зямлі горача, ну, а калі ўзьлезьці куды-небудзь высака-высака, у паветра—цікава, як там—горача ці не?

— Ведаеш што, Мотка? Узьлезем на царкву. Там дах гэтымі днямі фарбавалі, драбіны стаяць.

Мотка насоўвае на вочы шапку—як лез учора на ігрушыну, дык страціў брыль, але такі ўцёк ад крываногага Лёўкі,—узіраецца ў зялёны дах царквы: гарыць дах сьвежай фарбай, аж вочы сьлепнуць ад зыркасьці.

— Лезем, ну! Гасьцілавіцкі гасьцінец увесь чыста відаць адтуль, чырвонага абозу чакаць будзем.

Сябры, шлёпаючы па цёплых густых лужынах, ідуць да царквы. Драбіна высокая, старчаком стаіць і, здаецца, ледзь ня валіцца. Але хіба гэта страшна? Эт, ці мала што здаецца людзям. Першым палез Рыгор. Счакаўшы хвіліну, падаўся за ім і Мотка, а праз колькі часу яны ў салодкім задаваленьні ляжалі на гарачым даху.

— Вялікі, я чуў, абоз пойдзе з Гасьцілавіч. Вазоў пяцьдзесят.

— Тое самае, што і з Ніўскім будзе. Чакалі, чакалі, аркестру выправілі аж за мост, а яны з Луцаўшчыны прыехалі, другой дарогай. Музыканты праз усё мястачка навыперадкі беглі сустракаць.

— Ну і што?

Рыгор працэджвае праз зубы сьліну і толькі пасьля гэтага з глыбокім сэнсам акту кажа далей:

— Ну і нічога. Пасьпелі даехаць да коопэратыву, пакуль яны прыбеглі.

Мотка хоча дайсьці да кораня справы:

— А як ты думаеш, Грышка? Калі-б музыканты бяз труб беглі, дык пасьпелі-б дабегчы?

— На гэткае складанае запытаньне адразу не адкажаш, трэба ўзважыць усё, што да моманту, акалічнасьці і тады...

— Чаго гэта вас паўзьбівала туды, халера на вашую галаву? Злазь далоў, каб з цябе ўжо вантробы лезьлі!

Пытаньне засталося без адказу. Мотка ня кратаўся з месца. Рыгоравы вусны зьбялелі. Ён паволі ўстаў і пайшоў да драбіны.

— Лезем, братка, нічога ня зробіш, нарваліся,—і ён паскроб за вухам.

Зьлезьлі. Не пасьпеў Мотка ступіць на зямлю, як нейчае вялізарнае тулава ўсім сваім цяжарам абвалілася на яго, войстра загарэўся твар ад важкай поўхі і—нібы водгульле—гэтаму войстраму болю, што апанаваў твар, азвалася ўсё цела, потым усё зблыталася, адчуваньні перапынілі фіксацыю болю—ён быў па ўсім целе.

— Дзядзечка, а дзядзечка, ратуй, мілы, б'е ён Мотку,—праз сьлёзы прасіў Андрыенку Рыгор, цярэбячы ягоны рукаў.

Надта сьпяшаецца вёрткі Андрыенка—працы нямаведама колькі. І так з абедам апазьніўся—напэўна, там возчыкі на дарозе чакаюць.

— Каго б'е? Хто б'е?

Цягне яго хлопчык, абліваючыся сьлязьмі,—„Што гэтак узяло яго?“ Ён паварочваецца, глядзіць у напрамку да царквы, куды паказвае хлапец, прышчурвае вочы і... ён убачыў.

— Іїх, п'яная морда!

Моцным штыршком адкінула азьвярэлага чалавека, пахіснуўся—спрэс п'яны, і паваліўся.

— Я яму пакажу, жыдзяню пархатаму, як храм сьвяты паганіць! Я выб'ю з яго...

Андрыенка—два пальцы ў рот—сьвіснуў. Ужо іх убачылі, бегла з розных бакоў колькі чалавек.

— Жыдоўскі абаронца, хрыстапрадавец!—лемантаваў у лужыне п'яны стараста царквы, б'ючы сябе па грудзях.—Ты думаеш, на цябе ўправы ня знойдзецца, камсамол ты саплівы!

Ляжаў зьбіты Мотка: на твары настывалі струпы, булькатала паветра ў горле, з кутка вуснаў цякла, дробнымі кроплямі сьцякаючы на зямлю, кроў. Доўга не разважаючы, схапіў Андрыенка Мотку і пабег у амбуляторыю. Хваляваліся людзі.

— Эт, даў з пару таўхалёў, няхай ня лезе.

— Але-ж гэта не за старым часам?

— Адкусілі яны кавалак гэтае самае царквы, ці што? Стаіць-жа на месцы!

Мястэчкам бегла Моткава маці, учуўшая пра здарэньне, як завіналася ля печы. Вось-жа з хвастачом у руцэ, з падаткнутай спадніцай, перасякала яна местачковы пляц, крычучы на ўвесь голас:

— Айяй! Халера на тваю галаву, каб на цябе ўжо астатні раз вады нагрэлі, каб костачкі твае сабакі парасьцягалі, каб...

Арбітражам здарэньня былі—нахілыя, пашарпаныя хаты стаходзкія, дый насельнікі іхныя—коснасьць і тупасьць, пранесеныя, нібы тора ў руках прапаведніка, праз стагодзьзі.

9

Вастраносая Фаня стрэліла вачыма ў свайго кавалера. Піня Розін скрыпнуў ад здавальненьня наваксаванымі ботамі—так б'е капытам заводзкі жарабец, калі пачуе спакусны позірк кабыліцы—і сказаў, перасыпаючы местачковы жаргон моднымі слоўцамі:

— Фаня, пойдземця да Калмановічаў на журфікс, мяне бяспрыменна прасілі прысутнічаць.

— Ах, як замічацельна, ах, як біспадобна! Міне таксама скомпромэнтавалі прыйсьці,—і яна залілася салодзенькім рахтаньнем.

— Дазвольце вас на буксір узяць, таварыш Фаня,—бяручы яе падруку адказаў далікатны кавалер.

І ў паветры—густым ад водыру танных духоў, ад „букетаў бабушкі“, ад „цьвет загар“, ад церпкага паху жаночых падмышак і разапрэлых шкарпэтак „в нікакую клетку“—плавалі ў паветры сьліўкі культ-уухурнага росту стагодзкага „вышэйшага сьвету“:

— Ізя, будзьце такім добрым, пакажэце нам новы фокстрот!

Ізя ў модных ботах (насок „шымі“), з вялікім блакітным бантам замест гальштука, з нядбайнай самаўпэўненасьцю выкідаючы проста перад сабой рукі, адказвае:

— Цяпер фокстроты ня ў модзе, цяпер танцуюць чарльстоны...

— Ах, чарльстоны!—уздыхаюць стаходзкія красуні, робячы губкі, густа пафарбаваныя сумесьсю цэглы з лінолінам, баньцікам.—Навучыце, навучыце, Ізя, чарльзону...

— Ня трэба адставаць ад эпохі,—з выглядам сталічнага льва, тонам прапаведніка доўжыць Ізя.

Потым ён выходзіць на сярэдзіну пакою, выварочвае наскі „шымі“ ўсярэдзіну (—так ходзяць людзі, хворыя на грыжу), абцірае хустачкай твар і пачынае выкручваць нагамі вар'яцкія „па“ чарльстону, паддаўшыся ўсёй постацьцю наперад.

— „Каб хаця вытрымала падлога“,—ціха ўздыхае Эстэр, ставячы на стол эмаляваны імбрычак цыкорыю.

За сталом, засланым машастовай зялёнай сурвэткай, сядзяць старэйшыя. Тут—царства рабіна Калмановіча, тут—вырашаецца проблема ратаваньня моладзі ад хвароб часу.

— Ша! Досыць вам ужо вар'явацца. Ша! Рабін Мэер хоча сказаць слова.

Ён устае з крэсла, ягоная хударлявая постаць выростае над зялёным полем стала, ягоным словам акомпануе лагодным вурчаньнем эмаляваны імбрычак.

— Маладыя людзі...

— врр-врр...

— Слухайце нас, старых яўрэяў...

— вурры-вурры...

Голас рабіна дасягае такое патэтыкі, якая ня сьнілася лепшым прамоўцам сусьвету.

— Што азначае малы Мотка? Эт, гэта яшчэ дробязь, але гэта дробязь можа перарасьці ў вялікае. Яўрэі!

— вэры, вэры,—падпявае імбрычак.

— Наступаюць часы страшэнных пакут, варочаецца ліхалецьце, пагромы і голад. Вы помніце, яўрэі, стаходзкія пагромы?!

— рры-рры,—рычыць імбрычак.

— Разам трэба трымацца, яўрэі, разам бараніць сваю веру, свой дом, сваіх дзяцей ад пошасьці, што сьледам ідзе за комсамолам. Што чакае яўрэйства, калі рускія мужчыны будуць гвалтаваць нашых дачок?! Што будзе з нашымі дачкамі, калі яны захварэюць на хваробу, імя якой—распуста?! Якія нашы нашчадкі будуць, яўрэі?!

Розе зрабілася кепска. Яна рэстаўравала ў памяці свае сустрэчы з Ігнасём Караткевічам... Ой, бацька, стары бацька! Ты ня ведаеш, якім гарачым каханьнем было каханьне гэтага „гоя“!.. Роза зьбялела. Роза наважылася ўстаць, усхапіцца, хацелася крыкнуць вось тут, перад усімі, у твар свайму роднаму, так, роднаму бацьку:

— Не мані, стары яўрэй, не мані! Ты ня ведаеш, якое шчасьце абмінула тваю дачку! Дзе табе, старому, разумець гэта... Плач, стары яўрэй, над горам сваёй дачкі, плач разам з ёю!..

Навокала загармідарылі.

— Валер'янкі дайце! Вады, вады!

— Мужчыны няхай выйдуць! Расшпілеце сукенку...

— Што з ёю? Адчынеце вакно хутчэй!

Хударлявая постаць над зялёным полем стала раптам тлусьцець, пашырацца, зрабілася вялізарным камяком; гэты камяк зашавяліўся мноствам ножак рознай велічыні, ножкі растуць па столі, па сьценах, па...

— Ай!

Рыжы волат-павук ледзь варочаецца ў чатырох сьценах пакою, а ягоныя ножкі, ногі, нажышчы ўпіваюцца, нібы цьвікі, у сьцены, у столь, у падлогу—яшчэ адзін момант і захістаецца хата, трэсьне, пасыплецца

штукатурка, вылузьнецца з грубкі жвавы агеньчык—і па агні будзе баляваць таўсты, рыжай тлустасьцю наліваны, павук.

Шклы акуляраў нацэліў доктар Палешук на гадзіньнік, правяраючы пульс.

— Схадзеце на кватэру, жонка дасьць камфару...

Роза білася ў незразумелым для доктара нэрвовым прыпадку, за заслонай гэтага прыпадку—у зморaным уяўленьні, у існасьці падсьвядомых сьветаў—варушыў ножкамі, нагамі, нажышчамі павук-волат, аплятаў маленькае Розіна цела.

10

У сьмецьці—жывыя істоты. Сьмецьце жыве сваім адмысловым жыцьцём. Смецьце можа слухацца чалавечага голасу, пацяшацца, зьдзекавацца над чалавекам, скарацца яму. Мяцеш падлогу, а соломіна трапіць у шчыліну—хоць ты плач, хоць ты скач!—доўга будзеш драпаць венікам, а саломінка тырчыць у шчыліне, пакіўваецца на бакі і зьдзекуецца над табой.

За свой век старая Соня навучылася месьці падлогу, пад яе венікам сьмецьце паслухмянае, нібы зьвярына дрэсіроўшчыка, гоніць венік сьмецьце па хаце аж у мяцельнік. Наогул—рэчы слухаюцца Соні.

Міскі і талеркі пастроіліся на паліцы ў чынны шэраг, нямудры струмант, што да гатаваньня ежы, атайбаваўся ў кутку ля печы, драўляныя кружочкі на гладышох неўтрапенна паблісківаюць—у дрэва бляск матавы—на сонцы.

Людзі ня надта слухаюцца Соні—вось дзе бяда куды большая. Нават родны сын—падшыванец Мотка—маці старую ў сьлёзы ўводзіць. Каб хацяў у хаце што зрабіў, дапамог ёй—не малы-ж, дзевяты год пайшоў. Дык дзе там! У яго інтэрас свой, у яго сваё жыцьцё—местачковая вуліца.

Задумалася Соня. Стаіць пасярод хаты, мятлу ў руках трымае, глядзіць у вакно. Дый хіба ў вакно? Вакна Соня ня бачыць, ня бачыць і ката, што абнюхвае гладыш на падваконьніку.—Усярэдзіну сваёй старай істоты, у думы свае матчыны ўзіраецца Соня. І часта так думае Соня аб старасьці, аб тым, што і мужык—Беня-балагол—ледзь ногі валачэ, дый конь... Што конь? Хіба на ім доўга паезьдзіш? Стары конь. Сьлепаваты на вока. Ужо каторы месяц чуе па начох Соня, як уздыхае—дужа цяжка—у хляве конь.

— Добры дзень у хату!

Ай, ай! Чужы чалавек прышоў, а тут хата нямеценая, ложак незасланы, дый сама—ці мала што можа падумаць чужы чалавек.

— Сядайце, таварыш, тут... Я яшчэ не пасьпела.—засьпяшалася Соня.

— Нічога, нічога,—адказвае Андрыенка.—Я на хвілінку толькі. Ня турбуйцеся. Я прышоў пагаварыць з вамі аб Мотцы.

Сьляза пакацілася па матчыным твары (буйная, празрыстая, яна здавалася жоўтай—жоўты быў твар старое).

— Дрэнна яму,—уздыхнула яна.—Ён і здаровым ледзь дыхаў, а тут яшчэ... Ведама, у горы гадаваўся, ён у мяне шосты...

Андрыенка яе суцешыў. Доктар сказаў, што нічога сур'ёзнага няма, ну, ведама, п'яны разбойнік асабліва не глядзеў куды біў, але нічога—скора ўстане. Ён—Андрыенка—прышоў па справе. Ён хоча, каб яна верыла яму, дармо, што ён не яўрэй. Але ён вораг антысэмітаў. Ён хоча судзіць царкоўнага старасту за расправу над безабаронным дзіцем. Ён прышоў да яе, маткі, каб учуць яе асабістую думку наконт гэтае справы.

— Не, не, таварыш, лепш не пачынайце.—спужалася старая Соня.—Вы такія словы кажаце, што хоць да болькі прыкладай—загаіцца. Але я вас прашу... Нашто чапацца з гэтым... каб ён дахаты не патрапіў злыдух!..

Андрыенка настойваў на сваім.

— Але-ж так пакінуць гэтага факту няможна. Царкоўны стараста—злачынец, а савецкі закон такім не даруе. Хіба вы баіцёся каго-небудзь?

Пытаньне трапіла ў самы цэнтр.

Зноў, як шмат разоў да гэтага, паўстаў перад Андрыенкам магутны закон старога, жахлівы закон, што перашкаджаў, што замінаў хадзе таго новага, што прынесла з сабой рэволюцыя.

— Ці-ж вы ня ведаеце сілы Кранцэвіча? Ды за яго-ж усё мястэчка сьцяной стане, нічога ня выйдзе з судоў тых... Толькі ворагаў на старасьць нажыву,—і яна прыкра махнула рукой; гэты гэст сказаў больш за словы, гэты гэст быў трагічным.

Андрыенка разьвёў рукамі.

— Цётка Рабіновіч, слухайце, цётка Рабіновіч! Дзе вы жывяце, га? Ну, скажэце мне? У Савецкай Беларусі, дзе ўсе працоўныя ўсіх нацый роўныя, браты... А вы нечага баіцёся. Падумайце толькі... Хіба вам Кранцэвіч не зрабіў клопату, гора?

Гора? Дык якая-ж гэта зьнядоленая жанчына-маці ня ведае цаны свайму гору? Дык хіба даруе яна таму, хто пакрыўдзіў сына, хто крануў сетку тых пачуцьцяў у істоце маткі, якімі аплецена гора? Крані сетку, прачнецца гора, засмыліць болем сардэчным, ляжа зморшчынай на худым твары і— —

— Справа сама ў рукі, Патапенка, прыйшла. Выпусьціць з рук гэты выпадак—гэта азначае даць повад усякім гутаркам, гэта... ну, як тут лепш сказаць?.. гэта азначае выпусьціць з рук козыры.

Цёплым позіркам абмацаў Патапенка ўзнэрвованага Шастакова. Прыкрываючыся газэцінай, ён сказаў:

— Ціха, ціха! Ты, здаецца, гатовы мяне забіць! Будзь ласкаў, сьціхні і садзіся. Ну, і гарачы вы народ, адкуль гэта ў вас бярэцца толькі!

Націск абурэньняў ракатаў у істоце Шастакова, але цёплыя жартоўныя словы Патапенкі абурэньне сьцішылі, улашчанай зьвяругай сталася яно.

— Аўторытэт ячэйкі гэтым судом узьнімем, вось пра што ня трэба забываць. Нам расьці і расьці, а быт трухлявы наставіў дышла, замінае. Біць, біць такіх сволачаў трэба.

Газэта ў руках Патапенкі зноў удавала з сябе моцную, трывалую заслону.

— Правільна, Шастакоў. Правільна! Хіба я супярэчу, хіба не разумею? Але скажы, што ты ад мяне хочаш?

— Абвінавайцам будзь, вось што.

Патапенка аж успацеў.

— Ну, пасьля такой атакі нават і спаслацца на нагрузку не магу. А чаму ня ўзяцца за гэта табе?

— Я засядальнікам буду... Ведаеш, у такіх справах я дужа гарачы, не цярплю гэтага. Ну, а тут трэба дасканала, спакойна паказаць клясавую сутнасьць справы... Я магу там аблажыць падсуднага, а за кампанію—і абаронцу... Будзе нядобра.

— Ты раіўся з Навіцкай?

— Так, раіўся. Яна абурана яшчэ больш за мяне. Будзе судзіць.

— Дык рыхтуйце. На мяне чакаць ня прыдзецца.

— — і парушыць спакойны поступ будняў, сон прагоніць, зьнікне радасьць, спакой, супачын. Гора? О! Старая Соня ведае, у якія вопраткі апранаецца яно, ведае, колькі важыць матчына гора,—каратаў на шалі насып, не пераважаць...

— Вы толькі прыдзеце на суд і выступіце сьведкай. Ну, раскажаце, як прыбеглі да царквы. Раскажаце пра Мотку... Ці сьмяяўся ён на вуліцы з папа... дый пра розную там драбязу. Вось і ўсё.

— А плаціць, таварыш, судзьдзі трэба будзе?

Андрыенка ня стрымаў усьмешкі. Дый стрымліваць яе ня трэба было: яна была па-дзіцячаму простай і адкрытай.

— Не, цётка Рабіновіч, мы, комсамольцы, самі суд арганізуем. Вам рупіцца ня трэба.

Правяла старая неспадзяванага гасьця аж за калітку. Вярнуўшыся ў хату, узялася за венік.

— Што там выйдзе? Нічога ня выйдзе. Хіба Кранцэвіча засудзіш?— і яна зноў махнула рукой.

## 11

Пра гэта сьведчыла ўсё— —

—перакрэсьлілі пэрспэктыву прастораў вятры, заюрлівілі, забалявалі, засваволілі па зямлі; будуць доўга стынуць яблыні ў садку; зьвініць шкло безьліччу ручаін; дагістарычным мітам стаіць—вечарамі—над прадоньнем барвовае—колеру струкоў перцу—сонца; апошнія сьведкі летніх актаў запладненьня: гарбузы (іх жоўтае мяса пахне жаночай цяплынёй), пепенкі (—імі можна гуляць у пінг-понг), помідоравы россып (—барвовая пухліна); зямля страціла цнатлівасьць: безьліч кволага павіціньня;—

— пайшлі і яны—вятры—з поўначы—крануўшы струны ракі, азвалася рака тысячамі домр, а алешыны, а таполі, а кляны пусьціліся ў скокі;—

—поэты—упіўшыся—знайшлі патрэбным у адзін голас заявіць сьвету, што ў іхніх душах—туман, дужа сівы (—барані, божа!), што містычная поэзія якраз найлепшым чынам адпавядае эпохальным вібрацыям іхных геніяльных душ, і ўзьнялі свой баявы (на выпадак конфліктаў ва ўстановах з шыльдамі аб „моцных трунках“) сьцяг, а на ім—на баявым сьцягу—быў вобраз чалавека-падобнай малпы—(нешта сярэдняе паміж пітэкантропусам і красуняй, у якой праваліўся ад сіфілісу нос)—быў вобраз „Праксэды“, і—

—а тымчасам паўзьлі на горад атакай чырвоныя абозы—легіёны жыта, пшаніцы, аўса, бульбы; комсамол распачынаў культпаход, моладзь заставалася на вечарынках пасьля сходаў—скакала пад двохрадны; хавалі пад шопэнаўскі марш забітага актывіста-селькора, і—

—і так званыя поэты часінамі, калі асядала муць, складалі Праксэдзе гімны: „У маіх маленьнях адзіная ты“...

—і хлебныя легіёны, комсамольцы, гармоніст, музыкі, што гралі Шопэна, чакалі новай, непрасьпяванай яшчэ песьні-гімну аб вякох ваяцкіх, вякох-волатах...— —

— —пра гэта сьведчыла ўсё:— —

— —восень памірала à la Марыя Антуанэтта.

Але...

У Стаходзе зіму сустракалі дакладна прапрацаваным плянам работы нардому, падрыхтоўкай да комсамольскай вучобы, паходам за культурны рост местачковае працоўнае моладзі, за інтэрнацыянальнае выхаваньне. Апошняе—асноўнае ў гэтую зіму. У пляне вызначаны даклады, дыспуты, вечары. Самайловіч настайваў:

— Хлопцы! Калі дыспут закацім, дык абавязкова на нашым... ну, на местачковым матэрыяле. Каб біла ў самы пуп.

— Інакш і не зацікавім, а трэба, каб беспартыйныя былі,—згаджаліся ўсе.

А покуль разважалі Самайловіч, Андрыенка і выкладчыца грамадазнаўства ў сямігодцы аб дыспуце, пакурваючы папяросы, на падлозе ў залі прымайстраваўся Курыловіч—маляваў вялізарны плакат:

СУД НАД АНТЫСЭМІТАМ КРАНЦЭВІЧАМ

Длугач падганяў:

— Братка Васіль, хутчэй родненькі, хутчэй варушыся. Яшчэ-ж пяць лёзунгаў трэба зьляпіць.

Але Курыловіч спакойна ляпаў на паперу фарбу, размазваў яе і, напэўна, перажываў наплыў натхненьня.

— Пашлі ў школу, там хоць са два зробяць.

Жэня ішла паўз нардом. Учула галасы праз расчыненае вакно, захацелася забегчы хоць на хвілінку, але стрымалася, гадзіньнік паказваў палову чацьвертай—трэба было ісьці ў арцель, раздаць работу.

Жэня загадвала кравецкай мастэрняй. У Жэні ёсьць два клопаты—сваіх дзяўчат у комсамол уцягнуць і—другі клопат, гаспадарчы—мэханізаваць арцель.

Другая зьмена зьбіраецца: стукаюць зінгеры, з-пад голкі бягуць сьцяжок за сьцяжком, сьпяшаюцца работу канчаць работніцы, спешцы сваёй, каб латвей было, падпяваюць.

Жалезны мэтр спрытна адмервае палатно—столка за столкай.

— Бярыце матэрыял, дзяўчаты,—кажа адным Жэня.

— Слухайце, хто выходныя заўтра, не забывайце-ж у нардом на суд прыйсьці,—гэта другім.

Плян у Жэні такі:—

Адну, другую, трэцюю сьцяну раскідаць, зрабіць пасторную залю з гэтых пакойчыкаў; стол даўжэзны ад сьцяны да сьцяны паставіць—у шэраг—па абодвы бакі стала—пасадзіць работніц.

Гэта толькі дэталь зьмены. Хіба разгонішся на зінгерах розных веку, што зьнесены ў арцель работніцамі—як пай? Хіба доўга будзеш круціць нагой калёсца? —круціш, круціш, дый, як бачыш, прыстанеш. Конвэер пойдзе па доўгім стале—паплыве па ім вопратка, прыпыняючыся ля кожнай з работніц: работніца сваю работу робіць—штонебудзь адно,—падзел працы. Электрычнасьцю будуць шыць. Так, як у горадзе, на вялікай фабрыцы, куды Жэня езьдзіла на практыку.

Без мяне мяне жанілі,
У арцелі я была...

Стукаюць—візгатліва—машыны, пяюць работніцы, выпяваюць сваю работу, аднатоннасьць сонную гоняць песьняю:

Прыяжджаю я дахаты,
Усе віншуюць з маладым.

А ў Жэнінай галаве конвэер думак клапатлівых, нявырашаных пытаньняў, нявыказаных ідэй... „Трэба будзе,—думае Жэня,—выправіць на

якія два дні дзяўчат на фабрыку, ў горад. Хай паглядзяць, як шыюць там".

Песьня работніц бярэ такі тэмп, за якім ня ўгоняцца нават калёсцы зінгераў: а хочацца, каб песьню дагнаць работай, каб пас награўся, каб пэдаль сама падкідала нагу,—вялікая радасьць, калі ўпрацуецца чалавек. Спачатку цела не паддаецца настойлівым намаганьням развагі, яшчэ не забыліся цяглiцы на ўчорашнюю стомленасьць, вяла ходзяць рукі, нага блытае раскачку калёсца. А потым—нібы алеем падмажуцца цяглiцы, а потым—пот дробным шклярусам заблішчыць на твары, песьня паддасьць—і пашло шыцца, страчыцца, рубіцца палатнянае, паркалёвае, картовае, суконнае.

— Жэня!—гэта старшая майстарка падыйшла.—Што гэта ты так раптам зьбялела?

Упартыя пастаўленым пытаньнем утаропіла вочы на Жэню, сваёй высокай постацьцю захінула яе ад усёй майстэрні.

— Напэўна... эмарылася...

— А ты ідзі адпачні, дзьве зьмены ніводзін чалавек не прастоіць. Не сьцеражэшся ты, Жэня,—і даўгім пальцам з блiскучым напарсткам пакiвала на яе.

— Вось тут заказы ўпарадкаваць трэба... Думала сёньня... Ты ўжо, калі хто прыдзе, зрабі...

— Добра, добра, ідзі ўжо,—бяручы за плечы, выправоджвала Жэню на вуліцу.

Ветрам—біў ён у твар—абвеяла Жэню. Твар гарэў на вятры, а целам пабегла прыемная дрыготка. Прабягаючы вулку, напаткала Жэня важную постаць чатырохгадовага хлапчука. Ішоў ён, пукацячы па бакох вочы, у руцэ трымаў кавалак булкі, мачанай у малацэ: булка густым месівам працэджвалася праз пальцы.

— „Ух, якой камлючок слаўны".—Апусьцілася перад ім на цыпачкі, і ўголас сказала—Чый ты, хлопчык?

Хлопчык расплыўся ўсьмешкай, і—доўга не разважаючы,—тыцнуў у Жэнін твар булкай.

— Я цёцю ведаю... Яна вунь там, вунь там... з жалезнай палкай.

Душачы і хлопчыка і свой сьмех, падкінула „камлючка" ўгару—высака, высака.

— Ну, ідзі дахаты. Там мама чакае.

Вецер біў у твар.

*(Далей будзе).*

## БРЫГАДЗІР МАРЦІН БАЙДЫЛЕВІЧ

### Юрка Лявонны

...Мы выехалі ў роснае раньне —
Вясёлыя студэнты,
шэфы, ці накшталт іх;
У такую гадзіну —
падарожных а-ні званьня,
І хіба ў друкарні фарба
расьцякаецца па шпальтах.

Пажарная вежа
боўтнулася клічнікам,
Адарваліся і паплылі разьвітальныя званкі...
Мы прыехалі ў колгас
„Чырвоны пагранічнік“,
Калі на пасяджэньне
збіраліся дзядзькі.

Вычарненай чарапашынай лускаю
Выглядала страха
ля драўлянай брамы.
Данеслася:
„Будзе зараз уструска ім!..“
„А навошта чужое
калісьці забралі?...“

„Чаму-ж ты
на сходзе ня рэзнуў, маўмыра?..“
„...ды здалі-ж усё,
да апошняй астачы...“
На праўленьне
прыходзілі брыгадзіры
Радам гарачых і жывых справаздач.

кал
  пра трактары і калёсы
Кожны сваё рубануў з пляча, —
Выйшаў стары,
  прыгладзіў валосьсе,
І, не сьпяшаючыся,
  распачаў:

— „Як надыйдзе верасень —
  асыпаюцца калосьсі...
А гадоў-жа за плячыма —
  цэлая гара!
Хіба можа галава мая зносіць
Гэткую безьліч
  трывог і спраў?...

На вучастку —
  больш за трыццаць коні:
Зноў-жа —
З вулікам працы...
  Навіна!
Яшчэ сошкаю ўзьняў я
  ці мала гоняй,
А няпісьменнасьці маёй —
  ніхто-ж ня ўзьняў?!...

Благадзіра нам дайце —
  маладога, здаровага,
Каб падняў гаспадарку —
  і статак, і стайні,
Каб здолеў
  спрадвечныя межы заворваць
Уласным прыкладам,
  як ударнік!“

Тады захваляваліся:
  — Ды ліха цябе ня возьме!
— Ты здольны, дзядуля,
  і ня гэтак
    кіраваць!
— Ніякая праца табе ня грозна,
У цябе —
  колектыў, а не адна галава.

... Пад стольлю плавалі
          пярсьцёнкі дыму, —
Рэзкага,
          сіняга, як сьпірытус.
Выраслалі словы —
          простыя і неабдымныя —
Аб тым,
          як сенажаць ад балота выратаваць,

Як хутчэй перайсьці на зьдзельшчыну
І арганізавана
          сустрэць умалот,
Як машыннай тэхніцы
          якой-небудзь Ангельшчыны
Надаць на сваіх палёх
          поўны ход.

І тады зноў пачаў
          сівы Байдылевіч,
Няпісьменны брыгадзір Марцін:
. . . . . . . . . . . . . . .
— Сакратар тут казаў, што
          „ні ўправа, ні ўлева, —
За генэральную лінію,
          як адзін...“

Правільна, хлопцы!
          Варожыя хітрыкі
Мы вымяцем,
          як з пакою нікчэмны сур;
Калі вы бачылі,
          каб хіліўся дуб ля ракі,
Хоць і ходзяць па хвалях
          пошчакі бур?...

Гультая і прапойцу,
          бузацёра ды ўласьніка —
Выганім.
          (Выгналі-ж кулака!),
Мы вітаем
          заўтрашняга колгасьніка,
Што выходзіць свой лёс сустракаць.

А каб нам ды ўборку
як належыць выпарадкаваць,
Каб малатаркі
па-вясельнаму загрукацелі, —
Выклікаю брыгаду Сымона
навыперадкі
(На спаборніцтва, значыцца),
па арцелі!

Застаюся сам брыгадзірам...
Няхай сабе!
Эх, і возьмемся-ж, хлопцы...
Ды націснем!
Ды ўперад!!.
...І паляцелі воплескі,
як вагоны па насыпу,
На зялёную вуліцу, ломячы дзьверы.

Вечарэла над колгасам.
Прамяністаю паводкай
Сонца расплывалася
па даліне...
Будзе памятнай нам постаць
гэроя пяцігодкі —
Брыгадзіра Байдылевіча Марціна!

14/VII-31 г.

# НОЧ РАДЫЕ-АМАТАРА

**Зьмітро Віталін**

Радыё-манцёру-ударніку
С. Сакалоўскаму

Ужо даўно адбывае зьмену
Ноч, і месяц даўно на антэне.
Ён здаволены, твой дальні брат —
У парадку антэнны канат.

Са спакоем на круглым твары
Ён нырне за высокія хмары,
Ён настроіцца там ня міне —
Слухаць радасьць тваю і гнеў...

Ён настроіцца там у хмарах,
Твой далёкі спакойны таварыш,
І як самы звычайны праклён
Над Эўропаю зьвісьне ён...

Ты ня ведаеш моў чужаземных,
Гукі іх для цябе патаемны,
Але гэты шалёны факстрот,
Ад якога трасецца „рэкорд“,

Ад якога —
трасца матары! —
Рвуцца ніці трансфарматараў,
Ад якога нямее зямля
У балёнах напаленых лямп,

Ад якога набрак праклёнам
Над Эўропаю месяц зялёны, —
Гэты буйны шалёны факстрот
Ўзбунтаваў тваю ціхую кроў...

— К чорту Вену!..
І ловіць антэна
Хвалі радасныя „Комінтэрна“.
Вось яна, ці ня праўда? — яна
Грае Інтэрнацыянал...

Вось яна, ці ня праўда?..
Аматар,
Крыху больш павярні кондэнсатар!..
Паглядзі — выплывае з-за хмар
Задаволены месяцаў твар.

Ён глядзіць на цябе і на Вену,
Разрываючы хмарную пену;
Праз жывы гукавы эфір
Ён цябе пазнае па крыві...

Гэта ты разгарэўся, як „мікры“,
А на сэрцы — туманная прыкрасьць,
Перадачу канчае Крэмль, —
Зноў над Венай табе гарэць.

Зноў суцішваць кроў у аортах
Ад факстрота, ліхога факстрота,
Бачыць зноў, як нямее зямля
У балёнах напаленых лямп...

— К чорту Вену!..
І ўсё сьціхае,
Сон ідзе над табой і над краем.
Толькі ціханькі гуд антэн,
Ды у сьне — ліхі полісмэн.

Ён прысьніўся табе раптоўна,
Ён гаворыць:
— Вы арыштаваны...
Ты крычыш яму:
— Морда, што!?.
А ў кафэ раскруцілі чарльстон...

Ты крычыш яшчэ:
— Што за ліха!
І ўстаеш...
рэкорд ня ціхнуў —
Ты забыўся суняць прыёмнік...
Ты суняў... Цішыня... Цёмнач...

Месяц зьнікнуў даўно ў хмарах,
Ён, напэўна, плыве па-над Марнай.
Калыхаецца там у крыві
Перапоўнены стогнам эфір...

Ты заснуў... і зноў табе сьніцца
Дэмонстрацыя і паліцыя...
Але ты арыштоўваеш сам,
Разгарэўшыся тысяччу лямп.

Ты бярэш за каршэнь полісмэна,
Ты ўзьнімаеш яго на антэну,
І ягоны жудасны стогн
Пасылае ў эфір мікрофон...

Ты сасьніў...
Але гэтак-жа будзе!
Ты-ж ня дарам выкоўваеш будні
З маладога гэройства ў працы —
Ты, аматар начных трансьляцый!..

Не дарэмна-ж заўтра ў майстэрні
Цябе ветліва майстар сустрэне —
Ты паставіў новы рэкорд па
Рэмонту псаваных „рэкордаў“.

г. Менск, 31 г.

# ШУМІЦЬ БЯРЭЗІНКА

**В. Сташэўскі**

*Аповесьць*

(Канец)

Бацьку Паўліка павезьлі ў другую турму, у другі горад—гэта Паўліку добра стала вядома. Вядома стала і тое, што ў той горад В. з гэтага гораду людзі і на фурманках ня езьдзяць, а ня то, каб пехатою хадзіць. Больш за дзьвесьце вёрст будзе. А калі ехаць па чыгунцы, дык за гадзін чатыры-пяць будзеш там. Але-ж гэта значыць—аддай за білет усе грошы, а бацька як сабе хочаш. Думае Паўлік, распытваецца ў людзей дарогу, „можа як за тыдзень зайду“. А кожны адказвае: „Садзіся ў поезд і едзь“.

Добра казаць садзіся ды едзь, калі хто можа ехаць. Перш трэба глянуць, што гэта за поезд такі. Вось Паўлік наблізіўся да станцыі, у вакзал ня йдзе, а ўсё з боку тупае і ўважна прыглядваецца, як рухаюцца чырвоныя хаткі. Да плоту, дзе ён стаяў, падышло чатыры мужчыны, з торбачкамі, у лапцях яны.

— Вось тут прысядзем і падсілкуемся,—кажа адзін.

„Свае людзі“, і Паўлік прымайстраваўся каля іх.

— А ты што, таксама на поезд?

— На поезд,—адказвае Паўлік.

— Адзін і паедзеш?

— Дык-жа мусіць і вы паедзеце?

— Мы ў чатырох,—адказвае сымпатычны дзядзька. Паўліку ён спадабаўся сваім крывулькаю носікам. Дзіўна бывае: прычапі каму інакшаму такі носік, дык не захочаш і глядзець, а тут, каб выраўняў гэтую крывульку, дык гатоў-бы сапсаваць выгляд. А так глядзіш на яго—не адарвешся. Вось ён дастае паўбаханкі хлеба. Хударляваю, але зачарсьвелаю рукою адломвае частку хлеба.

— Навошта крышыць, вазьмі, Мікодым, вось ножык, ды адрэж,—кажа яму адзін.

— Не, я ў дарозе ніколі ня рэжу і не пакрышу.

— Доўга-ж яшчэ прыдзецца чакаць нам поезду, мусіць гадзіны тры,—зазначае маладзейшы з іх.

— А што там такое пачакаць? Але яно лепей, калі заўчасьне. Ці на поезд, ці куды—заўсёды лепей, калі заўчасьне.—Гэта адказвае дзядзька Мікодым.

Паўлік рад, што пачуў імя гэтага слаўнага дзядзькі з адмысловым носікам.

— Дзядзя Мікодым, ці далёка вам ехаць?—пытае Паўлік.

Мікодым падняў носік угару, жуе хлеб, відаць падлічвае станцыі пасьля сур'ёна адказвае:

— Мусіць станцыяў чатыры ці пяць. А табе далей ці бліжэй?

— Мне ў горад В., толькі ня ведаю, ці заеду.

— О, мы туды ня едзем!

— А чаму ты кажаш: „ня ведаю, ці заеду?"—пытае старэйшы.

— З грашыма ня выходзіць—адказвае Паўлік.

— Марная рэч, на іх дзіва, гэтыя грошы,—падае голас Мікодым,— але з тваімі гадамі, ды, як той казаў, ростам і розумам, дык, заціснуў шыся ў які куточак, бадай-што праскочыў-бы і бяз грошай.

— Высадзяць, на іх ліха,—зазначае старэйшы.

— Высадзіць могуць усякую душу, але, калі значыць схавацца, дык яму зручней, чым мне ці вам.

— А ты думаеш лёгка сесьці ў вагон?

— Вось гэта, дык факт. Сесьці цяжка. Значыць трэба на якую кароткую станцыю ці на дзьве браць білет.

— А на дзьве станцыі многа будзе каштаваць?—пытае Паўлік.

— На дзьве, нават на тры невялікае што будзе каштаваць. А там значыць, трэба прымайстравацца так, каб праехаць яшчэ столькі.

— Чаму яшчэ столькі? Трэба ўжо старацца, каб даехаць чалавеку туды, куды трэба.

— А дзе там можна схавацца?—пытае Паўлік.

— Сказаць па праўдзе, дык і сам добра ня ведаю, дзе зручней,— адказвае Мікодым,—толькі, як мне здаецца, і як я чуў, дык гэта—пад лаўку, за ногі мужчын, ці найлепей жанчын. Альбо трэба залазіць наверх, ды за карзіны якія ці сундукі.

— Ну, ня кожнаму чалавеку там будзе зручна,—заўважае старэйшы.

— Я-ж не кажу, што кожнаму, але з яго розумам, дык якраз можна прымайстравацца.

— А што, ты думаеш, яго розум горшы за твой?

— Я не пра гэта, а толькі па яго характары, дык невялікае месца яму патрэбна.

— А можа ў яго характар шырэйшы за твой.

— Няхай сабе і так, але ногі ў яго—палавіна маіх.

— У нагах то розьніца вялікая.

— А вось-жа яно і ёсьць. Калі чалавека выцягваюць, дык заўсёды за ногі, бо яны, значыць, могуць тырчаць.

— Ну, як сказаць, выцягваюць часта і за вуха.

Слухаць пра тое, як цябе будуць выцягваць з-пад лаўкі, ня вельмі прыемна, ды гэта ня так важна, за якое месца кандуктар учарэпіцца. Вядома, горай калі за вуха. Але-ж хто гэта адразу і падставіць вуха?

Паўлік рашыў перабіць гутарку мужчын.

— А ня ведаеце, часам, вы, што яны будуць рабіць, калі выцягнуць? Арыштуюць ці мо' будуць біць?

— Штрафуюць,—адказвае старэйшы.

— А калі ў чалавека няма?—пытае Мікодым.

— Суд знойдзе.

— А што яны з яго возьмуць?

— Яго і судзіць ня будуць. Высадзяць з вагону і ўсё.

— І я так думаю,—дадаў Мікодым.

---

Перад тым, як купляць білеты, чатыры мужчыны і Паўлік добра пасаймікаваліся. Вырашана—Паўліку браць білет да тэй станцыі, дакуль будуць ехаць мужчыны, да Матылёў. Садзіцца сьмела, як быццам нічога ніякага. Трымацца ўсім аднаго вагону, не зважаць ці будзе там месца для ўсіх ці не. Мікодым павінен першым ускочыць у вагон і прыткнуцца там, тады ўжо можна будзе пацiснуцца.

Вышлі на пэрон.

— Адыдземся туды,—кажа Мікодым,—наш вагон адзаду будзе, у пярэдніх ня наша кляса.

А вунь і поезд.

— Глядзі, Мікодым, мо' 'далёка адышліся. Праскочыць, тады не дагоніш.

— Якраз добра,—адказвае Мікодым.

Даволі шпарка імчыцца поезд да станцыі. Паравоз, за ім адзін, другі, трэці вагоны мінаюць мужчын. Чацьверты, пяты таксама мінаюць і поезд ня спыняецца. Два мужчыны занэрваваліся, шуганулі наперад.

— Стойце тут!—гукнуў Мікодым.

А тыя цягнуць наперад. Разарваліся на дзьве часткі. Паўлік трымаецца Мікодыма.

Поезд стаў.

Мікодым ухапіўся за жалезны прэнт. Гукнуў тых двух. А з вагону вылазяць каробкі. Мікодым не зважае, гукае двух. А голас з-за карабок.

— Стаў, чорт праклятым, і не дае людзям прайці!

Мікодым пастараніўся крыху.

— Праходзьце, я-ж з боку.

Таўшчэзная жанчына з каробкамі ў руках увязла ў дзьвярах.

— Сыдзі, мужык няшчасны, дай чалавеку прайці!

— А што я вас трымаю?

А зьнізу мужчына.

— Вы-ж у дзьвярах увязьлі, мадама.

Сарвалася з рук мадамы каробка, бразнула на пэрон.

— Ух! Падымеце, падымеце!—крычыць яна.

— Не чапайце!— скамандаваў Мікодым.

Паглядзела мадама на яго злазячы, залатым зубам выскалілася.

— Разбойніцкая морда твая!

— Але-ж ня сьвінячая,—адсек ёй Мікодым.

Пасьля гэтых „прывітальных“ славечак Мікодым з мадамаю разьмінуліся. Мужчыны палезьлі ў вагон, два месцы занялі з канца і тыя збоку. Сядзець тут добра, але-ж трэба падумаць аб Паўліку.

— Праскоч ты,—кажа Мікодым аднаму,—можа далей зручнейшае месца знойдзецца.

Той пайшоў. У другім канцы вагону знайшлося лепшае месца. Перайшлі. Мікодым не садзіцца, а ўсё паглядае пад лаўку, на верхнюю лаўку. Унізе стаіць адна карзіна, але пасажыр, гаспадар яе, нейкі надуты чалавек і, як відаць, не асабліва задаволен сваімі суседзямі.

Мікодым задумаўся: „тая разбойніцкаю мордаю абазвала, гэты таксама крывіцца. Ня любяць мужыка, а хлябок толькі падавай“.

— Але і сіберная мадама твая,—пачаў адзін да Мікодыма.—Цэлы магазын на сабе валакла.

— Братка, зроду ня бачыў такое мартыры. Сама ўвязла, на яе дзіва, у дзьвярах і яшчэ чалавека разбойнікам абзывае,—адказвае Мікодым.

Пасажыр усьміхнуўся.

— Каго яна так абазвала?

— Мяне.

— І вы што?

— А што-ж я: абы, кажу, ня сьвінячая морда.

Пасажыр зарагатаў і пасьля дадаў:

— Яна вось на гэтым, дзе вы, месцы сядзела.

Невядома што Мікодым падумаў, а толькі зьдзіўлена кіўнуў галавою.

На другой лаўцы ляжала нейкая жанчына. Мікодым асьцярожна прысеў у нагах і нахіліўся да старэйшага мужчыны:

— Я думаю, няхай хлапец упакоўваецца.

— Яшчэ рана,—адказвае той.

— А я думаю—найлепей, калі заўчасьне.

— Ды яно-ж так.

На шчасьце пасажыр падняўся і вышаў на хвіліну ў калідорчык.

— Лезь, браце, за гэтую карзіну, шапнуў Мікодым Паўліку.

Ня хочацца хлапцу разьвітвацца з добрымі суседзямі. Скамячыў у руках торбачку, білецік і шмыгнуў пад лаўку.

Увайшоў пасажыр, мужчыны пашавяліліся, Мікодым закрактаў. У момант сьцішыліся і выходзіць усё ў парадку.

Контроль правярае білеты. Таксама ўсё ў парадку. Паўлік застаецца на месцы.

Мужчыны ціха гаманілі, здаецца адзін толькі раз закурылі і вось вам станцыя Матылі. Добра, што прыехалі, а разьвітвацца з Паўлікам ня хочацца. Уздыхнуў пад лаўкаю Паўлік. „Бывайце здаровы, шчасьліва вам даехаць“ пажадалі пасажырам (а гэта ў большай меры адносілася да Паўліка) і вышлі.

Поезд стаіць.

У вагон уваходзяць новыя пасажыры. Адзін нейкі малады, ґарачы хлапец ускочыў, кінуў рэчы на лаўку, дзе сядзелі мужчыны, адвінуўся, схапіў у жанчыны карзінку: „Вось тут сядайце, мамаша“, і пачаў пхаць пад лаўку гэтую карзінку, проста на ногі чалавеку. Паўлік ужо добра такі падкурчыўся, але ён нагнуўся і глянуў.

— Што гэта такое?—зварочваецца ён да пасажыра, які сядзеў на гэтай лаўцы.

— Што?—сур'ёзна пытае той.

— Там нешта жывое,—паказвае пад лаўку.

Той усхапіўся, адсунуў сваю карзінку і бачыць поўную „фотографію“ Паўліка.

— Кандуктар! Кандуктар!—крычыць ён.

Зьяўляецца кандуктар.

— Што гэта вы зладзеяў хаваеце пад лаўкамі?

— Якіх зладзеяў?—спакойна пытае кандуктар.

— Паглядзеце пад лаўку.

— Пад лаўкаю? Дык гэта вы хаваеце, а ня я.

— Як вы можаце так нахабна размаўляць?—крычыць пасажыр.

— А як вы можаце казаць, што я хаваю, калі ён за вашаю карзінаю? Вылазь, хто там!—нагнуўся кандуктар.

Навошта, каб чалавек чалавека цягнуў за ногі? Паўлік вылазіць сам. Бачыць кандуктар, што ў хлапца ў руках нейкі білет.

— Што гэта за білет?

Паглядзеў, паціснуў плячыма.

— Ты даўно пад лаўкаю?

— Адразу, як селі ў вагон,—адказвае Паўлік.

— Чаго ты палез, калі ты з білетам? І табе да станцыі Матылі, значыць ты прыехаў.

Поезд крануўся.

— Злазь хутчэй, а то не пасьпееш.

Паўлік паволі ідзе ў калідорчык. Кандуктар папіхае.

— Хутчэй, кажу табе!

— Дзядзечка, мне трэба далей,—просіцца хлопец.

— Злазь, кажу табе!

— Дзядзечка!—упіраецца Паўлік.

Кандуктар вырывае торбачку, зьдзірае шапку і кідае на канец пярону.

— Зьлезь, а то выкіну!

— Што вы робіце?—крыкнула ззаду жанчына,—вы яго забіць хочаце? Дзіця хоча забіць!

Некалькі пасажыраў кінуліся ў калідор. Паўлік ужо стаяў на сходцы, поезд ідзе даволі шпарка. Страшна скакаць. Кандуктар і сам пры трымлівае за руку. Нейкі мужчына схапіў Паўліка за халацік і ўцягнуў у калідорчык. Кандуктар бачыць, што публіка раззлавалася за дзіця, сам прапануе Паўліку зайці ў вагон і ехаць да наступнае станцыі.

У вагоне публіка ўшчачурылася. Папрачыналіся і тыя, якія спалі. Жанчыны і частка мужчын абураліся паводзінамі кандуктара. А тыя пасажыры, што выявілі „зайца", даказвалі, што такія лаўкачы (гэта пра Паўліка) могуць толькі красьці. „Паглядзеце на яго—добрае дзіця плакала-б, а гэты бачыце, зьверам паглядае".

Цяжка ўявіць сабе адчуваньне Паўліка. Ён быў нейкім скамянелым. Жанчына спрабавала пытацца: адкуль ён і куды едзе, Паўлік нічога не адказаў.

— Вось бачыце,—падхапіў той, за карзінай якога Паўлік ляжаў,—ён вам не адкажа, бо і сам ня ведае, куды ён едзе. Я ўспомніў; увайшоў ён разам з сялянамі, а пасьля раптам зьнік. І заўважце, панове, што да станцыі Матылі ён меў білет, і, разумееце, палез пад лаўку. Відавочна ён хацеў выцягнуць адтуль.

— Дык ваша-ж карзіна замкнёна,—заўважыла яго суседка.

— Дык ён мог прарэзаць. Так. Так.

Пачалі пад'яжджаць да станцыі. Кандуктар загадзя падрыхтаваў Паўліка да высадкі, вывеў яго ў калідорчык і, як толькі поезд спыніўся, высадзіў.

Бяз торбачкі, бяз шапкі пайшоў Паўлік за вакзал. Адтуль глядзеў, як адыходзіў поезд, глядзеў на дымок паравозу, глядзеў датуль, пакуль зьнік гэты дымок.

Нешта пачало трапятацца ў ваччу, кругі нейкія пачалі бегаць. Ногі пачалі слабець. Прыхіліўся ён да плоту, утрымаўся на нагах.

А на небе беленькія хмаркі ў далёкую пуціну йдуць. Бярэзінкі, таполі ім насустрач. Калышуцца і йдуць. Зямля ідзе, а з ёю ўсё ідзе ў коле вечнага, няспыннага руху.

А дома ў Паўліка шумела, калыхалася бярэзінка. Увечар маці доўга слухала і ўглядалася ў няведамую даль. Перад вачыма ў яе—бярэзінка, а ў ваччу далёкія і незнаёмыя мясьціны. Там Паўлічак. А Паўлічак ня там.

„Дзе-ж, сынок мой дарагі?" шаптала маці.

А бярэзінка калышацца, шуміць.

---

Цесьляры будуюць дом, каля станцыі. Два дні тупае каля іх хлопчык бяз шапкі. Адзін раз папрасіў есьці, далі кавалак, пайшоў хлопец.

Праз дзень мужчыны зноў заўважылі хлапца каля будовы. Блізка не падыходзіць, воддаль стаіць і пaглядае.

— Зноў гэтае хлапча падышло сюды, бачыце, вунь паглядае,—заўважыў адзін.

— На торбачку паглядае,—заўважыў другі,—яго толькі прынадзь...

— Значыць галодны, раз паглядае.

— А ты іх усіх накорміш?

— Усіх я не накармлю, а мы ўсе можам яго накарміць.

— І дакуль гэта ты будзеш карміць? Тады ўжо лепей бяры да сябе і будзеш мець яшчэ аднаго сына,—з усьмешкаю адказаў гэты чалавек

Злосная ўсьмешка бязьдзетнага над многадзетным. Злосная і зайздросная.

Паўлік тупаў, але не адважваўся падыйці. Людзі-ж яго бачаць, людзі-ж павінны зразумець яго становішча. Пазаўчора прасіў у іх хлеба і, калі хлопчык падышоў сёньня, дык-жа, зразумела, чаго ён падышоў. Калі яны могуць пакарміць яго сёньня, значыць могуць паклікаць.

Адзін мужчына падышоў да агеньчыка, які недалёчка, каля дрэва дыміўся, уваткнуў у зямлю два калкі і павесіў над дымком вядзерца. Вядома, што ён рыхтуе полудзень. Паўлік зусім ня думаў падыходзіць да яго, а няпрыкметна вышла, што ён апынуўся зусім блізенька.

— Што ты і сёньня тут?—пытаецца дзядзька. А тон такі, што Паўлік нават крышку адступіўся назад.

— Чаго ты здрэйфіў?—зноў пытае дзядзька і ўсьміхаецца.

„Не, дзядзька ня злосны, можна затрымацца тут“. І словамі дадаў Паўлік:

— Не, я нікога не баюся і вас не баюся. А толькі ў поезьдзе злосныя людзі, от плюгавыя бываюць...

— А ты ехаў у поезьдзе?

— Ехаў.

— Высадзілі?

— Угу. А на той станцыі выкінулі маю шапку і торбачку.

— Зайцам ехаў?

— Не, пад лаўкаю.

— Я-ж кажу, бяз білета?

— З білетам.

— Но, но! жартуй!

— Яй права-ж з білетам!

— Дык хто-ж гэта мае поўнае права выкідаць цябе?

— А там-жа мой білет скончыўся. У Матылёх.

— А-а-а, тады іншы інтэрас! Ну, паглядай тут за бульбаю, падкладай трэскі, толькі, каб ня надта зырка гарэлі. Будзем разам палуднаваць.

Пайшоў гэты дзядзька да мужчын. Паўлік адзін і цэлае вядро маладое бульбы борздасьпейкі. „От папаямо!“ і завіхаецца хлапец. „Хвакт,

што разам будзем палуднаваць". Можа хто з іх кампаніі і супраць, але-ж, фактычна, Паўлік рыхтуе полудзень.

Бурліць вадзіца ў вядры. Глядзіць Паўлік. Сотні разоў бачыў ён, як кіпіць вада. А цяпер ён так утаропіўся, нібы гэта было нейкае зусім новае зьявішча. Спакойна стаіць вада ў вядры, дасі агню зьнізу і пашла бунтавацца. Агонь, значыць, мацнейшы. Ён можа шмат вады выгнаць з вядра. Але-ж вада можа напсаваць і агню. Э-э, ды яшчэ як! Зусім можа затушыць яго. Задумаўся Паўлік.

А на пабудове:

— Глядзі, кашавар наш мусіць заснуў,—кажа адзін.

— Пойдзем палуднаваць!

Падышлі мужчыны да агню. Схамянуўся хлапец.

— Ужо гатова.

— Паглядзім, паглядзім, што ты навtechарыў нам. Дык, значыць, шапка твая ў Матылёх засталася?

— У Матылёх,—адказвае Паўлік.

— Бяз білета ня хочуць вазіць у поезьдзе?

— Не.

— А ты-б сеў у аўтомобіль.

— Пакінь жартаваць,—адказвае той, што даручыў Паўліку варыць бульбу,—вось адрэж кавалак сала і хлеба, дай хлопцу, тады можаш пагаварыць.

— Калі ў цябе лішняе, дык вазьмі ды дай.

— У мяне яго зусім няма, сыр ёсьць, сыру дам.

Паўлік паглядае на мужчын, асабліва на таго, што з салам. І не таму, што хочацца сала. Не, ён глядзіць на яго, як на чалавека-скнэру. І думае Паўлік: „На ліха мне тваё сала, калі добры чалавек дае мне кавалак сыру і хлеба і тут-жа гарачая бульба".

Павольна разьвязвае скнэра торбачку, шавеліцца рукамі ў ёй, мусіць ня хоча даставаць.

— Лаві!—забурчэў ён.

Каля Паўліка ўпаў кавалачак пацісьненага ў руках сала.

— Не бяры!—гукнуў адзін пажылы мужчына. Усхапіўся нават.

— Ты гэта... не сабаку кідаеш! Бачыш ты раздабрыўся.

— А ты хацеў, каб я на сподачку падаў яму?

— Не на сподачку, але і не сабака ён табе.

— А, гэта мусіць сёмае тваё дзіця?

— Няхай сабе і дзесятае.

Паўліку нялоўка, што з-за яго пачалася сварка, пакінуў есьці, глядзіць, каб хаця не схапіліся мужчыны загрудкі. А той, што даў сыру, махае рукою, супакойвае Паўліка:

— А ты не зважай, еш і ўсё. Біцца яны ня будуць.

Праўда, мужчыны скора супакоіліся. Скнэра паглядае з-пад ілба на

Паўліка і на той кавалачак сала, што кінуў яму. А папалуднаваўшы, устаў, падняў гэты кавалачак, глянуў на Паўліка.

— Папросіш яшчэ.

— У цябе не папросіць,—адказвае другі дзядзька.

Мужчыны леглі пад дрэва адпачываць. А той, што заступаўся за Паўліка, падазваў хлапца да сябе і кажа:

— Пабудзь, пагуляй тут дзе да вечара, а пасьля пойдзем да мяне начаваць. Тут вёрст чатыры будзе. А там параімся, як дапамагчы табе.

Паўлік падзякаваў і пайшоў на станцыю. Ён быў упэўнены, што гэты дзядзька дапаможа, хоць, відаць, бедны чалавек. „Можа дзе работу якую дасьць, каб зарабіць на білет, папрацую тыдзень, ці два. Але што будзе думаць мама? Напішу ёй ліст“.

І вось цяпер уся думка Паўліка была накіравана на тое, каб здабыць конвэрт, паперу, марку. Каб было дзе купіць, дык такая сума грошай у яго знайшлася-б. Аблазіў усю станцыю, а яна тут зусім невялічкая— няма. Бачыць Паўлік—у садку нешта гойдаецца ў вераўчанай калысцы. Падышоў да плоту, прыглядаецца: хлапец невялікі, крышку большы за яго. Гойдаецца і зусім не зважае на Паўліка.

Тут Паўліка выручае дудка. Дастаў яе, падзьмуў—сіпіць. Піць хоча. Пабег на станцыю, наліў з бляшанае конавачкі вады—загаварыла дудка. Паўлік цяпер не паглядае на таго хлапца, бокам стаіць і іграе. Падняў той галаву, паслухаў, ідзе. Паўлік хавае дудку.

— Гэта ты іграў?

— Я.

— Пайграй яшчэ.

— Яно можна было-б пайграць, але шкада дудкі.

— А што яна псуецца?

— Не, яна не такая, каб псавацца, але трэба шанаваць, бо вельмі ўдалая вышла.

— Ну, пайграй яшчэ трошкі!

— Ну, трошкі можна.

Паўлік зайграў на нізкіх нотах.

— А мацней можна?

— Мацней? Калі мацней іграць, дык нават лягчэй, але я не хачу.

— Колькі заплаціў?

— Гэта падарунак.

— Мо' прадасі?

— Ого, ні за якія грошы.

Маўчаць хлопцы. Паўлік перабірае пальцамі па перабіванках.

— Конвэрты ў цябе ёсьць?

— У таткі ёсьць,—адказвае хлапец.

Паўлік ведае, што раз ёсьць у таткі, значыць ёсьць.

— І марка ёсьць?

— Ёсьць.

— Аловак таксама?
— Аловак вось у мяне ў кішэні.
— Можа прадасі?
— Не. За дудку магу даць некалькі конвэртаў.
— А мне толькі адзін.
— Ну, яшчэ што-небудзь у прыдачу дам.
— Шапку дасі?
— Якую, гэтую? (А на ім была гімназіцкая шапка).
— Можна другую.
— Пашукаю.
— Ну, дык так, дасі мне: канвэрт, марку, аловак, шапку і... сала ці каўбасы.
— А чаму гэта яшчэ сала ці каўбасы?
— Бо я ня маю чаго есьці.
— А дома?
— Дом мой далёка.
Падумаў хлапец ды кажа:
— Адыдзіся туды пад той топаль, а я скора падыйду.
Паўлік пайшоў. „Ці не затанна я мяняю дудку? А каб згубілася там, як купаўся, дык і гэтага ня было-б".
Праз некалькі хвілін пад топалем адбылася таемная, але ўрачыстая перадача дудкі ў абмен на шапку староватую гімназіцкую, конвэрт з маркаю, аловак і кавалачак сала.
Пад гэтым-жа топалем Паўлік, напісаў да маткі ліст.

*Мама мая дарагая!*

*Пішу з далёкага краю ў новай шапцы, яна ня новая, але тая мая падралася. Прайшоў усю дарогу добра, нідзе ня зблудзіў, а людзі часта кормяць мяне, так што я не галодны і ўсё добра. Толькі тату я яшчэ ня бачыў, але я хачу бачыцца і ў скорасьці перадам яму бялізну і кавалачак сала. Можа яго адпусьцяць дадому, тады прыдзем разам, толькі можа забавімся ў дарозе, дык вы ня вельмі чакайце нас. А так усё добра і спакойна, кланяемся вам з татам мы ўдвух і дзядзьку Захарыку таксама нізкі паклон. Сьцёпку раскажу пра дудку, яна вельмі добра іграе і пра карадніка таксама раскажу, бо ён вельмі сьмешны і халерны чалавек. А Мікодым таксама сьмешны, але вельмі добры. Купаўся адзін раз і болей ня буду. Яшчэ паклон вам дарагая мая мама ад сына вашага Паўліка.*

*Павал Карнейчык.*

---

Паўлік ехаў з білетам да самага гораду В. Праўда, што ў таго, дзядзькі шэсьцера дзяцей. Хатка маленькая, усе на палу сьпяць. Паўліка палажылі на лаве за сталом. На другой лаве пасьцель гаспадара.

Раненька прачнуўся Паўлік. Гаспадара на пасьцелі ня было. Калі гаспадыня пачала паліць у печы, ён прышоў, патупаў па хаце заклапотаны і зноў некуль пайшоў. Ужо і сьнеданьне было гатова, гаспадыня дзівілася: „дзе ён сёньня бадзяецца, наш бацька?“ Нарэшце ідзе ён у хату, а за ім той цясьляр, што даручыў Паўліку варыць бульбу.

— Ну, пасьнедаем, хлопча, і пойдзем будаваць. Знайшлі мы і табе работу.

— Якую гэта ты дасі яму работу?—пытае жонка.

— Э-э, добрую работу, па яго характары. Ну, садзіся.

Ішлі на станцыю, гаварылі між сабою мужчыны, а пра тое, якую работу атрымае Паўлік, маўчалі. Вось і паваротка на будову, а мужчыны ідуць проста на станцыю.

— Нам-жа туды,—заўважае Паўлік.

Мужчыны ўсьміхнуліся. А адзін:

— Мы цябе пазнаёмім з начальнікам станцыі. Глядзі, ён возьме цябе за свайго памоцніка. Тады ня толькі ў поезьдзе, але ў якім толькі захочаш вагоне ехаць, дык у тым і паедзеш. А кандуктары толькі пад казырок будуць руку прыкладваць.

Слухаючы гэта, усьміхнуўся і Паўлік.

Увайшлі ў пакой станцыі. Людзей нямнога. Пытаецца дзядзька, у якога Паўлік начаваў, ці скора будзе поезд на В. Адказваюць яму, што праз гадзіну ці паўтары. Тады кіўнуў дзядзька Паўліку і сам адышоўся ў куток. Паўлік і другі дзядзька пайшлі за ім.

Тут Паўлік даznаўся, чаму дзядзька раненька ўстаў і чаму яны пайшлі проста на станцыю.

Тут адбылася перадача Паўліку грошай на білет да самага гораду В. А грошы ён сабраў паміж сваіх лепшых суседзяў. Далі яму на дарогу і невялікую торбачку з хлебам.

— Дык вось, сынок, купіш у тым акенцы білет і паедзеш. Няхай табе шчасьліваю будзе дарога. Можа калі ўспомніш, дык напішы, як з бацькам тваім будзе...

— Я-ж, дзядзечка, ня ведаю вашага прозьвішча.

— Сівак маё прозьвішча, і яго таксама. Толькі я Сымон, а ён Міхась.

Паўлік у момант дастаў аловак, кавалачак паперкі і запісаў прозьвішча.

— Я ніколі пра вас не забудуся,—пачаў Паўлік.

— Шчасьліва, шчасьліва, сынок.

Паўлік хацеў пацалаваць у руку. Мужчыны не дазволілі. Па-сяброўску патрэсьлі яго руку.

Калі адыходзіў са станцыі поезд, з пабудовы глядзелі цесьляры. Яны былі горды сваім чалавечым учынкам. Паўлік, у сваю чаргу, пасылаў ім сваю самую шчырую, самую глыбокую ўдзячнасьць.

---

А ў вёску Паўліка паімчаліся конныя жандары, ім трэба найці таго, што праводзіў Паўліка. Пытаюцца, дзе жывуць Салавейкі. У малых пытаюць, бо дарослыя ня будуць стаяць на вуліцы, калі жандары ўяжджаюць у вёску. Але дзеці таксама навучыліся, Яны пакажуць так, што найлепшы шпіён не патрапіць. На гэты раз хлопчыкі нічога не адказалі. А жандары самі трапілі па адрасе.

Уваходзяць у хату Салавейкі.

— Вы заарыштаваны!—скамандаваў адзін бацьку Сьцёпкі. А дзе Стэфан?

— А вось тольк! што быў у сенцах.

Сьцёпка такі і праўда быў у сенцах, але калі пачуў, што яго пытаюць, дык куляю выляцеў на агарод.

Маці ішла каля хлева і заўважыла, што Сьцёпка драпануў, але хіба гэта з ім рэдка бывае? Да яе прыскочыла тры жандары.

— Дзе Сьцёпка?

— А навошта ён вам? Што ён такое мог зрабіць?

— Адказвай, дзе?

Маці пацiснула плячыма:

— Ня ведаю.

— Заарыштаваць яе!

Адзін жандар павёў у хату.

— Што тут парабілася? Завошта вы арыштоўваеце нас?—пытае маці.

— Ведаем,—адказаў жандар. Здаў яе пад варту таго, што пільнуе гаспадара, а сам выскачыў. Адзін з іх пайшоў шнэрыць у хляве, а два забеглі на суседні двор.

— Дзе тут Сьцёпка Салавейка?

— А ён толькі што прабег праз свой і наш агарод,—адказвае дзяўчынка.

Пабеглі жандары ўпоперак па агародах. Папыталіся яшчэ ў аднаго.

— А вось толькі што прабег на той бок вуліцы, на прыгуменьне,—адказвае той. Пабеглі жандары на прыгуменьне—няма. Рашылі ня бегаць. Вярнуліся ў хату да бацькі.

— Вось што, стары, нам патрэбна бачыць твайго сына, Стэфана Ідзі шукай.

Пашоў стары, а за ім жандар. Пытаюцца ў суседзяў. Адны кажуць, што ня бачылі, другія,—вось толькі што бег некуды. А Сьцёпка то з-за якога хляўчука, то з агародчыка бачыць іх, але ня хоча паказвацца, бо жандар за бацькам ходзіць. Пахадзілі, пашукалі і так вярнуліся ў хату.

Арыштоўваюць сьцёпкавага бацьку, а маці наказваюць:

— Выпусьцім старога тады, калі прыдзе Стэфан.

Павялі старога. А маці бяжыць усьлед і просіць людзей, каб шукалі Сьцёпку. Нарэшце зьявіўся „злачынца“.

— А вось і ён,—узрадавана кажа бацька.

— Хто ён?—пытае жандар.

— Сьцёпка, сын мой.

Жандары спыніліся. Падышло тры мужчыны.

— А дзе твой другі сын?—пытаюць жандары.

— У мяне ніколі другога ня было.

— А яшчэ ў вёсцы ёсьць другія Салавейкі?

— Не, няма,—адказаў сьцёпкаў бацька і мужчыны таксама пацьвердзілі.

Жандар падышоў да Сьцёпкі:

— Ты Паўліка ведаеш?

— Ведаю, ён пашоў да таткі. Я яго правёў і ён пашоў з маёю дудкаю.

Лыпнуў жандар на сваіх компаньёнаў. Ускочыў на каня: драпанулі з вёскі, толькі куры ўзьляталі пад капытамі.

— Аблізаліся,—сказаў адзін мужчына.

---

Горад В.

Прыходзіць Паўлік да турмы.

— Ніякія наведвальнікі сёньня не дапускаюцца,—адказаў вартавы.— Прыдзеш праз два дні.

— А ці тут мой татка?

— Адыходзь, кажу, сёньня не размаўляем.

Пашоў Паўлік паўз шэрую мураваную сьцяну. Адышоўся на другі бок вуліцы, каб убачыць невялікія вокны трохпавярховага будынку. У вадным акне відаць было тры чалавекі. Можа адзін з іх быў Паўлікаў татка, але-ж здалёк не пазнаеш, ды і ён таксама не пазнае Паўліка, бо ён-жа і не чакае яго. Аглядаецца на вартавога. Ня спускае вока з хлапца. Трэба ісьці і больш не аглядацца.

А куды ісьці? Дзе прытуліцца пераначаваць, дзе знайсьці кавалак хлеба? Цяжка ісьці, але і стаяць на месцы нельга. Калі чалавек шукае выхаду, ён павінен ісьці і Паўлік ідзе на ўскраіну гораду. Там ня так шумна, там здаецца і людзі іншыя, там ёсьць хаты падобныя да вясковых. Шмат кварталаў прайшоў Паўлік. Сустракаў людзей, прыглядаўся. Амаль ніхто не зварачае на яго ўвагі. Вось, каб сустрэлася такая жанчына, як яго мамка, ён-бы папрасіў хлеба.

Кончылася адна вуліца. Налева ідзе другая. На рагу дрыўляны дом з высокім падмуркам. Расчынены вокны. Пад імі лаўка. Асьцярожна прысеў Паўлік на лаўку. „А мо' хто гляне ў вакно, запытае: што табе трэба. Скажу ім: дайце кавалак хлеба і я пайду“.

З суседняга дому, што на другім баку вуліцы, выбеглі дзьве дзяўчынкі. Яны адразу накіраваліся да гэтага дому, але, убачыўшы Паўліка, спыніліся.

— Ой, хто гэта каля вашай хаты сядзіць?

— Ну дык што, што сядзіць?

— Дык я не пайду.

— Вот, спужалася.

— Я ня спужалася, але чаго я пайду?

— А я табе пакажу свой новы малюнак: ляціць птушачка, а ў дзюбе кветачка.

— Няхай сабе ляціць, а я пайду дадому.

— Ну, дык і ня ўбачыш, бо я пашлю птушачку сваёй бабусі. Пойдзем!

— Цёмна будзе іці дадому.

— Няня цябе завядзе, а калі не, дык твая мама прыдзе па цябе.

— Ага, прыдзе і будзе сварыцца.

Паўлік слухаў іх гутарку, ведаў, што тая другая дзяўчынка баіцца яго, але ён так быў змораны, што ня мог адразу падняцца і іці далей. Дзяўчаткі пагутарылі і асьцярожна падышлі да каліткі, а тут у момант шмыгнулі ў двор.

Паўлік разьвязаў торбачку і пачаў выцярушваць крошкі хлеба. Дзяўчаткі былі ў доме і пазіралі праз расчыненае вакно.

— О, ён нешта робіць.

— Есьць.

— Што?

— Нічога.

— Ён мусіць жабрак.

— Жабрак просіць, а гэты маўчыць.

Паўлік пачуўшы такую размову, павольна падняў галаву, глянуў. А дзяўчынка:

— Чаго ты сядзіш каля нашага дому? Ідзі сабе.

Паўлік жаваў крошкі і нічога не адказваў. Тады другая раіць першай:

— Дай яму хлеба, дык ён і пойдзе. Паўлік паварушыўся і ласкавым голасам адказаў:

— Ня бойцеся, я зараз пайду.

Першая дзяўчынка зьнікла.

— Пачакай, зараз дадуць табе хлеба,—сказала другая дзяўчынка.

Трудна было распазнаць, ці гэта былі праўдзівыя словы, ці насьмешка. Няхай сабе насьмешка, але, пачуўшы слова „хлеб“, Паўлік падняўся. З-пад казырка шапкі, на вакно нярухома глядзелі галодныя юнацкія вочы.

З вакна пачулася: „лаві“.

Каля ног Паўліка ўпаў кавалак хлеба.

Нахіліўся ён, каб падняць—пацямнела ў ваччу. Падняў хлеб і ледзь падняў галаву. Голад зрабіў яе цяжкаю. Аступіўся хлапец. Сьціснуў аберуч хлеб і пачаў адкусваць. Паспрабаваў-бы хто адняць, ён грыз-бы таго.

Паўлік зноў прысеў на лаўку, еў хлеб і ні на каго не зварачаў увагі.

— Бачыш, з пяском есьць,—заўважыла другая дзяўчынка.

— Ён і сам у пяску, нібы з зямлі вырас,—адказала першая.—Але чаму ён ня ідзе? Казаў-жа, што пойдзе.

— А вы ведаеце, з чаго робіцца хлеб?—зьвярнуўся да іх Паўлік.

— З мукі,—адказала адна.

— З белае мукі,—адказала другая.

— Так, з мукі,—паўтарыў Паўлік.—А мука з чаго?

— Мука?—Мука ў краме. Мэля ходзіць, купляе і пячэ,—адказала першая дзяўчынка і павярнулася да другое.

— Ĭ-і-і, а ён нічога ня ведае.

Паўлік глянуў на іх.

— А мука, што ў краме, адкуль бярэцца?

— З млыну,—адказала адна, а за ёю паўтарыла другая.

— А млын дзе бярэ?

— А млын намеле, дык і ёсьць.

Другім-бы разам, пры другіх умовах, Паўлік пагаварыў-бы з імі на гэту тэму, як сьлед, а каб гэта было ў яго вёсцы, дык і пасьмяяўся-б з іх развагі, а цяпер кіўнуў галавою і сказаў:

— Зямля ўсё дае і хлеб і сукенку.

Засьмяяліся дзяўчаткі.

— Ĭ сукенка з зямлі? Ха-ха-ха!

Паўлік палажыў рэштку хлеба ў торбачку і пачаў завязваць.

У гэты час з-за вугла выскачыў нейкі хлопчык, ён азірнуўся ў той бок, адкуль бег, глянуў на Паўліка, наклеіў на вугал дому нейкую паперку, яшчэ раз азірнуўся і пабег далей.

Дзяўчаткі заўважылі таго хлапчука, але добра не заўважылі, што ён зрабіў.

— Што гэта?

— Што ён зрабіў?

— Ня ведаю,—адказвае Паўлік.

— Дык паглядзі-ж, табе-ж відаць,—загаманілі дзяўчаткі.

Паўлік падняўся і пачаў разглядаць наклееную паперку. „Адозва. Таварышы рабочыя! У турме кожны дзень адбываюцца страшэнна лютыя катаваньні“... Паўлік нахіліўся бліжэй, абапёрся пальцамі на ражок адозвы.

У гэты час з-за вугла выскачыў жандар. Паўлік аглянуўся.

— А-а! Папаўся, бальшавіцкі злыдзень!

Паўлік павярнуўся і спужана прытуліўся да сьцяны.

— Ггг-а?!—зароў жандар і ўчапіўся аберуч за плечы хлапца. Адарваў яго ад сьцяны і шпурнуў вобземлю.

— А-ай!—закрычалі дзяўчаткі.

Жандар сам крыху зжахнуўся. Падняў галаву. Яму нялоўка стала перад такімі сьведкамі. Заставалася альбо ўцячы з іх вачэй, альбо

„біцца“ за панства Польскае і яе жандараўскі мундыр да канца. Ён, вядома, выбраў апошняе, рашыў „даць бой“ сьведкам.

— А вы што-оо? На вашым доме бальшавікі расклейваюць адозвы.

Ён сарваў адозву, трасе ў руцэ:

— Бачыце, што ён тут наклеіў! Г-г-га...?!

— Гэта-ж ня ён,—адказваюць дзяўчаткі.—Гэта другі.

— Што?

— Гэта ня ён. Той, што наклеіў, пабег туды. Вось толечкі што прыляпіў і пабег, а гэты так стаяў. Ён мусіць жабрак. Мы яму далі хлеба, дык ён стаяў і еў.

— Ведаем мы гэтых жабракоў. Вось мы зараз праверым.

— Ён не вінаваты, не вінаваты!—лепяталі дзяўчаткі.

— Даволі трашчаць. Выясьнім. Жандар пачаў абшукваць няпрытомнага Паўліка.

— Зброі няма. Проклямацый таксама. Ладна. Знойдзем і таго. Дайце яму вады—устане,—сказаў жандар і пабег лавіць другога бальшавіка.

Застагнаў Паўлік. З кубкам вады да яго наблізіліся дзяўчаткі. Ён падняў галаву.

— Дзе я? Тата, тата...

Галава яго зноў схілілася на зямлю. Дзяўчаткі схіліліся над ім.

— Мы прынесьлі табе вады. Напіся.

Паўлік схамянуўся.

— Ня душэце мяне! Ня душэце!

— Гэта-ж ня мы.

— Цябе душыў паліцыянт,—адказвалі дзяўчаткі,—а мы прынесьлі табе вады.

Разьліваючы сабе на расхлістаныя грудзі, Паўлік выпіў кубак вады.

— Ну, вось, ты цяпер будзеш жыць, праўда?—запытала дзяўчынка.

Паўлік нічога не адказаў, а толькі страшэнна зьдзіўлена пазіраў на яе. Гэта былі ня тыя стомленыя, галодныя вочы, якія ўглядаліся ў вакно перад тым, як кінулі кавалак хлеба, гэта былі тыя самыя вочы, толькі ў дадатак—пячатка няпрытомнасьці.

Дзяўчаткі далі яму ў рукі яго торбачку і кіёк, а самі, ухапіўшы кубачак, зьніклі за каліткаю.

Паўлік пачаў прыпамінаць, што з ім здарылася. Успомніў пра адозву. У гэты момант да яго наблізіўся той хлапчук, што наклейваў адозву. Ён нахіліўся над Паўлікам і кажа яму:

— Мне шкада, што цябе пабіў паліцыянт. Ты мяне ня бойся. Уставай і ідзі па вуліцы да сіняе брамы, яна тут недалёчка, а там я цябе спаткаю. Добра?

— А хто ты?—ціха запытаў Паўлік. А хлапец яму адказвае:

— Скажу пасьля. Ня бойся мяне і слухай. Уставай і ідзі, бо паліцыянт вернецца, дык даб'е.

Пабег хлапец.

Паўлік памаленьку падняўся.

Шуміць у галаве.

Кажуць, што ў гэты надвячорак на паўлікавым двара шумела маладая бярэзінка. Людзі пыталіся ў маці:

„Дзе Паўлік“?

Маўчала маці.

Неспакойна шумела бярэзінка.

Паўлік набліжаўся да сіняй брамы.

---

Сіняя брама. Збавеньне, ці яшчэ большая пакута? Насьмяяліся-ж над Паўлікам хлапчукі каля млыну, можа варта прайці далей? Але-ж ногі аслаблі, у галаве шуміць. Памаленьку пасоўваецца ён у расчыненую калітку. Нікога ня відаць. Прытуліўся да шула. Выпучвае вочы: нейкія будынкі. Здаецца, відаць у садку невялікая хатка. Мацней выпучвае вочы,—хатка зьнікае. Перад вачыма чорныя кругі. Галава пахіснулася. Пачуўся сьвіст і воддаль бліснуў агоньчык. З вуліцы ў двор прайшла нейкая жанчына. Падазронна глянула на Паўліка і скрылася за вугал дому. Зноў сьвіст. „Напэўна падмануў мяне і гэты хлапец. Казаў прыці ў сінюю браму, а самога нідзе ня відаць“.

— Сюды, сюды,—чуе Паўлік голас.

Падбег хлопчык.

— Я-ж табе сьвішчу, а ты ня чуеш. Ідзі за мною.

Пайшоў Паўлік за ім у тую хатку, дзе блішчэў агоньчык.

— Дай, Ліна, лямпу,—гукнуў хлопчык.

З другога пакойчыку, ці з кухні вышла дзяўчынка з лямпаю, паставіла яе на столік, глядзіць на Паўліка.

— Садзіся,—запрашаюць гаспадары хаты.—Як ты папаўся гэтаму жандару і адкуль ты?—пытае хлопчык.

— Я з вёскі,—адказаў Паўлік голасам, нібы з глыбокай ямы.

— Я так і падумаў. Скідай халацік. Будзеш у нас начаваць. Ліна, пашукай чаго павячэраць.

— Зараз будзе гатовы крупнік забелены. А чаго ты прышоў у наш горад?—пытае Ліна.

— Пасьля будзем пытацца, нясі крупнік,—перабівае яе хлопчык. А Паўлік ёй адказвае:

— Тату шукаю. Арыштаваны ён і сюды прывезьлі.

— Я так і думаў, што ты наш, рэволюцыянэр,—зазначыў хлопчык.

— А ты, Уладак, не сьпяшайся, рэволюцыянэр...—пагрозьліва заўважыла Ліна і пайшла ў кухню.

— Цябе зваць, Уладак?—пытае Паўлік.

— Уладак. А цябе?

— Паўлік.

— Ну, дык чаму ты такі нясьмелы, Паўлік? Давай сюды халацік торбу. Але-ж яна ў цябе зусім пустая. Даўно спаражніў?

Паўлік кіўнуў галавой.

— Мусіць даўно з дому?

— Даўно.

— Мусіць недзе далёка жывёш?

— Далёка, каля граніцы.

— Чуеш, Ліна,—гукнуў Уладак,—ён з-пад самае граніцы.

Увайшла Ліна.

— Нясі, Уладак, сюды лямпу, ды йдзеце вячэраць.

— Добра. Ну, пойдзем, Паўлік, павячэраем, падмацуем сябе, а то ты вельмі слаба выглядаеш.

Падымаўся Паўлік з табурэткі, трымаўся за стол. Уладак не заўва жыў гэтага, ён ужо з лямпаю стаяў каля дзьвярэй куханькі.

— За мною, сюды,—кіўнуў галавою на Паўліка.

Уваходзіць Паўлік. Ліна з чыгунка налівае гарачы забелены крупнік. Поўную талерку наліла яму. Калі гэта Паўлік еў з такое талеркі? Праўда, дома, выбегаўшыся, вялікую міску спаражняў. І нават з тае міскі, ды яшчэ з дрыўлянаю лыжкаю шмат ямчэй, і проста больш прывычна. Вячэрала маладая сям'я і, калі ў Паўліка даволі гучна пачала бразгаць лыжка па дне талеркі, Ліна прапанавала яшчэ шклянку малака.

— А можа ў вас няма?—нясьмела, але больш жвавым голасам запытаў Паўлік.

— Налівай, Ліна, а ты—пі—цьвёрда па-гаспадарску заявіў Уладак. Так. Па-гаспадарску.

Прымаючы шклянку малака, Паўлік зьвярнуўся да гаспадароў:

— А дзе-ж вашы: тата, мама?

— Тата памёр, а мамы яшчэ няма з работы. Яна позна прыходзіць.

— А брат Болесь у турме сядзіць,—дадала Ліна.

Некаторы час усе маўчалі. Уладак цісьнуў у пальцах маленькую га лачку хлеба.

— Скора будзе два гады, як пасадзілі, і яшчэ застанецца чатыры гады. Спачатку мы жылі ў Варшаве, там Болеся звольнілі з фабрыкі, дык мы пераехалі сюды. А тут яго і забралі.

— Вы-ж мусіць палякі?—нясьмела запытаў Паўлік.

— Палякі—адказаў Уладак.—А што?

Паўлік паварушыўся, пацёр далоньню вока:

— А як яго арыштавалі?

— Яго забралі з хаты. Перад Першым мая.

— Сказалі бальшавік і забралі,—дадала Ліна.

Паўліку ня зусім зразумелы былі гэтыя адказы. Яго цікавіла ня тое, як арыштавалі. Ён зноў пацёр вока, зьбіраўся яшчэ запытаць, але ў гэты момант сам атрымаў запытаньне. Уладак пытаўся за што арыштаваны яго бацька.

Нялёгка адказваць на такое запытаньне. Сам бацька Паўліка не адкажа. Ведае толькі, што жандары шукалі суседа яго, Катковіча, які ўцёк са свае хаты ў часе аблавы на яго. А бацька Паўліка чамусьці павінен ведаць, дзе ён знаходзіцца.

— Тата нічога ня ведаў,—кажа Паўлік,—і нават я таксама ня ведаў і мама ня ведала, а яны прысталі. Сказалі, каб бацька выведаў, ды ім сказаў. Вызначылі тыдзень часу. А тата нічога ня выведаў. Ён не захацеў гэтым займацца. Так і заявіў жандарам. Дык вось зьбілі яго, ды забралі. У Баранавічах сказалі, што сюды пагналі. Сёньня мусіць позна, каб запытаць у каго...

— Сёньня позна,—пацьвердзіў Уладак.—Табе трэба адпачываць. Раскажаш толькі як там, на той бок граніцы... Можа бачыўся з піонэрамі...

Паўлік пацісну́ў плячыма.

— Не, ніколі я іх ня бачыў. Слых то да мяне дайшоў, але ніколі іх ня бачыў. Ды як-жа іх убачыш?

— А ты-ж кажаш, што жывеш блізка граніцы.

— Сем вёрст.

— Дык што гэта значыць сем вёрст.

— Сем вёрст нічога ня значыць, але-ж там стаіць варта.

— Ну дык што-ж, ня мог-бы ты на дзён колькі праскочыць?

— Можа-б і праскочыў, але як зловяць, дык заб'юць альбо і так заб'юць, стрэлам.

— Ну, мяне то яны не злавілі-б. А калі ўжо нельга было-б праскочыць туды, дык я ўзьлез-бы на дрэва, ды пагледаў-бы. Улетку яны ў лягерах.

— Хто?

— Ну піонэры.

— А я дык і ня вельмі ведаю, хто яны.

— О, дык ты, браце, нічога ня ведаеш. Піонэры, яны ўлетку ў лягерах жывуць, у беленькіх палатках, іх там многа, многа, як войска. І штандар чырвоны, і портрэты Леніна. А Леніна ты ведаеш?

— Ведаю.

— А фотографія яго ў цябе ёсьць?

— Не, няма.

— Дык як-жа ты ведаеш?

— Пра яго-то ў нас усе ведаюць.

— Ну, паглядзім, як там у вас усе ведаюць. Вось я пакажу табе не калькі картачак. Калі пазнаеш Леніна, тады паверу, што ў вас усе ведаюць. Ліна, дай свае карткі!

Ліна ступіла два крокі і раптам спынілася:

— У мяне няма.

Уладак глянуў на яе, на Паўліка, усьміхнуўся:

— Нясі, яго няма чаго баяцца.

— Я нічога не баюся,—заляпятала Ліна,—але мае далёка схаваны. Ты пакажы свае.

Уладак махнуў рукою, а гэта азначала: „эт, што з ёю гаварыць“, выскачыў у калідорчык. Паўлік адчуваў сябе ніякава. Паглядзець яму хацелася, але ён заўважыў невдавальненьне гаспадыні і непакоіўся, каб ня вышла ў хаце якога непаразуменьня. Ён хацеў спыніць Уладака: гукнуў таму „ня трэба“ і пасьля вінаватым голасам да Ліны:

— Я-ж не прасіў... ён сам. Скажэце, каб не паказваў, бо мо' й сапраўды ня можна.

Увайшоў Уладак.

— Ну, вось табе некалькі картак. Глядзі.

Паўлік глянуў на Ліну. Тая добрадушна ўсьміхаецца. „Значыць можна паглядзець“ падумаў Паўлік. Насупіў бровы, правёў вачыма на масьці картках. Па губах прабегла ўсьмешка.

— Ну?—пытае Уладак.

— Ведаю,—адказвае Паўлік.

— Пакажы.

— Ведаю.

— Адкуль-жа я ведаю, што ты ведаеш, ты пакажы.

Паўлік узяў у рукі картку Леніна, трымае, углядаецца.

— Ну, ты мо' думаеш, што гэты?—пытае Уладак.

— А вядома што гэты,—упэўнена адказаў Паўлік.

— А гэта хто?—паказаў Уладак на Карла Лібкнэхта.

— Гэтага ня ведаю.

— А вось гэта картка нашага брата, што пасадзілі ў вастрог—паказала Ліна

Паўлік патрымаў у руках гэту картку. Зноў узяў картку Леніна.

— У вас мусіць некалькі такіх картак?

— Я магу табе даць. Я сабе дастану. Вазьмі.

Паўлік узяў, глянуў на Ліну.

— Вазьмі,—сказала Ліна.

Паўлік падняў з падлогі торбачку, палажыў туды картку. Ліна і Уладак усьміхнуліся.

Кладіся дзеці спаць. Доўга расказваў Уладак пра піонэрскія лягеры. Ён іх і сам ня бачыў. Ён уяўляў іх з лістоў, якія траплялі яму ад піонэраў Савецкай Беларусі. Праўда, ён яшчэ меў некалькі фото-здымкаў лягернага жыцьця.

Закалыханы апавяданьнем пра лягернае жыцьцё піонэраў, Паўлік салодка заснуў.

---

Лес. На двары надвячорак. Уладаку робіцца вусьцішна. Паўлік заспакойвае яго. Дзіця лесу адчувае сябе так, як у калысцы, калі маці са сьціснутымі губамі ціхенька пяе „котку“.

Ляжаць хлопцы, слухаюць ціхі прыглушаны лясны шум. Трэба чакаць пакуль добра сьцямнее.

— А як-жа мы будзем іці, калі сьцямнее?—пытае Уладак.

— А мы пойдзем нацянькі.

— Але-ж нічога ня будзе відаць.

— Гэта і добра: паўзьці будзем. Цяпер-то будзем прыгнуўшыся іці, на самай граніцы папаўзем, а на золку будзем там.

— Калі ўдасца.

— Удасца, толькі будзь сьмелым. Ну, за мною.

Прыгнуўшыся ідуць хлопцы. Спыняцца, прыслухаюцца і далей. Спыніліся пад аднэй елкай. Напружана слухаюць: ціхенькі сьвіст. Прылеглі хлопцы да зямлі. Шархнула нешта на елцы і голас: „ня бойцеся“. Толькі Паўлік падняў галаву, а чалавек—скок з елкі.

Прыглядаецца.

— Ты, Паўлік?

— Я.

— Туды паўзеш?

— Туды.

Пытаўся Катковіч, сусед Паўліка, якога жандары шукаюць.

— І ты туды?—пытае Паўлік.

— Не, я буду тут.

— Цябе-ж шукаюць.

— Ведаю.

— Пойдзем разам.

— Я на варце, я павінен быць тут. А вы ідзеце...

Пашлі хлопцы. Скончыўся лес. Поле з пнямі. Тут трэба паўзьці. Пралезьлі калючы дрот. Шмат паўзьлі, мажліва яшчэ з кілёмэтр перасоўваліся-б такім спосабам. Але за імі сачылі вочы вартавога. Яны чулі крокі.

Мяккі золак пачаў расьцілацца па небе.

— Перайшлі ці не?—шэптам пытае Уладак.

— Здаецца ўжо, але ня шкодзіць яшчэ прапаўзьці, вунь да тых кустоў,—адказаў Паўлік.

Дапаўзьлі.

Здаецца нямнога прайшлі яны, на горку падняліся, паказаўся сасоньнік, а на ускраіне яго беленькія палаткі.

— А вунь і піонэры,—гукнуў Уладак.—Цяпер мы ведаем, патрапім самі.

Сонца падымалася, над лесам аглядала піонэрскія палаткі. Паўлік і Ўладак подбегам ідуць. Падышлі бліжэй, бачаць, як піонэры выбягаюць з палатак, адзін у блішчастую трубку трубіць, ды моцна, моцна. „О, гэта дудка, не такая, як Сьцёпкава была“ падумаў Паўлік. Піонэры чатырохкутнікам становяцца, а пасярод высачэзная жэрдка і на ёй чырвоны

сьцяг. Спачатку Паўлік падумаў, што сталі на малітву, а пасьля чуе: адзін падаў каманду, а ўсе паднялі руку ўверх і ў адзін голас нешта адказалі.

— Гэта яны здароўкаюцца?—пытае Паўлік Уладака.

— Гэта, браце, яны робяць салют,—адказаў Уладак і сам падняў руку ўверх. Паўлік зрабіў тое самае. Нарэшце з радоў выбягае адзін піонэр і пытае: „Хто вы такія?“

— Мы піонэры адтуль,—адказвае Уладак.

— Падыходзьце бліжэй,—запрашае піонэр.

Толькі хлопцы падышлі, а ўсе піонэры: Урра!

Здаецца ўвесь лес напоўнены быў гэтым прывітаньнем. Парушыліся рады—усе кругам абступілі Паўліка і Ўладака. Падхапілі на рукі, пачалі гушкаць.

— Ну, цяпер пойдзем сьнедаць,—кажа старшы.

Прышлі ў сталоўку, а там доўгія, доўгія сталы, а на сталах вялікія, вялікія пірагі. Еш колькі хочаш. Ї здаецца Паўлік яшчэ ніколі не папаеў столькі пірага, як сёньня.

Пасьля сьнеданьня Паўлік пачаў аглядацца на сваю адзежу: нязручная яна: халацік, хоць і сукном патыканы, але ня ў гэтую пару яго насіць, поту пад ім зьбіраецца. Порткі ізноў-жа такія, што падкасваць трэба. Маці заўсёды на падрост шые. А тут пакуль падрасьцеш, дык каленак і няма. Паглядае Паўлік на піонэрскае адзеньне: рубашачка добрая, а яшчэ з гальштукам, дык здаецца век насіў-бы, а вось штаны... можна сказаць, што гэта толькі сядзеньне ад штаноў, бо ніякіх калош няма, не дастае нават да калена. Калі ўзімку надзець, боты нават з самымі высокімі халяўкамі, дык-жа ўсёроўна застанецца кавалак голае нагі.

А старшы піонэр у гэты час зварачаецца да Паўліка і Ўладака:

— Ну, рабяты, пойдзем адзяваць форму.

Пашлі. Уваходзяць у драўляны з добрым ганкам дом.

Толькі ўзышлі на ганак—хлапцы прыліпілі да вакна. Старшы піонэр пашоў у дзьверы, а гэтыя ў шыбы ўставіліся.

— Бачыш колькі портрэтаў,—паказвае Ўладак.

А Паўлік утаропіўся ў куток.

— Куды ты глядзіш, вунь на сьцяне,—штырхае Ўладак Паўліка.

— Гэта я бачу, але што там?—пытае Паўлік.

Уладак глянуў.

— А ты не пазнаў?

— Пазнаў.

— Чаго вы сталі? Сюды!—заве старшы піонэр.

Пашлі хлопцы і праз некалькі хвілін былі ў новым адзеньні.

Піонэры зноў сталі ў рады.

— А што будзе цяпер?—пытае Паўлік.

— Цяпер пойдзем у саўгас памагаць грэбці сена.

— О, гэта я добра ўмею!—выгукнуў Паўлік.

— Станавецеся разам.

Паўлік і Ўладак ішлі ў піонэрскіх радох. З песьняю ішлі, а мясьцінамі такт даваў адзін на барабанчыку. Хочацца Паўліку ўзяць гэты барабанчык у свае рукі. „Нічога, яшчэ папрабуем ударыць“.

Увайшлі ў алею саўгасу. Відаць белая брама. Вясёласьць у Паўліка пачала зьнікаць. З трывогаю паглядае ён уперад. Уладак заўважыў гэта:

— Ты чаго нахмурыўся?

— Можа вернемся.

— Што ты? Чаму?

— Там-жа паны.

Пачулі гэта піонэры і пачалі рагатаць. Паўлік вышаў з радоў. Усе спыніліся.

— Чаго ты спужаўся, Паўлік?—пытаюць яны,—мы ніякіх паноў і ня бачылі, расказваюць, што некалі былі, дык іх у рэволюцыю павыганялі.

Паўлік пачаў апраўдвацца:

— Я ведаю, што ў вас паноў няма, а чаму-ж прысады і брама. Гэта-ж толькі ў паноў бывае.

— А яны тут некалі жылі,—дабаўляе Ўладак.

Пасьмялеў крыху хлапец.

У саўгасе піонэры пабралі граблі, вілкі і пашлі на луг.

— У валок будзем грэбці!—гукнуў Паўлік і пачаў работу. Азірнецца вакол—увесь, увесь луг усыпаны піонэрамі, нібы кветкамі. Ніколі Паўлік не працаваў з такою ўцехаю, як сёньня.

Пасьля работы, ідучы назад у лягеры, Паўлік просіць аднаго піонэра пабегчы і глянуць у вокны пакояў. Піонэр згаджаецца. Але кажа „навошта ў вокны, пойдзем у сярэдзіну пакояў“. Паўлік асьцярожна ўзыходзіць на шырокі ганак з круглымі белымі слупамі. Увайшоў у сярэдзіну. Тут ён бачыць свайго знаёмага—портрэт Ільліча. Значыць паноў няма. Тут клюб рабочых саўгасу.

Піонэры вярнуліся ў лягеры. Пачалася падрыхтоўка да прыёму гасьцей. Што гэта будуць за госьці Паўлік ня ведае, але і ён старэнна памагае прыбіраць, падмятае.

У лесе чуваць лопат аўтомобіля. Нехта гукнуў: „едуць“. Адзін скамандаваў: „Станавіся!“ Паўлік думаў, што яны пастануць у рад. Глядзіць, некаторыя папрыгіналіся, некалькі палезла гэтым на сьпіну і далей на плечы, а на плечы тым ды яшчэ ўскочыла тры піонэры. Гэта цікава, але вось ускаквае невялічкі, меншы за Паўліка піонэр, і палез на верх усіх. Паўлік ня можа ўтрымацца, ён штырхае ў бок Уладака „глядзі, глядзі, вот сукін...“

— Ціха!—стрымаў яго Уладак.—Піонэрам ня можна лаяцца.

— Дык я-ж нічога, але-ж узьлез куды жабянё. З зямлі падалі яму невялікі сьцяжок.

Пад'ехаў аўтомобіль.

— Глядзі, глядзі,—зноў штырхае Паўлік Уладака.

— Ну, чаго ты?

— Гы-гы, гэта называюцца госьці?

— Так, гэта кітайскія піонэры,—адказвае адзін піонэр, які стаяў побач.

— Фацэця!—выгукнуў Паўлік.

З аўтомобіля пачалі вылазіць госьці. Усе піонэры віталі іх.

— А якія чорныя гэтыя кітайцы,—шэпча Паўлік. Адзін пачаў нешта гаварыць, нічога не разьбярэш. А піонэры плешчуць у далоні. Паўлік падышоў зусім блізенька, глядзіць на кітайскіх хлопчыкаў. А тыя глядзяць на яго. Адзін падае руку, нешта гяргоча. Паўлік патрос яго руку, знаёміцца: „Як завуць мяне? Паўлік. Я таксама ня тутэйшы". Той ківае галавою, мусіць разумее паўлікавы словы.

— Таварышы,—гаворыць старшы піонэр,—кітайскі піонэр расказаў нам, як яны жывуць і змагаюцца за рэволюцыю, цяпер будзе гаварыць Паўлік.

Заляскалі ўсе далонямі. Паўлік пачаў:

— Мы не ў аўтомобілі прыехалі да вас, мы перапаўзьлі і вось, бачыце, з вамі і Ўладак таксама. Ён дык ведаў пра піонэраў, а я дык і нічога ня ведаў. Нас там б'юць жандары.

У гэты момант на граніцы ўздымаецца фігура таго паліцыянта, што дапрашваў Паўліка ў турме, якога Паўлік празваў Караднікам.

— Вунь, бачыце, Караднік стаіць, слухае. Ён траха не павыкручваў мне рук. Адыйдзі ты, Караднік няшчасны, не глядзі сюды, бо трэсну каменем у лоб. Я цяпер цябе не баюся. Бачыш, якая сіла ў нас. Паткніся толькі сюды, дык пазнаеш!

Паўлік патрос кулаком на Карадніка. Глядзіць, а Ўладак ужо ў аўтомобілі.

— Ты куды?—пытае Паўлік.

— У горад паедзем, садзіся.

— Садзіся, Паўлік,—кажуць усе піонэры. Кітайцы таксама махаюць рукамі, каб сеў. Калі Ўладак будзе ехаць, дык паедзе і Паўлік. Сеў у аўтомобіль.

Толькі павярнулі ад лягераў, чуе Паўлік, нехта па імю гукае яго. Аглянуўся—на той бок граніцы бацька стаіць. Саскочыў Паўлік з аўтомобіля:

— Пачакайце, там мой тата! Сюды, тата! Хутчэй бяжы, паедзем разам!

Бацька памкнуўся ісьці, а перад ім стаў Караднік, заступіў дарогу.

— Дай яму, тата, калом. Калом яго!..

Уладак устаў рана. Ен пабег да аднаго знаёмага, расказаў пра свайго гасьця, навёў спраўкі пра паўлікавага бацьку. Схадзіў яшчэ да аднэй жанчыны і праз гадзіны дзьве меў дакладныя весткі пра Марціна Карнейчыка. Маці Ўладака сёньня на работу ня йшла. Адпачывала. Яна сёньня пазьней крыху спала. А ўстаўшы асьцярожна тупала. Ліна прыгатавала ўжо чай. Чакаюць Уладака. Паўлік нешта мармыча. Пасьля пачынае выгукваць. Ліна прыслухоўваецца, нарэшце прыглядаецца. Неспакойны Паўлік, можа хворы?

Уваходзіць Уладак.

— Дзе ты ходзіш?— пытае маці.

— Так.,.—пахмура адказаў Уладак.

На твары відаць, што нейкія нядобрыя весткі прынёс хлапец.

— Кажы, Уладзя.

— Пра бацьку яго распытваў.

— Ну?

— Нічога.

А Ліна ўсё глядзіць на Паўліка.

— Чаго ты ўтаропілася на яго?—пытае Ўладак.

— А ён увесь час нешта выгуквае, неспакойна сьпіць.

— Сьніць нешта,—адказала маці і хацела іці.

А Ліна:

— Глядзеце, ён нібы сьмяецца.

— Адыдзецеся ад яго,—злосна сказаў Уладак, а сам схіліў галаву пачаў углядацца ў паўлікаў твар.

— Што з яго бацькам?—зноў пытае маці.

Уладак адвёў вочы з паўлікавага твару, спыніўся поглядам на яго торбачцы:

— Няма і ў яго бацькі. Задушылі.

Маці і Ліна маўчалі. Уладак дадаў:

— Пазаўчора двух вывезьлі. Адзін—яго бацька.

Паўлік пачаў абуджацца.

Ліна выскачыла ў куханьку, усьперлася на столік. Моцна сашчаміла кулакі і губы, а сьлязінкі на вачах зьявіліся.

„Сюды, тата! Паедзем разам!"—выгуквае Паўлік.

Адкрыў вочы. Перад ім Уладак, а ззаду маці яго. Усхапіўся Паўлік

— А дзе аўтомобіль?

— Які?

— А піонэры, тата?

— Ты мусіць нешта сьніў?—пытае Ўладак.

— А дзе-ж я? Мы-ж з табою разам.

— Разам, Паўлік. Ты спаў. Мы ўчора разам леглі. Памятаеш, я табе даў картачку Леніна. Ты палажыў яе ў торбачку.

Паўлік працёр вочы, глянуў на торбачку, усьміхнуўся.

— А мы з табою былі ў піонэрскіх лягерах, там у Савецкай Беларусі. На аўтомобілі ехалі. Два кітайцы былі. Толькі мы селі ад'яжджаць у горад, а на граніцы паказаўся мой тата, а Караднік яго ня пускае, дык я крычу, каб хутчэй бег да нас. Вот цікавы сон! А я думаў, што гэта праўда. Мусіць позна ўжо. Я доўга спаў. Трэба-ж пабегчы, ды каб пабачыцца з татам.

— Пасьнедаеш, дзеткі, і тады пойдзеш,—кажа Ўладакава маці.

— Не, цётачка, я пабягу цяпер.

Паўлік хутка надзеў халацік, падняў торбачку.

— А, праўда, няхай торбачка мо' паляжыць тут. Можа мы разам пойдзем, Уладак, добра?

Уладак нічога не адказвае, нахмураны стаіць, Паўлік гэта заўважыў.

— А то я адзін пайду.

З заплаканымі вачыма вышла Ліна.

Паўлік глянуў на яе, на ўсіх.

— У вас мусіць нешта здарылася?

— Не, нічога, дзеткі,—адказвае маці.

Уладак павярнуўся да яе:

— Мама, я скажу.

Маці прылажыла пальцы да губ, маўчыць, дрыжыць рука.

Паўлік зьдзіўлена глянуў на іх усіх, падняў торбачку, памацаў, ці ёсьць картка Леніна.

Уладак падышоў да яго:

— Паўлік. Я табе скажу праўду: таты твайго ты ня знойдзеш...

Ліна зноў выскачыла ў куханьку.

... — Ён у турме памёр.

— Тата!—выгукнуў Паўлік. І некалькі хвілін у гэтай хаце ня чутна было ніводнага слова. Паўлік акамянелым стаяў. Нарэшце вырвалася два словы:

— Памёр... няма...

— Задушылі недзе,—пачала маці.

— Мама!—крыкнуў Уладак. А пасьля спакайней, але з узьнятым настроем да Паўліка.

— Паўлік! Я пайду з табою. Ты там блізка каля граніцы, а там за граніцаю піонэры. Там мы знойдзем сабе дарогу.

— Пойдзем,—адказаў Паўлік.

---

Шуміць бярэзінка на паўлікавым двары, на вузенькіх загонах.

Глыбокай скаргаю шуміць.

Вецер-ліхадзей бушуе па-над ёю і лезе ў сэрца чалавека кіпцюрамі белага арла.

А зямля, напоеная потам і крывёй, зьбірае і дае бярозцы маладой свой жыватворчы сок.

Расьці, бярэзінка!

Расьці ты, маладая сіла працы—

Уладар зямлі!

# У ЗЯЛЁНЫМ АДВЯЧОРКУ

**Уладзімер Хадыка**

Бразнуў дзень дзьвярыма,
Зьнік вячэрняй гамаю.
Постаць падхаліма
Удала туга мая.

Голас падарэйкі
Шчэляпай прашамкала...
Ноч хадзіла з лейкай,
Была перад клямкамі.

Аблівала вокны,
Расчыняла весьніцы...
Радасьць век ня згоркне,
Шчасьце век ня зьдзейсьніцца.

Згіне эпігонам
Скарб няўдалай спадчыны.
Вёсен шум зялёны
Будзе зноў ня страчаным.

Выйдуць дні жывыя,
Без гары абежнікаў...
Пахаваюць шыі
Хатнія драпежнікі.

Да вушэй струпамі
Пёры папрыростаюць...
Высьмягне атрамант,
Выступіць каростаю.

Распаўзецца брудам,
Што ў душы назьбірана...
Лягу перагудам,
Песьняю разьвіранай.

Адгару над краем
Безназоўнай зоркаю...
І таму што знаю
Славы сьцежку горкую,

І таму што бераг
Мар бязьмежных ведаю,—
Ў сэрцы—мала веры
Людзям і сабе даю.

Сэрцы меру выб'юць,
Цень людзкая пройдзецца
Гойкнуць мовай рыб'яй,
Ў плытнікох пагойдацца.

А зямлі вялікай
Рух—спрадвечнай спробаю
Адьвярозяць крыкам
Дзеці галалобыя.

Ў вечнасьць глянуць глыбей
І цяплей сагрэтыя—
Не адвянуць ў зьнібе
Нэндзай перапетаю.

Блуд сучасны будзе
Характэрнай рысаю—
Ў летапісным хлудзе
Былі перапісанай.

Тхлань нажоўклых томаў
З адпаведным нумарам—
Перасыпле промень
Залацістым гумарам.

Як цяпер, пярэйдзе
Крокамі вячэрнімі.
Не засьне на рэйдзе,
Не скасуе тэрміны.

Вось ужо закуткі
Закружылі ценямі:
Знаю, сонца хутка
Высмаліць калені ім.

Выпаліць па рысе
Недабіткаў зрыненых...
Ўсе мы адракліся
Ад дарог бяз імені.

Усе мы мёртвай кветняй
Першы сорам кінулі...
Салавей галетны
Заламаў асінаю.

***

Толькі тэй гаворкі,
Што даўно ня бачылі...
Ў небе тыя-ж зоркі,
І сьвятла ня страцілі.

Поле з новым кроем,
А што рэшта з межамі —
— Ўсе апошнім боем
Ў добры час дарэжам мы.

— Нехацімец, братка,
Справа чорта вартая...
— Дойдземся парадку,
Дапаможам партыі.

Узгарэўся клопат
Сьмехам прыгаруненым...
Вецер бег галёпам
Ля цымбал наструненых.

Вецер нёс мотывы
Песень ненапісаных...
Ў сіні клёны стылі
Чорнымі абрысамі.

Прыцем даў мне лапу
З прымаўкай сяброўскаю...
Спорны дождж закапаў,
Грымнуў гром за вёскаю.

Дзікі шал прабег там
Над мурогам скошаным.
А сказаў-бы нехта,
Што грунём ня прошаным,—

На сухім папары,
Голыя і босыя,—
Танцавалі хмары—
Дзеўкі чорнакосыя;

Пад разьбіты бубен,
Спуджаныя сьвістамі,
Плакала на дубе
Скрыпка галасістая;

Стукалі па даху
Сьлёзы дробнай кропляю;
Біў кулак па шляху
Мокраю пантопляю.

Біў па долі горкай,
Каб жыцьця ня бачыла...
Я стаяў пад горкай,
Сьветлым даль маячыла.

***

Нэрвамі ўпрагуся,
Словы з сэрца выкіну,
Калі вызнаць мусяць
Таннае пілiканьне.

Калі здрада раніць,
Буду ведаць: чутая...
Ў залатым тумане
Раніца распутана.

Зьнікла ў перапудзе
Нявідочнасьць мглістая...
Дзень ў вятрох алюдзеў,
У парозе выстаяў.

Дзень кіруе часам
Найвялікшай дбайнасьці.
Іх, хто цёнгле ласы
Зганьбены звычай знайсьці,—

Даўніх і нядаўніх,
І па кім ня плачам мы—
На адсьветах баўных
Мне пазнаць прызначана.

Гэта слаўных племя,
З чорнай старасьветчыны:
Зубамі б'е аб крэмень,
Мрэ без чалавечыны;

Заімшэлым крыжам
Па шкілетах стукае;
Сьлед крывавы ліжа
Здані беларукае.

Ў прадсьмяротным крыку
Ўсе сыйшліся песьнямі...
Я суровасьць выкуў
Чмарымі прадвесьнямі.

І на жудасьць скрухі,
Цераз край адужаны —
Не крануся слухаць
Хлюпат бруднай лужыны.

— Ўсё жыве на сьвеце,
Каму права дадзена.
Завінуўся вецер...
Вось і песьня складзена.

Праз жыцьцё прапета,
Каб была ўся яна —
Пачуцьцём поэта,
Думкай грамадзяніна.

7-VIII—31 г.

# НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ

**Лукаш Калюга**

*(Працяг)*

## Прыгоды і лятуценьні

### IX

Усё даўнейшае нам цяпер толькі цень. Але зірнеце наперад, таварыш чытач,—вунь у тні ды другі (большы, цямнейшы) цень на баркаўской вуліцы відаць. Ціхенька высунуўся ён з некатарага двара ды йдзе сюды, пад нас. Спусьціў галаву, унурыўся, але, тымчасам, з-пад ілба на нас—яму незнаёмых—пільна ўзіраецца: адкуль і хто мы хоча пазнаць, успомніць, дзе гэтакіх бачыў.

У добрую пару трапілі мы, таварыш чытач, у Баркаўцы: на дварэ вясна і ў даўнейшых людзей сьвята—чацьверты дзень вялікадня, градавая серада. Не адны мы ды той цень на вуліцы. Збрыдала гаравому Зьмітру сплючы і вышаў ён з хаты, каб схадзіць дзе да мужчын вочы крыху прахаладаць. З дому не надумаўся куды пойдзе і да каго і от цяпер стаў Зьмітра ў сваіх варотах пры вуліцы—мяркуе: дзе яму быць патрабней. Заўняўся і цень каля Зьмітры. За тры грунты мы ад гаравога баркаўчаніна варот. Ня чуваць нам іх ціхае гаворкі. Але цень, ня начай, гэта пытаецца ў Зьмітры:

— Хто гэна?—відаць якківае галавою ў гэты бок, дзе мы.

Зьмітра ня чуе: маўчыць. Сьвеціць сонца. Цёпла, харашо на дварэ. Зьмітра жмурыць вочы, пазірае прыскіліўшыся як пры самым плоце на яго вузкім, убітым дварэ, падахвочаная вясною і цёплым пазаўчарашнім дажджом, пачынае зелянець мурава.

— Адкуль яны? Каго ім трэба, што ўсё на двары зазіраюць?

Зьмітра толькі паціскае плячыма.

— Ды зірні ты, Зьмітра, што гэна там чырвонае ў ваднаго на грудзях?

Гэта-ж таго году, куды трапілі мы, прыпала наша першае травеня якраз на старасьвецкую градавую сераду. І вы, таварыш чытач, як мала хаджалы ў гэтым баку, каб тут, у старой бытнасьці ня згубіцца, каб праставаць роўную, правільную, каб што найболей ад тае бытнасьці адменнаму быць, нашай рэволюцыяй зазначылі сябе. І праз гэта:

— Што гэна там у яго?—не даваў упыну гараваму Зьмітру старасьвецкі цень.

Ні дзе валяюцца такія дні! Пашукаць такога надвор'я, як сягоньня Сядзьма, таварыш чытач, на чыю прызбу ў даўнейшых Баркаўцох, пагрэймася пад сонца ды ўспамянем што з большага пра гаваркую Кацярыну.

Няма ўжо—памерла, а некалі была такая жанка ў Баркаўцох. У вадназа купіць, а другому прадаць любіла: слоў са два праўды калі дзе пачуе, дык яна—тая праўда—у Кацярыны на языку так прырасьце, што на цэлае паўдня будзе жанцэ гаворкі. От за гэта самае і звалі гаваркою нашу Кацярыну.

Дык от: гэны цень, што каля Зьмітры, і ёсьць гэта самая гаваркая Кацярына.

Але нашто нам гаравы Зьмітра?! Ні далёкія, новыя з адзежы і звычаяў, людзі, ні нязвыклая чырвань—нішто ня цікава яму. Адно сам сябе і сягонешні дзень—градавую сераду—любіць ён. І гэтага з Зьмітры даволі. Уся яго цікавасьць тут. Градавая серада Зьмітру таму па душы прышлася, што гэта і ні сьвята, і ні будны дзень: і вялікая ўрачыстасьць тут не патрэбна і людзі работы—варуючыся граду—ня робяць. Можна ў такі дзень спакойнага, лагоднага сабе таварыства пашукаць: прысьці да каго, пасядзець, паслухаць ды так, свайго слова ў чужую гаворку ня прыкінуўшы, і дадому вярнуцца. Сам Зьмітра—у сярэднім пер'і чалавек і ўсяго сабе шукае сярэдняга, памяркоўнага; як сьвяточнага дня, так добрага суседа.

Самога сябе любіць Зьмітра за тое, што добра пад'еў, што кішцэ даў спакой, утаймаваў ненаядную. На сьняданьне былі ў іх сягоньня кашныя бліны. Масла, што за вялікі пост была з добрую клёцку крышан жонка згарнула, за вялікдзень—за першыя тры дні—усё разышлося. Адно што здор крыху дзярэ мяккія, таўстыя, як пампушкі, кашныя бліны, а так і ім добра мазаць. А што з здору крыху дух цяжкі—не бяда баркаўчанскаму чалавеку: звык ён змалку да ўсяго цяжкога. Ды ні так маслам, ні так здорам, як сваім языком бліны мазаць быў спрыцен гаравы Зьмітра. Ім ён як мазьне, дык і няма: віда-віда блін у пастцы прападае.

Выбачайце мне, таварыш чытач, за такога героя. Сам бачу—не ўнаравіў.

Спажывец!—кажаце?

А што-ж яшчэ будзе, калі па шчырасьці прызнацца, што так быў Зьмітра сьнедаючы раніцаю на градавую сераду за сваёю работаю завінуўся, што ніяк яму жонка з дзьвёх скаварод не магла даць запасу. Праўда, крыху дровы былі вінаваты: не гарэлі, а куралі яны—ведама, падборка, дубчыкі... Ня пёкся, а варыўся на іх полымі таўсты кашны блін.

Ды што нам Зьмітра?! Малы ён прычынец тут. Гэта толькі, што вясна, што сонца, што трава пры самым плоце... А каб нахмурэла, каб пацярушыў дождж, дык і ня было-б Зьмітры. Ня будзем яго трымаць

непатрэбнага—хай ідзе сабе, куды выбраўся, а мы проці яго двара крыху прыпынімся ды ў гаваркой Кацярыны папытаем:

— Ну, як, кабетка?... што тут за вашаю бытнасьцю робіцца?

Прыпазьніліся мы з вамі, таварыш чытач, гэты раз прыйсьці ў Баркаўцы. Добра яшчэ што гаваркая Кацярына нарвалася. А каб не яна, так-бы й прайшоў гэты вялікдзень паўз нашу ўвагу. Ад гаваркой Кацярыны дазналіся мы, што:

Некалі казалі—гадавыя сьвяты праўдзяць. Які ты ў гэты дзень будзеш, такім астанешся і на ўвесь год: благое што зробіш—благі, а добрае—добры будзеш без канца краю. І от баркаўчаньне, каб ні благімі, ні добрымі ня быць (бо ёсьць прыказка: „ня будзь салодкі—ато праглынуць, ня будзь горкі—ато праплююць“) сьпяць кожнае гадавое сьвята з ранку да вечара цалюткі дзень. Усе да аднаго, як пабітыя, сьпяць на вялікадзень. Разгавеюцца ды й залягуць у ложак на ўвесь дзень. Дайшлі баркаўчаньне, што так толькі й можна ад благога й ад добрага ўсьцерагчыся. Довяг-бы ім быў без работы вялікі дзень. А так, за сном, і не агледзяцца калі пройдзе ён: тут была раніца, а тут і вечар на дварэ.

Праз гэты сон, баркаўчаньне і прачнуўшыся, сонныя, хмурныя, нярухавыя ходзяць. Шчасьце й доля іх—усё ў сьне затанула. Хіба як высплюцца ў запас, як на шмат год наперад сабе сну прызапасяць... Хіба тады накшае будзе што.

У смак і ў ахвоту сьпіцца на печы. Шырокая, прасторная ў багатыроў Заблоцкіх гэта рэч. Атабарыліся яны на ёй усёю сям'ёю вялікаднем на першы дзень.

— Печка наша матачка!—казала Прузына, кладучыся з краёчку, каля прымурку.

Закаціўся Юстап пад шасток з цыбуляю.

— А мне там месца пакінулі?—жартаваў Пархім, усьлед за бацькам лезучы на печ. Сабраў ён анучы, што натрус ляжалі ў кутку, падаслаў, каб у бок горача ня было, ды лёг пасярэдзіне на самай гарэні. І такога яны ўтраіх храпунца далі, што ходарам захадзіла Заблоцкіх багатырская хата.

Аднаго Савосту сон ня браў. Сеў ён на лаве ў вакне ды ўсё на камлістыя кляны перад хатаю, на пустую вуліцу, на стары гучысты вішаньнік за Вінцэнтавым токам пазіраў. Але паў, такі, туман і на яго вочы. Парабіліся яны ў яго вялікія, савіныя. Было таго дня і надвор'е на Савосту Заблоцчыка падобнае: хмурае, ціхае. І заманулася Заблоцкіх вучню нуду разагнаць — пачытаць што. Зірнуў на траму. Адтуль нівіны дармовыя дадаткі сваімі жоўтымі, сінімі, зеленкаватымі рубцамі вокладак сьвецяць. Толькі памкнуўся ён, каб узяць каторы з верху, як зірнула Прузына на хату, пераварачуючыся на другі бок, убачыла кніжку ў Савосты ў руках.

— Палажы назад: сягоньня ня можна. Вазьмі, калі так рупіць, сьвятое што пачытай.

Паслухаў маткі Савоста—палажыў назад на траму нівін дармовы дадатак. Але сьвятога ня ўзяў чытаць: не хацелася. Так Савоста ў журбе і праседзіў да вечара той дзень, а тыя на печы яго праспалі. Далей надышоў вечар ды не абы які, а той, што з нядзелі ды на панядзелак бывае. Зацягнулася з вячэраю ў Заблоцкіх. Чакаў яе Пархім, большы Савостаў брат, ды й не дачакаўся.

— Улійце,—кажа, мамка, мне чаго паядаць.

Пасёрбаў ён крыху локшыны ды пашоў на вёску, дзе ўжо зьбіраўся, рахаваўся баркаўчанскі маладзеж. Пакінуў дома меншага брата Савосту. Той на сон пагнаўся і акінуў хлапцоўскую валачобную весялосьць. Савоста не пашоў, дык

— Іграючы ды сьпяваючы, — тыя самі прышлі да Заблоцкіх пад акно, як гэта ў іх песьні пяецца.

— Да ляцела пава
да павістая.
Вясна красна на дварэ.
Пагубляла пер'я
залацістыя.
Вясна красна на дварэ,—

з гэтага пачалі валачобнікі. Дармо, што тая пава ніколі не лятала тут, што толькі ў гэтай песьні і чулі пра яе. А можа й ляцела калі праз Баркаўцы, але за сном бачыць яе не давялося. Ды, такі, пяюць, так сьмела пяюць—аж цяжка даць веры, што нязнаная птушка пава ў нас. Чуваць у голасе надзея: ану, можа!.. можа калі і на наш гразкі, скапытаваны двор згубіць пава залацістае пяро.

Прачнуўся Савоста. Падняў галаву, на ўзлакоткі ўзапёрся.

Усё сваё, усё вядомае:

Гразь. Разводзьдзе. Па калені боты захлюпаны. А ходзяць... Ходзяць ды гуртам, дружна пападоканьню вясну-красну хваляць. Ня век-жа разводзьдзе і ў гразі-ж не векаваць. Будзе.

— Вясна-красна на дварэ.

Таму і песьні жвавыя, галасістыя трэба. Трэба, каб зьвінеў яркі, сіберны прастор. І праўда: таго вечера толькі яна ў бары разьлягалася.

— Што нам праўда? Калом яна хай пойдзе!—сказаў тады сам сабе Савоста Заблоцкі: — Песень, казак, прывабнага лганства трэба больш,— саўсім ва ўпадніцтва падаўся багатырскі сын.

І, пасьля гэтай яркай, песеннай ночы, напаў рух на людзей. Назаўтрае з самай раніцы перайшоў вёску дзесятнік — загадаў на сход, пад карчму: пастуха гадзіць. Пасьнедалі ды пашлі мужчыны на сход, а Савоста сабраў усе дармовыя дадаткі, колькі іх у яго было,—аднёс Зубрыцкаму.

— Паглядзі: можа больш што возьмеш, — набіваўся Савосту настаўнік.

Пакапаўся Заблоцчык у яго кніжках. Адны дармовыя дадаткі там.

— Не,—кажа,—цяпер браць нічога ня буду. Можа потым калі...

Па полудні, сход адбыўшы, сабраліся мужчыны ў Шамрука на гумне. Там на ўзгорку ўжо была крыху стужала зямля. Зрабілі котву. Па чарзе кленчылі яны каля лубка, паводле старога звычаю. І былі некаторыя ў гэтым такой практыкі дайшлі, што ня толькі самі яе на сваю карысьць скарыстаць умелі, але, і на другіх глядзя, утрываць не маглі, каб добрай парады ня даць, куды дзьмуць трэба.

— У пол!

— У насок!

— У пучку!

як каму: усяк раілі.

Самы апошні прышоў на котву Савоста Заблоцчык. Пастаяў ён збоку. Паглядзеў на мужчынскую забаўку. Сам сабе ў левы вус — хоць таго вуса і заваду ня было—усьміхнуўся. „Хто гуляе—той гуляка, а хто стаіць—той разявака“ часта казала Прузына. У памяць гэта прыказка Савосту. І от, каб у такое нізкае званьне, у разявакі, ня трапіць, уважыўся ён на простыя звычаі, на гэты раз свайго панства забыўшыся, да гурту далучыцца надумаўся. Пазычыў Савоста яйцо. Самым апошнім укленчыў каля лубка—пусьціў яго „ў поле“.

Шанцавала Савосту ці не, многа ён выкачаў ці й тое, пазычонае, яйцо пракаціў—не вялікая з гэтага цікавасьць. Варта толькі сказаць, што была пры тым на котве Шамручыха, бачыла як Савоста кленчыў на весьнюю, не саўсім яшчэ стужалую зямлю. І другі раз, як прышла яму чарга, знарок з хаты вынесла Шамручыха чыстую анучу пад калені падаслаць, каб не пакуцаў Савоста сваіх вучнёўскіх адменных штаноў.

— Ато ў нас, простых людзей,—казала яна,—усё абы як.

Шанавалі ў Баркоўцах Савосту Юстапчыка за яго маўклівасьць, за адзіноцтва. Быў ён вялікі пан у сваіх людзях, што ўсім адмяніўся ад іх.

X

— Ціха, мужчыны! Паслухаем што тут за рада, — супыніў крыху чаляднік свайго муляра, што разлададзіўся быў з школьным вартаўніком, сеўшы на століках пярэдніх школьных лавак. Яны ўдвух—муляр з чаляднікам—правілі ў Хлюпскім „гарадзком“ старыя куравыя печы.

Вартаўніку ня цікавы былі настаўніцкія рады. Прыслухаліся яны яму. Пашоў ён за сваёю работаю, адных муляроў у клясе пакінуў. А тыя абадва сталі пад сьцяною. Утаілі дух. І чуюць яны з настаўніцкай інспэктараў, добра ім знаёмы, голас:

— Панове настаўнікі!..

Далей з яго гаворкі відаць было, што скончыліся ўжо ў гарадзком акзамінты. Усе здалі — адзін толькі прыстава сын крыху мыляўся. З прыціскам гэта „крыху“ інспэктар гаварыў.

— Ды й добра мыляўся,—аднекуль здалёк, з нейкага кутка аказаўся настаўнік па географіі й гісторыі.

За месяц, што прабылі тут, ня толькі ў твар, але й па голасе ведалі муляры настаўнікаў з гарадзкога, а чаляднік дык і вучняў апошняе клясы знаў усіх пятнаццаць. Любіў ён пакепляваць з іх, як дзе было з рукі.

— Панове настаўнікі!..

На добры лад, казаў інспэктар, усіх трэ' было-б выпусьціць. І прыставага сына гэтак сама, каб начальства з школаю ў злагадзе было, каб не задзіралася малечка што. Але, казаў, казна гэтага не дазваляе. Ёй не набрацца месца на пятнаццаць чалавек, а дзесяцём месца будзе і дзесяцёх трэба выпусьціць.

— Дык, уважаючы на гэта, нам давядзецца выбраць лепшых, вартнейшых,—скончыў інспэктар.

— Усім месца будзе,—ізноў чуваць было аднекуль здалёк, з кутка:— На пастухоў ёсьць ваканс̌іі.

Далей інспэктар чытаў з сьпісу вучнёва прозьвішча і на адном перабіраў настаўнікаў:

— Слова мае...—па імя—бацьку называў іх.

На рэдкае рэшата прасявалі настаўнікі сваіх вучняў. Былі яны ў іх: дзін ціхі, другі паслухмяны; у ваднаго бацька добры чалавек, у другога—прыемны... Толькі настаўнік па географіі й гісторыі ў вадно слова быў уляпіў на гэтым паседжаньні:

— Я згодзен з папярэднімі думкамі,—чуваць было з кутка.

Так дайшлі і да Савосты Заблоцкага. Пра яго было першае слова настаўніка па расійскай мове.

— Кавалак мужыка,—сказаў ён.

Другому гаварыць давялося настаўніку па географіі і гісторыі.

— На вакантнае месца—пастуху за падпасавіча? Так? Калі я вас эразумеў, Аляксандр Пятровіч, — папытаўся ён у настаўніка на расійскай мове ягонай папярэдняй думкі.

— Панове настаўнікі! Мы добрыя цераз лад. Вы-ж таго не забывайцеся, што нам з пятнаццаці дзесяць выбраць трэба, — напамянуў інспэктар.

Усе па слову скінуліся настаўнікі пра Юстапчыка. І запісалі пра яго ў протоколе, што з гарадзкога — вон! Савосту першаму на тым паседжаньні такі прыпаў лёс. Ды й іншых, што за ім у сьпісе былі, ужо на частае сіта пусьцілі: агледзіліся, што надта мяккія былі спачатку.

Тымчасам зьмяркалася. Школьны вартаўнік запаліў вялікую, панскую лямпу. Панёс настаўнікам. З калідору, як ён праходзіў паўз адчыненыя

дзьверы, забег быў бляск у клясу, дзе падслухоўвалі муляры, скінуўся на падлозе, марськануў па сьцяне.

— А ну іх! Трэба да Ёські ў мястэчка схадзіць, — сказаў муляр, агледзіўшыся што ня рана.

— Ідзеце. А я паслухаю... Цікава—чым скончыцца.

І чаляднік астаўся. Дастоіў ён таго, што інспэктар сказаў:

— Паседжаньне ўважаю за зачыненае,—ды настаўнікі пачалі разыходзіцца.

Пад поўнач ужо бралася. Увесну гэта хутка: гадзіны дзьве, тры па зьмярканьні, дык і поўнач. Спаў, пэўне, ужо Савоста. Спаў і не спадзяваўся, што задасьць яму жалю і клопатных думак заўтрашні дзень. Не паглядзелі, не ўважыліся на настаўніцкай радзе, што багатырскі ён сын. Дрэнь яшчэ яго бацька проці большых, мудрэйшых багатыроў, атопак з іх нагі. Гэта толькі ў Баркаўцох, у бедных людзях багатыром ён чыніцца. А пастаў Юстапа з графамі, з князямі плеч-поплеч—які з яго тады багатыр будзе?! Ня вучыліся ў Хлюпскім гарадзком ні графскія, ні княжыцкія дзеці. Але вучыўся ў ім прыстава сын. І перавысіў такі чын усё Юстапава багацьце.

Назаўтрае—на дзіва яму! — муляраў чаляднік устаў зараней. Яны з мулярам людзі прыезныя. Дзе была работа, там і самі жылі.

Босы, бяз шапкі, з ручніком на левым плячуку, зьявіўся чаляднік на школьным ганку. Нёс конаўку вады, каб памыцца на дварэ. Невялічкі маразок кратаў чаляднікавы плечы. Паціскаў ён імі. Была пагодная, халаднаватая раніца. Недзе далёка ў полі за мястэчкам чырванела цяпер неба. Недзе—яшчэ далей—было сонца напагатове, каб не спазьніцца на тэрмін, каб якраз тады ўзыйсьці, калі па каляндарох зрабіць гэта трэба. Быў кірмашны дзень. Мялі вуліцы. Узадралі з бруку дробны пясок. Сівым, цяжкім пылам круціўся ён.

Раньнія і запыленыя зьбіраліся вучні.

— Што гэта на вас сну няма?—пытаецца ў іх чаляднік.

— Як наш акзамінт, цікава ведаць.

— Ёсьць чаго ўставаць ад поўначы?! Папыталіся-б у мяне—я-б вам і ўчора гэта сказаў.

— Адкуль-жа самі ведаеце?

— Адкуль ведаю?! Вываражыў-бы.

— Мы варагом ня верым.

— Як сабе знаеце. А я, каму ні варожыў, усім праўду казаў.

Быў пры гэтым прыстава сын.

— А ну, павараажэце мне. Паглядзім,—кажа,—якая ваша праўда.

Азірнуўся на таварышаў; што яны на гэта скажуць? Марганаў, што гэта ён так, адчэпнага, толькі прыклеп робіць, а не на праўду. Каб тыя скрывіліся ці як начай паказалі, што ім ня ў нос такія жарты, ён

на сьмех зьвёў усё гэта. Зірнуў яшчэ прыстава сын і на вокны інспэктаравага дому: хаця-б адтуль ня ўбачылі гэтай варажбы. Ды па інспэктары сьмел быў прыстава сын: ніколі ад гэтай пары не ўставаў той.

Паставіў чаляднік конаўку на шульцо, на плот ускінуў ручнік. Узяў прыставага сына руку. Буйныя, глыбокія і дробненьнія — ледзь знаць, уежджаныя і ўтоптаныя, дарогі, сьцежкі і ростані ўбачыў чаляднік на яе далоні. Заблудзіў, ня начай, пашоўшы па іх патрэбнага яму акзамінту шукаць. Доўга прыглядаўся, а нарэшце й кажа:

— Сьмел будзь: усё добра будзе.

Другому варажыў Савосту Заблоцчыку. У гэтага лепшыя выразьнейшыя дарогі. Хутчэй на іх дайшоў праўды муляраў чаляднік.

— Толькі ня крыўдуй. Я кажу, як праўда. І не чакай нават інспэктара—едзь дадому ды, калі сам ня ўмееш, папрасі бацькі, каб добрую, спусную дрытаваніцу зьвіў. Гэта будзе хлеб. А на гарадзкое — плюнь і нагою затры.

Спахмурнеў ад такой варажбы Юстапчык. Абвяла яго разгледжаная рука. Паморшчыліся, зьбегліся бліжай адна да аднэй усе нешчасьлівыя дарожкі на ёй.

— Я, братка, ня вінен,—цешыў Савосту муляраў чаляднік.—Калі-ж так паказуе...

Роўна дзесяцём дакляраваў шчасьце знакаміты варажбіт, а пяцёх з пугаю на „вакантныя месцы“ паслаў. І праўда.

— Ну як вы маглі ўгадаць?—пыталіся потым у чаляднíка вучні.

— А што! А я не казаў: назавіцё мяне сабакам, калі я сваё слова на вецер пушчу?

Таго-ж самага дня надвечар прыяжджае Юстап па Савосту.

— Ну як? Ня здаў?—лепшага спадзяецца, але горшае на языку: такі наш, баркоўскі, чалавек.

— Ня здаў,—спакойна бацьку адказуе Савоста.

— Як то—ня здаў?! Ты мне праўду кажы.

— А так, што ня здаў.

Накрычаць, насварыцца на сына, спагнаць сваю бацькоўскую злосьць хацеў Юстап Заблоцкі, але зьбіў яго з трыбу Савоста сваім пагардлівым, змаўклівым абыходжаньнем.

— Ну зьбірайся-ж!—толькі сказаў, а на большае не адважыўся ён.

Хмурны, намружаны прывёз сына Юстап з навукі, але рада была Прузына.

— А я не казала?! От яно і спраўдзілася. Дармо, Савостачка! Ня здаў—і чорт яго бяры! Дзяды, прадзеды твае акзамінтаў ня зналі і здаровы, вясёлы былі.

Маўчаў, гатовага слухаў Юстап Заблоцкі. Але.

— Шчэ паглядзім. Можа што й здумаем,—нарэшце сказаў.

Таварыш чытач!

давядзецца нам прыпыніцца хвілін на колькі. У нашым баку — ня ведаю як дзе, а ў Баркаўцох так—прыдзе чалавек у хату, цікавую навіну прынясе расказаць, але загаворыцца ды й забудзецца пра яе.

— Ах, няма часу!—скажа.—Трэба йсьці.

— Пабудзь, пагуляй,—ёсьць такі звычай прасіць чалавека—патрэбен ён тут ці не.

— О, не! Дзе вы бачылі!? Трэба йсьці.

Стане ў парозе чалавек, возьмецца за клямку. Дагаварые сваю распачатую мову.

— А вы чулі, што...—тое й тое: успомніць ён сваю забытую навіну, як возьмецца за клямку.

Загаворыцца дый аб дом забудзецца чалавек. Пусьціць клямку з рук з парогу далей на хату адыйдзецца. Так і так яно было... Аж пакуль ня ўся навіна, аж пакуль ня нойдзе на памяць:

— Трэба йсьці.

— Пагуляй. Пасьпешышся з домам...

— Не. Трэба йсьці. І так доўга забавіўся.

Ды бывае, што і на гэтым не канец. Бывае разоў трэйчы будзе за клямку брацца багаты на навіны чалавек.

Возьмемся і мы з вамі за клямку, таварыш чытач, каб прыклеп быў пачаць мову пра забытага намі Клемку Філончыка, што ‘маль ні да прызыву ў Баркаўскую пачатковую школу хадзіў, але сяк-так, такі, скончыў (паўздужаў) яе.

Наважыў Язук з свайго Клемкі чалавека зрабіць. Проста бяда была з ім: хоць ты кол на галаве чашы ўпартаму. А яшчэ пашанцавала: хлопца ў войска ня ўзялі, што адзін сын быў ён у бацькі. Перабыў Клемка прызыў дый вярнуўся дадому.

Крыўда была Язуку. Ставіўся ён багатыром у Баркаўцох ня меншым за Заблоцкага. У таго толькі нівы шырокія ды сядзіба заможны выгляд мае. Язукоў-жа й двор вузкі й зямлі ў Баркаўцох у яго ня лішняе, але за тры вярсты на засьценку ён мае прыкупленай чатыры дзесяціны.

Завялік Язукоў Клемка на навуку. Па гадох яго ў гарадзкое ўжо ня прымуць. І Філончык свайму сыну службы праз людзі прапытаваўся: абы дома ня быў, абы трохі каля паноў цёрся. Усіх пісароў, усё дробнае—прыступнае простаму чалавеку — начальства ападаў ён, стараючыся сыну лёгкага, панскага хлеба.

Потым аднаго разу ў жніво па сьняданьні кажа Язук:

— Зьбірайся, Клемка. Паедзем.

Запрэглі яны свайго дэраша ў каламажку на жалезным хаду. Падыспад у сядзеньне ўкінулі пшэннай пытляванай мукі паўтраця пуда. Наверх кучак чатыры ўскінулі канюшыны дэрашу даць, калі дзе забавяцца.

— Садзіся, Клемка.

Ня меў Юстап каламажкі на жалезным хаду. Знарок прысмаліў дэраша Язук, як пад'яжджалі пад Заблоцкіх, каб лякаталі колы.

А за вёскаю жалі жанкі жыта пры дарозе.

— Памажы божа—даў ім Язук.

— Дзінькое. Куды гэта вы? Сягоньня-ж ня кірмашны дзень.

— Дармо.

Далей праехалі. Ізноў блізка жнеі. Ізноў давялося.

— Памажы божа!—давацьць.

— Куды вы гэтак зараней?—ізноў пытаюць.

— Далёка,—кажа Язук.

— Ты-ж глядзі: чалавекам будзь, — едучы навучаў ён сына.—Не чакай каб табе хто перапусьціў—хай лепш тваё пяройдзе.

— Ць-сь-ся!..—сутрымаў Язук дэраша перад поштаю, пры самай скрынцы за шчакеты яго прывязаў, адпусьціў пасак, падкінуў кучку канюшыны. Доўга ён меўся забавіцца тут.

— Дзень добры панству, — на кухню з мяшэчкам зайшоўшы, наймічцы кажа Язук. Скінуў шапку і на Клемку крывіцца, каб той гэтак сама зрабіў.

— Сядайце. А я пайду пану скажу, — сьцерла анучаю ім зэдлік наймічка.

— Дармо... Пастаім... Сядзелі ўсю дарогу.

Адны, бацька з сынам, у кухні асталіся.

— Толькі будзь чалавекам: каб мне за цябе брыдка ня было,— Клемка Філончык—сам у сабе хлопец—чуе ад бацькі.

З Махоўскім, начальнікам пошты, што з сваіх пакояў прышоў сюды, на кухню, мала было гаворкі. Ужо быў у яго Язук, гаварыў пра Клемку і ён казаў:

— Прывозь—будзем бачыць.

— От можа-б, пане, ім,—на мяшок і на Клемку паказуе Філончык,— далі які прытон.

Разьвязаў мяшок начальнік пошты. У пальцах пацёр муку—мяккая. На руку ўзяў, паглядзеў—белая, добрая.

— Высып у балейку,—наймічцы загадаў.

— А куды яго—пра Клемку пытаецца Язук.

— Хай астаецца. Толькі на сваім хлебе. Пакуль наложыцца... А там— будзем бачыць.

— А як, пане, з кватэраю будзе.

— Кухня праеторная...

— От, дай божа вам здароўя.

— Пашыўся ў паны Язучок,—сказалі ў Баркаўцох, як убачылі старога Філончыка аднаго едучы дадому.

І з твару і в натуры адмяніўся Язучок, у Хлюпску пабыўшы. На другое лета як прыехаў вялікадняваць да бацькі, па веніку вусы прывёз—такія доўгія і пушныя былі яны ў яго. Калі пра што распытваліся, гаварыў мала—больш слухаў ды

— Ну ізвесна,—казаў.

За навіну яму былі яшчэ тыя вусы і Клемка ўсё губы аддзімаў, нашатыраваў іх.

Цяпер няма такога звычаю, а даўней запасавалі каровы. Даўней людзі адны адных баяліся: каб не ўраклі жывёлу, каб благія ёй вочы не пашкодзілі, каб не зьбягалася млека, усьлед ня кісла як толькі падоіш карову. Першы дзень кожан сам свой набытак у поле гнаў. І варагоў і каб жывёла адна адну не папрасаджавала, глядзелі: разбаранявалі, калі тыя возьмуцца пароцца.

Пакуль гнаць у поле, зрабіла Язучыха так, як даўней усе людзі рабілі: наліла ў дайніцу сьвянцовай вады, зьвязала мяцёлку з акалотных каласоў, каб пакрапіць набытак. На дварэ ўжо

— Сю-поле... Сю-поле...—як песьню, голасам цягнуў Язук.

Выгнаў ён „чарну“ і „рыжу“, а „рабы“ не чапаў.

— Хай яшчэ тыдзень які ў хляве пастаіць. Будзем у поле пушчаць як цялё адсадзім,—пра „рабу“ яшчэ ў хаце казаў ён Язучысе.

Быў дзень людзям на дзіва.

Вышаў Клемка на ганак. Стаў, пастаяў, паглядзеў, а тады дастае з кішэні футарал. З таго футарала сінія, нязнаныя ў Баркаўцох, акуляры дастае. Чапляе іх на нязвыклы нос, закладае драты за вушы.

Несла Язучыха сваю дайніцу з крапідлам. Заўнялася. Пазірае на сына, а сын праз свае сінія куплёныя вочы на бацькаў набытак.

— Эта что за зьвяры такія?—пытаецца сын у мацеры.

Пастаўляла тая на яго вочы.

— Што табе?.. Ці ні прыступіла што? Году няма як з дому і ўжо свая карова зьверам падалася. Да там-жа, у тваім Хлюпску, рана-вечар пастушкі гэтага „зьвера“, як ты кажаш, на павадкох з пашы-на пашу водзяць.

Дастаў Клемка драты з-за вушэй. Прыняў ад ачэй сіняе шкло. Кажа:

— Чорт яго ўсё ў галаве дзяржаць будзет. За гэта ўрэмя мы окала мудрэйшых вяшчэй аціраліся.

Злажыў і назад у футарал палажыў свае куплёныя вочы. І ад тых дат скрозь зямель пашлі яны. Першы і апошні раз людзкаваліся на Клемкавым носе.

## XI

Калі вы, таварыш чытач, нікуды ні на які сход не сьпяшаецеся, нікага дакладу, справаздачы, спрэчак ня маеце на гэты час, давайце ад Заблоцкіх, ад Філончыкавых пойдзем далей у канец, Баркаўцоў паглядзім.

Вы бачыце тую, трэцюю ад канца хату. Старэнькая—чуць у духу, ліпіць от, пакуль ветрам не зьнясе. Па даўнейшаму з прычолкамі, без закотаў крыта. На погляд, добрага хлява ня варт гэта хата, а жыве ў ёй пане Змышлевіч—не абы хто. Ён, Юстап і Язук—от і ўся варожая нам у сучасны момант кляса: баркаўчанскія багатыры.

Таварыш чытач!

не глядзеце, што ў аднаго толькі Язука новая, чыстая, як звон, хата і каламажка на жалезным ходу, а рэшта баркаўчанскіх багатыроў у гнілой парахні жывуць і ў панарадах, што гной возяць, на кірмашы ды на фэсты езьдзяць. Ня ў хатах, не ў каламажках рэч, а ў эксплёататарскай чыннасьці.

... ўнаеды,—гэтак, надта-ж брыдка, даўней звалі такіх багатыроў.

Гіляры Змышлевіч—на ўсю вёску адзіны шляхціц. Пакінуў-жа чорт такога насеньня ў Баркаўцох на завод. Толькі дрэннае яно трапіла ў нашы людзі—не фляицуецца, новых аўтожылкаў з зямлі ня пушчае. Гіляры ў свайго бацькі быў адзіны сын, а ў яго самога і саўсім сыны не ўдаюцца—адны дочкі. На пшык сыходзіць, зводзіцца фамілія. Сам Гіляры кажа:

— Чортава насеньне,—на свае дзеці.—Толькі круціць хвастом, пакуль ушчэпіцца на каторага. Хаця-б хутчэй з дому выкруціцца—аднаго глядзяць. Гэта табе ня сын, што да сьмерці бацьку дахавае, памяць пра яго ў дальшы, прышлы сьвет панясе.

Жыў Гіляры і надалей моцную надзею меў: некалі нешта павінна быць. Але ня было сыноў, ня было каму бацькаву славу і сорам па ягонай сьмерці ў людзкой памяці кратаць. На прымакі павінна была сыйсьці гаспадарка.

— Ды што прымакі?!—ня раз сам сабе казаў Змышлевіч.

Прагнуў ён, каб хоць які мала-веле пакінуць знак, каб і па яго сьмерці ведалі, што жыў, нешта рабіў гэтакі чалавек, Гілярава імя і прозьвішча, каб прыбрыдала, слухаючы, людзям. І ніякага ўрачыстага здарэньня, апрача сьмерці, не дабраў Змышлевіч. Ня так, як іншыя—ён з рызыкаю наважыў у зямлю пайсьці: добры і даўгавечны там даць сабе прытон. І гэтым пра сябе памяць пакінуць думаў.

Так, на прымакоў не спадзяючыся, гэтай вясны пане Змышлевіч быў за сталярку ўзяўся. Яшчэ падлеткам быўшы давялося яму ў дваравога стальмаха за памагатага быць. От ён тады ў стальмашні і налажыўся гэблік у руках трымаць, з пілкаю ды з долатам як абыходзіцца, сёе-тое ў паязьдзе паправіць мог. А потым ужо дома сталярку, бандарку Гіляры сам праз сябе дайшоў як рабіць: кемкае ён меў вока. От яму цяпер гэта ўмельства і згадзілася.

Нацягаў Гіляры ў падпаветку дубовых дашчок—добрую, панскую з іх узяўся труну майстраваць. І нагадзіўся якраз Юстап Заблоцкі на гэту работу. Прышоў ён да Змышлевічаў пазычыць жалезьняка здохлае

сьвінчо закавацьь. Пачуў стук у падпаветцы. Зайшоў туды. Ажно ў Гіляpara ўжо, можна сказаць, і па рабоце. Асталося толькі шкляною паперою пацерці, каб гладзей было. Ужо века зьбіваў ён.

— Памажы, божа,—Юстап майстру дае.

— На векі вякоф аман,—той адказаў.

Не дачуў Гіляры. Падалося яму, што Заблоцкі, шляхечы яго гонар шануючы, далікатнага „пахвалёнага“ яму даў.

— Каму ты такую добрую дамавіну робіш?

— Сабе. А каму я рабіць буду?!

Добра, доўга паглядзеў Юстап на Гіляpara: пры сваім разуме чалавек ці ўжо крыху блытацца пачынае. Не ўпадабаў Заблоцкі шляхціцаву работу.

— На ліха яна табе,—кажа на труну.—Хіба жывы туды ўлезеш ды будзеш сьмерці чакаць.

— Не твая бяда,—крыху зазлаваў Гіляры.

— Дык табе жалезьняка трэба?—не заходзіў шляхціц з мужыком у доўгую гаворку.—Ён недзе ў сенцах стаіць. Хадзем. Там возьмеш,—вывеў Заблоцкага з падпаветкі, каб барзьдзей адбратацца ад яго.

— Ну, як твой сын?—у сенцах, даючы жалезьняк, папытаў Гіляры.

— А гэта будзем бачыць,—нічога пэўнага не сказаў Юстап.—У яго шчэ ўсё наперадзе.

Ня любіў Заблоцкі гаворкі пра сына, як пахваліцца ня было чым.

— Трэба ісьці,—кажа.—У нядзелю пагаворым, як будзе час.

На гэтым і разышліся баркаўскія багатыры. Панёс Заблоцкі жалязьняк дадому, а Змышлевіч зайшоў у хату. Там узяў паркаль, што на гэтым тыдні набраў у Хлюпску, ды вярнуўся з ім назад у падпаветку.

Сваім разумам Гіляры па сьвеце жыве. Ведае ён *што* і *на што* робіць. Чужое зьвягі яму не канечне слухаць. Не патрэбна яму ні нядзеля, ні мужыцкія зборні на прызбах. Жыў ён будзе, калі і пра Юстапчыка не дазнаецца. Ня надта патрэбен Савостаў акзамінт. Ці ён здаў яго, ці не—Гіляраму ўсёроўна.

Прынёс Змышлевіч паркаль у падпаветку. Разьвярцеў, зірнуў—харошы, квецісты. Памацаваў—моцны, не дзярэцца.

— Гэтакага тавару пашкадаваў-бы прымака на труну набраць,—тое думаў Гіляры.

Абабіў ён тым квецістым, моцным паркалем у сярэдзіне дамавіну, папушчаў знадворку брыжы. Не паглядзеў шляхціц на Юстапавы кпіны. Аздобную і даўгавечную змайстраваў сабе хату. Палажыў у галавах маленькую падушачку з мяккага, дробнага, знарок укошанага і высушанага мурожнага сена. Чуваць быў моцны пахучы чабор. Цяжкі і доўгі сон быў-бы і жывому чалавеку на такой падушцы. Ніколі-б прымакі па Гіляравай сьмерці такой яму выгады не прыстараліся.

Сваю ўласную дамавіну зьверху пагладзіў, у сярэдзіне памацаў Змышлевіч. І здаволен ён быў.

—...ніколі б... І матар'ялу і работы пашкадавалі-б прымакі,—сам сабе пад нос прабубніў Гіляры.

Ды і на свае памінкі мала ён меў надзеі. Баязно яму было, што так непамінаны і астанецца, будзе прэць у зямлі. На прымакоў не чакаючы і пра гэту жалобную бяседу паклапаціўся баркаўскі шляхціц. Схаваў чырванец у труне пад падушкаю. Палажыў туды і свае строі на сьмерць: штаны, кашулю, крамныя шкарпэткі, новую, ні разу не надзяваную жакетку з сукна свае работы. А на гэту адзежу, каб мякка было, каб не пабіўся, калі як незнарок зварухне хто, гарнец даўнейшай царскай гарэлкі палажыў.

— От нечага,—казаў,—будзе што выпіць на хаўтурах.

Тымчасам ужо па ўсіх выборах на той сьвет было. Цяпер толькі прыставіў Гіляры века да свайго месца, моцна яго цьвікамі прыбіў. І каб хто ў яго.

— Маеш хату на сьмерць—папытаў.

— У сьвірне на гары яна сьмерці чакае,—ня доўга думаючы адказаў-бы Гіляры. Там у шляхціца дамавіна стаяла да спасёнага дня, калі трэба будзе.

Даў Гіляры сваёй рабоце прытон і ў хату пасілкавацца пашоў. Там сукала нема крычыць, тарарахкае. Пішчыць, што шляхта яму подмазкі шкадуюць. Гасяць набіліцы ў дужых Альжыных руках. За ўсякім разам іхні стук незакітованыя шыбы адлічваюць ды лямпа над сталом скіўнецца—той лік падцьвердзіць. Ня ўправіліся Змышлевічанкі за зіму з абрусамі ў елачку: на вясну іх пакінулі датыкаць. От гэтыя кросны сама больш і труцілі Гіляраму сьвет. Забываўся ён на прымакоў, як толькі пачуе іх стук.

— Каб на вас заўшыца з вашаю работаю!—бубніў ён, у хату прышоўшы.—Ня ўпыняцца! Як зіма, як лета... Хоць ты свае дамоўкі выракайся.

Так было таго дня. А на другі дзень прышло недалёкае „заўтра“, за „заўтрым“ „пасьлязаўтра“ ды так многа іншых, неназваных дзён сьледам. І от аднаго разу, як спаражнілі, за стол сеўшы, міску капусты ўсёю сям'ёю ды пакуль яе месца жоўтая, тлустая смажанка зьмяніла, зайшла ў Заблоцкіх пра шляхтаў гаворка.

— Недзе сягоньня заранеў Гіляры паехаў: яшчэ пастух авечкі ня гнаў,—казала Прузыха, адкалуплюючы ад гаршка, кідаючы ў шырокую гліняную міску-чаропку смачныя цьвярдыя прыгаркі. З прэлай, паварушанай смажанкі каціўся водар з парога ад прыпечка аж на самы кут за стол.

— Аднясі ты ім, Савоста, жалязьняк,—толькі цяпер пра гэта ўспомніў Юстап ды пад'ехала смажанка на гуляшчы стол і на ўсё забыліся Заблоцкія.

На загародзьдзі паабапал сьцежкі трава ў калена Савосту. Густая, купчастая, чакала яна касьбы. Ішоў па полудні Заблоцчык ды жалязьняком сьсякаў белыя кветкі ў высокага кмену. Была адчынена фортка варот у Змышлевічаў таку, стукалі ў ём у сярэдзіне набіліцы. Там у халадку Альжа датыкала ў ёлачку абрусы. І здалося Савосту, што ён недзе бачыў падобную. А лепш прыгледзіўся—успомніў, што яе сястру на ўсіх скрынках з цукеркамі малююць: у целе дзяўчына, белая такая—пшэнная і на шчоках па ружовай лапінцы. Альжын толькі нос хібіў—крыху не фасоністы мела: у пераносіць, як долата, а самы канец у цьвік сыходзіўся; а так яны з сястрою, як дзьве кроплі вады.

— От вам ваш жалязьняк,—кажа Савоста.—Дзякуй, што пазычылі.

Халаднавата, змрочна і вільготна было ў Змышлевічавых таку. Чуваць была сырая гліна. І ня меў Савоста, што болей дзяўчыне сказаць. Разглядаў шляхціцаў багатырскі ток. Шматавата засталося ў іх саломы ад зімы. Палавіна чвэрткі было занята ёю. Мякка, прасторна было таму спаць, чыя на старане ляжала пасьцель.

— Гэта ты там сьпіш?—папытаўся Савоста, іншага нічога ня меўшы сказаць.

— Я,—засьмяялася Альжа.

Ізноў зьбіўся з гаворкі Заблоцчык.

— Адна?—пытаецца.

— Ці ня зьбіраешся ты на вячоркі, часам, прысьці?

Многа бялейшыя ёсьць чырвоныя буракі, як тады зрабіўся Савоста.

— А што ты думала?—кажа.

— Гэта цябе там, у гарадзком, вучылі на вячоркі хадзіць?—пацьвельвалася з яго Змышлевічанка.

— Надоўга прыехаў?—пыталася яна.

Было-б прыцемна ў Змышлевічавым таку, халаднавата стаяць босым нагамі на вільготнай сцаглянелай гліне, каб не прабіваліся праменьчыкі з ласкава прымружаных, кплівых дзяўчыніных вачэй. Новае, нязнанае сагрэла Савостаў чатырнаццаты год. Ды ні адсюль, ні адтуль хмару нагнала. Усё далей, вышай сунуўся змрок, а там і саўсім зайшло сонца ў Змышлевічавых таку. Азірнуўся на двор Савоста: ажно з таей хмары ды баркаўскі шляхціц стаіць у варотах. Вораней сягодня вярнуўся з Хлюпску.

— Ня як у самога акзамінт?—пытае ў Савосты.

— Дрэнь... Зрэзаўся, папраўдзе вам сказаць.

Ды гэта Гіляраму і ня надта цікава. Даўно ён ведаў, што так будзе. Дзе гэта відана, каб мужык...

— Годзе зубы выскіляць,—кажа на дачку.—Хадзем у сьвіран—работу дам.

Прывёз Гіляры свой помнік з мястэчка. Чорны, бліскучы ляжаў ён на пярэкляці. Імя, прозьвішча, па бацьку і калі радзіўся польскімі літа-

рамі на ём выраблена было. Толькі калі памёр, майстар Гіляраму ня прыставіў, гладкае месца пакінуў на гэту рэч.

Зашыла Альжа бацькаў помнік у палатно. Тады паклікаў шляхціц яшчэ двух мужчынпамагчы. І ў чацьвярых яны ўзьнесьлі камень па ўсходцах на гару[1]). Палажылі на дамавіну. Там ён і астаўся ляжаць, чакаць гіляравай сьмерці. Мелася неўзабаве агарнуць яго цёмная ноч.

Ды ўсякія ночы бываюць, таварыш чытач. Мы з вамі маем іх чортаву моц. У гадох, куды пусьціліся ў вандроўку, многа іх—горшых і лепшых—ёсьць нам на выбор. Выберам лепшую з усіх. Возьмем ціхую месячную да гэтых падзей. Выштукуем, каб не які-небудзь ашчабак—маладзік ці ветах, а поўны, ясны месяц на сваім высокім месцы быў. І прымяркуем гэта ўсё на тое лета, як сыскаўся з гарадзкога дадому Савоста Заблоцчык. І от будзе мець месяц ад нас абавязак—сьвяціць як мага лепей, высьвятляць тыя незабытыя вечары.

Прыпазьнілася таго году Пятра прыйсьці ў Баркаўцы. Ужо густая, высокая трава хісталася на паплаве, чакала касы. Але за касу ня браліся даўнейшыя баркаўчаньне—чакалі Пятра, што недзе забавілася ў дарозе. Так і жылося за даўнейшаю бытнасьцю—чакалі...

Але, але, таварыш чытач—гэта-ж на той бок нямецкае вайны.

Чакае—нісчакаецца густы мурог, калі яго паложаць адпачываць у пракосы, ломіцца ад зьнямогі і з роспачы прыпадае да зямлі. Гэта ўдзень, прыгледзіўшыся... А як толькі вечар—цёмна, чорны змрок кладзецца на паплавы. Зірнеш угору—там: дзе разьбітае, дзе ў пракосах сушыцца сена хмар на шырокай, як вокам скінуць, блакітнай сенажаці. Там вышай, да сонца бліжай, там многа харашэй. І Пятра туды перш-на-перш заходзіла. А калі яго тут, у Баркаўцох, дачакаюць? Пачаць-жа сваім адумам касьбу, адмысловага сьвята не дачакаўшыся,—ня можна: на тое даўнейшая бытнасьць. А мы гэта забабонамі завём. На Пятра мы не глядзім. Ды чаго там, урэшце, яму было-б цягацца ў наш рэконструкцыйны час. Яшчэ-б кулацкую агітацыю шырыў у момант абвостранай клясавай барацьбы гэты рэлігійны атрыбут.

П'яны, хісткі месяц вышаў быў на неба за сваёю работаю ў той вечар, у тую ноч. Ды і дзіва няма! Карчмаў, гарэлкі за даўнейшаю бытнасьцю была чортава гібель. Ручаямі цякла яна ўнізе. А яму там угары ходзячы магла галава закруціцца толькі нанюхаўшыся. Дзіва няма, што хістаючыся папоўз ён уверх, чапляецца за пракосы, топчацца дзе разьбіта. Нам, цьвярозым, сьмешна. Калі гэта даўней, яшчэ за капіталізмам—то хай сабе! Але ў наш гарачы будаўнічы час мы-б інача глянулі на гэта: ён не таптаў-бы наш сацыялістычны мурог—узялі-б мы пад суровую самакрытыку такія шкодніцкія праявы! Мы цяпер паглядзелі-б што там: сапраўды круглы, вясёлы, радасны твар, ці можа гэта ў яго толькі адна маска. А з старое, капіталістычнае бытнасьці мы і пасьмяяцца, па-

[1]) Гара—прастора ў будынках над стольлю да страхі (або даху).

кпіць можам. Што больш там на глум ішло, то нам з гэтага лепшая ўцеха.

І чуваць было таго вечара з баркаўское вуліцы:

— Летня ночка маленька:

я ня выспалася.

Ды дзе там высьпішся ў такую відную вясёлую ноч?!

Таго вечара, работы ў руках і розуму ў галаве ня меўшы, можна было ўнурыўшыся вуліцу прайсьці ды ўсе да аднэй голкі пазьбіраць, калі дзе рассыпаны былі. Можна было такую людзям ласку зрабіць, каб босых ног сабе не пакалечылі. Такая была відная, месячная ноч. І каб хто таго разу падрадзіўся голак шукаць, два цені падняў бы з чвыру на вуліцы процi Змышлевічавага двара.

З самага вечара было ціха, а цяпер павеяў вецер. І беглі, некуды сьпяшаліся, чэсаныя аб зялёную шчэтку бору, кужэльныя далёкія хмары доўгія, валакністыя. А за імі ўсьлед цягнулася зрэб'е, камякамі накідаліае кастрывае пачасьсе. Пад яго цяжкую, цёплую хмару праваліўся і астаўся там, як вокам зьвесьці, даходны месяц. І тады папацёмку.

— А, дзе ты бачыў?!

— Ты-ж казала: адна...

гаварылася ў Змышлевічавых варотах.

Добра тады месяц сьвяціў, але залянаваўся пад рэшту і ўсяго такі ня высьветліў. Папацёмку скрыпнулі вароты ў шляхечым таку. Ды ня ў памяць Савосту ні гэныя зьвяглівыя вароты, ні прасторная на аўсяпай, мяккай саломе пасьцель, дзе ягоныя маладыя леці не давалі Заблоцчыку разгарненьня. Толькі відныя, месячныя вечары ды два дні з двара цераз усю нашу няшырокую вуліцу і цяпер недзе носіць Савоста ў сваіх успамінах.

## XII

Мінуліся тыя месячныя вечары.

— Яшчэ можа што здумаем. Яго ўсё 'шчэ наперадзе,—усім, хто што пра Савосту ня пытаўся, казаў Юстап.

І здумаў. Язукову думку нанава перадумаў ён. Па Клемкавай дарожцы пусьціў Заблоцкі свайго сына: ня мінуў ён хлюпскае пошты. Там і стрэліся неўспадзеўкі Клемка з Савостам.

— А ты што? на сваім хлебе?—папытаў Філончык.

— На сваім...

— Кажаш, гарадзкое к чортавай матары?!

Нічога не адказаў, змоўчыў Савоста. А далей болей, што раз лепей ды нарэшце і саўсім добра схаўрусалі яны. Кінулі Хлюпск дый зьехалі ўдвух недзе ў сьвет.

Пабыў Савоста на далёкай чужой старане і абрыдзела там яму ўсё чыста. Па сваім баку, па наскіх людзях ён зажурыўся. Свайго роднага пачаў там шукаць.

І ў тым далёкім павятовым горадзе, дзе ён цяпер апыніўся, разам з сонцам, як некалі ў Баркаўцох, прачнецца Савоста. Выйдзе босы з свае кватэры на мурожны двор. Ціха, яркавата і адзінока тады. Тая самая буйная, краплястая баркаўская раса стаіць на мураве. Ды зараз дзевятая гадзіна, зараз канцылярскі, зьліты атрамантам стол.

— От дзе, маці, праўдзівы „курч",—сказаў-бы ён цяпер Прузыне Заблоцкай.

Яшчэ адзін надвячорак успамінаў Савоста.

Перад калядамі ў адлігу бывае, часам, ціха, змрочна і ярка на дварэ як у вымытай перад вялікім сьвятам хаце—прасторная і пустая здаецца яна: раз ступіш, а тры разы твой стук адгукнецца. У такія надвячоркі ў Баркаўцох скрыпяць вілы ў старай Базылёвай студні, дзе на два грунты ваду бяруць. Алесь Стрэмскі—нізенькі вясёлы чалавек—нясе вязку трушанкі з току цераз вуліцу. А Савоста памаленьку валачэцца дадому з сяла.

Зажурыліся тыя надвячоркі, адны ў Баркаўцох застаўшыся, ды й яны прыехалі да Савосты ў гэты далёкі павятовы гарадок. Неяк неўспадзеўкі, ідучы з службы, на сваей вузкай ціхай вуліцы стрэўся з імі Заблоцчык. І хоць ня чуваць было скрыпу вілаў, ня відаць Алеся з вязкаю, але было нешта сваё роднае ў гэтай надвячорнай шарай гадзіне.

Зьбілі з тропу Савосту росныя раніцы, змрочныя вечары. Туга апанавала яго. Усяму свайму мінуламу ліхі вораг зрабіўся ён. Захацелася Заблоцчыку ўсё нанава пачаць. Новым у Баркаўцы зьявіцца чалавекам. Прыгадалася мяккая, падаўкая зямля пад босымі нагамі ў аратага. Нажадаў Савоста расстарацца сабе на цэлы век такое долі.

Заманулася яму каб як прывініцца: ня ціхенька, а з грукам, тэртусам зьявіцца ў Баркаўцы. Так зрабіць, каб да „курчу" ўжо век ня было ўзвароту. З самага малку любіў Савоста дзьвярыма бразнуць—злосьць сваю паказаць. І тугія сабе дзьверы, каб далёка чуваць было, дабіраў. Ды яшчэ наперад паглядзіць, каб ганак нізкі быў, возьме крысьсе ў рукі, каб ня прышчаміць як незнарок ды не разганяецца лішняе, каб носам не зарыць. Ён перш стукне, дасьць адвод, што пашоў, ды стане пад дзьвярыма, пастаіць, што пра яго гаварыць будуць, паслухае.

І ў людзкой памяці, як у паслушнай кнізе, хацелася Савосту свае япарадкі навесьці: пазногцем тыя мясьціны зазначыць, што такія як яму трэба, а на ўсю рэшту не пашкадаваў-бы Заблоцчык часу: сеў-бы на дзён колькі ды так-бы густога атраманту даў, каб ніводнага ўспаміну, ніводнай літары там нельга было разабраць, каб і знаку ад таго, што му не ў паварасў, не асталося. Выкасаў-бы Савоста бацькавага парабка, Шамрукову котву, паштовую службу, а пакінуў бы—„летнюю ночку маленьку" ды „вясну-красну".

Яно добра-б было, каб так было, як Савосту трэба. Але спрадвеку вядома, што сама лепш так, як яно само ёсьць. Што-ж бы тады было, каб, як у гарадзком Заблоцчык быў, над людзкою памяцьцю меў ён

волю. Такіх-бы ў таей кнізе парадкаў нарабіў, што пазьней сам-бы за вушы хапіўся. Саўсім-бы бяз ніякага мінулага давялося яму аставацца.

І знашлося было раз Савосту здарэньне дзьвярыма бразнуць. У п'яной бяседзе яму гэта шчасьце ў рукі прышло. Нарваўся быў таго разу каталіцкі раскрыжованы Язус на іхняе вясёлае пісарскае таварыства. Ціхенька на куце, да сьцяны прытуліўшыся, стаяў ён на сваіх прымастках. Дастаў яго адтуль Клемка Філончык. Абгледзіў сваімі гарачымі, гарэлкаю залітым вачыма, ды:

— Годзе табе,—кажа,—пане Язусе, пакутавацы!—і давай яго сілаю з крыжа вызваляць.

Таварыш чытач! Мы з вамі—бязбожнікі, дык нам што?! Калі ён бог, паводле свайго сацыяльнага становішча—варожы элемэнт у нашым грамадзтве, то мы скрыва на яго павінны глядзець. Што нам пакуты асуджаных гісторыяй соцыяльных груп!? Хіба каб справіць сьмех, маючы час. А як надта некалі, дык і спакойна пройдзем паўз іх, у другі бок на той час адвернемся, каб ня бачыць агіды пакут. Новы нам дазволен да гэтых рэчаў падыход: можам кпіць з іх, колькі ўлезе: гэтым начыньнем прабаваць новы, некалі шанаваны матар'ял.

Але не забывайма́ся, таварыш чытач, што ў старой бытнасьці, што на той бок вайны ў гадох ходзім. Што тады пра соцыяльныя становішчы Клемка мог ведаць? Ані ня знаўся ён, якая з каго якой клясе можа быць шкода і якая карысьць. Проста і несьвядома сказаў:

— Шкода, патом, і бога, як ён пакутуе.

Ды так шчыра быў за Язусава вызваленьне ўзяўся, што аж у таго, варожага нам пакутніка, як з крыжа зьвёў, аднэй нагі не далічыўся. Да таго ёй люба няволя была, што адна аднэю асталася, па самае калена адламаўшыся, у сваім спрадвечным горкім стане на крыжы.

— Ага, мяцежнік!—закрычаў п'яны Філончык на каталіцкага, „польскага“ бога, убачыўшы такія падэсьці.—Як гэта ты адважыўся ня ў поўным складзе зьявіцца на агляд?!

Маўчыць сьціхатою гаротны, бязногі Язус.

— Га?—пытаецца у яго Клемка Філончык.

І на гэта нічога ня кажа.

— Заняло табе?

Расьперазаў Клемка папругу. Палажыў пакутніка ніц.

— Я-ж табе!—кажа.

— Двадзесьце пеньць!—польскаму богу па-польску сказаў Філончык, каб той лепш разумеў і болей баяўся, ды давай яго, як дурасьлівае дзіця, папружкаю да розуму і пакоры даводзіць. І такога быў смаку Клемка ў сваей рабоце дайшоў, што:

— Бі,—кажа,—польскага бога, ... яго...

Тут і прагаварыўся ён, што не каго чужога—свайго сына, ня начай, ушчувае, што надта-ж добра ён з Язусаваю маткаю знаецца.

З рогату заходзіліся тыя, што разам пілі, елі, за адным з ім сядзелі сталом. Не маглі яны дачакацца тае часіны, калі льга будзе ўвесь гэты вечар жандарам за крамольны матар'ял аддаць. Адзін толькі Савоста ціхі і сур'ёзны на таей бяседзе быў. Сядзеў ён, маўчаў, а потым наліў кілішак гарэлкі ды й кажа:

— Вып'ем, панове, за здароўе пана Язуса і найсьвеншай маткі.

От за гэтае самае слова і трапіў ён з Клемам у вадзін гурт. Удвух яны на сваім хлебе ў Хлюпскай пошце былі—і цяпер удвух на казённы хлеб, на казённую ваду трапілі. Ніякімі дзьвярыма мацней ня грукнуў бы, як цяпер, Савоста ляпнуў свам п'яным, якануча, няспрытным языком. Але казалі:

— Гэта добра, што на польскага бога нарваўся ты. А, крый божа каб ты рускага ўкволіў—турмаў-бы на цябе не набраліся, у вастрозе згніў-бы праз свой дур, век-бы табе адтуль ня вылезьці.

І праўда: за чужога бога хто там надта ўходзіць—папаў і маўчы сьціхатóю: ня трэ' было ўпраўным быць, нарывацца на ўтрапёнага чалавека.

Ня слабкія трапіліся Савосту дзьверы. Ды ня так таго стуку было, як прышчаміўся ён імі. Цэлага паўгода праз ваконца з кратамі на сьвет пазіраў. А як выпусьцілі, то зрабілі яму на дакумантах такую запаметку, што век яго ніхто ў войска патрабаваць ня будзе і ні за старасту, ні за валаснога старшыню ўжо яго выбраць ня можна. Хацелі гэтым пакараць Заблоцкага. Думалі прасіцца будзе, прашэньні на царскае імя падаваць. Але не на таго нарваліся.

— Толькі тае бяды!—усяго сказаў Савоста.

Ня ў жалі, а ў радасьці ехаў дадому. Рад быў, што ніякі чорт яго цяпер турбаваць ня будзе: ціхі і лагодны будзе ён у Баркаўцох гаспадар.

З Клемкам ужо начай было. У таго бяз цуда не абышлося. Неяк ён, у вастрозе седзячы, навучыўся фармазонскага птаха маляваць. Не пашкадаваў крыві, бо толькі кроўю малёваны, кажуць, ён мае чараўнічую моц. А як вымаляваў, сеў на яго конна, за шыю з усяе сілы ашчарэпіў ды й паехаў на волю праз таўстую астрожную сьцяну. А так—

— Зьвяковаў-бы там,—казалі,—каб не той фармазонскі птах.

## XIII

Мала-ж Савоста ў чужым баку палюцкаваўся. І туды, сьледам за ім, даняла ягоная нядоля. Стрэла там Савосту цёмная ноч.

Усё тое нямаведама дзе, у чортавых зубах было. Ніхто з тутэйшых там ня быў, з людзьмі з таго боку не сустракаўся, ні ад кога пра Савосту распытацца не маглі. Як там што было.

— Хто яго ведае,—пацiскаюць плячыма нашы баркаўчаньне.

Ажно, год цераз колькі, ізноў Савоста.

— Дзяндобры,—Баркаўцом дае.

Як ішоў з вагзалу, трапілася яму відная, месячная ноч. Далёкага лесу цёмная істужка, дробныя шляхечыя засьценкі, пакупшчыцкія фальваркі вышлі былі на відно, Савосту на паказ. Шмат чаго знаёмага, пра што ўжо крыху забывацца пачаў, убачыў-бы ён, каб толькі глядзець меў час. Не ганьбаваў Савоста тутэйшых краявідаў, толькі думкі таго разу заступілі-бы яму сьвет, прыгаство віднай весьняй ночы засталучылі.

Ажно й чыстае поле мінуў. І не заўважыў калі ў гушчары скарбовых кляновых прысад апыніўся. Так спляліся яны тут сваім гольлем над дарогаю, што неба ўгары за імі знаць ня было.

— Дабры вечар,—яму сваім сакавітым лісьцем прысады прашапацелі. Хоць ціхенька, хоць краткам—варуючыся пана,—але скажуць яны свайму чалавеку ветлае, лагоднае слова, дармо, што скарбовыя парабкі, а іхны пан з баркаўчаньнямі за сэрвітут правуецца. Цяжкае іх парабоцкае жыцьцё: як дзень, як ноч вартуй гразкія грэблі, чвыр на ўзгорку, мокні на дажджы, стынь на марозе, на сіверы, слухай як вар'юецца мяцеліца ў полі. І гэта дзень-у-дзень, год-у-год. Тады выхадных дзён ня было. І на курорты пасылаць тады ня мелі моды. Прастынеш лішняе, нападзе на цябе трасца—і трасіся: чорт цябе бяры! Некаму гэта ў галаве!? Ды што-б там памаглі выхадныя дні?! Што курорты?! Калі няволя, калі ты скарбовае, графскае дрэва, калі ўсё гэта на той бок вайны, за капіталістычнаю бытнасьцю робіцца.

І маўчаць сьціхатою густыя кляновыя прысады. Але часам калі расшумяцца, калі раскалышуцца, калі разьбядуюцца... Свае зяблыя косьці, што влосьцю набрынялі, хочацца ім разагрэць. Ды ўсё не выпадае. Пашурмуюць ды ўтаймуюцца. Утаймуюцца і маўчаць сьціхатою: на тое—служба, на тое, яны—парабкі.

І от ім, гэтым прысадам, цяпер

— Дабры вечар, сваё роднае,—сказаў Савоста Заблоцкі.

А, тымчасам, з прысадаў крышку ў баку і кудзерка лесу відаць-бы тутэйшаму, прызвычаенаму воку. Гэта Савостава бацькаўшчына, дзедаўшчына, незабытныя ягоныя Баркаўцы ў такія строі прыбраліся, вышлі пад месяц палюцкавацца ў вясеньнюю ноч.

Некалькі, яшчэ не за Савоставаю бытнасьцю: даўно-даўно, як 'шчэ паншчыну людзі рабілі, і праўда—тут быў лес. Вялікая пушча, Радзівілаў неабсяжны лес сваім рогам Баркаўцоў кранаўся. Рос тут вялікі, сьветлы хваёвы бор. І з самага берагу тры хаткі забудованы былі. З гэтых хатак і вёска вырасла, а праз бор сабе такое імя папала—Баркаўцы.

І што далей ад таго часу, то ўсё болей бор на захад ад вёскі адступаў, а тут, дома, у іх свой заводзіўся лес. Штогоду болей урасталі Баркаўцы вішэньнікам, гаспадарскімі садамі на сваю і дзяцінуую патрэбу ды ўсякім іншым патрэбным і непатрэбным дрэвам. Лагчыну, западзь на поплаве, кудэю некалі быстры ручай з бору цёк,—алешнік апанаваў. А ў яго ў падсуседзі асталася вярба, ракітнік дзе-ні-дзе. Бярэзьніку спа-

дабаўся ўзгорак на заручычах (за ручаем). А ў гаравога Зьмітры рос› нават, дуб проці ганку. А што на кляны, каштаны, ясяніны—ліку няма Такі тут гушчар стаў, што здалёк зірнуўшы—здаецца: такі, хлявы, хаты скрозь зямель пашлі.

Было ня цяперся, як Савоста пад дом падыходзіў. Кракталі жабы ля мастака ў завоіне, што зрабілі малыя, загаціўшы баркаўскі невялічкі нядэшлы ручай. Мятушыўся, чуваць было, бусел над крыніцамі на сваім гнязьдзе. А так—каб дзе хто шэпнуў.

І от гэтаму спакою, сваім Баркаўцом гэтак сама:

— Дабры вечар, сваё роднае,—сказаў Савоста Заблоцчык.

*(Канец першае часткі).*

## СОНЕЧНАЕ ЗАЎТРА

**Аркадзь Куляшоў**

*(Нізка вершаў)*

Усе мы
Сонечнае Заўтра
песьцілі,
А яно сягоньня
скалатнула
вёску й горад..
Сустракайце-ж маладымі песьнямі,
Любіце яго так, як любілі ўчора!

### 1. БАЛОТА

Вы ўяўляеце,
што такое балота —
Трава ў рост чалавеку,
Вада...
Потым травяная парода,
Што завецца торфам адвеку.
На балоце
туманы
сьцюдзёнасьцю праймаюць,
Уздымаюцца палотнамі
перад сонцам нізкім,
Ваўкі
жыць чалавека
сюды ня прымаюць,
Дзікія качкі
ня знаюцца
ні з кім...
Гэта балота...
Але людзі ёсьць таксама,
Гэтыя людзі —
сапраўдныя лясуны,
З імі я рос, і пазнаёміўся сам...
Людзям сьняцца часамі сны...
Ім сьніцца,
што жыць можна лепей,

А ня так у балоце,
ў лесе,
Але разам з тым
ім шкада
балацянога лепета,
Звыкліся, зжыліся
і яно ў вочы ня лезе.
Але новае ўрываецца
з ячэйкай комсамольскай,
З маладым пакаленьнем
гальштуку чырвонага,
Яно дабіваецца самохаць волі,
Законы балацяныя вон гоніць.
І ў 1929 годзе
было так:
Мы комсамольцы сказалі:
— Годзе!
І з рыдлёўкамі
пайшлі на балота.
Пасьля
за намі сьледам
Як па чэрвеньскай рані
плавалі балачыны,
Прышлі былыя камбедаўцы
І працавалі да начы...
Працавалі не адзін дзень,
Працавалі тыдзень
другі,
Прыходзілі
ночы і зоры
на нас глядзець,
Прыходзіла стома
грубая,
як дзяруга,
...Вечарамі жартавалі, гутарылі —
Рамантычнае вогнішча
разгаралася
і гасла...
Там
упяршыню
зьяднаным гуртам
Мы з камбедаўцамі
вырашылі
стварыць колгас.

17-VII—31 г.
м. Самацеевічы.

## 2. ПЕРШАЯ СТРЭЧА З ТРАКТАРЫСТЫМ АНІСАМ

Прынімайце
сёнешняе новае
да сэрца
блізка,
Любіце яго так,
як любілі ўчора —
Стане вам зразумелай мая гаворка
І стрэча з трактарыстым Анісам.
...З-за саду трактар вырваўся раптам,
Страсануўшы былы маёнтак-дачу.
Угледзіўшы мяне
Аніс
сьцішае трактар,
Усьміхаецца...
І я крычу яму:
— Бачу!
І гэтае „бачу“ —
звычайнае слова,
Нахлынула...
і ўспаміны ляцяць строма:
Балота...
звон рыдлёвак,
І грубая,
як дзяруга,
стома.
Два гады я ня быў тут ні разу
(Цэлая вечнасьць —
два гады),
Таму і таварыш Аніс мне рады,
Таму і мяне ўсхвалявалі
трактаравы сьляды.
Таму ўскакваю на трактар непрасёмшы...
Ад гулы дрыжаць у маёнтку вокны.
Трактарыст Аніс
мне расказвае
пра ўсё.
Ен дужы, як мядзьведзь.
загарэлы
і потны.
Голас яго, як басовы звон...
Ад радасьці,
ад вады,
ад ёмкага ветру

Ён гаворыць мудрае слова:
—Во!
Кулаком расьсякаюцы паветра.
Ён мне расказвае, як цётка Вольга,
Угледзіўшы,
як трактар
ладзіць
„рэволюцыйны паход“,
Белга навуш па заўгольлю
Зьбірацъ на сяле бабскі „сход“.
Тады крычала на ўсе вуліцы
Захліпаючыся ад бегатні
да сьлёз:
— А мае-ж вы татулечкі,
Схапіў маю палоску і панёс.

25-VII—31 г.
м. Самацеевічы.

### 3. КАЛЯ СІЛАСАРЭЗКІ

Цэлы дзень працавала сіласарэзка
На трактаравай прыцэпцы
ў восем конскіх сіл.
Мы насілі дзідоўнік,
дзікі шчавель,
сурэпнік,
Аж касцы не спраўляліся касіць...
Пчолы мёдам
налівалі
чаркі сот...
Ад высокага сонца нідзе ня дзенешся.
Начапляліся дзіды на наша адзеньне,
І плямамі на сарочках выступіў пот.
Тады і здарылася тое,
Пра што гаворка ў гэным вершы,
Зірнуў падавальшчык неспакойна
І крыкнуў Анісу:
— Чаго глядзіш зьверам!?
А здарылася—
трапіў кавалак сталі,
Кажа падавальшчык—
на маё ліха.
Калатнуліся нажы
і раптам сталі,

Трактар сьціхаў ціха.
... Калі-ж нанаў запрацавала сіласарэзка—
Зьнікла стома,
каб прысьці
пад вечар,
Мы насілі дзідоўнік,
дзікі шчавель,
сурэпнік,
Аж па трубах гула сечань.
Пад вечар зноў
скрыганулі нажы,
калатнуўся гасьцінец,
І шугануў па трубах
ветравы сьвіст,
Нехта кінуў падавальшчыку:
— Шахцінец!
Таварыш Алесь тлумачыў—„апартуніст“.
Закалаціліся апошні раз трубы.
Падавальшчыка Аніс страсануў так,
Што той толькі
працадзіў праз зубы:
— Кержак!
Гэтае—„кержак“
і кавалкі жалеза,
Што ляжалі ў кішэні
гасьцінна,
ціха,
Гаварылі што да нас
вораг залез
І жыве тое слова „шахцінец“.
На захадзе загаралася зара.
Ішлі дзеці з суніц.
Пра нешта ўжо сасоньнік сьніў.
Нехта пад гармонь сьпяваў якраз:
— Салаўкі да Салаўкі,
Дальняя дарога,
Сэрца ноіць і баліць,
А ў душы трывога...

27-VII—31 г.
м. Самацеевічы.

## 4. ТАВАРЫШ АЛЕСЬ

Таварыш Алесь—
пазнавайце самі—
Вы яго зналі нядаўна...
калісь...
Таварыш Алесь—
той самы,
Што казаў на падавальшчыка „апартуніст“.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Расьціла цыпкі
рыжая
балот руда,
Туды,
дзе лес
тугу зьбярог,
Яго берасьцяная клікала труба
І статкі йшлі узьняўшы пыл з дарог.
Усё суровае,
бяз проспы
І пройме вецер,
і дождж ня сьціхне...
Там шлях яго
праз лес
праходзіў просты
Па тым шляху прышла задума, ціхасьць
Ён ведае у лесе ўсё да рэшты.
Мы з ім адно—па дружбе, па крыві.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мы ходзім з ім да рэчкі
І ставім перамоты ў вір.
Яго цікавіць ўсё,
на‘т зорка Марс—
І я-ж такі дзівак,—
такія мы...
Асьвятляе вогнішча задумных нас
І мы слухаем—
ідуць самы.
Самовы вочы ніжуць цемру вол,
І кажа ён—
самы глядзяць на зоры...
Чакае перамот,
Стаяць кусты лазовыя дазорам.

... Калі-ж
калатнецца лес,
апошнім лістам
Злавіўшы сонца
ранішнюю зару,
Ён ідзе вудзіць „апартуністаў“—
Закідаць леску
на Беседную[1]) быйстру.
Тады пачынае ён
з рыбай размаўляць,
А я тымчасам
рагатаць
да болю
буду,
Гэты ў яго—„апортуніст“,
той—„сымулянт“,
Той—
каторы не бярэцца на вуду.
Пад вечар купаемся
з хлапцамі
ля млыну
І грыміць па вадзе басовы звон,
Калі Алесь кажа:
— Аніс руіна?!
А той адказвае:
— Во!

28-29-VII 31 г.
м. Самацеевічы.

### 5. „ПЕРШАБЫТНЫ ЧАЛАВЕК“

У тым гаі жыў апошні нехацімец,
Яго дапякала Вольга, седзячы на плоце:
— А не забіў цябе, Сяменька радзімец,
Чаго ты сядзіш у гэтым балоце!
Яму крыўдна за такія словы
І ён кажа:
— Дапякае кожны!
... Кугыкалі ў гаі совы
І лёталі кажаны.
Ківалі верхавіньнем высокія вольхі—
Іх балота ўзрасьціла.
Ён разьвітваецца з цёткай Вольгай

[1]) Бесядзь—рэчка на Паўдзённым Усходзе БССР.

Ĭ ідзе да сваёй хаціны.
Там ён адразае з вольхі лавец
Раскладае вогнішча—
жарыць сала,
Гэта і ёсьць—
„першабытны чалавек“
Такая клічка да яго прыстала.
Гай яго шумам глушыць,
Совы, кажаны не даюць збыту,
Ĭ жыве ён сярод
сабачак[1]), гнілушак,
Гэты галетнік
чалавек
першабытны.
Я ня першы раз заходжу
пагутарыць,
падзівіцца.
Сягоньня вецер сьціх у макушках,
Ён сьпявае:
— Як пайшла-ж Мар'яніца,
А ў млы : па муку...
Пасьля, як змоўкла песьня
ў сіняй стыні
Ён гаворыць...
а ўжо сьпявалі пеўні.
Позна.
— Быў я на Украіне,
Многа там песень даўніх, розных...
Прасьпяваўшы песьню не адну,
Калі затухла вогнішча,
расьсеяўся дым,
Ён кажа навіну:
— Запішуся ў саўгас.
Ваш колгас яшчэ малады.
Я маўчу. Ĭ ён кажа далей,
Зірнуўшы на хатку нязвычайную...
— Хацеў я наладзіць
сваё,
каб не залежыць,
Ды толькі цяпер
не такі,
новы час...

[1]) Трава, што расьце на балоце.

Маўчалі совы. Маўчаў лес.
Чалавек думаў пра новыя дні.
Я думаў—
калі-б быў тут
таварыш Алесь,
Ён бы сказаў пра яго „апартуніст".

* * *

На дарогах лесавых,
дзе вавёркі
арэхі лушчаць,
Прыслухоўваючыся,
як па-новаму
жывуць пожні,
Сярод мёртвага цьвету гнілушак
Паміраў першабытны
чалавек
апошні.

30-VII 31 г.
м. Самацеевічы.

6. Я ПРЫМАЦОЎВАЮСЯ ДА ТРАКТАРА

Мы на трактары—
я і таварыш Аніс,
„Манах"
на сем плугоў
зямлі адварачвае...
Над рэчкай ранішні туман зьвіс
І крычаць у Семяньковым балоце качкі.
...Як першая паласа перавярнулася і лягла,
Ён гаворыць, і я не перапыняю ніразу:
— Трактарава сэрца не з крыві
з газу,
Трактару трэба кплівы дагляд.
Кажа—
некаторыя
даглядаюць дрэнна,
Таму з трактарам—
непаладак багата.
Часамі трактар,
як бык прырэзаны
Крычыць не сваім матам.
Бывае трактару
праз сілу
пад гару браць,

А яго гоняць
так
наўдаку...
— А ты яго пускай на першую хуткасьць,
Гэтак ён запаўзе аж на дах!
Тады ён тлумачыць трактаравы часткі;
І „Манарх“ упэўнена рвецца ўперад...
Гэта быў пачатак
Майго знаёмства
з Анісавым „рэвалюцыянэрам“.
Пасьля ў нас простая гаворка,
Расказвае таварыш Аніс,
Што ён паслаў учора
На Украіну трактарысту ліст
— Толькі я —
кажа,
супроць яго „цыплёнак“,
Мне пакуль —
дзівіцца на тое дзіва,
Тут-жа і чорт карак зломіць —
Восемдзесят *га* за восем гадзін.
Але ён дае слова,
Што ў „трэці рашаючы год“,
Выканае на-палову
Гэты пастаўлены рэкорд.
Мы едзем.
Нас вецер праймае ціха
І няма ад ветравага пылу ратунку.
— А тады, —
Аніс усьміхаецца, —
Я прыду да вас у літаратуру.

31-VII—1-VIII 31 г.
м. Самацеевічы.

## 7. НА ЎБОРЦЫ СЕНА

Дождж прашумеў на пачатак,
Узыходзіла сонца ў сотні вясёлак...
Цэлы дзень быў узятак
І працавалі пчолы.
З песьнямі мы ішлі праз Цыкуны [1]),

[1]) Назва лесу.

З намі сенаграбілкі
брыгадзір
і табельшчык...
Прыпякло сонца.
Зацыркалі цыркуны
І мы ўзяліся за граблі.
Учарашняе сена падсохла ладна,
І калі пачалася тая сьпякота,
Дзесяць чалавек —
наша брыгада,
Ударна клалі копы.
Мы не за страх —
за сваё рабілі,
У кожным сэрцы — малады запал,
Не спраўляліся сенаграбілкі
Кожная хвіліна —
капа.
Сьмяюцца хлопцы:
— На сто адсоткаў!
Сарочкі скідаем,
каб цела загарэла...
Зьвініць галава ад цыркуноў,
ад сонца,
Емка кладзецца бярэма за бярэмам.
Я чую, як праз гэты звон,
Кажа Алесь, калі кладзе бярэма:
— Я зрабіў, Аркадзь, за пятнаццаць дзён,
Тое, што за трыццаць трэба...
Я ўспамінаю яго працу на сіласе —
Ён мясіў гліну і абмазваў сьцены...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Пчолы мёд насілі,
Сыпаліся кілямі
на грэчкавую пасьцель.
Калі сонца стала ніжай дубоў,
Калі апошні высах пот,
Якраз — калі мы зьбіраліся дамоў —
Налічыў табельшчык пяцьсот коп.

* * *

А там
сярод маленькіх
бярозак, ёлак,
зе лес сягоньня ціхі такі,

Аж валіліся колгасныя пчолы
Ад мёду на ляткі.
Там без курадыма і сеткі,
Даглядаў пчол цэлы дзень
Той —
каго любяць дзеці
Такі белы, белы дзед.

7-VIII 31 г.
м. Самацеевічы.

8. НА ЛУЗЕ ЎНАЧЫ

Тое-ж самае вогнішча,
І дыміць сасновы хворас...
Вечаровы позьні час,
Няма ні суму, ні хворасьці.

Такі здаровы пах сена,
І Алесь глядзіць на зоркавы блакіт...
Сябрамі здаюцца сосен цені,
Што ўцякаюць
ад вогнішчавай рукі.

Заўсёды бывае так весела,
І такі-ж на сэрцы спакой,
Калі ты ведаеш, што ты ўвесь
Тут не чужы чалавек—свой.

Заходзіла сонца ў лесе
І сягоньня на пагоду.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мы вартаўнікамі з Алесем,
Вартуем сена ад шкоды.

Пасталі копы ў рост сосен.
І расьце наша дарога дум...
Кажа Алесь—
што хутка восень
І як тады вербы гудуць.

Я яго слухаць буду
І ён сказаць не праміне,
Што сёлета пекчы бульбу
Будзе адзін,
без мяне.

Калі-ж на палі прадымленыя газам
Прывезьлі трактарысты
сталёвы скрогат,
Зьнікла наша романтыка разам,
І романтычная дум дарога.
Не такія мы казалі словы...
І вось яно
прышло на шляхі
Наша
агульнае,
галоўнае
І ўрэзала ў зямлю лемяхі.

Здавалася, што мы ў нечым вінны...
Агонь апошні хвораст зьнішчыў,
І попел, як пух савіны
На романтычным вогнішчы ўсплыў.

І тады Алесь пытае гэтак,
Зірнуўшы на новыя сонцы зямлі:
— Ці праўду, Аркадзь, пісалі газэты,
Што мы ўступілі у Соцыялізм?

Паварачваючы паходняў
электрычныя сонцы,
У адказ,
што гэта праўда—
не мана,
На два плугі адкідаў „Фордзон“
І на сем плугоў адварачваў „Манарх“.

8-VIII 31 г.
м. Самацеевічы.

## 9. СУСТРАКАЙЦЕ МАЛАДЫМІ ПЕСЬНЯМІ

Усе мы
Сонечныя Заўтра
песьцілі

А яго сягоньне
скалатнула
вёску й горад.

Сустракайце-ж маладымі песьнямі,
Любіце яго так,
як любілі ўчора!

І якраз цяпер
перад вамі,
У сваёй хадзе штодзённай,
Прайшлі сёнешняга кавалкі—
Яго жыцьцё будзеннае.
Яно ў сэрцы высьпела сілай,
Уквечана словам шчырым,
Яно
шуміць ласкава,
як колгасная канюшына
І разгортваецца,
як трактар
шырака...
Любіце чалавека
нашага,
жывога
Сына Кастрычніка і Дыктатуры;
Дабівайце клясавага ворага
Агнём зброі
і агнём літаратуры!
Кіньце—
дачу,
зялёныя бярозы, вольхі—
Мне ўсьміхаецца Аніс ветла...
Гэтыя людзі
Анісы, Алесі, Вольгі
Жывыя, блізкія, свае.
Памятаеш, Алесь, лясы ціхія,
Як пад даждамі моклі калісь,
Як мы разам
на балоце
расьцілі цыпкі,
І нас берасьцяныя трубы клікалі.
Усё гэта ў сэрцы высьпела сілай,
І ўквечана словам шчырым,
Яно
шуміць ласкава,
як колгасная канюшына
І разгортваецца,
як трактар
шырака.
... Не сьпявайце
пра сум
сьвітальных рос,

Кіньце поэтычныя гульні...
Роспач
　　　і сум танны
　　　　　　ня рос
На нашых шляхох агульных.
Прынімаю
　　　　сёнешняе новае
　　　　　　　　да сэрца блізка,
Я яго люблю,
　　　　　　як любіў учора,
Няхай яно
　　　　словам-маланкай
　　　　　　　　бліскае
І працінае наскрозь
　　　　　　　　сэрца
　　　　　　　　ворага!

8-9-VIII 31 г.
м. Самацеевічы.

# ПОЭМА ДАЛЬНІХ ДАРОГ

## Юрка Гаўрук

### 1. Ліха ліхое

— Казалі, солі будуць даваць: пуда два купі, чуеш? Ды на далоні паважаш, перасып, а то мо' ахлапкі якія: ні ў рот чалавеку, ні сьвіняці.

Марыля шаптала: станцыю будуць паліць, спачатку парвуць усё дынамітам, а пасьля паліць будуць, каб падчыстую. Вунь яе гаспадар аж пяць пудоў навалок, дык трэба, каб і ты навалок.

Людзі кішкі рвуць, цягаючы; пазавальвалі істопкі, сьвіронкі, сенцы, каморы, катухі парожнія, абы зарваў, дык і цягне: хто муку, хто ячмень смажаны—кава такая амэрыканская, надта ж гусі жаруць, а Пятрусёў байструк набояў з-пад гармат назьбіраў, каваль з набоя два кубкі робіць: як лялькі кубачкі, жывушчыя, ці на воду, ці на вобмешку, а той так добра, абы на што; кварты, гарцы, вёдры робіць, бо яно медзь— з бляхі ржавае гэтак ня зробіш.

Толькі ты, як тая авечка нястрыжаная, ашкаламаціўся, прысох, ходзіш, як сугней той, нават выбегацца ня хочаш. Што ты сабе думаеш, га? І сын твой прападзе, і сам ты зямля зямлёю: скора на ладун задыхаеш, а ў людзей гусі каву жаруць!

Ой, гора маё! Нават гусі каву жаруць, а ў мяне дзеткі, а ў мяне тата, а ў мяне Аўдотка сьляпенькая, а ў мяне мужык думае, думае. Што ты сабе думаеш, га?

Сыдаравы падшывальцы сухароў белых у банках прынесьлі, дык па ўсім сяле: дай, дай. Вось на, дастала адзін, паспытай,—пячэньне, людзі ня сьпяць у шапку, як ты.

Дзямян Салабута пакруціў пячэньне ў руках і ня ўзяў. Адвярнуўшы прэлую анучу, яшчэ больш падаўся на палок,—слухаў, нібыта звонкі жанчын голас не прыставаў да яго, а, так сабе, чапіўся збоку.

— От яшчэ Хведарка ваюе, кроў пралівае. Цяпер можа вошы смокчуць,—буркнула прыцята Дзямяніха.

Адышоўшы на хату, яна сказала з дакорам.

— Зводзяцца людзі маладыя, а мы з табой, Дзямян, тфу!—і прытопнула.

Салабута сядзеў, прытуліўшыся да ляжанкі, нейк нядобра спакойны.

— Гаварылі, адступацьмуць. Напанаваліся зладзеі, годзі! У горадзе ўсе срэбныя лыжачкі пакралі. А ў каго машына, што шыць, дык за машыну, як і не твая. Пападзянкі цяпер плачуць без машыны. Грамафоны бяруць. Скажы ты мне, на чорта ім грамафоны? Можа, бог дасьць, на сьмерць зайграюць.

Салабута сумна павёў вачыма і ціха заўважыў:

— Мо' й на сьмерць...

— Хто яго ведае, Дзямянка, чым гэта скончыцца. Загінем мы!

— Зато гусі кавы папажаруць.

Туманныя вочы Дзямяна бліснулі гневам, але стухлі. Ён надзвычай лёгка апрануў кашулю і саскочыў мыцца.

— Дай палію!

— Не палівай! Укрый Аўдотку, каб ня кідалася! Дзед у гумне?

— У гумне сьпіць.

— Навары сьнедаць, даглядзі дзяцей, а мы пойдзем.

— Куды вы?

— Трэба каня весьці ды сала захаваць.

— Ага, захавайце сала, каня дзед павядзе, а ты па соль.

— Абыйдземся бяз солі!

— О-то-то-то-то! Людзі йдуць, валакуць, цягаюць, а ты, дык нічога.

— Хоць-бы трэсачку прынёс.

— А восі жалезныя?

— Што тыя восі жалезныя! Вунь Міхалка дубам аблажыўся. Каралёвы дроту нахапалі, у каго газа, у каго палатно салдацкае, а ў нас ні дрэўца, ні салінкі, хоць рэпу сей.

— Як пасею, дык ня вырасьце! —

І так сярдзіта сказаў гэта Салабута, што Дзямяніха спужана змоўкла, агледзеўшы яго з галавы да ног.

Дзямян адзеўся, падышоў да сіняга вакна, пазваніў па ім пальцамі і паплёўся на двор.

---

Была адна з тых прыглушаных вайною раніц, калі нават пеўні ня хочуць сьпяваць: душацца на седалах між курэй галодныя пад замком. Неба сьвятлела з нутра, бяз сонца, сыравата-цяжкае, соннае. Здавалася, што пара ўздымаецца не з зямлі, а сунецца няпрыметнымі пасмамі зьверху, як халодная воўна, і ад гэтае пары сенажатная трава скумечылася на кашу, а будынкі сплыліся ў нявыразныя белыя плямы.

...Кр!.. Кр!..—затрупцела птушка з балота і гук, бяскрыла запляскаўшы па аерах, рассыпаўся пяском.

Салабута чуў як грымела рэхам у грудзёх яго ўласнае сэрца.

Дастаўшы з кішэні кавалак азбукі, доўга ўзіраўся на вяршковыя літары, не прачытаў нічога, закурыў. Яму не хацелася, але ён курыў, каўтаючы сухі дым аж пад самае сэрца.

Салабута ня спаў ноч, не памагло яму і мыцьцё: твар гарэў і паблісквау, як папяроса.

„Ах, золка, брыдка як!"—падумаў ён.

— Ах, золка, брыдка як!—паўтарыў ён, сурова нахмурыўшыся.

„Яно можа й праўда,—солі прыцягнуць, пакуль самога ня выцяглі.

Золка, брыдка! Хавайся, ня краўшы. Уцякай са свайго дому, божывы, а непатрэбен, дык і забіць—плюнуць.

Закруцілася сячкарня, толькі пыл, чалавека хрусь і адчыкне".

Дзямян Салабута ня мог забыцца як учора польскі жаўнер сунуў яму прыкладам.

Прышлі ў двор: масла, яек. Бяз дай прычыны сунуў, такі прыгожы, здаровы, і так гэта не сварыўшыся, мімаходзь каля варот, яшчэ малака ў хаце выпіў, зубы скаліў з таварышам, такі вясёлы, прыемны.

Дзямян Салабута не разумеў: як можна крыўдзіць, сьмяючыся. Яго мучыла нікчэмнасьць здарэньня, харство і сытая бязуважнасьць ворага.

„Табе кроў вочы залівае, а ён п'е, зьдзекуецца, і мусіш лістам слацца".

Перабіраючы ў памяці факты, Салабута вастрэў і хмурыўся. Гэты адточаны прыклад, зграбная хада, правільнасьць удару, усё разам балела, што ня вынесьці.

— Ня цела,—душа баліць,—жалобна прызнаўся Салабута.

„І такі чалавек не падверне галавы, яму ўсё дазваляецца.

І морда гладзенькая і боты чысьценькія, чыстыя, як люстэрка.

Аб душу выцер, паганец".

Не растлумачыўшы сабе нічога, Салабута павольна сышоў з ганку.

н сунуўся наперад ні то вялы, ні то хворы.

А пара ўсё падала і падала. Лісьце то ацепалася ад сну, то млела дробнымі дрыжыкамі.

„ Ці-іха, тольлі птушкі цьвякаюць,—дурнота".

— Дурнота—птушкі!—лепятаў ён па дарозе, топаючы чобатам.

— Ох, якая дурнота! Цьвякае, цьвякае, хоць-бы што.

„А яблык на садзе такі ўрадзіла, але чарвівыя".

Ен сарваў яблычка, расшчапіў, выняў чарвяка, пакачаў і кінуў:

— Жоўценькі, сыты.

Яго скаланула. Жоўценькі чарвяк вырас у жоўтага жаўнера, загайдаў, як дзяўчына, круглым азадкам і раптам нагла вышчарыўся.

Дзямян крануў сябе за бок,—нічога. Хацелася грызьці што-небудзь. Нылі ногі.

---

— Тата, ня сьпіш?

— Ды не, кілбасы хаваю.

— Пачакаў-бы.

— Ды я, сынку, тут-жа, вось у заперы, сечкаю прысыпаў.

І яны разам удвох, Дзямян Салабута з цесьцем, пераняськлі ў гумно кубел сала, заставіўшы кулямі, прызапашанымі накрыць хлеў.

— Што будзе, то будзе. Мо' як перакідаемся!

Папапоруцца палякі, трасца іх мацеры! Кармі, пой і вораг твой.

Дзед Савасьціян прыгладзіў салому, упёрся сьпіной у шчыльны стоўп і, уздыхнуўшы, прагаварыў яшчэ раз да зяця:

— Кармі злыдня малаком, а ён цябе кулаком.

— Прыкладам...—ціха падаў той голас са стаўпа.

— Каня хто павядзе?

— Я павяду. Бяруць!..

— Дык ты-ж едзь. Мабыць, ня рана.

— Табе, тата, сну няма і мне сну няма, Ганьне сну няма і дзеткі маленькія ўспамінала, усю ноч гаманіла—тое, тое, тое. А каму цяпер што трэба?

— Дзямян, усё трэба, маўчы, ня рана!

І, вешаючы на вароты пудовы замок, дзед Савасьціян сказаў сам сабе:

— Наявілась ліха ліхое!

— Што кажаш?

— Ня рана, кажу!

— Ліха ліхое наявілася, вось што кажу,—дабавіў ён, падумаўшы.

Яшчэ ня ўзыходзіла сонца і вільгаць, як пот, засьцілала сьцежкі.

Дзесьці высока гуляў вецер, вяшчаючы нягоду, а ў канцы саду шумеў над ракою алешнік.

Гуменны замок, ня менш няшчасны і напужаны, чым тыя, што яго павесілі, маўчаў.

---

Не схаваў каня Салабута, не схавалі коняй і другія.

У той-жа дзень на вёску Прыточы наляцела аблава і ўсіх пазабіралі ў абоз.

## 2. Абозьнікі

Іх было трое: Андрэй Латаш, Салабута і Чарнаваты.

Яны вязьлі правіянт па бруку хворага гораду і слухалі як то ўзьвіваліся ракеты, то гулі агні запаленых хат.

Ані выстралу.

Толькі бабахалі звар'яцела калёсы па выбітым бруку, а паўз іх праходзілі палкі, роты, калёны, бяз песень, няспыняным роўным крокам на захад.

... Тра-та-та-тат-та!.. Тра-та-та-тат-та!..—скавыталі ўрачыста барабанчыкі.

Пажар большыўся і капаў галавешкамі на дарогу, залатымі сьлязьмі ў канавы.

Палілі мяшчанства, казённыя будынкі, крамы, старажоўкі...

Белая, белая тапілася ў агні царква, задраўшы тонкі, худы крыж да бога. Навакол царквы тапалі качаліся, рыпелі, як старцы, шырокім гальлём.

З архімандрыцкага дому, як з Ноевай скрыні, вылецеў голуб.

Салабута бачыў як згарэў гэты голуб і не разжалабіўся.

Ен сядзеў у парцяным халаце на нейкім запячатаным мяшку, страціўшы пачуцьцё ўласнасьці.

Яго конь, яго воз, ён сам: усё, усё чужое.

Ён ня помніў як вярнуўся дадому, як залажыў падводу, што казала жонка, здэцца быў стары Савасьціян, а можа й не, ва ўсім ён сумняваўся, а калі глянуў у разьвітальны час на свой родны дворык, не пазнаў яго: пусты, дзяшовы, цясьней труны. Ён апрануў халат, як сьмяротную сарочку, і выехаў пад выцьцё сьвірэпых баб.

Замяшаўшыся ў ланцуг абозьнікаў, ён ня мог адарвацца, прасоўваўся туды, куды нясло ўсіх, з канём і правіянтам.

Хоць-бы кропля гневу канула ў яго сашчэмленыя грудзі.

Рух адабраў усю кроў ад цела.

Цяпер ён быў вельмі дужы, прыдавіў-бы, як муху, кожнага, толькі вось ня было ахвоты, ня было прычыны.

Яснае зарыва сьцяною падымалася абапал цэнтральнай дарогі.

Цёплы пах дыму казлытаў ноздры.

А над горадам стаяў адзіны бязьмежна-адчайны енк: а-а-а-а-а-а-а-а-а-а!..

Салабута ня мучыўся, як праз рэшата, прасяваў праз сябе гэту страшную ноч польскага адступленьня. Яго галава, як гаршчок, танула ў акіяне людзей, начыненых порахам.

---

У канцы слабады на тракце занялася яўрэйская кузьня і хата.

Шэсьцера дзяцей, пабраўшыся за ручкі, гналі перад сабою чараду качак. Іхняя матка нясла пярыну, бацька—ясік.

Рэчы складаліся на гародзе ў невялічкую сьціргу.

Загнаўшы качак на вольную лонку, дзеці паселі ў кружок пільнаваць іх.

Качкі ціха пакраквалі.

Полымя прабіла страху, мятнула сноп іскраў і, разгуляўшыся, весела ватрашчала саломай.

Жанчына яшчэ пасьпела выхапіць нікялёвыя падсьвечнікі, бегла праз кузьню, як раптам доўгае бервяно, што падпірала шчыт, рухнула гарушчым канцом ёй на голаў.

Яна ўпала на жывот, абшчапіўшы падсьвечнікі, і скурчылася.

Гаспадар тонка прагаласіў немаведама што, падняў жанчыну пад мышкі, сагнуўся і павалок на грады.

Ён ступаў на пальчыках, далікатна, быццам умеючы, і крыва скаліўся.

Распасьцертая на пярыне, жанчына пазяхала.

Гаспадар ківаўся, маліўся, рваў валасы; час ад часу парывіста гладзіў пярыну растапыранай рукою.

Дзеці, як жукі, спаўзьліся на матку. Мурзатыя, да жудасьці цененькія, пад багровым водсьвітам пажару яны мітусіліся бяз ліку.

Тады з возу, каторым кіраваў Салабута, зьлез жаўнер лавіць качак.

У два скокі ён быў каля кузьні, адкруціў шыі самым лепшым, а рэшту пашпурляў нагамі.

— Ото качкі!—жартаўліва сказаў ён, падсеўшы на воз.

Салабуту пракалола халодная, вострая гідасьць, ён заплюшчыў вочы і адсунуўся:

— Жаўнер, жаўнер, людзі сьмерці просяць, а ты...

Жаўнер, як відаць, не дачуў.

За пажарамі абляпіла тракт бяззорная густая цемра: туды, як у прорву, пакаціліся фурманкі.

## 3. Сон пад каштанам

Час ішоў.

Тэлефоны адбівалі радасныя весткі аб затрыманьні фронту і на польскім баку пачалося самаўшчуваньне.

Паважныя генэралы прыстойна выхваляліся абяцаючы перамогу, а розных узростаў панны, запужаныя да сьмерці чырвонай навалай, вось, вось сабраўшыся вытхнуцца, цяпер аджылі і лашчылі сваіх дарагіх жаўнераў конфітуркамі.

Па касьцёлах ставілі сьвечак удвая больш, а ксяндзы, нарыхтаваўшыся было да посту, нават крыху выпівалі.

Дзямян Салабута з аднасяльчанамі пераехаў знаёмыя межы некалькі дзён назад і разам з пяхотным пазнанскім палком, куды быў далучаны, прыбіўся да фальварку Млечкі.

Шырокі выган, як грыбамі, зарос палаткамі, бушавалі катлы паходнае кухні, чуцён быў сярдзіты крык, а на сажалцы пляск вады: там купаліся і пралі бялізну.

Змучаны далёкай дарогай, а яшчэ больш неспадзеўкамі выбрацца на волю, Дзямян Салабута спаў.

Хвалёны конь Васька, прывязаны да возу, пакорна тупаў як на кірмашы, сярод конскага збору за садам; яго цягнула ў траву, а пад нагамі ляжаў жмутак абрыдлага прасованага сена.

Яго кармілі ўвесь час нясмачным і, каб ня краў Салабута зрэдку таго-сяго, канюшыны ці аўса, страціў-бы смак і да жыцьця Васька.

Ён глядзеў у раскошныя летнія прасторы і бязрадасна ківаў галавою. Шум вайны прывучыў яго да парадку: вязі, калі гоняць, цярпі, калі б'юць, а паставілі—стой.

Новыя мясьціны і страхі акружалі яго, але ён не баяўся, бо ўсюды на сьвеце мог яшчэ бачыць кавалак сіняга неба і палоску зялёнай травы.

Зелень і сінь цешылі яго заўсёды, зьліваліся ў неразлучнае хараство, абнадзейвалі яго сваёю сталасьцю.

Трава давалася і таптаць і есьці, абуджала сытую сілу і ніколі ня здраджвала яму.

Ён любіў траву і любіў Салабуту.

Дзівячыся, чаму ня прыходзіць гаспадар, Васька з нянавісьцю лізаў губою сена, пазіраў на вазы, на жаўнераў, на чужых абозьнікаў і хацелася яму заржаць ад нецярплівасьці.

Салабута спаў бяспросыпу: кінуўся ў садзе пад каштан і нібы прыкарэў да зямлі, цяжкі, апухлы.

Побач пахла крапіва, шумята нейкая, хмель віўся па кустох арэшніку, а пад каштанам панаваў цёплы цень.

Паўднёвае сонца нізала як дротам лісты і жоўтыя зайчыкі, праскакваючы праз гушчэчу, сьвіціліся ў нагах у Салабуты.

Ён раскінуўся ў сваім парцяным халаце: адна рука пад голаў, а другая наводшыб і па тэй, што наводшыб, як па дошцы, поўзалі казяўкі.

Вейкі глыбока ўтуліліся, цёмная рэдкая барада вытыркла наповерх і лезла ў рукаў, такі-ж самы цёмны: зашмальцованы ў дарозе.

Ён ня хроп і, здавалася, нават ня дыхаў.

У гэтым забытым кутку ніхто ня будзіў Салабуту.

Паўцякалі зайчыкі, нахілілася сонца, дунула вечарам разы са два. Салабута-ж як лёг, так і ляжаў.

Пад самае зьмярканьне прысьніўся Салабуце сон.

Вярзецца нешта блізкае-блізкае. Салабута натужвае памяць, каб злавіць які-небудзь пачатак, а ў галаве туман і змрок; тады, адчуваючы як гэта важна, ён прыслухоўваецца, каб разабраць словы...

„Вось-жа будзе, прысягнуць гатоў будзе, а няма, пазаве і схаваецца. Дражніць мяне і шукае...

Зашто, зашто мяне дражніць? Што я зрабіў?..

А-ах, родны-ж мой!..“

Салабута падняўся, ступіў не сваімі нагамі і раптам угледзеў сына. Ідзе яго сын Хведар, чырвонаармеец, па роўным, як далонь, полі, у ясным убраньні па-летняму, а на полі сьнег, мяккі ды сыпкі, ідзе Хведар і ня ўвальваецца.

„Мабыць таму, што ён мой сын,—здагадаўся Салабута,—

от і ня ўвальваецца“.

„І ня мерзьне,

Кроў гарачая, от і ня мерзьне“.

Салабута паласкавеў ад салодкай упэўненасьці.

— Хадзі, я тут, я знаў, што спаткаемся.

Мо' кажух даць? На чорта кажух, хадзем, Ганна бліньцы пякла. Зьясі блінца, зьясі сала ды хаця-ж нагаворымся.

Хведар ідзе з вінтоўкаю, а на сьпіне вялікая кайстра прывязана накрыж пад пахі.

— Ты з вайны?

— З вайны.

— Я знаў, што з вайны, бо вінтоўка. І кайстру прынёс?

— А як-жа! Набраў трохі сьнегу, добра будзе сьляпой Аўдотцы вочы пацерці, каб гаіліся. У нас гэта першае лякарства.

— Ото дзякуй! Дык пойдзем, спрабуем.

Хведар адшчапіў кайстру, разьвязаў і насыпаў бацьку цэлыя прыгоршчы сьнегу.

— От-жа дзякуй, сынку! Які сьнег халодны! Напэўна паможа. Я знаў, што ты прынясеш лякарства.

Яны ідуць па полі плячо ў плячо.

— Паздаравеў ты, харошы стаў.

— І ты нічога, тата.

Салабута сьмяецца, што сын пахваліў і расказвае:

— Дома ўсё добра: бульба ў капцох, ячмень эмалаціў сяк-так, куцьці натаўком, дык ня трэба таго сьвята. Яшчэ, скажу табе, наладзіў я студню, дубу даў, не шкадуючы, цяпер вада, як шкелца, нават на самавар можна браць,—то мы пазычым, наставім.

Салабута раптам спыніўся:

— Куды-ж мы йдзем? Гэта-ж адно поле, зіма, сьнег, адзін сьнег...

А ці не бягуць вунь там, ты бачыш?

— Бачу.

— Сынку, людзі бягуць!

— Людзі.

З далёкага ўскраю быццам гарох зялёны сыпаўся і шалясьцеў на полі.

— Сынку, жаўнэры!.. Па нас, мабыць. Хаваймася!

— Канец, гэта канец!—сказаў Хведар.

І адразу рынулася на іх процьма палякаў, толькі чамусьці не да Салабуты, а да сына.

— Штыхі наперад, твары як маскі, злыя, адчайныя, як ваўкі, усьпеніліся, засьлініліся...

— Га-га-га!..—зарагаталі гуртом.

Глянуў Салабута: стаіць Хведар, як здань, маўклівы, пакорлівы, нават вінтоўкай не варухне.

І зрабілася Дзямяну так жаласна, аж зубы сашчамўі:

— Сынку, страляй!

Маўчыць Хведар, не адзываецца.

— Сынку, цябе заб'юць!—прашаптаў ён дакорна.

Крыўдна стала Салабуце. Не пазнаў ён Хведара.

— А яшчэ салдат! Чырвоны!..

І раптам закрычаў гнеўна, голасна, аж пошчак пакаціўся:

— Здраднік!.. Зьлякаўся!.. Прэч ад мяне!.. Вось ён, рэжце, рэжце яго, палячкі!

Штыхі заблішчалі шырокім лязом на грудзёх у Хведара.

— Татачка, ратуй!—прастагнаў ён і паваліўся на сьнег.

Тады ашалеў Салабута.

Выхапіў вінтоўку ад сына, сьціснуў аберуч за рулю, заенчыў, крутнуўся што моцы, віхром наляцеў на палякоў, размахнуўся і раз, раз: біў, біў, біў, бязьлітасны, аглухлы, немы, біў па галовах: трашчалі чарапы; ламаў косьці, мясіў цела, рваў кіпцямі жылы, душыў за горла, захлынаўся ў крыві, ненажэрны, бясстрашны, магутны ў нявыказнай лютасьці...

Яшчэ намацаў кагосьці, падняў вінтоўку, і раптам упаў, як падкошаны...

Навокал чыстае поле.

Сэрца саслабла.

Хацеў паўзьці, шукаць сына і ня мог.

У руцэ пякуча зашчымела...

Тады Салабуце стала ясна: гата-ж трэба адкрыць вочы, ён адкрыў і зразумеў, што прачнуўся.

Ён ляжаў на сьпіне. Правая рука, сьпечаная крапівою, сьвярбела.

Ён барждзжэй пацягнуў да сябе гэту руку і ўстаў.

З мокрага зельля вылезла жаба.

Салабута падумаў:

„Жаба, крапіва, цёмна, мабыць-жа конь галодны, заспаўся і Хведара сьніў чамусьці—дрэнна гэта.

Мала думаю аб ім, дык і сьніцца“.

Ён абцёр потны лоб:

„Каб многа думаў, дык ня сьніўся-б.

На край сьвету загнала мяне, на чортаў форум воду вазіць, і важу каб яно спрахла, як міленькі той.

Пад каштанамі сплю, па фальварках гарую.

А хто мне заплоціць за гэтае гора, хто мне заплоціць, што сын салдацкі хлеб есьць, хто мне заплоціць, што спустошана душа мая, што я жыцьця ня бачу?..“

У сутоньні зьдзічэлага саду хмурыя дрэвы, кусты, быццам затаіліся.

Нізка, нізка пазьвісалі чырвоныя хмары на пакінутым небе, а з выгану даносіўся гул супакоенага лягеру.

Салабута глядзеў на вячэрнюю зорку:

„Такая самая, усё такое самае“.

Ён ня ведаў ці аддыхнуў, ці не, хацелася надта знайсьці таварышоў, паслухаць альбо расказаць што-небудзь:

„Хай-жа й мне перападзе кропля пацехі, я-ж ня чужое міласьці прашу.

Ось Латаш—добры чалавек, ось Апанас на старасьці год.

Я-ж не адзін. Ім таксама ня лёгка“.

Ён выпрастаўся, абцягнуў прымяты халат, заправіў сарочку, быццам у госьці вьбіраўся, і пашоў праз арэшнік у сьлівы, дзе была пасека і фортка.

З-пад ног выскачыла яшчэ жаба.

Салабута падумаў:

„Жабы... сьцёгны, як пружыны, бач, на росу павылазілі, добра ім“.

І, пачуўшы музыку, накіраваўся да будынкаў.

Вокны нізкага фальварковага дому гарэлі на ўсе шыбы.

На ганках з калёнамі размалёванымі белаю фарбай трымалі бяседу жаўнеры.

У пакоях брашчалі талеркамі, тупалі, звонка гаманілі.

Але ўсё перабіваў цягучы рык фісгармоніі пад пальцамі спрытнага арганістага.

Салабута стаў за плотам агародчыка.

Язьмін, півоня, бэз ад сьвятла ільсьніліся, як вэлюм.

Квола сінела мацыёла, вабячы на водыр матылёў.

Зайгралі фугу Баха.

Сьціхла ўсё.

Толькі калыхаліся фарботы фіранак і дрыжалі цені.

Салабута слухаў уважна гэта чужое вялікае, так пільна, як можа ніхто з слухачоў у доме; хацеў паверыць, увабраць у сябе магутнае хараство мэлёдыі, адшукаць лад і сугучнасьць у сваім сэрцы, а калі скончылі, засаромеўся па-дзяцінаму.

Як злодзей, адбег ён ад плоту, ад чужога багацьця:

„Бог ведае, ці будзе мне калі пацеха, старому, няздары. Божачка-ж мой!“—і схапіўшыся за галаву, пашоў у цёмны бок.

Апомніўся Салабута між вазоў каля Ваські.

Той ласкава павярнуў морду і заківаў губамі: ён чакаў дачы.

— Хоў, хоў, конік мой! Есьці хочаш, небарака?

Салабута пагладзіў каня па тонкай скуры, пацягнуў за грыву, за маленькае вуха.

— Чаго-ж ты хочаш?—запытаў насьмешліва.—

Ось мох, сівец, карэнчыкі,—еш!

Васька далікатна рагатнуў, кінуў косы погляд на перабраныя шматкі сена і яшчэ настойней заківаў губамі.

Тады Салабута нейк само сабою палажыў руку на сьпіну каню задумаўся.

Па двары хадзіла варта.

„Уцячы-б гэта—як?“

І, нічога не знайшоўшы ў адказ, Салабута парашыў:

„Можа як само ўцячэцца“.

Нарваў на замежку ахапак травы і падаў Ваську.

Той забыўся на ўсё, адчуваў смак і сок, а Салабута гаркату меў з гаркатою застаўся.

## 4. Агонь і попел

Пры выгане на ўзьлесьсі маладога гаю дымела вогнішча.

Апанас Чарнаваты з Андрэем Латашом церабілі скручаную бурай бярозу, каб падкінуць у жар.

Каля вогнішча тырчалі калы з плоту, пален колькі яловых смалякоў ды жменя сухога лому.

Відаць, зарыхтавалі нанач.

Андрэй Латаш, высокі, рыжы, грудасты, Апанас, круглы, сівы, невялічкі: адзін, як порхаўка, другі, як баравік, трывалыя, валаклі яны тую бярэзіну і дружна бухнулі.

Аж попелам апырскала.

Агонь пагас, але яны заправілі гальлём, падулі, паварушылі, давялі да парадку і селі вячэраць.

Дзямян Салабута натрапіў якраз на вячэру.

— Браткі мае, сілкуецеся?

— От, тое-сёе, значыцца, каб запхнуць кішку,—сказаў Чарнаваты.

— А я, браткі, спаў, і сына сьніў, і музыку харошую слухаў.

Ня цярпіцца мне. Да вас прышоў.

— Бяры кавалак сала. А мо‘ абясхлебіўся, дык вунь хлеб,—запрасіў Латаш.

— Яды, то ў мяне трошкі ёсьць, але ў возе.

— Дурань, пакрадуць.

— Хай крадуць, бяда вялікая, мы-ж цяпер і самі крадзеныя.

— Але, але, сядай, Дзямяне, ды пагаворым як быць, гэта-ж я гавару яму тое, а ён мне гыркаецца, гэты Андрэй. Кажа тое, ды ня так.

Салабута сагнуўся над вогнішчам і пёк далоні.

Гарачае паветра данімала пальцы, выцягвала ад сэрца вятры неспакою, высушвала суровасьць вольным подыхам.

— Бараду падпячэш,—сказаў Латаш.

— Што гэта ты зіму прыпомніў не ў пару?—сказаў Чарнаваты.

— Нядобра мне. Азяб ці што.

— Ат, азяб, надумаўся, а кажаш—азяб.—

Латаш падцягнуў Салабуту за крысо халата.

Той сеў. Кароткія боты на худых нагах нялоўка аб'ехалі. Халат расшпіліўся.

— Дык ты гэта, значыцца, Хведара сьніў?—запытаўся Чарнаваты.

— Сьніў.

— І цяпер, мабыць, сьніш, ня йначай,—паджартаваў Латаш.

— Браток ты мой, ну і сьніў, ну і сьню, абы ты ня сьніў.

— Мара́ ты, Дзямян. От-бы зьеў што.

Каму ты грозіш? Сабе, нікому больш.

Салабута глядзеў на вогнішча, на няспынную працу гарэньня і руху, на тонкую бярэзіну, маладую і мёртвую, ахвачаную полымем, і адчуваў, што Латаш пасьмяяўся праўдзіва, што ён зусім зьбіўся з тропу.

„Каму я гражу? Сабе, нікому больш.

Крыўджуся, злуюся, каму гэта баліць? Мне і нікому больш“...

— І нікому больш—прашаптаў ён уражаны ў сэрца.

Дрэва трэснула, падалося глыбей у вогнішча, чырвоныя язычкі адразу завіліся вузлом, лопнулі і засакаталі.

Салабута нясьмела ўзяў хлеб.

— Такі зайгралі кішкі марш?

— Ой ду-ду, ой ду-ду, кішкам месца не знайду,—засьпяваў Чарнаваты.

— Дудзі, дзедка, калі жывот, як барабан.

— Жывот, як барабан, галаве лягчэй. Я сваім жыватом, слава богу шэсьцьдзесят шэсьць гадоў барабаню.

— То добры твой жывот. І яшчэ столькі адбарабаніш.

— Наўрад, не такі час. Эх-эх-эх, Андрэю, бывала, пад'ясі да на печ, то табе клопат з галавы.

Салабута еў ціха, сагрэты агнём і людзьмі.

Тры абозьнікі стуліліся, пасеўшы блізка, і ноч, як чорны аксаміт наступала на іх, затканая ствaламі дрэў, купамі лісьця, у дыме вогнішча, у сонным калыханьні паветра.

На выгане белarэбрыя палаткі зьліваліся з зямлёю і адыходзілі у туман, у зьніч.

Водгульле панскага банкету глушылася ў лесе, затое выразна чутны былі варожыя грукі жаўнерскіх чаравік, рэдкія і рэзкія, якіх ня прымала скупое поле.

— А ці помніш як твой Хведар малым да мяне ў парэчкі лазіў?— сказаў Чарнаваты, вытуліўшы з патаемных спратаў сваю старэчую шыю.

Салабута азірнуўся і ўпяршыню прымеціў, што шыя ў Чарнаватага даволі доўгая.

— Не, ня помню.

— А мне здавалася, што павінен помніць.

Хацеў яму быў тады спусьціць майткі, але падумаў, што ня трэба, бо як вырасьце, самому сьпусьціць. Праўда, Андрэй?

— Табе, дзеду, і малы можа спусьціць,—засьмяяўся Латаш.

— Божа мой, божа мой, усё можа быць.

Чарнаваты ўздыхнуў, падсунуў бярозу ў агонь і маўкліва закрыўся барадою.

Насохлая кара затрашчала, зырка асьвяціліся твары.

Салабута сядзеў пахіла, рукі на каленях, як пасажоны бацька.

Латаш, як монумэнт, абапёрся на палена і заняўшы шырокае месца, гульліва патрасаў чупрынаю. Калі другія сумавалі, ён нарачна весялеў.

— Цяпер мы ўсё чакаем, а чаго мы чакаем, каб хто спытаў?

— Табато-ж!

Хто багаты, таго не паперлі ў падводы.

Вунь Сыдор Майсік залатую дзесятку заплаціў сэржанту, то й адкупіўся, не пагналі, а нас пагналі...

— Ага, браце! Багатыр!

— Але.

— Калі тая воля прыдзе,—заскуголіў над вогнішчам Салабута.

Латаш устаў і голасна гаркнуў:

Ніхто ня дасьць нам ізбаўленьня:
Ні бог, ні цар і ні герой!..

Два абозьнікі палахліва заварушыліся.

— Могуць пачуць!

— Гэта—запрашчоная песьня.

— Калі вы самі сабе запрасьцілі, то для вас яна можа й запрашчоная, а мне яе ніхто не запрашчаў.

Латаш карпануў нагою бярозу, пазьбіраў увесь лом, усё паліва, назьбіранае нанач, і паклаў на вагонь:

— Гары мая жызьня!

— Што ты здурэў ці што, адразу ўсё класьці.

— От, мой божа, які чалавек: то ён цябе напужае, то ён з цябе пасьмяецца.

Дзеньдзівір нейкі!

Латаш усьміхнуўся, пастаяў трошкі, пасьля пашоў.

— А ты ведаеш, Апанас, з ім лягчэй.

— А можа.

— Калі-ж бо, ведаеш, так нудна, паскудна, страшна, ад крыўды нутро разрываецца.

Уцякаць нам трэба, вось што.

— Але, але, трэба йсьці прасіцца, каб дамоў пусьцілі.

Дзямян, я табе казаў, ці яшчэ не казаў?

Сварымся мы гэтта.

Я гавару Андрэю: прасіць трэба, а ён мне: уцякаць трэба.

Я гавару: а бог сьвяты ведае, што яны надумаюцца, мо' й пусьцяць а ён мне: чорта два, ня пусьцяць.

— Чорта два, ня пусьцяць,—абазваўся над імі Латаш.

— А ты як, Дзямян?

— Ня пусьцяць.

— От і гавары з вамі.

Уцякаць, уцякаць! Як гэта ўцякаць, не папрасіўшыся.

Яно, вядома, можна дабраць часу, але трэба парадкам. Трэба спачатку папрасіцца.

— Прасі, а я ня буду.—

Латаш скінуў сьвітку, паслаўся і лёг спаць.

— Дзямян, а ты?

— Я?.. Ня буду, не магу, брат.

— То й я ня ведаю.—

Чарнаваты пачухаўся, пагрэбаўся і таксама лёг спаць.

Летняя ноч мінае хутка.

Вогнішча толькі тлела. Бярэзіна разваілася, утуліўшы ў попел дзьве чырвоныя абгарэлыя куксы.

Салабута сядзеў задуменны, час ад часу падкладаючы трэску, каб ня зьвёўся вагонь, пасьля чамусьці вышаў на выган і пачаў глядзець у той бок, дзе сьвітала.

## 5. З паклонам па ласку

Капітан Непакайчыцкі, загадчык гаспадарчай часьці і правіянтмайстар пазнанскага палка, быў чалавек з пароды ялавічных: ні худы, ні тоўсты, а, як той казаў, з мясам.

Ён дуўся, нацягваючы цесныя боты, і з прыемнасьцю заўважыў, што ў галаве крышку дурыць.

„Дзьве мазуркі, тры полькі і чатыры кракавякі.

Ня дрэнна!

Адна мазурка з паннай Веранікай, другая мазурка з паняй Агнешкай Бабінскай.

Так, так, ня дрэнна!

Пані Агнешка Бабінска малым горша ад панны Веранікі.

Адна блёндынка і другая блёндынка.

Ах, д'ябал шавец, якія цесныя боты!“

Капітан Непакайчыцкі сядзеў на палінялым крэсьле, абшытым ружовым шоўкам. Яго пяты баставалі, упёршыся ў падклейкі абсацаў.

— Ах, д'ябал!—сказаў ён, устаўшы і надавіўшы ўсім целам на пяты.

— Ух!—сказаў ён, калі пяты зайшлі на месца.

„Якое шчасьце спаткаць такіх магнэтычных асоб! Піць слодыч віна, слодыч каханьня і слодыч танцаў! Які шчасьлівы вечар! Колькі патрыятызму і музыкі! Дух Польшчы спалучыў сэрцы народу і войска.“

— Ммм... так... але ў галаве крышку дурыць.

Капітан Пепакайчыцкі падняў руку і пстрыкнуў са смакам у паветра:

„Здаецца, мая праўдзівая памяць мяне не абманвае. Здаецца, пляшка рэйнвайну яшчэ недапіта.“

Ён падышоў да ложка і паглядзеў у куток за вузгалаўем.

— І не пачата,—сказаў ён, дастаючы бутэльку.

„Якое шчасьце! Непачата і неапрабавана.“

Непакайчыцкі адаткнуў корак і паставіў бутэльку на стол.

„Пах, сьветласьць і тонкасьць!

Ня больш як па марысін паясок на падчышчэньне памяці, многа ня варта.“

Ён адмерыў поўшклянкі, падняў высока маленькія роўныя вочы і з натхненьнем выпіў, прагаварыўшы:

— За здароўе пані Агнешкі Бабінскай, якая дала мне шчасьце!

Чуць-чуць сумняваючыся, наліў яшчэ поўшклянкі і з яшчэ большым натхненьнем выпіў, прагаварыўшы:

— За здароўе панны Веранікі, якая дасьць мне шчасьце!

„О! Шчасьце панны Веранікі падобна да непачатай бутэлькі рэйнвайну!

А гэты паручнік фон Дырда ня дурань!

Баюся, каб ня выпіў маё шчасьце без мяне.

Хоць?.. Маю пэўныя доказы, нічога ня выйдзе“.

У дзьверы пастукалі.

Непакайчыцкі схаваў бутэльку і сказаў, зьмяніўшы голас на дасканала афіцыйны:

— Проша!

Увайшоў ардынарац.

— Ах,—ты, Войтак!..—будзённа і расчаравана прамовіў капітан.— Чаго ты? Што скажаш, Войтак?

— Прышоў запытацца ці ня будзе якіх наказаў ад пана капітана.

— Не, ня будзе.

— Пан дазваляе ісьці?

— Дазволю, але перш слухай.

Ты ведаеш панну Вераніку?

— Ня ведаю, пане капітане.

— А каму ты запіску насіў?

— Прыгожай паненцы, пане капітане.

— Пані, ці паненцы?

— І пані і паненцы, пане капітане.

— Дык ведай, блазну, прыгожая паненка—то была панна Вераніка, а прыгожая пані—то была пані Агнешка Бабінска з фальварку Млечкі, мая гаспадыня.

Зразумеў?

Ото-ж я напішу табе запіску, занясеш на гэты раз толькі да панны Веранікі.

— А да пані Агнешкі не загадае капітан?

Праходзячы, бачыў: сядзіць сумная і пазірае ў агародчык.

— Не, ужо ня трэба.

Капітан Непакайчыцкі разгарнуў правіянцкі дзеньнік, перакінуў дватры рахункі і дастаў адтуль сакрэтку.

Напісаўшы некалькі слоў, прамакнуў і панюхаў:

— Фу, гэты расійскі одэколён ня варты, каб яго ўжываць!—і адлажыўшы сакрэтку, дастаў з чамадану пукатую пазалочаную пляшачку з надпісам:

*„Вонёнцэ вжосы“.*

— О, то лепшая парфума!

Хоць варшаўскай работы, але аромат зусім францускі.

Ён капнуў на палец, падкрэсьліў парфумаю свой подпіс і аддаў сакрэтку ардынарцу:

— Як пекна гучыць! Вонёнцэ вжосы!..

— Пан дазваляе ісьці?

— Дазволю па меры сканчэньня патрэбы.

— Яшчэ што, пане капітане?

— Так, так...

Падай мне маю шаблю й шапку.

Непакайчыцкі зашпіліў мундзір, правёў рукою па гузіках ці добра, выпнуў грудзі, начапіў шаблю й шапку, сабраўся з мысьлямі і сказаў ардынарцу:

— Войтак, цяпер ты ня Войтак, а генэрал. Ты прымаеш парад, я іду з мэльдункам. Разумееш: вялікая плошча, Варшава, радасныя крыкі, кветы, усё такое, музыка, усё такое. Ты генэрал і прымаеш парад. Разумееш?

— Ці-ж гэта першы раз? Дзіва што разумею, пане капітане!

— Ну дык пачынаем!

Непакайчыцкі, як і кожны сапраўдны пан, меў свае бзікі.

Ён лічыў сябе дужа прыгожым чалавекам, перад якім ня выстаіць ні адна жанчына, і корчыў з сябе вялікага патрыёта.

Але ў начальства посьпехам не карыстаўся і, хоць быў старым кадравым афіцэрам, у гору ня йшоў.

У царскай арміі ён быў вечным паручнікам і толькі, папаўшы ў польскія легіёны, атрымаў годнасьць капітана.

У вольны час пад добры настрой ён любіў марыць аб сваім павышэньні і рэпэтавацца ў патрыятызьме, прымушаючы свайго ардынарца Войтка быць за генэрала.

— Войтак, стань каля печы!

— Стаў, пане капітане.

— Рабі цяпер лагодны, узвышаны твар!

— Зрабіў, пане капітане.

— Так. Уяўляй: б‘юць барабаны, грае музыка. Генэрал аглядае войска.

— Аглядаю, пане капітане.

— Так!

Непакайчыцкі адышоў пад самыя дзьверы, досыць доўга зьбіраўся з мысьлямі, пасьля раптам выхапіў шаблю, падняў перад носам і дробным крокам накіраваўся да ардынарца.

— Хутчэй, пане капітане!

— Пся крэў, я йду хутка.

Непакайчыцкі пачаў спачатку і, грымнуўшы абсацамі, замёр на два крокі перад ардынарцам.

Пруткі, прысадзісты, уліты ў форму да таго, што мяса расьпірала швы, ён быў вельмі падобны да гумілястыкавае лялькі.

— Што скажа капітан?

Непакайчыцкі, ганарыста вытрашчыўшы свае маленькія вочы, распачаў „мэльдунак“:

— Вяшчаю паслушна пану генэралу, начальніку і правадыру ўславёнай перамогамі арміі польскай, апякуну і бацьку народу польскага, што чырвоныя бальшавіцкія забойцы, гвалтаўнікі і бандыты, тыя, што ня вераць у бога і не прызнаюць сьвятое ўласнасьці, тыя, што рабавалі ўвесь сьвет і мучылі наш народ, як Езуса на крыжы...

— Ці добра: як Езуса на крыжы?

— Добра.

— ...Тыя, што як цёмная пошасьць ішлі на нашы спрадвечныя землі, адціснуты, адбіты, прагнаны за Дняпро, Смаленск, Кіеў і далей. Геніяльнае кіраўніцтва і турботы пана генэрала, бадзёрасьць і вера польскага народу запалілі наш меч агнём чыстцовым.

Тулімся да пана генэрала і свае дарагое айчыны, абяцаем слушнасьць, стараньне і патугу на далейшыя дні.

Хай жыве Польшча ад мора і да мора!

Хай жыве народ польскі, армія польска!

Хай жыве пан генэрал, наш дарагі начальнік!

Чакаю паслушна загадаў пана генэрала.—І, зрабіўшы круг па хаце, каб ня стаць тылам да ардынарца, ці то да генэрала, спыніўся каля дзьвярэй.

— Як табе спадабалася прамова?

— Вельмі складная, пане капітане, але толькі...

— А што?

— Але толькі, гаворачы пра бальшавікоў, вы страшэнна скрывілі шаблю і ледзь не прапаролі мяне.

— Так, так... гэта я ад захапленьня.

А прамова, кажаш, складная?

— Вельмі складная, пане капітане! І складная, і, прыгожая і разумная

— Ну, то йдзі сабе.

Ардынарац рыпнуў дзьвярыма.

— Войтак, чакай!

— Я да паслуг пана капітана.

— Дык у засьценак ведаеш? Занясі ліст паньне Вераніцы і, мой дарагі, каб як найхутчэй адказ. Ты-ж умееш.

На вось, выпі за кабет і айчыну.

Капітан наліў ардынарцу чвэрць шклянкі, міжвольна глянуўшы ці шмат засталося ў бутэльцы.

— Дзякую, пане капітане. Больш нічога?

— Больш нічога. Павесь шаблю й шапку.

Выправадзіўшы ардынарца, капітан сеў на крэсла, адставіў ногі і ўзяўся падлічваць некаторыя нечарговыя палкавыя выдаткі.

Ён па-сямейнаму абсталяваўся ў доме пані Агнешкі Бабінскай, за кароткі тэрмін зьблізіўся з панам Зыгмунтам Бабінскім і падружыўся з дзеткамі.

Яго пакой быў такі-ж прасторны, як яго душа.

Унурыўшыся ў лічбы, капітан тым ня менш адразу пачуў, што за дзьвярыма нехта шкрабае.

„То, мабыць, пані Агнешка па пільнай патрэбе."

— Калі ласка, проша,—сказаў ён салодкім голасам.

Дзьверы расчыніліся і ў пакой асьцярожна ўсунуўся Апанас Чарнаваты.

Капітан Непакайчыцкі нездаволена зьвёў бровы:

— Хто ты? Па якой справе?

— Да вас, паночку, вашай міласьці прасіць, ласкі вашай.

Чарнаваты наважыўся падыйсьці бліжай.

— Не падыходзь, не падыходзь! Стой ля парогу!—

Сказаўшы гэта, капітан павярнуўся сам і павярнуў сваё скрыпучае крэсла ў бок Чарнаватага.

Быў ён суровы і страшны, з выглядам міністра, які прымае паслоў паддакай дзяржавы.

Чарнаваты стаяў ля парогу, прыціснуўшы свой куртаты брыль да сэрца, прыгнуўшы галаву.

З-пад жоўтай сьвіткі выпусьцілася зрэбная сарочка, але такім тонкім паскам, што калі Чарнаваты нарэшце наважыўся падняць голаў, упаўзла ў сьвітку бяз знаку.

На лапцях сарамліва целяпаліся сухія бобкі: ім ня было куды схавацца.

— Ты—жабрак?—запытаў капітан.—

Не падаю.

— Што вы, паночку, які жабрак? Сьвятая матка-заступніца няхай нас бароніць ад жабрацтва.

Я, паночку,—дзядок, возьнік, слуга панскі, панскія гарматкі, сухарыкі, крупы важу, усё, значыцца, што загадаюць, куды, значыцца, загадаюць за войскам, туды й важу.

— Ты—возьнік?

— Возьнік, паночку.

— Чаго ты прышоў?

— Вашай ласкі прасіць. Дадому хочацца, мой паночку.

— Так, так... Дадому хочацца прасіць ласкі.

Убогія словы возьніка кранулі капітана.

Ён успомніў сябе дзіцяткам над ціхаю рэчкаю Брдою, высокі дом, поле, двор, гумно, батракі, пружыноўкі.

А пасьля, наездам, калі гасьцяваў у бацькі, каханьне і першая патаемная ласка са старою ахмістрыняю.

Тады ён быў бязвусым гімназістам.

Ахмістрыня была яго першая пасія.

Потым з гімназіі выгналі за „невспаняламысьльнасьць“, вырасьлі вусы, разгарэліся новыя пасіі, пстрыкалі і патухалі, адна толькі ахмістрыня была яму вернай заўсёды і да самай сваёй сьмерці, калі прыяжджаў дадому, малілася за яго і ставіла яму нанач пад ложка гаршчок.

— Ты—католік?

— Я, паночку, веру ў бога.

— Так, так... Верыш.

Ты—праваслаўны?

— Але, паночку. Хай будзе пахвалёны Езус Хрыстус.

Непакайчыцкі ўспомніў як у мястэчку Торжцах на Зялёнае сьвята ён сыпаў краскі пад ногі ксяндзу разам з малымі дзяўчаткамі, беленькі, пульхны, такі прыгожы, што худы дасьведчаны ксёндз па сканчэньні набажэнства асабіста запрасіў бацькоў і сказаў, патрапаўшы яго па шчочцы: „Ото дзіцятка, зачатае без граха, загадам боскім на хвалу богу і на ўзор чалавеку“.

— Так...

— Пусьцеце, паночку, калі вашая ласка!

— Ты не комуністы?

— Што вы, паночку? Крый, бажа!

Непакайчыцкі, заблытаўшыся ў марах, толькі цяпер зірнуў на Чарнаватага, разгледзеў яго і засьмяяўся.

Чарнаваты заварушыўся, нібы яго што ўкусіла, і пачухаў лысіну.

— Ну, дык хадзі бліжай.

Чарнаваты падышоў.

— Дадому хочаш?

— А паночку, а залаценькі, буду вашай ласкі прасіць.

Капітан раптам падняўся з крэсла:

— Можаш ісьці!

— Паночку, залаценькі, куды-ж?

У голасе Чарнаватага празьвінела такая шчырасьць, такая слабасьць, такая трывога...

Капітан сеў...

— Куды-ж?.. Дадому...

— А як-жа конь?

— Адкуль ты ведаеш, што конь дадому хоча? Ці-ж у нас яго дрэнна кормяць?

— Паночку, без каня як бяз рук, нельга мне без каня!

— Так, без каня і бяз рук...

Капітан яшчэ раз паглядзеў на Чарнаватага.

— Ты—селянін?

— А хто-ж я, паночку!

— Так, так...

У цябе многа коняй?

— Якія коні! Адзін конь за душою: драба, матыліца, горшы за ўсе абозьніцкія, а забралі, паночку, апошняга коніка забралі, з хурманкаю...

— Коні патрэбны арміі.

— Дзіва, што патрэбны, паночку. Вось і я, што я—гнілое дуплё, а служу.

— Ты арміі непатрэбны.

— Што, вы, паночку?.. Я-ж крупы вазіў.

— Стары ты.

— Стары, паночку. Вы-ж яшчэ малады, прыгожы мужчына, пашкадуйце маю старасьць, пусьцеце з конікам, гэта-ж вам гэты конь, толькі што конь, назва адна. Ці такія коні патрэбны арміі?

— Кажаш, брыдкі конь?

— А-ей які брыдкі, каб вы бачылі!

— То нашто табе брыдкі конь?

— Што-ж рабіць, паночку, такога маю, ня прыдбаў лепшага. Бедныя мы...

— Так, так... Ты—бедны...

Капітан выцягнуўся ў крэсьле, злажыў рукі, адкінуў галаву і зрабіў ні то сонны, ні то замысьлёны выгляд...

— Ты айчыну любіш?

— Любіў-бы, каб меў час.

— Як так, каб меў час?—прахапіўся Непакайчыцкі.

— Ды так, паночку...

— Ты граматны?

— Не...

— Вось таму ты ня любіш айчыны.

— А вы, паночку, любіце?

— Я?.. Люблю. О!.. Я вельмі люблю айчыну.

Твой конь і ты служыце айчыне.

— Добра, паночку. Але-ж я вас так прашу... Пусьцеце!

— Ты мяне просіш... Ты робіш правільна. Я думаю...

— Але паночку, залаценькі, прашу... Каб гэта як з конікам.

— Я падумаю...

Чарнаваты ўвесь сьціснуўся ад чаканьня.

Бобкі яго брудных лапцяў шморгаліся аб капітанскія боты, але той не заўважваў іх, сядзеў сабе ў крэсьле, мерна дыхаў і пазіраў у столь утуленым зрокам...

— Не, ня пушчу.

— Паночку, залаценькі, любенькі!..

Чарнаваты кінуўся на калені.

— Добра, пушчу, але я падумаю...

— Што-ж тут думаць?

— Устань!.. Ня люблю кленкаў... Шаную старасьць... Адпушчаю!

— От, дзякуй-жа вам, паночку. Каб вы былі здаровы многія леты за ласку, за дабрыню вашую!

Дык, значыцца, можна?

— Можна.

Чарнаваты падняўся такі сьветлы, такі радасны, аж у вушшу шумела. Сонца, што ўвесь час стаяла каля ўсходніх вакон, пасылаючы ў пакой роўныя слупы праменьняў насычаных пылам, схавалася за хмары. У пакоі запрастарнела.

— Дзякую, паночку.

— Няма за што. Ідзі!

— Дзякую, паночку.

Чарнаваты ішоў да дзьвярэй сьпіною і ўсё кланяўся. Ня чуючы зямлі, ён залішне шырока ступіў, стукнуўся плячамі аб касяк і зьбянтэжыўся.

Дзесьці на дзядзінцы брахаў сабака...

— Прабачце, паночку, гэта-ж я забыўся пропуску папрасіць, паперачку такую каб далі вы мне. Яно-ж так кожны можа затрымаць. Цяпер-жа вайна, паночку.

— Пропуск?

— Ну але, паночку.

Капітан пасуравеў і павярнуўся да стала:

— То што-ж ты, дурню, адразу мне не сказаў?

— Я думаў, вы самі здагадаецеся, паночку. Я ад радасьці забыўся.

— Так, так... Можна даць і пропуск.

Як зваць?

— Чарнаваты, Апанас, Апанас, мой паночку.

Ой, як я вам дзякую, паночку.

Капітан напісаў пропуск і падаў Чарнаватаму.

— Ой паночку, ой залаценькі, каб-жа вы й таварышоў маіх адпусьцілі, нас разам усіх трох: Латаша, мяне і Салабуту. Нас тры абозьнікі з аднае вёскі. Век-бы бога маліў, век-бы памяталі...

— Што?.. Трох?..

Ах ты, хаме стары! Дык ты трох? Так ты мне дзякуеш? Табе мала?..

І, схапіўшы Чарнаватага за жоўтую сьвітку, капітан Непакайчыцкі выкінуў яго за дзьверы так скора, што той не апамятаваўся.

Капітан, пахадзіўшы па пакоі, вышаў на ганкі і сеў між калён.

„Блакіты неба сёньня вельмі чыстыя, а тая белая хмарка вельмі падобна да бюсту панны Веранікі...

Паручнік фон Дырда... Хто сказаў, што ён ня можа мець посьпеху? Жыве ў адным доме, уразуменьне душ гарантавана заўсёды, але-ж... замалады, ня мае практыкі.

Маладая кабета павінна вучыцца ў мужчыны сталага.

О, панна Вераніка!

Непакайчыцкі раскошна пацягнуўся, залюбаваўшыся белаю хмаркай.

Пад пахамі трэснулі швы.

— Які цесны мундзір! Д'ябал кравец залішне павузіў рукавы і стан, ня вымераў дынамікі цела. Добра, што ніткі моцныя.

Пацягнуўшыся яшчэ раз, больш далікатна, капітан вярнуўся ў пакой і зрабіў прыемна зьдзіўленыя вочы:

— Пані Агнешка? Вы, мая пані? Не чакаў такое раньняе візытацыі Вельмі шчасьлівы бачыць маю дарагую пані.

— А я праз бакоўку. Хацела запытаць як здароўе пана.

— Сардэчне дзякую! Турботы, мая пані, турботы!

О, якія кветкі, якія пекныя! Вы, мая, пані?

— Нарвала для пана.

— Якая сурпрыза! Пані прынясла з сабою вясну.

Капітан пацалаваў у руку таўшчэзнай пані Агнешцы:

— Вясну і кветы...

— Я чула пан гаварыў з некім.

— Так, дробныя справы. Тут пры палку маем некалькі возьнікаў сялянскіх.

— Фі, то быў возьнік?

— Так. Дазволіў яму ехаць дадому.

— Панская людзкасьць.

— І выгнаў яго за недалікатнасьць.

— О, то справядлівы гнеў.

Пані Агнешка пачала было шаптацца з капітанам, ціхенька па-парасячаму стогнучы, і труччыся аб яго гладкі мундзір, але той ласкава адсадзіў яе на канапу.

— Перапрашаю, мая дарагая пані, службовыя абавязкі прымушаюць мяне тэрмінова ісьці да складу. Маю загад праз ардынарца.

— Так скора?..

— Турбота, мая пані! Абарона айчыны!

— Што? Бальшавікі? Мне страшна!..

Пані Агнешка гопнула ў канапу і разьлезлася, як сенны воз:

— Мне страшна!..

— Што вы, мая пані, ня бойцеся! Ніякага страху.

— Хай пан бог бароніць! Пане капітане, яны далёка?

— Яшчэ далекавата, мая пані.

Калі Непакайчыцкі з паперамі ў руках ішоў дзядзінцам, ён раптам вырашыў:

„Памяняюся кватэрамі. Сам туды, а паручніка фон Дырду да Бабінскіх. Каб не павучыўся каханьню там, хай вучыцца тут.

Пані Агнешка—добрая настаўніца, цяжкая, але спрытная“.

Жаўнеры аддавалі гонар, капітан адмахваўся ад іх, як ад мух, двума пальцамі.

Ён думаў пра панну Вераніку.

## 6. Удача

Латаш і Салабута бачылі як кульнуўся Чарнаваты, як пакаціўся па дзядзінцы яго саламяны брыль, павіхляўся косікамі, пераскочыў кладку і наляцеў на вялізнага рабога сабаку, прывязанага на ланцуг.

Зазьвінеў і зашморгаўся дрот, сабака хіжа падхапіў капялюш і павалок да сябе ў будку.

Чарнаваты круціўся каля будкі і ня ведаў, што рабіць.

— Цюцечка, цюцечка!

... Г-р-р-р!..

— А бадай ты здох! Дзямян! Андрэй! Памажэце дастаць!

Салабута з Латашом спачатку не паверылі.

— От, бачыце, я вам казаў, а вы мне. От, бачыце, я маю дазвол,— і, надзеўшы капялюш, Чарнаваты весела замахаў паперкаю.

Дык, значыцца, я еду.

— А як з намі будзе?—запытаўся Салабута.

— А так будзе з вамі, як і было. Не хацелі прасіць разам, дык я адзін нічога ня выпрасіў.

— Калі аднаму, дык хай-бы ўжо ўсім,—холадна заўважыў Салабута.

— Гавары, як было!—загадаў Латаш.

— А як было, ты бачыў.

Так і было.

Добра, што рэбры мае цэлыя, а то праз вас і касьцей не пазьбіраў-бы!

— Ну, дык што-ж,—едзь, тваё шчасьце!

Хадзем, Андрэй!

— От вы, як быццам, на мяне наракаеце.

Ну, а скажэце, з якое такое прычыны?

Мяне-ж ён і выгнаў праз вас.

Як толькі я, значыцца, каб усім грамадою, дык ён на мяне, значыцца: хаме стары, што ты на ўсіх разяўляешся, мала табе?—і папхнуў, такі й добра папхнуў.

Чарнаваты радасна пачухаў бок.

— А хто цябе намаўляў прасіць за нас. Ты-ж ведаеш, я пану кланяцца ня буду.

— Андрэй, Андрэй, а калі я за цябе пакланіўся, мая-ж галава балела, не твая.

Думаеш, мне гэта ў смак?—

Чарнаваты надуўся.

— Удалося,—едзь! Я не наракаю. Мы таксама паедзем.

— А вы як?

— А мы ўжо без цябе як-небудзь.

Шчасьлівай дарогі!

— Потым ты, Андрэй, злы,—заўважыў Салабута.

Чарнаваты маркотна апусьціў сваю сівую бараду, засаромлены і пакрыўджаны таварышамі.

Латаш паглядзеў на яго, потым на Салабуту, абняў абоіх і засьмяяўся:

— А мае-ж вы, хлопчыкі! Ці-ж нас купілі? Ці-ж гэта жызьня нашая ня нам?

Гэх, вы! І воля будзе і дома будзем! Мінецца, як туман усё! Жызьні мяжы не паложыш, і нам яе ніхто не паложыць.

Скажыце, хто нам памагаў калі, хто?

Ніхто нам не памагаў, ніколі ніхто.

— Але, але, Андрэйка, пусьці, задушыш.

Чарнаваты бег трушком, целяпаючы лапцямі.

Ён цешыўся свайму апраўданьню, нібы яшчэ раз атрымаў дазвол на права вярнуцца.

Халодная сустрэча ўразіла яго спачатку.

Безбаронны, нягорды, ён цяпер гатоў быў цалавацца з Латашом і стаяць перад ім на задніх лапках, як памілаваны здраднік.

Латаш падсьмейваўся і кпіў, слухаючы споведзь Чарнаватага, перапытваў некаторыя драбніцы, а нарэшце асудзіў капітанскае абыходжаньне так:

— Сьвіньня, скаціна і больш нічога.

Салабута падумаў і выказаўся іначай:

— А ўсё-ж... дазволіў, не заплыла душа салам.

— Дзе тая ў скаціны душа, смурод, а ня душа.

— Не, не, Андрэйка, у яго ўсюды парфума.

Увайшоў гэтта я, дык у яго так пахне, так пахне, як у цэркві ўсёроўна,—шчабятаў Чарнаваты.

Перагаварыўшы ўсё Чарнаваты, аднак, не сказаў цаною якога паніжэньня дастаўся яму гэты пропуск, ён не сказаў, што стаяў на каленках.

Забыўся.

---

Бела-мушасты конь, які зьвекаваў у Прыточах, пазбаўлены дару пладзіцца, зьбіў зубы, абгрызаючы затупаны выган, і ніколі не насіў падкоў, араў, скародзіў увесну і ўвосень, а зімою вазіў дровы і на боль-

шае ня вучыўся, у гэтыя дні пазнаў законы выгнаньня і перажываў сваю другую маладосьць, прывязаны каля возу, вывернуўшы парэпаныя капыты, худы, зьняверааны, пудкі, зьвесіўшы сенны трыбух.

Нязвычайны выгляд Чарнаватага спадабаўся каню, ён шумна ўздыхнуў і нялоўка пераставіў ногі.

І відаць было па яго сьлязьлівых вачох як зьнялюбелі яму шошы і грукат, уся гэта наносная дзікая чужына, што карыўся ён сваёй гаспадарцы, хляву, сырым гоням, на якіх працаваў ад раньня да вечару.

Калі Чарнаваты адвязаў лейцы і ўзяўся за хамут, конь сам пасунуўся ў аглоблі, рашуча падцягнуў трыбух і выскаліўся.

— Ну то як вы нарэшце?

Гэта ўсё, як яно?..—спытаў Чарнаваты ні то сябе, ні то сваіх спадарожнікаў.

— Ды так,—сказаў Салабута,—пойдзем і мы знаёміцца з вялікім начальствам.

Чарнаваты кінуў аглоблі.

Латаш крута падступіў да Салабуты, хацеў супярэчыць, плюнуў і адвярнуўся сярдзіты.

— О, якраз, мо‘ такі давядзецца разам ехаць!—

Чарнаваты борзьдзенька вывеў каня з аглабель.—

Значыцца, як я казаў.

Бела-мушасты конь нехаця і з шумам апусьціў трыбух.

— Згарыць яно, тое начальства!—сказаў Латаш і пашоў ад Салабуты скора-скора.

Той ледзь дагнаў яго.

— Андрэй, ня злуй!

Салабута ня зьбіраўся прасіцца, сказалася ў яго гэта без разбору, яму было прыкра, але сьцежка, пракладзеная Чарнаватым да капітана, ня выходзіла з галавы.

— Што будзе, то будзе,—сказаў ён,—пойдзем!—і схапіў Латаша за сьвітку.

— Не чапай!—вырваўся Латаш.

— Андрэй, ня злуй, зрабі ласку, пойдзем!

Салабуце чамусьці верылася.

Латаш пакрычаў-пакрычаў і нарэшце здаўся.

— Ну што-ж, пойдзем!—сказаў ён бяз гневу, але так, як-бы ўдарыў Салабуту.—

Пройдземся, надвор‘е добрае.

— Ат, усёроўна!

Салабута схлусіў: яму ня было ўсёроўна, ён больш за усё баяўся няўдачы, яму здалося, што ўся адказнасьць на ім, што ён прымусіў Латаша.

Салабута каяўся: ён ня ведаў, што ўпарты Латаш таксама зайздросьціў Чарнаватаму.

## 7. Гарачы ўчынак

Сумеснае адбываньне абозьніцкага прыгону, зацяжная няпэўнасьць у заўтрашнім дні, вадапоі, галадоўкі і бяссонныя страшныя ночы зблізілі Салабуту з Латашом.

Па натуры Латаш—чалавек гаваркі, з запалам браўся за кожную работу і часамі, калі прыточаўцы складалі рукі і зубы на паліцу, будзіў сяло і праганяў адчай вясёлай выдумкай.

Некалі ў Гатчыне, служыўшы на сапраўднай службе, ён мераў сваю сілу на электрычнасьць і цягу.

Гвардыйцы ляпалі па плячох, а сам уласьнік бульварных апаратаў, атрымаўшы ад усіх грошы, ад яго ня ўзяў, толькі прасіў бываць і строіць рэкляму.

„Вам, малады чалавек, прырода ахвяравала багатыя дары здароўʻя, вашы нэрвы, спрабаваныя на электрычнасьць, і ваша сіла, спрабаваная на цягу, павінны мець пахвалу альбо прыз і вам, малады чалавек, па сканчэньні сапраўднай службы я раіў-бы запісацца ў цырк Зіновія бароцца на чампіёна Гатчыны,“—сказаў яму на разьвітаньні ўласьнік апаратаў.

Латаш не запісаўся ў чампіёны, вярнуўся на вёску бяз прызоў, простым бывальцам, і там жаніўся.

Праз некалькі год, у нямецкую вайну, быў забраны зноў, абʻезьдзіў Шаўлі, Сувалкі, Вілейку, Пскоў і яшчэ многія гарады Расійскай Імпэрыі. У баі пад Дзьвінскам яго добра секанулі ў грудзі, але няўдала: рэбры вытрымалі, застаўся толькі рубец. За гэты рубец яму далі трэці лычок і годнасьць старэйшага унтара.

Дэмабілізаваны ў сакавіку семнаццатага году, ён прыехаў дамоў на баласьце па няскончанай чыгунцы, у шынэлі, з торбачкай. Жонка памерла ад гішпанкі.

Дзяцей і зямлю разабралі браты, ня было куды прыткнуцца, і Латаш пачаў наймацца падзённа, хадзіў на заработкі ў горад, браўся за рамёствы, абы за што.

Ён прынёс з сабою дух трывогі і шуканьня, нявераʻе ў стары парадак, і чакаў зьмен. Ён часта гаварыў аб рэвалюцыі, якая павінна перайначыць сьвет і бунтаваў сялян, каб дзялілі панскія маёнткі.

У польскую акупацыю Латаш вярнуў свой надзел, купіў каня і да пары да часу прыціх за працай.

Зямлі было мала, сілы і здароўя многа, выхаду ня было.

На фальварковым зрумянелым нашчэнт дзядзінцы калупаліся індычкі, пахаджаў павук з паваю і гагаталі ня дужа страшным голасам гусі—лебедзі.

Пані Агнешка Бабінская, вялікая аматарка прыгожых і пышных птушак, ня менш як прыгожых і пышных мужчын, ад крыўды і благога

гумору пазяхала на ўзганках, упялiўшыся ў зялёную шаўкавiстую люстру павуковых шатаў.

Твар яе, дзябёлы, белы, шырокi, нагадваў нядоенае вымя.

Гэта была асоба, якая толькi тады цямiла што-небудзь, калi ёй наступалi на палец, i то, каб палец не балеў, напэўна нiчога б не рабiла.

Жыцьцё яна мерыла на болi: паясьнiца балiць, мiгрэнь, колькi, з мужам пасварылася, хлапчук укусiў хлапчука, абы толькi была якая балючая прыгода.

Пасьля ранiчных перамоў з капiтанам у яе пачаўся заняпад сэрца. Латаш i Салабута пытаюцца:

— Дзе такi i гэтакi—капiтан Непакайчыцкi?

Панi Бабiнская адказала не адразу.

Яна палiчыла патрэбным намаўчаць, уважаючы iнтарэсы начальства.

На паўторнае запытаньне забубнiла, застагнала i нават крыкнула:

— Гэты народ!—Пану капiтану турботы. Валачашчы народ!

— А ну яе к лiху!—усердзiўся Латаш.

— Чаго вы тут на дварэ, калi на гэта ёсьць кантора,—i панi Бабiнская кiўнула кудысьцi носам.

Абiваючы ботамi жоўты румянак, iшлi абозьнiкi спачатку ў кантору, а тады на склад шукаць усеўладнага капiтана.

Усюды захоўваўся той сьпешны вайсковы парадак, якi лёгка наладзiць i разбурыць.

Каля складу таўклiся двуколкi, чатырохколкi, падрадчыкi, абозьнiкi дальнiя i блiзкiя.

Каптынармус прымаў i раздаваў прадукты, запiсваючы ў кнiжку колькасьць, якасьць i яшчэ нешта, яму аднаму вядомае.

Панская абора гула як ад малатарнi.

Людзi насiлi, вазiлi, кiдалi, совалi, зьяўлялiся i зьнiкалi, варушылiся кiшма ў нейкай прагнай i бязвольнай гарачцы.

Два жаўнеры зачапiлiся коламi, стаялi на возе i галёкалi. Праз дзiрку ў мяшку сыпаўся цурком авёс.

На гэта не зважалi, рабiлi сваё i нiкому ня было дзела па якой справе прыбiлiся на склад Латаш i Салабута.

Да каптынармуса нельга было даступiцца.

У муцэ, задраўшы вусы, ён прабаваў на язык масла.

Салабута гаварыць баяўся, а Латаш не хацеў.

І здарылася так, што прывезьлi вадавозную бочку.

Каптынармус паскакаў каля бочкi, замахаў кулаком i заенчыў грамавым голасам:

— Куды я дзену гэтую бочку? Хто табе наказаў цягнуць сюды бочку?

Ад пана капiтана бочка?

Я пытаюся, ад пана капiтана бочка?..

Кволенькi жаўнер, што сядзеў на бочцы, сумленна адчытваўся:

— Бочка цякучая. Як непатрэбную рэч, капітан загадаў пусьціць у продаж ці здаць вам.

— Ты праўду кажаш?

— Ен казаў так.

— Казаў ня значыць загадаў. На якія д'яблы мне гэта бочка!

— Шпунта няма, клёпкі гнілыя, зусім паганая бочка, пане каптынармус.

— На якія д'яблы мне паганая бочка!

Прынясі загад!

Жаўнер папёр бочку на выган, сьледам за ім нашы двое.

— Ты, жаўнер, воду возіш?—запытаў Латаш.

— Важу.

— Кухар ці падкухцік?

— А чые вы будзеце?

— Ды так, здалёку...

— Пакута гэтым абозьнікам.

— Дзіва, што пакутуем,—пакутуем. От можа вы ведаеце як гэтага капітана злавіць?—запытаў Салабута.

— Злавіць то можна, злавіць яно што, злавіць можна...

— Цяжка, відаць, вам з гэтаю бочкаю?

— Брыдка...

— Нешта вы папольску гаворыце і як-бы не папольску.

— Я разумею па-вашаму, але нам ня вольна.

Я з-пад Ліды, навабранец.

— Ага, гэта добра.

— Дык ты, значыцца, у палякох служыш?—запытаў Латаш.

— Служу.

— І што табе дадуць за гэта?

— Зямлі дадуць, лесу на хату.

— Скулу табе, жаўнер, дадуць, а ня лесу на хату.

— Чаму не дадуць, а можа й дадуць,—паправіў Салабута Латашову грубасьць.

Жаўнер сьцеражліва азірнуўся.

— Казалі, дадуць...—прагаварыў ён ціха і як быццам затужыў.

— Нічога табе, жаўнер, не дадуць. За што табе такому дадуць?

Дадуць таму, у каго і свае зямлі па горла.

Ты воду возіш? Цябе душыў пан?

Жаўнер яшчэ раз азірнуўся:

— Усяго было.

— І будзе душыць, накажа ня то што воду,—з нужнікаў будзеш лазіць.

— Бальшавікі таксама нікога ня мілуюць.

— Ня мілуюць? Цябе яны памілуюць. Такіх яны ня б'юць.

— Ты, Андрэй, ня трывож чалавека.

— Я ня трывожу, я гавару.

— Ён нічога, ён гаворыць.—

Жаўнер затужыў-затужыў і ад'ехаў.

З палаткі вышаў капітан Непакайчыцкі, побач з ім пан Зыгмунт Бабінскі, гаспадар фальварку, і паручнік Фрыдэрык фон Дырдаў.

— Так, так, мой пане, не клапацецеся! Польскімі маркамі будзе вам сплочана за пастой і за карыстаньне панскімі выгодамі. Пан палкоўнік Думбрунэн-Дамброўскі чалавек вялікага слова і добрай ідэі. Зарыхтаваны рахунак панскі праглядзяць належныя інстанцыі і пану будзе сплочана ўсё да аднаго фэнігу.

— Буду вельмі ўдзячны пану капітану.

Паручнік фон Дырдау паціснуў руку пану Бабінскаму і дадаў ад сябе:

— Учарашні вечар нас вельмі задаволіў.

Дзякуем за гасьціннасьць.

— Няма за што.

Гасьціннасьць ёсьць адзнака кожнага паляка.

— Гістарычная адзнака!

І вы, як ураджоны...

Жаўнер каўзануўся з бочкі і прылажыў два пальцы пад казырок.

— Чаго яшчэ?

— Пане капітане, як з бочкаю?

— Здай каптынармусу.

— Ня прымае.

— Едзь да д'ябла!

Падышоў Андрэй Латаш:

— Мы, здаецца, ужо вунь куды заехалі. Ці не пара нам дамоў?

— Што?

— Бачыце, трэба, каб вы нас адпусьцілі,—сказаў Салабута.

— Гэта ад вас быў барадаты?

— Стары такі.

— Але, гэта быў наш чалавек. Хочам, пане капітане, каб гэта як разам ехаць...

— Навазіліся, просім,—сказаў Латаш.

Капітан папракаў сябе за ранічную мяккасьць і чамусьці адразу ўзьненавідзеў іх абоіх. Асабліва не спадабаўся яму Латаш. Ён зрабіў пусты гэст рукою і варожа пісну праз зубы:

— Гэй, ты, з бочкі! Уняць сьмярдзючых сабак!

Лезуць і лезуць цэлы дзень!..

Жаўнер адняў два пальцы ад казырка і з мукаю растапырыў локці: ні то ляцець сабраўся, ні то хапаць, далоні яго калаціліся.

Салабута пачарнеў і выцягнуўся.

Латаш мутна ўтупіўся ў зямлю.

На купіне пад нагамі валяўся кавалак цэглы. Латаш падняў цэглу, пагайдаў, размахнуўся і палажыў у кішэню.

— Пся крэў, псяюхі, лавіць, лавіць іх! Таптаць, нішчыць, катаваць! Жаўнеры, гэй!

— Пане капітане, перад вамі людзі, не лемантуйце!—прагаварыў едка Салабута.

— Лавіць, гэй!

Капітан Непакайчыцкі разгарнуўся, як пружына.

Усе швы затрашчалі ў тугім мундзіры.

Ён заікаўся...

— Ар-рыштаваць! Ар-рыштаваць!

— Ліха матары тваёй! Ты мяне арыштуеш?

Я—сьмярдзючы сабака?

Абмясак ты!

Гад!

От табе!..

Латаш выхапіў цэглу і ўдарыў-бы напэўна, каб не падвярнуўся фон Дырдау.

Цэгла, як мячык, падскочыла да капітанскіх ботаў і ўрэзалася ў пясок. Капітан тупнуў.

Фрыдэрык фон Дырдау выхапіў рэвальвэр.

Латаша пацяглі подручкі, падтукваючы з усіх бакоў. Быў ён чырвоны, гарачы, вялізны. Ён ішоў і зямля прысядала пад яго цяжкім крокам.

Спатыкаючыся па купінах, поўны трывогі, сьпешна цюпаў да фальварку пан Зыгмунт Бабінскі, каб расказаць дарагой Агнешцы аб жудасных праявах мужыцкага буйства.

У яго руках яшчэ трымцела сукаватая ключка, каторую толькі што ён пырнуў Латаша.

Хоць пан Зыгмунт Бабінскі даўно сатлеў, але ключка была здаровая.

*(Далей будзе).*

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА У АСЬВЯТЛЕНЬНІ РАСІЙСКІХ ЭНЦЫКЛОПЭДЫЙ

**А. І. Барычэўскі**

Вялікая колькасьць самых рознастайных энцыклопэдый, як многатомных, так і сьціслых, як агульных, так і спэцыяльных, якія выдаюцца зараз у Савецкім Саюзе, сьведчыць аб вялікіх творчых задачах, пастаўленых Кастрычнікавай рэволюцыяй нашай эпосе, якая, адштурхоўваючыся ад буржуазнай культуры і выкарыстоўваючы усё дадатнае ў спадчыне ранейшых эпох, стварае ў розных галінах навукі новы творчы сынтэз на базе марксызму і ленінізму. Энцыклопэдыі і павінны даць так сынтэз, але гэты сынтэз утвараецца ў самы час перабудовы навукі, у час шпаркага разьвіцьця жыцьця наогул, і дзеля гэтага ў нашых энцыклопэдыях, пры ўсім іх агромністым навуковым значэньні, ёсьць нямала недахопаў ці, правільней кажучы, адзін, але вельмі значны недахоп, гэта— тое, што выйшаўшыя томы вельмі хутка адстаюць і ад жыцьця і ад навукі, аказваюцца ўстарэўшымі.

Адставаньне ад жыцьця выражаецца ў тым, што хутка пасьля выхаду тому энцыклопэдыі паяўляюцца новыя факты, якія часам мяняюць усю справу. Так, у літаратуры паяўляюцца значныя пісьменьнікі, аб якіх у энцыклопэдыях нічога ня знойдзеш, ці паяўляюцца новыя творы ранейшых пісьменьнікаў, якія часам прымушаюць зусім перабудаваць тое асьвятленьне пісьменьніка, якое давалася раней.

Адставаньне ад навукі выражаецца ў тым, што марксыцкі мэтад у многіх навуках робіць яшчэ першыя заваёвы, дзеля чаго многія падыходы да навуковых проблем, якія выдавалі сябе нядаўна за марксыцкія, цяпер высьвятлены як вельмі далёкія ад марксызму, варожыя яму. Так, напрыклад, у першых томах „Литературной Энциклопедии" ў шэрагу артыкулаў мы маем чыста-пераверзеўскія ўстаноўкі.

Сказанае датычыцца ў значнай меры і тых артыкулаў, якія прысьвечаны ў энцыклопэдыях беларускай літаратуры (агульны нарыс) і пасобным яе пісьменьнікам. Асабліва павінны нас цікавіць артыкулы ў „Литературной Энциклопедии". Застановімся перш за ўсё на артыкуле „Белоруская Литература", які падзелены на 2 часткі: першая агульная частка напісана проф. М. М. Піотуховічам, другая, азаглаўленая „Послеоктябрьская литература" напісана З. Жылуновічам. Аўтар першай часткі нямала гаворыць аб старажытнай літаратуры, але паказаць яе як пэўную

надбудову, створаную пэўнымі клясамі грамадзтва таго часу, ён ня імкнуўся. У высьвятленьні прычын самаго ўзьнікненьня старажытнай літаратуры ён задавальняецца сказам: „Первые ростки литературы на территории Белоруссии были вызваны появлением христианства“. Тлумачэньне, якое было-б больш на мейсцы не пад маркай Комуністычнай Акадэміі. Гаворачы аб выданьні ў пачатку XVI стаг. беларускай біблії, аўтар піша: „В этом отношении Белоруссия значительно опередила Московскую Русь, где первая печатная книга появилась только в 1573 году. Сравнительно ранее возникновение книгопечатания безусловно служит показателем довольно высокого культурного уровня, на котором стояла тогдашняя Белоруссия“. Матывы аб тым, што Беларусь стаяла ў XVI стаг. вышэй Маскоўскай Русі, што яе культура была высокая (некалькімі радкамі вышэй аўтар падкрэсьлівае, што беларуская біблія была па часу трэцяй і паявілася ўсьлед за нямецкай і чэскай), гэтыя матывы нам добра знаёмы. Уха кожнага, знаёмага з беларускімі справамі, улаўлівае ў гэтай панегірычнай характарыстыцы знаёмыя ноты нацыянал-дэмакратызму. У агляде літаратуры XIX стаг. мы знаходзім у М. Піотуховіча тыя памылковыя ўстаноўкі, якія былі высьветлены як у друку, так і на сходах у час дыскусыі, прысьвечанай яго канцэпцыі гісторыі беларускай літаратуры. Высока ставіцца творчасьць Фр. Багушэвіча, які, як падкрэсьлівае аўтар, служыў справе нацыянальнай і грамадзкай самасьвядомасьці. Чытачу прыходзіцца зрабіць вывад, што Багушэвіч быў ідэйным папярэднікам таго, што дала Беларусі Кастрычнікавая рэволюцыя; гэта як вядома, і сьцьвярджае М. Піотуховіч у сваіх „Нарысах па гісторыі беларускай літаратуры“,—погляд, ад якога ён у часе дыскусіі адмовіўся. Характарыстыка нашаніўскіх пісьменьнікаў зроблена вельмі сумарна і пазбаўлена яснай устаноўкі. „Наша Нива“ была связана, главным образом, с крестьянскими массами“. „Писатели-нашенивцы концентрируют в своих произведениях энергию белорусских трудящихся масс“. „Шляхетская психология выявляется в несколько романтическом освещении белорусского прошлого и в своебразном юморе, об'ектом которого служит крестьянин, наделяемый чертами наивности и глуповатости; интеллигентские настроения сказываются в налетах гамлетизма“. Далей індывідуалізм пісьменьнікаў-нашаніўцаў тлумачыцца іх сувязьзю з дробнай сялянскай гаспадаркай, дзеля чаго мы маем у іх уход у сьвет індывідуальных перажываньняў, „бесплодную рефлексию и тоску“. Ва ўсім сказаным ёсьць свая праўда, але ўсё мэханічна звалена ў адну кучу і дзеля гэтага ніякага яснага прадстаўленьня аб нашаніўскім літаратурным руху не атрымліваецца, сувязь нашаніўскай мастацкай літаратуры з журналістыкай зусім ігноруецца, усякая спроба чоткай дыфэрэнцыяцыі плыняў у нашаніўскім руху адсутнічае. Нарэшце, ацэнка нашаніўскай літаратуры з пункту погляду сучаснасьці, адносіны пролетарскай літаратуры да нашаніўскай спадчыны, гэтыя важнейшыя пытаньні абойдзены зусім.

Такім чынам, артыкул М. Піотуховіча, напісаны ў 1928 г.. цяпер, калі марксыцкая думка ў беларускім літаратуразнаўстве зрабіла свае першыя крокі, ня можа нас здаволіць, але... значна больш нездавальняючым зьяўляецца другі артыкул, прысьвечаны пасьлякастрычнікавай літаратуры. Ніякай характарыстыкі розных плыняў у пасьлякастрычнікавай літаратуры, ніякай клясавай барацьбы ў літаратуры, у якой бы адбівалася тая жорсткая клясааая барацьба, якая зьвязана з перабудовай усяго жыцьця краіны, мы ў З. Жылуновіча ня знойдзем. У беларускай літаратуры, па яго думцы, пануе што называецца „тишь да гладь, божья благодать“. Вызваленьне Беларусі ад белапалякаў „восторженно встречается“ пісьменьнікамі, сярод іх і З. Бядуляй, адносна якога вядома, што яго палітычны і літаратурны шлях быў далёка не такім простым і што яму прыйшлося многа папрацаваць над сабой раней ніж падыйсьці да разуменьня Кастрычнікавай рэволюцыі. Аб гэтым зрабіў пэўныя прызнаньні і сам З. Бядуля („Зьвязда“ 1930 № 284). За пісьменьнікамі, якія віталі вызваленьне Беларусі ад белапалякаў, прыйшлі ўсьлед, піша З. Жылуновіч, новыя маладыя пісьменьнікі, якія васьпявалі Кастрычнік: Аляксандровіч, Дудар, Зарэцкі. Аб тым, што сярод пісьменьнікаў, якія васьпявалі Кастрычнік, былі такія, для якіх Кастрычнік быў толькі вызваленьнем сялянска-бунтарскай Беларусі, і былі пісьменьнікі, якія сапраўды стаялі на пролетарскіх позіцыях, аб гэтым аўтар нічога ня піша. Наогул ён імкнецца не гаварыць аб пролетарскай літаратуры і літаратуры іншых клясаў і соцыяльных груп і карыстаецца на працягу ўсяго артыкулу тэрмінамі „революционная литература“, „революционные писатели“.

Асабліва яскрава „революционный характер белорусской литературы“ (гэта—асноўны тэзіс З. Жылуновіча) выявіўся, па яго думцы, у 1925 годзе, калі і старыя пісьменьнікі Янка Купала, Якуб Колас напісалі шэраг рэволюцыйных твораў. Аб тым, што Я. Купала напісаў раней „Тутэйшыя“, што Я. Колас напісаў верш „Беларускаму люду“, што пісьменьнікам быўшым нашаніўцам прыйшлося зрабіць вялікую эволюцыю, што і сярод маладых пісьменьнікаў былі розныя плыні, што і сярод іх вялася барацьба, якая закончылася пэўнай дыфэрэнцыяцыяй, аб гэтым аўтар не ўспамінае. „Узвышша“ і яго сябры зусім у артыкуле не ўспамінаюцца. Між тым нават мала знаёмы з беларускай літаратурай расійскі чытач ведае, што існуе беларускае літаратурнае аб'яднаньне „Узвышша“. Аднак-жа галоўным недахопам артыкулу З. Жылуновіча зьяўляецца не замоўчваньне тых ці іншых важных фактаў, але яго асноўны тэсіс: „рэволюцыйны характар беларускай літаратуры“. Бязумоўна, гэтае сьцьверджаньне мае мэтай замазаць клясавую барацьбу ў беларускай літаратуры, падкрэсьліць як мага больш нацыянальнае адзінства гэтай літаратуры і даць яе ідэалізацыю, што зразумела ня мае нічога агульнага з марксызмам. Па сьцьверджаньню З. Жылуновіча, ранейшыя нашаніўскія і новыя пісьменьнікі „сошлись на одной дороге“. Як вядома, гэтае „схож-

дение на одной дороге“ характарызуе ня шлях беларускай літаратуры наогул, а толькі шлях літаратурнага згуртаваньня „Полымя“, якое павінна ў вачох чытача артыкулу засланіць сабой усю беларускую літаратуру. Зразумела аб тым, што дарога, на якой сайшліся ранейшыя і новыя пісьменьнікі ў „Полымя“, зьявілася дарогай у нац.-дэмаўскае балота, мы нічога ў артыкуле ня знойдзем. У той час як у іншых літаратурах Савецкага Саюзу мы маем пісьменьнікаў розных клясаў і дзеля гэтага маем літаратуру і буржуазную, і папутніцкую, і пролетарскую, а таксама літаратуру розных пластоў сялянства, на Беларусі, па думцы аўтара артыкулу, мы маем адзіную беларускую літаратуру, агульная рыса якой— рэволюцыйнасьць. Асьпрэчваць гэты тэзіс З. Жылуновіча можна лічыць за лішняе. Таксама ня будзем крытыкаваць тую ацэнку, якую дае З. Жылуновіч беларускай крытыцы; толькі прывядзем яе назваўшы імёны „абстаятельных“ крытыкаў з А. Навінай на чале, З. Жылуновіч дабаўляе: „в последнее время подают большие надежды как способные критики Т. Глыбоцкий и Н. Байков“.

Артыкул „подающего большие надежды“ Т. Глыбоцкага мы і знаходзім у тым-жа І-м томе „Литературной Энциклопедии“: гэта артыкул аб А. Аляксандровічу, артыкул, які распадаецца на біографічныя весткі, пералік тэм пісьменьніка (пры чым поэма „Цені на сонцы“ названа, але замест вызначэньня яе тэмы, сказана толькі, што яна „затрагивает ряд наиболее острых вопросов современности“; што дае гэта расійскому чытачу, які ня ведае поэмы“?) і нарэшце даецца характарыстыка вершу Аляксандровіча з боку рытмікі і эўфоніі. Як Аляксандровіч асьвятляе свае тэмы, якія эмоцыі выражае пры іх распрацоўцы, якімі жанрамі карыстаецца і як карыстацца, якое мейсца займае ў беларускай літаратуры, застаецца ня высьветленым. Мы маем самы слабенькі від формалізму, які задавальняецца констатаваньнем тэм і рытміка-фонэтычным апісаньнем вершу.

У І-м томе мы знаходзім апрача разгледжаных досыць падрабязны артыкул акад. І. І. Замоціна аб М. Багдановічу. Імкненьня высьвятліць клясавую сутнасьць творчасьці М. Багдановіча мы ў артыкуле не знаходзім. Пэсымізм М. Багдановіча тлумачыцца выключна хваробай пісьменьніка і прадчуваньнем блізкага канца. Ці можа такое тлумачэньне быць прынятым як здавальняючае? Тэорэтык пэсымізму Шопэнгауэр пражыў больш 70 год, а філёзоф Гюйо, вельмі далёкі ад пэсымізму, быў вельмі хваравітым, цяжка пакутваў і памёр зусім маладым. Памылковасьць тлумачэньня сьветапогляду пісьменьніка чыста-індывідуальнымі момантамі прызнаў нядаўна на адным сходзе і сам І. І. Замоцін, маючы на ўвазе свой нарыс у пачатку ІІ-га тому акадэмічнага выданьня твораў М. Багдановіча. Характарыстыка політычнай накіраванасьці М. Багдановіча ў артыкуле „Литературной Энциклопедии“—расплыўлівая і ў той-жа час няправільная: „он глядит в лицо революционному будущему, в которое верит“. Якая гэта рэволюцыйная будучыня, у якую верыў М. Багдано-

віч? Ці тая, якая зьдзейсьнілася? Для беларускага чытача даволі задаць пытаньне, каб атрымаць адказ, але як зразумее гэты сказ расійскі чытач?

Тую-ж самую памылку знаходзім мы ў артыкуле аўтара гэтых радкоў аб А. Гаруне (подпіс—Е. Б.): „мысль о национальном возрождении связана у А. Гаруна с идеей социального переустройства общества“. Аб якім „социальном переустройстве“ думаў А. Гарун, ня сказана. Аб А. Гаруне гаворыцца толькі як аб аўтары „Матчынага дару“, а аб другім пэрыодзе дзейнасьці А. Гаруна, аб яго антысавецкай дзейнасьці, аб яго выязьдзе разам з белапалякамі нічога ня сказана. Праўда, артыкул наогул вельмі кароткі, але лепш было-б нічога ня пісаць аб пісьменьніку, ніж зьмяшчаць некалькі радкоў, якія даюць аб ім ня толькі блытанае, але і няправільнае ўяўленьне.

Наогул мы маем шэраг артыкулаў і кароткіх зьвестак аб пісьменьніках, напісаных вельмі нявыразна. Так, напрыклад, у артыкуле аб А. Галубку ня сказана самае важнае: якога тыпу тэатр ім створаны. Што дае аб А. Грамыку, як драматургу, наступны сказ: „драмы написаны преимущественно в реалистических тонах“. У артыкуле Ў. Дзяржынскага аб З. Бядулі чытаем: „С 1912 года Бядуля беспрерывно работает в белорусской журналистике как даровитый публицист—профессионал“. Якога напрамку была публіцыстыка З. Бядулі, ня сказана. Характарыстыка яго мастацкай творчасьці дадзена з нацыяналістычнага пункту погляду: „Белорусские национальные элементы переплетаются у него с еврейской эмоциональностью“. Хто дагадаецца, што разумее аўтар артыкулу под яўрэйскай эмоцыянальнасьцю?

Перамога марксыцкай мэтодолёгіі ў беларускім літаратуразнаўстве становіцца больш-менш наяўнай з IV-га тому „Литературной Энциклопедии“, хаця-ж і тут ёсьць свае хібы. Аўтарам артыкулу і рэдакцыі трэба мець на ўвазе наступную небясьпеку. Энцыклопэдыя дае весткі і аб тых маладых пісьменьніках, якія далі больш-менш каштоўныя ці цікавыя творы, але якія яшчэ не выстарчальна аформіліся, каб можна было гаварыць упэўнена аб іх соцыяльным і мастацкім твары. Вельмі не пажадана наклейваньне на такіх маладых пісьменьнікаў пэўных ярлычкоў. Унікаць гэтага трэба па двум прычынам. Па-першае, гэтыя ярлычкі, зьяўляючыся вельмі слаба ўгрунтаванымі, лёгка аказваюцца зусім няправільнымі (варта, напрыклад, параўнаць ацэнку, якая дадзена А. Дудару ў артыкуле „Послеоктябрьская литература“ і ў IV-м томе ў артыкуле на яго імя). Па-другое, калі гэты ярлычок носіць няспрыяючы характар, то, наклеяны на маладога аўтара, ён можа зрабіць на яго вельмі цяжкае ўражаньне і гэтым затрымаць далейшае разьвіцьцё пісьменьніка. Адзначым нататкі аб А. Звонаку, якія выклікалі протэст маладога пісьменьніка, пратэст, падтрыманы і сакратарыятам Белапп‘у („Зьвязда“ 1930, № 260).

У Вялікай Савецкай Энцыклопэдыі артыкул аб беларускай літтратуры напісаны П. Растаргуевым, у Малой—А. Сенкевічам. Першы з гэтых артыкулаў таксама вельмі далёкі ад марксыцкага разуменьня літаратурных зьяваў. Артыкул загружаны пералікам імён і твораў. Замест таго, каб паказаць барацьбу, сутычку розных імкненьняў і стыляў у літаратуры, аўтар хоча знайсьці ва ўсёй беларускай літаратурнай творчасьці, пачынаючы з рэволюцыі 1905 году, штосьці агульнае; гэта агульнае—„господство реалистического направления; лишь в единичных случаях проглядывают черты романтизма и символизма“. Час такіх агульных характарыстык, якія імкнуцца „об‘ять необ‘ятное“ ўжо прайшоў. Пад вопраткай навуковай тэрмінолёгіі ўсе цяпер бачаць тут расплыўлівасьць і неяснасьць думкі. З паасобных „ляпсусаў“ П. Растаргуева зазначым толькі адзін. Пералічыўшы беларускіх крытыкаў, ён пераходзіць да публіцыстыкі: „в публицистике наиболее видное место занимает А. Новина“. Хто з незнаёмых з беларускімі справамі чытачоў дагадаецца, што А. Навіна—беларускі нацыяналісты, які ў апошнія гады стаіць на чале беларускіх фашыстаў у Заходняй Беларусі? У сувязі з тым, што „Литературная Энциклопедия“ ня выканала яшчэ і паловы сваёй працы, што ў бліжэйшы час пачне выходзіць Украінская Савецкая Энцыклёпэдыя, пажадана, каб справа асьвятленьня беларускай літаратуры сярод шырокага кола чытачоў была організавана так, каб ніякага самацёку ў выглядзе друкаваньня безадказных артыкулаў больш ня было. Патрэбна Акадэміі Навук стварыць пры Інстытуце Літаратуры і Мастацтва камісію, якая-б нясла поўную адказнасьць за асьвятленьне ў Энцыклёпэдыях як гісторыі і сучаснага стану беларускай літаратуры і мастацтва наогул, так і творчасьці паасобных пісьменьнікаў і мастакоў.

# ПОЭЗІЯ ЮЛІЯ ТАЎБІНА*)

С. Ліхадзіеўскі

> Вам, хто вытрымаў замяць
> у гадох непагодных,
> я здаю свой экзамэн
> на высокую годнасьць
> (Ю. Таўбін „Экзамэн“).

Барацьба за гегемонію пролетарскай літаратуры, барацьба за стварэньне вялікага мастацтва бальшавізму ідзе непарыўна в перабудовай пролетарскай літаратуры ў адпаведнасьці з задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду. Вялікім фактарам, спрыяючым вырашэньню гэтай задачы, зьяўляецца заклік рабочых—ударнікаў у літаратуру. Тое, што ўдарнікі варштатаў соцыялістычнай вытворчасьці становяцца ў шэрагі творцаў літаратуры, зьяўляецца выкананьнем ленінскага завету, які гаворыць: „Літаратурная справа павінна стаць часткай агульна пролетарскай справы“.

БелАПП, ва ўмовах беларускай рэчаіснасьці, правяла досыць вялікую работу ў сэнсе выхаваньня сваіх пісьменьніцкіх кадраў, у сэнсе карэннай перабудовы літаратурнай творчасьці ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі соцыялістычнай рэконструкцыі. Пасылка таварышоў у гэты летні сэзон на прадпрыемствы, іх непасрэдны ўдзел зброяй мастацкага слова ў барацьбе за выкананьне промфінплянаў, жывая сувязь з рабочым асяродзьдзем даюць магчымасьць спадзявацца, што ў наступаючым літаратурным сэзоне зьявяцца новыя высокакаштоўныя творы пролетарскай літаратуры.

Становішча на фронце белаппаўскай поэзіі на сёньняшні дзень мала чым адрозьніваецца ад таго становішча, якое мы мелі да пленуму праўленьня БелАПП (май г. г.). Праўда, вышла некалькі новых зборнікаў поэзіі, якія гавораць пра пэўны рост іхніх аўтараў і не гавораць пра рашучую перабудову поэзіі. Наша поэзія яшчэ амаль нічога не дала аб героях пяцігодкі, не дала больш менш разгорнутых палацён аб соцыялістычным будаўніцтве Савецкай Беларусі ва ўсім яго сягоньняшнім размаху.

Неаднакрачь у нашым друку паказвалі на адсутнасьць моцнай ідэёва-падкаванай марксыцкай крытыкі. Гэтую нястачу ў крытыцы асабліва моцна адчувае наша поэзія.

---

*) Даклад, прачытаны на творчым вечары Менскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў 15 верасьня г. г.

Усё-ж, не зважаючы на гэта, мы маем і якасныя і колькасныя паказчыкі росту белапраўскай поэзіі, асабліва яскравы рост мы масм у шэрагах белапраўскай поэтыцкай моладзі. За якія небудзь адзін—два гады маладыя поэты ўжо маюць па некалькі ўласных зборнікаў. Як аб адным з прадстаўнікоў гэтай групы белапраўскай поэтыцкай моладзі—Юлію Таўбіне і будзе існці гутарка ў дадзеным артыкуле.

Цераз старонкі нашага комсамольскага друку прыйшоў у літаратуру малады поэта Юлі Таўбін. Савецкая краіна ў асноўным скончыла аднаўленчы кругабег свайго экономічнага і культурнага разьвіцьця, пераходзіла да новага пэрыоду, больш адказнага, пэрыоду, які патрабаваў яшчэ большага напружаньня мускулаў і нэрваў рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства, пэрыоду, які павінен быў закласьці крэпкі фундамант соцыялізму ў нашай краіне. Якраз на грані гэтых двух пэрыодаў і пачалі зьяўляцца першыя ластаўкі літаратурнай творчасьці Таўбіна, ягоныя першыя вершы.

Стартам Таўбінавага творчага разьбегу трэба лічыць творчасьць, якая сабрана ў кніжцы „Агні“ (БДзВ, 1930).

Гэта—першая рунь, першыя расткі, маладыя і зялёныя.

Мы ўсе знаёмы з бурамі
узрасталі ў барацьбе
(„Агні“, ст. 5).

Адгрукацелі франты грамадзянскай вайны—адчыніліся новыя франты—франты сацыялістычнага будаўніцтва. Клясавая барацьба, толькі зьмяніла форму, зьмест яе—паглыбленьне і далейшае разгортваньне заваёў пролетарскай рэволюцыі—застаецца нязьменным. Клясавая барацьба—гэта змаганьне за выкананьне і перавыкананьне промфінпляну нашай вытворчасьці, гэта змаганьне за карэнную перабудову нашай сельскай гаспадаркі. Унутраны вораг цяпер—у асобе нэпмана, кулака, шкодніка. І поэтычнае слова трэба аддаць краіне як вострую зброю за новае, лепшае, за соцыялізм.

Ах, песьні нашы звоністы
Ў іх—радасьць і вясна,—
на новы лад разгоністы
наведзена струна
(там-жа).

Кроўю бацькоў здабыта рэволюцыя—задача перад маладым пакаленьнем яе абараніць.

Паўстаць за волю,
ўстаць за край—
за край саветаў
мы гатовы
(„Агні“, ст. 15).

Зусім органічна ў поэты ўсплывае пачуцьцёвая цяплыня пры абма-

лёўцы расстраляных белагвардзейцамі трох украінскіх поэтаў—комсамольцаў і вырываецца лявіна клясавай нянавісьці.

Зьвяры, катаваньнем ня нас
прымусіць забыцца на зброю!..
Мы помнім,
шануем штачас
сваіх комсамольскіх герояў
(„Агні", ст. 31).

Ї асноўны момант зборніка, ягоная настраёвасьць гэта—

сьпеў гурткоў, ячэек, колектываў,
блізкага да сэрца
КСМ
(„Агні", ст. 47).

Але зусім ня трэба пераацэньваць першага зборнічка поэты. Ї прымітыўнасьць пабудовы, і тое, што ў ім шмат чаго выпадковага (вершы „Інвалід", „Лернік", „Васількі" і інш.). Зусім ня можа акрэсьліць поўнага творчага твару поэта. У зборніку вы знойдзеце і нічым не абгрунтаванае мэханічнае адмаўленьне „нуды і журботы" („нуда і журбота даўно адляцелі (?) і голас іх прыкры заціх" ст. 9) і тое, што „ў паходах, у *блуканьнях* (?!) збудуем свой лёс" (там-жа). Аўтар нават дагавораецца да таго, што

...Мінулі дні...
Даўно пагас
агонь суровага змаганьня (ст. 12)

вузка разумеючы пад гэтым змаганьнем выключна непасрэдныя вайсковыя опэрацыі.

Ёсьць у кніжцы і такое месца:

Нам часам за лічбамі сьвету няма (?)
і *нікнуць* у шуме полемік
трывожныя дзеі і тая зіма
і імя грымотнае „Ленін"
(ст. 32).

Чаму *нікне* імя Леніна ў шуме полемік, зусім не зразумела, і гэта тым больш, калі асноўная аўтарская ўстаноўка ў вершы, што

...будзе натхняць
І другіх запаляць
імя непаўторнае:
„Ленін"
(„Агні", ст. 33)

З рабочым горадам у аўтара сувязяй няма, а гэтая ўжо акалічнасьць значна, калі ня цалкам, абумоўлівае тое, наколькі поэта наблізіўся да апяваньня конкрэтыкі нашага соцбудаўніцтва. Характэрная фразэолёгія:

*Зьнекуль* чуюцца гукі фабрычнае песьні,
*Недзе* дыша магутны мотор
(„Агні", ст. 60).

На кніжку „Агні" ў „Маладнаку" № 6—7 за гэты год зьявілася рэцэнзія Н. Кабакова „Агні, якія ня грэюць". Рэцэнзія ў сваёй аснове мае зусім няправільную ўстаноўку. Тав. Кабакоў перад Таўбіным высоўвае такія патрабаваньні, ставіць такія задачы, якія можна паставіць толькі ўжо яскрава выяўленаму *пролетарскаму* поэту. Рэцэнзэнт ня ўлічвае таго, што Таўбін пролетарскім поэтам ня быў і не зьяўляецца ім яшчэ і на сёньнешні дзень. Няправільна падыходзіць да разгляду зборніка з пункту погляду таго, чаго ў гэтым зборніку *няма*. Трэба разглядзець тое, што ёсьць у навочнасьці, вывучыць клясавую мэтанакіраванасьць творчасьці зборніка, зазначыць тэндэнцыі разьвіцьця мотываў творчасьці, прасачыць творчы мэтод поэты.

А гэтага ў рэцэнзіі нічога няма.

З свайго боку да ацэнкі „Агнёў" трэба дадаць тое, што „Агні"— гэта першая кніжка маладога поэта—папутніка: яна мае зачаткі здаровых, сугучных нашаму часу мотываў (пра што я вышэй і гаварыў), яна мае і пэўныя рысы інтэлігенцкага суб'ектывізму, лінію „блуканьняў", ідэёвай неакрэсьленасьці, аснова якіх у дробнабуржуазнай прыродзе аўтара.

У пачатку г. г. вышлі новыя зборнікі Ю. Таўбіна—„Каб жыць, сьпяваць і не старэць" і „Тры поэмы".

Зборнік „Каб жыць, сьпяваць і не старэць"—новы крок Таўбінавай творчасьці па лініі набліжэньня да пролетарскай поэзіі. Такія вершы як „Фабрычная вясна", „Трамвай", „Яго жыцьцё", „За словы п'янае трызьні", „Вершы пра помсту" і інш. паказваюць на значны рост поэта, як з боку клясавай насычанасьці, так і ў сэнсе формальных дасягненьняў. Бадзёры комсамольскі настрой—вось лейтмотыў зборніка. Ён ужо яскрава прасьвечвае з першых вершаў.

Уздымай
вясёлы май—
Захвалюем грудзі маем...
Сьветлы край—
Старану
у фабрычную вясну
ўбіраем
(„Каб ж, сьп. і не ст.", ст. 10).

Поэт радуецца з прычыны таго, што

праганяюць трамваяў агні
цемру дзён дапатопнае конкі
(там-жа, ст. 11).

Тое, што перабудоўваецца стары губэрскі Менск у чырвоную сталіцу Беларусі, зьяўляецца аднэю з шматлікіх перамог у соцыялістычным будаўніцтве.

І кожны наш дзень
гэта новы вагон—
нясе нас у гэткія шыры,
дзе ўсе напярэдадні сонечных дзён
важатыя і пасажыры
(там-жа, ст. 12).

Вершам „Яго жыцьцё" Таўбін спрабуе, і ня дрэнна, падаць жыцьцё старога рабочага падпольшчыка Роткіна. Удзел у забастоўках, рэволюцыя 1905 г., тэрор, маёўкі, падпольле, і пасьля адданая праца на карысьць соц. будаўніцтва — вось што чырвонай ніткай праходзіць праз жыцьцёвы шлях гэроя. І юнак—Таўбін зусім цьвяроза і без „лявацкага" авангардызму—гаворыць:

Ты чуеш, скептык малады,
І многа іх такіх, як Роткін—
кладуць апошнія гады
да постамэнту пяцігодкі.

І далей:

Я веру ў маладосьць маю
І ў нашых „старычкоў" нязломных —
на ткальнях, сьлёсарнях ці домнах
ў зашмальцаваную сям'ю,
ў яе працоўную адвагу...
(„Каб ж., сьп. і не ст.", ст. 22).

Патрэба ў пільнай ахове заваёў Кастрычніка, комсамольскі задор, рупнасьць, настойлівасьць—мотыў, які ўжо меўся і ў „Агнёх" — атрымлівае далейшае паглыбленьне. Крыўдна поэту і ніякавата „за словы п'янае трызьні", за тое, што маладосьць часамі разьвейваюць бескарысна, заліваючы яе віном і гэта пры той умове, калі

юнацтва нашага агні
бацькі куплялі ў казэматах
(ст. 25).

Поэт разумее, што віно і „п'яная трызьня"—„на чужых гасьцінцах" ў процівагу ім поэт кідае:

Засьпявайце моцна, хто пяе—
кіньце воклік зграям звар'яцелым.
О, Рэспубліка! Мы ўсе твае,
сэрцам, розумам і целам!
(ст. 32).

І аўтар сам пачынае зьбіраць „новыя набоі", каб сыпануць па клясаваму ворагу.

Органічным працягам мотываў зборніка „Каб жыць, сьпяваць і не старэць" зьяўляюцца тры поэмы Ю. Таўбіна: „Райком", „Свэаборг" і „Гарадок".

„Райком"—адзін з лепшых твораў Таўбіна. Паказ штодзеннай работы, будняў комсамольскага райкому авеен цяплынёй аўтарскага пачуцьця.

Райком! Люблю цябе, як сын,  
і тым ад сэрца ганаруся,  
што я паклаў адну з цаглін  
ў падмурак творчай завірусе,  
што я сам в арміі тваёй,  
што сам я—Ленінскага стану,  
і сам схіляўся галавой  
над картамі вялікіх плянаў  
(„Тры поэмы", ст. 9).

Райком гэта не канцэлярская ўстанова з вялічэзнай шыльдай — гэта кіраўнік і організатар рабоча-сялянскай моладзі. Аўтар у поэме прызнаецца, што сам ён „няпрыкметна парушаў наш цьвёрды комсамольскі статут"—і райком прыходзіў на дапамогу—даваў поэту патрэбны кірунак.

Работа ў комсамоле, непасрэдная жывая сувязь з творчымі сіламі краіны зьяўлялася вялізарным імпульсам для творчай работы Таўбіна, была чыстаю і сьвежаю крыніцай матэрыялу, для напісаньня сакавітых і баявых вершаў і поэм.

Поэма „Свэаборг" дае малюнак рэволюцыйнага паўстаньня салдатаў і матросаў у Свэаборзе ў ліпені 1906 г., прыдушанага царскім урадам.

„Гарадок" — спроба паказаць перабудову глухога провінцыяльнага гарадка ў выніку рэволюцыі, будучыня якога высіцца „буйнымі пластамі фосфарыту". Праўда, пераважная доля радкоў тут прысьвечана сівой старасьветчыне, „далёкім дзеям" і „прыватным мітам", а паказ сёньняшнята твару гарадка ўціснуты ў некалькі строф.

Як разьвіваецца Таўбінава творчасьць у далейшым?

Здавалася-б, шлях адзін: гэта—перайсьці да паглыбленьня мотываў соцыялістычнай рэконструкцыі, да шырэйшага паказу работы комсамоліі, да паказу ўдарнікаў пяцігодкі.

У канцы 1929 году з-пад пяра поэта зьяўляецца вянок вершаў „Лірычнае хваляваньне".

Вершы, аб'яднаныя ў вянку, гавораць за тое, што поэт пачынае зачыняцца ў чатырох сьценках свайго пакою, пачынае блукаць у сфэры ўласных лірычных хваляваньняў. Лірычныя хваляваньні, выхалашчаныя ад конкрэтнага зьместу нашай гэроічнай эпохі, становяцца ў цэнтр поэтавай увагі. Адсюль і цьмянасьць выказваньняў:

Мы пойдзем супольна і будзем  
змагацца,  
супольна зьбіваючы кожны рыф—  
І стромкія сьцены алітэрацый,  
і ўзгоркі клясычных рыф  
(„Маладняк" № 2 1930, ст. 105).

Поэт сам з сабою. Уявеце абстаноўку: „мой высокі і пахмурны дом выглядаў шкілетам абглыданым“... „і вецер, вецер на прыганку ў вакно ўрываецца маёй кватэры—ціхай і пустой, хістае, хісткую фіранку, галосіць з шчыраю жальбой“... „астыла гарбата на брудным стале і цукер растаў у шклянцы“ поэт „сядзеў ля цёмнага вакна і пісаў расчуленыя вершы“...

Адкуль такая размагнэсаванасьць, сантымэнтальная расчуленасьць, што ні ў якім разе не пасуе загартаванаму барацьбіту?

Лірычнае хваляваньне мучыць поэту на кожным кроку. Характэрна што яно ідзе ўразрэз з грамадзкімі абавязкамі поэты:

На здрадвіцку схопіць,
адцягне, адлучыць—
Забудзеш пра сход і паседжаньне ў
клюбе,
яно цябе смокча, яно цябе мучыць,
а ты яго церпіш і песьціш і любіш...
(„Маладняк“ № 2, ст. 108).

Поэта шукае „жыватворчых сіл“, „позіркаў жывых“, „песень і агню“... У романтычным акружэньні поэт ходзіць нейкім хістальнікам, хоча „пацалаваць зямлю“, „наталіцца радасьцю і сумам“...

У віры гэтай расчуленай настраёвасьці, глухой, адзінотнай, романтычна-безьзьмястоўнай блекнуць спробы аўладаць сабою, калі поэт гаворыць:

... Мы зробімся з сталі
і песьню сваю мы сабе паднача лім.
(„Маладняк“ № 2, ст. 110).

Як бачыце — парушэньне цьвёрдага комсамольскага статуту зайшло надзвычайна далёка.

Поэт адчыніў доступ хаотычнай стыхіі пачуцьцяў, ня змог імі аўладаць пры дапамозе клясава-абумоўленай рацыі, (а пролетарскае мастацтва павінна быць разумным). Поэт забыў на *адбор* уражаньняў, які неабходзен пры сыстэматызацыі гэтых пачуцьцёвых стыхій з тым, каб яны ўзбуджалі клясава-насычаныя эмоцыі. Інтуіцыя, паводка, „лірычнага хваляваньня“—голас непераробленага дробна-буржуазнага нутра, выражэньне сьветапогляду, які нічога ня мае супольнага са сьветапоглядам пролетарскім. Пераробка гэтага сьветапогляду—пытаньне часу, пытаньне ўпартай работы над сабою, пытаньне карэннай пераробкі самога сябе.

І ўжо Таўбінаў верш „Жывому Маякоўскаму“ — першая спроба выбрацца з балота гэтага „хваляваньня“.

Вашы маршы я ў сэрцы нашу,
вашай рытмікай дыхаюць ветры
(„Маладняк“ № 4 1930, ст. 24).

кажа Таўбін у звароце да Маякоўскага, гэтага „горлана — главаря“ ў поэзіі. А маршы Маякоўскага ніякім чынам ня могуць вязацца са сьлязьлівай расчуленасьцю лірычнага хваляваньня, якую нам прапаноўваў Юлі Таўбін.

„Лірычнае хваляваньне“—значнае адступленьне ад лініі раней узятай аўтарам у сваёй творчасьці. Гэта ўжо ня ёсьць „сьпеў блізкага да сэрца КСМ“, гэта ўжо ня ёсьць бадзёры марш да наступленьня, гэта ужо не зьяўляецца організатарам пачуцьцяў і волі мас. Аўтар гэта ў пэўнай ступені і сам разумее і правільна называе такога роду песьню „бадзягай“ і „маталыгай“. У ўступным вершы да свае другое кнігі Таўбін піша:

Чытач, мой сьпеў прымай,—
бадзягу—маталыгу...
(„Полымя“ № 8 1930, ст. 73).

Зразумела, что чытач—рабочы такое „бадзяжна-маталыжнае“ творчасьці прыняць ня можа. Яму патрэбна ня гэтае. І ня дзіва, што поэту даводзіцца аналёгічную творчасьць праносіць „на галаве праз гвалт і крык рэдакцый“, бо яна ў сваёй сутнасьці „акурат здаецца слабаватай“. „Бярозавая даль“, пры ўмове, калі яна нагадвае, нешта адцягненае, неконкрэтнае, ня зьвязанае з нашымі штодзеннымі клапотамі, барацьбою, ня можа натхніць на здаровы поўнакроўны мастацкі твор.

З такім пэўным раздарожжам на поэтыцкім шляху Таўбін падыходзіць да напісаньня сваіх апошніх твораў.

У пачатку г. г. зьяўляецца ягоны вянок вершаў пад назвай „Экзамэн“.

Вам, хто вытрымаў замяць
у гадох непагодных,
я здаю свой экзамэн
на высокую годнасьць
(„Полымя“ № 1 1931, ст. 40).

І сапраўды, прышла пара, калі поэту патрэбна пераглядзець пройдзенае, зрабіць пэўную „пераацэнку каштоўнасьцяй“ зробленага. Да гэтага моманту поэт пачынае ўжо адчуваць, як „рэчаістая сьціплая сталасьць спатыкае настойлівых нас“ (там-жа, ст. 42). Поэту часам ніякавата за пройдзены шлях. Ён кажа:

Падсумоўваючы гады,
атрымоўваю я падсумак
немагчымае чыхарды
з ветрам схопленых нечых думак,
гэта ўсё трэба скрэсьліць—р-раз!
(„Полымя“ № 1 1931, ст. 43).

Скрэсьліць, нанава перабудавацца, „не зважаючы на старое“ на тое, што хвалявала поэта раней, у чым палоне ён знаходзіўся. Як разумее аўтар функцыю свайго мастацкага слова?

Слова—каліва, слова—меч!
Абтачыць яго—асалода,—
бо аднолькава трэба ўмець
і мячом, сяўнёй валодаць
(там-жа).

Ня гледзячы на тое, што і „меч“ і „сяўню“ пара даўно ўжо зьмясьціць у вітрыны музэю, мастацкая творчасьць усё-ж павінна быць надзейнаю зброяй клясавай барацьбы. З гэтай-жа вытрымкі выплывае няправільная ўстаноўка пра тое, што работа над напісаньнем мастацкіх твораў зьяўляецца асалодай для творцы. Поэзія ў наш час ні ў якім разе ня можа служыць фактам самазадавальненьня—яна павінна аддавацца на службу рабочай клясе. І калі паказаная ўстаноўка ў наяўнасьці ў поэта—яе трэба лічыць пэўным налётам эстэтства. Крытыкаваць трэба і своясаблівую „тэорыю ўцільсыравіны“:

Мы ня майстры—куды ніжэй,
Яшчэ нізкая наша якасьць.
Мы—прадвесьнікі новых дзей
лепшых сейбітаў і ваякаў
(там-жа, ст. 43).

Гэта тэорыя ня наша. Яна ня ставіць рэзка задачы перабудовы на сёньняшні дзень, яна змазвае пэрспэктыву стварэньня вялікага мастацтва бальшавізму *сёньня*.

Прасьвечвае пасывізм, падобны пасывізму расійскага поэта Лугаўскага:

Я ня стаўлю канечных мэт
іх эпоха ставіць сама нам
(там-жа)

і паўтараецца:

Мы ня маем канечных мэт,
Мы заўсёды жывём наступным,
Дылетант я, а ці поэт
Усё роўна. Я буду рупным
(там-жа).

Быць рупным гэта яшчэ мала. Ды з дылетанцтвам пара назаўсёды скончыць. Першыя два радкі — у нутраной супярэчнасьці: як можна жыць наступным, ня маючы канечных мэт?!

Пасывізм ідзе глыбей:

Але ўсё-ж такі мы жывём,
трохі (?) робім свае работы,
спатыкаемся і ўстаем
і ўнікаем фальшывай ноты.

Яшчэ зусім нясьмела аўтар гаворыць: „Але трэба мо' менш стыхій“... З такою няўпэўненасьцю поэт, пакладаючыся на сталасьць „з сілай думкі—з трываласьцю рук“, пераглядае свой шлях.

Да моманту напісаньня „Экзамэну“ поэт разьвітваецца са сваім „даўнім мэнтарам“, настаўнікам яго хады. Цікава супаставіць: калі ў момант напісаньня баявых і здаровых комсамольскіх вершаў поэта накіроўваў на правільны шлях комсамольскі райком (як аб гэтым гаворыць сам поэт у поэме „Райком“), дык пазьней—відаць, прыблізна ў пэрыод

напісаньня „Лірычнага хваляваньня“ настаўнікам і кіраўнікам поэтавых думак зьявіўся—хто-б вы думалі?—

вечар з глухім акцэнтам,
вечар сіняй вады (!)
(„Чыр. Бел.“ № 11-12 1931 г., ст. 16).

Гэты досыць ненадзейны, нават падазроны, мэнтар кіруе поэтавай настраёвасьцю:

... ты выпраўляў
мне дыкцыю
і ты
задаваў мне тон—
(там-жа)

прызнаецца поэт у звароце да згаданага мэнтара. Але гэта—справа мінулага. Свайму „добраму і даўняму мэнтару“ поэт сказаў: „бывай“.

Поэт пачынае рыхтавацца да „экзамэну“ „на высокую годнасьць“, кідаючы покліч:

На старт, сябры, на старт!
(„Полымя“ № 1 1931 г., ст. 45).

На колькі Юлі Таўбін падрыхтаваўся, каб вытрымаць экзамэн на высокую поэтаву годнасьць, якая адпавядала-б нашаму сучасьцю?

Пасьля „Экзамэну“ Юлі Таўбін даў нам поэму „Батум“, „Знаёмства чатырох“, уэртуру да поэмы „Таўрыда“ і некалькі вершаў—„На ўвесь свой дужы рост“, „Штандар“, „Чырвонасьцяжнікам“ і інш.

У „Батуме“ Таўбін густымі і моцнымі мазкамі падае малюнак таго, як ангельскі параход „Прынц Гамлет“ прыяжджае ў Батум па купленую ў нас нафту. У асобе выгаленага капітана, сёньняшняга службоўца канторы Томпсон і К°, аўтар апазнае заядлага „абаронцу брытанскіх меж“, які ў час акупацыі Савецкага паўдня „рабаваў Батум і Баку“ і „рукой з сіняватаю жылкаю“ падпісваў сьмяротны прыгавор лепшым сынам нашай краіны. Апісаньне гэтага капітана напоўнена агнём клясавай нянавісьці:

Вы радзіліся быццам нанава...
Ці-ж другая прышла пара?
Праз тваю шкарлюпу капітанаву
бачу лысіну гандляра.
Да політыкі вы абыякавы?
Больш турбуе індыйскі тайфун?
Ну, а ўсё-ж ткі... вось гэта... як у вас?
Так, політыка ваша—фунт.
(„Полымя“ № 4 1931 г., ст. 14).

І наадварот у вясёлым матросе, які разам-жа прыехаў з капітанам, поэт бачыць „маладога хлапца комсамольскага ўзросту“ і лічыць яго

за дарагога таварыша. У звароце да гэтага матроса поэт жадае, каб ангельскія рабочыя непасрэдна дазналіся пра тое, што

Пяцігодка па нафце выканана ў два з паловай гады,
ударнікі Азнафты і Грознафты атрымалі Ордэн Леніна
(„Полымя“ № 4 1931 г., ст. 17).

Дрэнна ў „Батуме“ тое, што пабудову соцыялізму поэт уяўляе як пэўнае прадпрыемства, а рабочых—будаўнікоў соцыялізму — як нейкіх прадпрыемцаў. Нам вядома, што эконамічныя тэрміны, якія ўжываюцца ў выпадках, калі маем справу з капіталістычнай гаспадаркай, не адпавядаюць сапраўднасьці нашай соцыялістычнай сыстэмы.

Таму і згаданы вобраз уяўляецца нейкім фальшывым.

І галоўным недахопам „Батума“ зьяўляецца тое, што аўтар, працуючы над гэтай рэччу з такой шырокай назвай, зусім выпусьціў са свайго дыапазону тых-жа ўдарнікаў Азнафты і Грознафты, якія атрымалі ордэн Леніна. Прычына, можа, у тым, што як сам аўтар прызнаецца „ў Батуме пабыў ён чатыры дні“. Нават і такая акалічнасьць, як тое, што „фінансы ляцелі ў дым“ ніяк ня можа апраўдаць значнага недахопу мастацкага твору.

„Знаёмства чатырох“ высока-мастацкі падае нам тое, як чатыры фінансісты розных краін і нацый, абглядзеўшы дасягненьні краіны Саветаў, заключылі саюз для супольнай барацьбы супроць нас. Ужо той малюнак, калі гэтыя чужаземцы праходзяць ленінскім маўзалеем, дае зразумець, што гэта—прадстаўнікі клясава-варожага стану.

Хоць стан яго (Леніна, С. Л.) застыг,
Здалося,—ўстаць ён мог...
Адзін нэрвовы ўздрыг
скамечыў чатырох.
З дзьвярэй і да дзьвярэй
Яны прайшлі—дарма—
Шлях быў стократ даўжэй
з усімі чатырма.
І, перайшоўшы лёх,
ўздыхнуўшы ўсім нутром,
даў кожны з чатырох
руку суседнім тром
(„Узвышша“ № 1 1931 г., ст. 98).

Поэт зусім правільна разважае, калі выводзіць, што ўсе гэтыя чатыры, змагаючыся нібы ў імя бацькаўшчыны, у інтарэсах свае нацыі,—усё мяркуюць яшчэ болей напоўніць свае кішэні,

бо хочуць іх жанкі
акрасаў і прываб,
бо хочуць іх сынкі
купляць нахабных баб,
бо хочуць іх жанкі

люляць сваіх сабак,
бо хочуць іх сынкі
трымаць фасон гуляк
(там-жа, ст. 99).

Поэту вядома, што панаваньне гэтай гнілой клясы заснавана выключна на жорсткай эксплёатацыі рабочых. Тысячы работніц траццяць зрок над вырабам гэтых акрас для патрэб буржуазіі. Катаржная работа на капіталістычных прадпрыемствах „убірае кроў з жывых“, „бярэ сто сіл жывых“,

бо ўжо з-за іх сабак
мільёнам хлеба брак,
бо ўжо з-за іхніх він
сьвет топіцца ў крыві
(там-жа, ст. 100).

Поэт оптымістычна заяўляе:

Мы ведаем ваш крок,
ваш кожны амбарас,
і мы напружым зрок
і мы напомнім кроў,
і мы зьнішчожым вас
(там-жа, ст. 102).

„Знаёмства чытырох“—рэч, культурна зробленая. Яна характэрна вастрынёй клясавай накіраванасьці. У гэтым яе сіла і каштоўнасьць.

У „Таўрыдзе“ Таўбін абяцае апісаць перасяленьне яўрэяў у Крым. Будзем чакаць. Тэма цікавая, актуальная і нікім яшчэ ў беларускай поэзіі не закранутая.

У невялікім уступе да поэмы Таўбін дае вобразы мінулага з жыцьця яўрэяў, цесна пераплятаючы іх з вобразамі клясычнае творчасьці, гаворыць пра тое, як у подыху беларускай восені

„нехта думае доўга пра зюйд-гураган
і пра новую славу пшанічнай Таўрыды“.
(„Маладняк“ № 1 1931 г., ст. 53).

Для радавога чытача ва ўступе да поэмы сустракаецца залішне шмат незразумелых слоў і цэлых вобразаў, узятых з ломбардаў клясычнай романтыкі.

Зарысоўка ліхвяра, які з „запушчанага лапсардака“ перадзеўся ў новы фрак, зроблена надзвычай яскрава:

Гэта—сьвету старога вар,
гэта двікіх стагодзьдзяў дар,
О, агідны стары ліхвяр,
што трыкутнікам барада!
(там-жа, ст. 52).

Поэт як і ў „Знаёмстве чатырох“ ня губіць клясавай пільнасьці:

Залівайце свой жах вінам,
і спраўляйце апошні фэст—
пагражае вайне вайной
„Kommunistischer Manifest“
(там-жа).

Верш „Штандар“ прысьвечаны міжнароднай пролетарскай еднасьці. Па сваей „морскай“ вобразнасьці ён блізкі да „Батума“.

Адзін у Манчэстэры ткаў радно,
другі ў Іванава-Вазьнясенску.
Іх мора паклікала ў станы ваяк.
І сталі на вахце абодвы тым часам:
другі—
бараніў іх агульны маяк,
а першы—
ўсяго толькі нечую касу
(„Полымя“ № 2 1931 г., ст. 57).

Поэта глядзіць праўдзе ў вочы. Ён унікае штампу, схэмы. Ня гледзячы на тое, што гэтыя два сілай гістарычных абставін знаходзіліся не ў адным лягеры, усё-ж—

„сэрца ў рабочай сям'і адно“.

Рост пролетарска-клясавай сьвядомасьці павінен быў абавязкова прывесьці да таго становішча, якое і было на самай справе:

І ўгледзелі першага вочы маму,
спрадвеку прыкрытую сэйфавым словам,
і тым, хто яго пасылаў на вайну,—
цяпер ён пагардным адказвае словам
(там-жа).

Такім спосабам вартаўнік „нечай касы“ паступова пераходзіць у шэрагі абаронцаў „агульнага маяка“. Пролетарыят гуртуецца для наступленьня па ўсяму фронту сусьвету. „Шторм надыходзіць“, „віецца вышэй і вышэй рабочы, савецкі, чырвоны штандар“.

Пэўная даніна закаханасьці ў провінцыяльную цішыню аддадзена поэтам у вершы „На ўвесь свой дужы рост“ („Узвышша“ № 7, 1930 г.). З вакна поэт наглядае за жыцьцём ціхага гарадка, за палётам галак, за тым, як якісьці раённы працаўнік паганяе каня і інш. Чытаючы пачатак вершу, здаецца, што гэта аўтарская іронія над глухім і парадаксальным жыцьцём провінцыі. Пасьля-ж знаходзіш і пэўную замілаванасьць самога аўтара да гэтае глушы. Прогрэсыўнае, сьветлае ў жыцьці гэтага гарадка—у аўтара адыходзіць на задні плян. Гэты верш трэба лічыць слабасьцю аўтара. Пэўныя аўтарскія сымпатыі да падобнай провінцыяльнай глушы намячаліся і ў раней згаданай поэме „Гарадок“.

Некалькі вышэй я заўважыў на тое, што ў аўтара няма жывое сувязі з рабочым асяродзьдзем, з соцыялістычнаю вытворчасьцю, што-б

магло зьявіцца (і *павінна* зьявіцца) сьвежай і здаровай крыніцай для далейшай поэтыцкай творчасьці.

У апошні час зьявіўся Таўбінаў верш „Чырвонасьцяжнікам“, які выдрукаваны ў шматтыражцы менскага заводу „Комунар“. Увогуле верш баявы, гаворыць аб утрыманьні і надалей ганаровага сьцягу прадпрыемства за ўдарную працу. Верш, зразумела, трэба вітаць (даводзіцца часамі!), але ён ўсё-ж выглядае куды слабей ад іншых вершаў Таўбіна. У ім так і адчуваецца аўтар, як чалавек староньні, ня зьвязаны органічна з працай брыгад ударных. Хоць-бы такое чатырохрадкоўе:

Яшчэ шмат гіне часу дарма,
шмат псуе сыравіна брак.
Трэба сілай брыгад ударных
утрымаць пераходны сьцяг.

Аўтар яшчэ ня ўмее адшукоўваць унутраных супярэчнасьцяй нашых будняў, ня здолен паказаць нам унутранага ворага ў нашай краіне. Характэрна, што там, дзе мы маем спробу паказаць клясавыя супярэчнасьці і барацьбу, аўтар ужывае адну схэму: капіталістычны сьвет—СССР (прыкл. „Батум“, „Знаёмства чатырох“, „Таўрыда“, „Штандар“ і інш.).

У гэтым—яскравы твар папутніка.

Наколькі-ж Таубін вытрымлівае сёньня экзамэн на высокую годнасьць?

Як відаць ужо з вышэйпададзенага разгляду Юлі Таўбін кніжкай „Каб жыць, сьпяваць і не старэць“ наблізіўся да пролетарскай поэзіі. І самую кніжку трэба кваліфікаваць няйначай, як зборам баявых і сакавітых комсамольскіх вершаў. Да гэтай кніжкі надзвычайна блізка стаіць і поэма „Райком“.

„Лірычнае хваляваньне“, паўтараю, ёсьць значнае адступленьне ў *права* ад лініі, раней узятай поэтам, ад лініі, якая павінна была-б прывесьці Таўбіна да паглыбленай комсамольскай поэзіі. Зьяўленьне гэтага вянка і аналёгічных яму вершаў я ўжо вядомым чынам спрабаваў тлумачыць. А, менавіта, тут маем пэўнае абстрагаваньне поэты ад будаўнічай конкрэтыкі, ягонае замыканьне ў чатыры сьценкі свайго пакою і галоўнае—неперароблены дробна-буржуазны сьветапогляд аўтара.

Адначасна поэта паглыбляецца ва ўпартую літаратурную вучобу. Плённасьць гэтай вучобы можаце прасачыць хоць-бы на апошніх творах Таўбіна („Знаёмства чатырох“, „Экзамэн“ і інш.). Чытаючы іх атрымліваеш уражаньне, што яны зроблены чалавекам у пэўнай ступені кваліфікаваным. Праўда, адсутнасьць стала-вытрыманай сыстэмы ў літаратурнай вучобе аўтара, прыводзіла поэту да новых памылак (недаацэнка ролі сьветапогляду, пераацэнка формальных якасьцяў твору за кошт зьніжэньня соцыяльнай значнасьці, адсутнасьць тэматыкі непасрэдна зьвязанай з ростам соцыялізму ў Савецкай Беларусі і інш.)

Але ўсё-ж „Знаёмства чатырох“, „Батум“, „Таўрыда“ і інш. гавораць, што поэта пачынае знаходзіць сябе, што поэта ўжо далёк ад лініі „Лірычнага хваляваньня“. Вастрыня клясавай насычанасьці гэтых тво-

раў, спалучаная з высокай мастацкасьцю іх, гаворыць за значны рост поэты, за вялікія магчымасьці далейшага росту. На сёньняшні дзень Юлі Таўбін—тыповы прадстаўнік левай папутніцкай поэтыцкай моладзі ў шэрагах Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў. Вядома, што стадыя папутніцтва таго ці іншага пісьменьніка часовая зьява: пісьменьнік—папутнік або становіцца з цягам часу саюзьнікам пролетарскай літаратуры і зрошчваецца з ёю, або становіцца на процілеглы бок барыкад. Таўбіну ў гэтым сэнсе выбіраць ня прыходзіцца.

У „Экзамэне“ ёсьць наступныя радкі:

Ня цьвіў я ніколі
бросьняй
і песьняй
ня гуляў, не!
Адна ў мяне толькі просьба—
каб веры далі мне
(„Чыр. Беларусь“ № 11—12 1931 г., ст. 16).

Праўдзівасьць першых радкоў і шчырасьць апошніх прымушае нас паверыць у далейшы рост поэты, у яго далейшае набліжэньне да пролетарскай поэзіі. Але гэта магчыма толькі пры ўмове, калі аўтар зробіць *карэнны* пералом у сваёй псыхо-ідэолёгіі, ідэёва пераўзброіцца, дасканала аўладае сьветапоглядам дыялектычнага матэрыялізму (адзіна-правільным, об'ектыўным), усьвядоміць ранейшыя памылкі і раскрытыкуе свой ранейшы творчы шлях (назаўсёды дасьць бой стыхіі „лірычнага хваляваньня“, „бадзяжна-маталыжнай“ настраёвасьці), пяройдзе на ідэолёгічныя позіцыі пролетарыяту, пераўзброіцца тэматычна (возьме об'ектам свае творчасьці гэроя соцыялістычнага будаўніцтва).

Толькі такім шляхам малады поэта Юлі Таўбін, сёньняшні тыповы папутнік, зможа стаць саюзьнікам пролетарскай літаратуры.

Верасень 1931 г.
Менск.

## КНІГАПІС

### Ліст да аўтара „Цэхавых будняў“

Пятрусь Броўка!

Мы прачыталі вашу кнігу вершаў „Цэхавыя будні“, што нядаўна вышла ў выданьні Белдзяржвыдавецтва. У гэтай кніжцы сярод іншых зьмешчаны чатыры вершы, зьвязаныя сваёй тэматыкай *непасрэдна* з нашай соцыялістычнай вытворчасьцю, рэшта вершаў—пра Чырвоную армію, пра комсамол.

Тэматычна кніжка ваша дужа актуальная, калі не сказаць больш—злабадзённая. Пытаньне рабочай тэматыкі на сёнешні дзень павінна асабліва прыцягваць нашу ўвагу. Глыбокай і ўсебаковай распрацоўкі рабочай тэматыкі ў беларускай поэзіі мы яшчэ ня маем,—праўда, да месца прыгадаць тут больш менш удалыя спробы маладога поэта Ал. Зарыцкага. Вось чаму—у парадку самакрытыкі (а падыходзім да вас мы, як ужо да выяўленага поэта)—дазвольце зрабіць колькі заўваг пра вашы вершы, спыніцца на двух вузлавых пытаньнях: на пытаньні рабочай тэматыкі і на пытаньні мастацкай культуры.

Ваш верш „Цэхавыя будні“ спрабуе паказаць штодзённую працу і змаганьне за выкананьне плянаў нашай соцыялістычнай вытворчасьці, падаць жывымі вобразамі гультая, прагульшчыка, рвача. Нажаль, Пятрусь Броўка, вы выпусьцілі з-пад увагі асноўнае, што рухае соцыялістычнай прамысловасьцю, выпусьцілі героя працы, рабочага-ўдарніка,—яго ў вашым вершы—пры ўсёй яго баявой насычанасьці—*зусім няма*. Дый паданыя вамі рвач, прагульшчык, нядбайца—хіба гэта людзі, жывыя, конкрэтныя? Вы напісалі *характарыстыку* гэтых людзей, не паказаўшы іх саміх, ня ўскрыўшы тых прычын, якія парадзілі гэткіх людзей. Мала сказаць, што ў рвача—„захована душа глыбока ў кішэні“ і што ён мае „рвацкую галаву“. Вы не сказалі і пра тое, *як змагаецца* рабочы колектыў з людзьмі гэтай катэгорыі. А замест гэтага пераважная колькасьць радкоў прысьвечана шумам каландраў, вярчэньню пасоў, гоману машын.

Цэхавыя будні так, як яны паданы ў вашым вершы, не зьяўляюцца сапраўднымі цэхавымі буднямі гартоўкі новага чалавека, для якога праца—справа гонару, мужнасьці і геройства. Не паказаўшы жывых людзей, вы робіце іншае: ачалавечваеце вагранку, паперу, горан.—

1. Запішам свае горны
   ў сьпісы комунараў (ст. 40).
2. Будзь бальшавіцкім сынам
   ты (зварот да машыны) кожную
   хвіліну (ст. 42).

3. Ў атаку
   скора час,
   каб вышла
   комуністкаю
   папера
   у колгас (ст. 20).

А вось людзей—комунараў, комуністак, „бальшавіцкіх сыноў“—у вас і няма.

Нават функцыі заклiку да работы вы ў пэўнай ступені перадалі рэчам:

1. Словам комуны кліча ўперад—
паперa.

2. Завуць правады:
сюды,
сюды,
дзе пот
ударных рот.

Скажуць, што гэта проста вобразныя выражэньні. Але бяда ў тым, што паколькі ў вершах няма жывых поўнасочных ударнікаў, арганізатараў, кіраўнікоў—іхнюю ролю, іхні абавязак *об'ектыўна* падмяняюць рэчы: машыны, пасы, горны. Яны клічуць наперад, яны ходзяць у атаку, яны заахвочваюць да работы, яны могуць станавіцца „бальшавіцкімі сынамі“, могуць лічыцца ў „сьпісах комунараў“. Вось як атрымліваецца на справе, паважаны поэт. Калі-б у вас былі людзі, дык гэтыя рэчы сталі-б фонам, сродкам у руках гэтых людзей—ударнікаў. А так—яны падмяняюць чалавечыя функцыі.

Чаму так сталася? Вы да вытворчасьці, да рабочага асяродзьдзя *толькі ідзеце*, спрабуеце толькі іх пазнаць. Вы, зразумела, сустракаліся з ударнікамі, азнаямляліся з іхняю работай, ахвачаны іхнім энтузіязмам, але паказаць іх ва ўсёй поўнакроўнасьці, ва ўсёй дынаміцы супярэчнасьцяй у дадзены момант яшчэ не змаглі.

У адным з вершаў вы распачалі спрэчкі з пачуцьцямі. Паўстаіцё супроць голай лірыкі, супроць альбомнай поэзіі. Гэта ўсё добра. Але заключны акорд вершу—

Муляр—таварыш,
Я твой, я рабочы!
У нашай будоўлі
Мы роўнымі сталі і г. д. (ст. 55)—

гучыць так, як просьба, каб вам паспачувалі, прынялі вас рабочыя да сябе. І мы кажам: вы яшчэ *спрабуеце* ісьці да рабочых. Не ўдаліся—з гэтай прычыны вам „Цэхавыя будні“. Адсюль—патрэба ў далейшай упартай рабоце над сабою, над выпрацоўкай сапраўднага пролетарскага сьветапогляду.

Вашыя вайсковыя вершы найбольш удалыя ў зборніку. Яны правільна ставяць пытаньне абароны краіны, небясьпекі вайны супроць СССР. Гэта маршы—баявыя і поўнакроўныя.

Колькі слоў пра тое, як вы аформілі свае вершы. Трэба адзначыць, што ў гэтых адносінах кніжка „Цэхавыя будні“ значна слабей першай вашай кніжкі „Гады як шторм“. У вашай вобразнасьці і слоўным афармленьні мы шмат чаго не зразумелі.

Напрыклад:

1. І домны *перагрэлі* мы,
Каб першым быў завод (ст. 32).

(А ці ня выйдуць гэтыя домны, калі іх перагрэць, са строю?)

2. Нядбайцаў вышлі у паход
мы якасьцю пабіць,
каб *між радкоў*
калоў *яго* (*каго?*)
наш бальшавіцкі
штых (ст. 20).

(Не разумеем: каго гэта „яго“? Не знайшлі мы адказу і ў папярэдніх строфах. І прычым тут выраз „між радкоў“?)

3. Хай цяпер
*на комсамольскіх лыжах*
прабяжыць
*комуністычны ток*—
з барыкад Варшавы і Парыжа
маладых
спаткаць
барацьбітоў (ст. 30).

(Цікава. А ці мае гэты ток ногі? Вобраз усё-ж павінен быць апраўданым).

4. Каб дзень і ноч
ты быў гатоў,

ты *сілы*
на *АСО*
*кінь.*
На *поўны ход*
*пускай мотор*
*па рэйках* (?)
пяцігодкі (ст. 51).

(Мы звычайна кідаем сілы на ворага, а вы іх кідаеце на АСО,— між іншым, хоць „АСО“ ня зусім і па-беларуску...

5. *Гатуюць* у строй гарматы
былыя ўладары (ст. 50).

(Вы хацелі, напэўна, сказаць „рыхтуюць“? Гатуюць-жа ў нас толькі страву).

Паколькі такіх неахайнасьцяй у вашых вершах шмат, мы на некаторыя з іх і зьвярнулі вашу ўвагу. Мы лічым, што чыстата і дакладнасьць слоўных і мастацкіх вызначэньняў узмацняе баяздольнасьць твору і зьяўляецца *абавязковай* умовай для мастака слова.

З белапапаўскім прывітаньнем
**Барыс Мікуліч,**
**Сьцяпан Ліхадзіеўскі.**

14-IX 1931 г.
Менск.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА БССР

* У Віцебск выязджала брыгада пісьменьнікаў БелАПП'у ў складзе Александровіча, Хведаровіча, Ліхадзіеўскага, Барашкі і Красьнеўскага.

23-га верасьня брыгада азнаёмілася з фабрыкай „Дзьвіна". Аглядзела ўвесь процэс вытворчасьці. Пры азнаямленьні з бібліотэкай фабрыкі выявілася, што беларускай пролетарскай літаратуры, пры вялікім попыце на яе з боку рабочага чытача, амаль няма. Замест гэтага бібліотэка да гэтага часу популярызуе нацдэмаўскую літаратуру (Дубоўка, Гарэцкі, Грамыка і інш.), а пролетарскі поэт — Александровіч прадстаўлен у бібліотэцы кніжкай для дзяцей „Як цацкі дома зрабіць самому".

На вялікім вечары ў рабочым клюбе „Дзьвіна" з дакладам аб пролетарскай літаратуры і задачах фабрыкі ў барацьбе за пролетарскую культуру выступіў тав. Іл. Барашка. Ён спыняецца на конкрэтных фактах жыцьця фабрыкі, якія яскрава гавораць аб тым, што пытаньне нацполітыкі на фабрыцы яшчэ не ажыцьцяўляюцца ў поўнай меры.

У адказ на такое становішча, выступаўшыя рабочыя абвяшчалі аб сваім уступленьні ў літаратурны гурток, заяўлялі аб гатоўнасьці на справе ажыцьцяўляць пытаньні нацполітыкі нашай партыі. У літгурток, побач з іншымі, уступіла і старая работніца т. Мікалаева — энтузіястка фабрыкі, якая абавязалася напісаць кнігу пра сваё жыцьцё.

Чыталі свае творы таварышы А. Александровіч, М. Хведаровіч, С. Ліхадзіеўскі, Іл. Барашка, З. Жыткевіч (Віцебская філія БелАПП).

У гэты-ж дзень брыгада выступіла на вечары ў Віцебскіх асьветнікаў. З вялікім дакладам на тэму „Культурная рэволюцыя і задачы пролетарскай літаратуры" выступіў таварыш Р. Красьнеўскі.

Заля была перапоўнена і даклад слухалі з вялікай цікавасьцю. Дакладчык, ахарактарызаваўшы значнае дасягненьне на фронце культурнага будаўніцтва, завастрыў увагу аўдыторыі на патрэбе замацаваньня цеснай сувязі пролетарскіх пісьменьнікаў і асьветнікаў паміж гэтымі двума братнімі атрадамі культурнай рэволюцыі.

Надзвычайна цёпла і ўважліва прынялі выступленьні пісьменьнікаў: т.т. Александровіча. (урывак з новай п'есы „Напор", якая прынята БДТ2 да пастаноўкі), М. Хведаровіча, А. Ушакова (Віцебская філія БелАПП) і С. Ліхадзіеўскага. Ня гледзячы на позьні час цікавасьць да вечару ня зьніжалася.

24-га верасьня пісьменьнікі азнаёміліся з новай панчошнай фабрыкай — гігантам імя Кім і з акулярнай фабрыкай. На акулярнай фабрыцы праведзена гутарка з рабочымі аб пролетарскай літаратуры і закліку ўдарнікаў у літаратуру. Увечары брыгада выступала ў клюбе мэталістаў.

Дакладчык тав. Р. Красьнеўскі, побач з асьвятленьнем становішча беларускай пролетарскай літаратуры, шырока спыніўся на фактах вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, фактах, якія непасрэдна ўзяты з Віцебскай рэчаіснасьці.

З творамі выступалі т.т. Хведаровіч, Жыткевіч, Ліхадзіеўскі, Барашка,

Люгоўскі, рабочы мэталіст Фрумкін, А. Ушакоў і Андрэй Александровіч.

25-га верасьня брыгада выступала на радыё-вузьле і на сходзе партыйнага актыву гораду.

Выступленьні брыгады пролетарскіх пісьменьнікаў у рабочых клюбах паказалі надзвычайна вялікую зацікаўленасьць рабочых да пытаньняў беларускай пролетарскай літаратуры.

* Пасьля паўтарамесячнага падарожжа па Сярэдняй Азіі, у Менск зьвярнуліся ўдзельнікі інтэрнацыянальнай брыгады пісьменьнікаў — Іл. Барашка, Хведаровіч і П. Глебка.

* *Платон Галавач* пераапрацаваў для II выданьня аповесьць „Спалох на загонах". „Спалох на загонах" выходзіць у перакладзе на расійскую мову.

* Вышла з друку кніга вершаў і поэм Андрэя Александровіча. У кнізе сабраны выбраныя творы за дзесяцігодзьдзе творчасьці поэта (1921-1931 г.).

* *Кузьма Чорны* напісаў вялікую аповесьць „Бацькаўшчына". Аповесьць выходзіць асобнай кніжкай.

* Беларуская сэкцыя Маскоўскай Асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў распачынае выданьне двухмесячнай літаратурнай часопісі. Часопісь будзе выдавацца ў Маскве.

* *Іл. Барашка* працуе над кнігай нарысаў пра Савецкі Узбэкістан. Выходзіць з друку кніга новых апавяданьняў—„Комунар".

* Менская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў заключыла з менскім комсамолам соцыялістычны дагавор, паводле якога, комсамол павінен разгарнуць работу па організацыі пролетарскага літаратурнага руху на прадпрыемствах гораду Менску.

* *С. Ліхадзіеўскі* здае трэцюю кніжку вершаў (1931 г.) пад назвай „Маё поўнакроўнае". Друкуецца масавым выданьнем кніжка колгаснай поэзіі „Крывавыя зьнічкі на сьнезе".

* Вышла з друку кніга апавяданьняў Цім. Зарэчнага—„Маладосьць".

* МенАПП устанавіў штодзённыя дзяжурствы ў Доме пісьменьніка для консультацыі твораў рабочых-ударнікаў.

* Да кастрычнікавых сьвят у Доме Пісьменьніка рыхтуецца выстаўка— „Пісьменьнік і соцыялістычнае будаўніцтва". Выстаўка будзе паказваць работу пісьменьніцкіх брыгад на прадпрыемствах БССР і СССР.

* Вышла з друку кніга выбраных апавяданьняў Міхася Лынькова.

* Вышаў з друку другі том поўнага збору твораў Цішкі Гартнага.

* Выходзіць з друку кніжка пародый Старобінскага на сучасных беларускіх поэтаў „Ха".

* *Уласюк - Антановіч* заканчвае аповесьць „Сьмерць Агаты", якая адбівае клясавую барацьбу на вёсцы.

* У верасьні наведалі Менск расійскія поэты Жараў і Уткін, якія зрабілі шэраг выступленьняў сярод рабочых, а таксама ў Доме Комасьветы і Белдзяржтэатры.

* *Юрка Лявонны* напісаў, у парадку паказу герояў пяцігодкі, невялікую поэму — „Брыгадзір Марцін Байдылевіч". Зараз ён рыхтуе да друку зборнік выбраных вершаў.

* БДВ прыняты да друку зборнік выбраных вершаў Уладзімера Хадыкі.

* *Васіль Шашалевіч* працуе над новай п'есай. П'есу гэту законтрактоўвае 1 БДТ.

* *А. Крынічны* сябр Магілеўскага літаратурнага аб'яднаньня БелАПП напісаў для раённай газэты „Калгасьнік на варце" тры апавяданьні: „Шумела асіна", „Навабранцы колгаснай арміі" і „Штурм".

* У канцы верасьня ў Менскім гарадзкім тэатры распачынаецца новы сэзон Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру. Галоўнае месца ў будучых пастаноўках зоймуць: „Гута", „Ярасьць", „Лінія агню", „Справа гонару", „Мост", „Каменьні на дарозе" і інш.

* У апошні час Беларускі Дзяржаўны ансамбль народных інструмантаў праводзіў сваю работу за межамі БССР: у Маскве, Ленінградзе, Харкаве і інш. мяйсцох Савецкага Саюзу.

Вялікая работа праведзена на Украіне. Першы прыезд ансамблю вельмі ўрачыста сустрэлі рабочыя харкаўскага Трактарбуду, якія прасілі ўдзельнікаў ансамблю перадаць рабочым Беларусі, што Трактарбуд будзе пушчан у тэрмін.

Ансамбль народных інструмантаў зрабіў вельмі шмат выступленьняў на прадпрыемствах Донбасу: Сталіна, Даўжанская, Луганск і інш.

Гарнякі Ўсесаюзнай качагаркі Донбасу паднесьлі ў падарунак лямпу шахцёра.

* *У Ленінградзкай фабрыцы Белдзяржкіно „Савецкая Беларусь“.* Прыступлена да вытворчасьці гукавой карціны „Слава сьвету“ на тэму аб барацьбе міжнароднага пролетарыяту супроць падрыхтоўкі вайны з СССР.

* Фабрыка БДЗК канчае агіт.-проп. карціну „Сталёвы шлях“ на тэму аб рэконструкцыі транспорту.

* Ударная здымачная брыгада № 7 выехала для здымкі ў раён Вініцы, мастацкай карціны „Шчасьце“. Тэма—рост рэволюцыйнага руху сялянства Заходняй Беларусі.

* Ударная брыгада № 8 прыехала з экспэдыцыі з тарфяных заводаў, дзе адбываліся здымкі школьнага фільму ў 3-х частках „Шкода балот“. Тэма—мэліорацыя балот і політэхнізацыя сельскай школы.

* Ударная брыгада № 9 прыступіла да работы над мастацкай карцінай „Чэсьць“ на тэму аб пераапрацоўцы адсталых элемэнтаў рабочай клясы.

* Усе літаратурныя аб'яднаньні БССР злучыліся ў Беларускую Фэдэрацыю Аб'яднаньняў Савецкіх пісьменьнікаў. Адказным сакратаром Белфаспа т. А. Сянкевіч.

* Інстытут Літаратуры і Мастацтва БАН здае ў друк два зборнікі „10-ці годзьдзе беларускай літаратуры“ і 3-ці зборнік „Супроць беларускага нацдэмократызму ў літаратуразнаўстве“.

* Дырэктарам Інстытуту Літаратуры і Мастацтва ў сувязі з дзесяцігадовым юбілеем творчасьці пролетарскага поэты А. Александровіча пастанавіў выдаць выбраныя творы поэты.

* Інстытут Літ. і Мастацтва БАН рыхтуе для друку збор твораў ударнікаў у літаратуру.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* Сакратарыят ВОАПП склікаў спэцыяльную нараду, прысьвечаную пытаньням падрыхтоўкі і тэрміну скліканьня Ўсесаюзнага зьезду яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Сакратарыят заслухаў даклады прадстаўнікоў яўсэкцыі БелАПП тав. Броншгэйна, яўсэкцыі ВУСПП т. Х. Гільдзіна і яўсэкцыі МАПП—т. Рабіна аб іх рабоце і падрыхтоўцы да зьезду.

* На апошнім паседжаньні сакратарыяту МАПП—т. Паўлюк Шукайла ўнёс шэраг конкрэтных прапаноў аб рэорганізацыі і ўпарадкаваньні работы нацсэкцый, якія даэтуль існавалі толькі номінальна, ня ўцягваючыся ў агульную работу МАПП. Тав. Шукайла прапанаваў скасаваць нацбюро, а кіраўніцтва нацсэкцыямі даручыць непасрэдна сакратарыяту МАПП, які павінен вызначыць аднаго з сакратароў, усклаўшы на яго пэрсанальную адказнасьць за работу нацсэкцый. Райбюро МАПП у сваёй штодзённай рабоце павінны аддаваць больш увагі нацыянальнай літаратуры. Творчая і ідэолёгічная накіраванасьць работы нацсэкцый павінны быць уважліва вывучаны шляхам організацыі творчага агляду.

* Міжрабпомфільм склаў з т. Вайянам Куцюр'е ўмову на сцэнарый для поўнамэтражнага гукавога фільму на тэму аб рэволюцыйным вопыце і памылках Парыскай Комуны. Рэжысэрам пастаноўкі назначаецца В. Хвёдараў, які заканчвае гукавы фільм „Мертвый дом" у расійскім і нямецкім варыянтах.

* Ударная група па гукавой карціне „Друзья совести" вытворчасьці Межрабпомфільм скончыла ўсе вызначаныя паводле пляну здымкі ў экспэдыцыі на Донбасе раней тэрміну. Гэтымі днямі група выехала ў Кіеў для натурных здымкаў „баёў у Руры".

* Сэктар мастацтваў Наркомасьветы заслухаў даклад Усекоппромсаюзу аб організацыі коопэрацыйнага музычна-відовішчнага аб'яднаньня. Аднэй з асноўных задач аб'яднаньня зьяўляецца выпуск патаненых і высокаякасных інструмантаў і выраб тэатральнага абсталяваньня—ад электромэханічнага да грыму ўключна.

Улічваючы неабходнасьць разгарнуць магутную сетку відовішчных прадпрыемстваў, якія маглі-б ахапіць увесь Саюз, аб'яднаньне прапанавала Наркомасьветы проект аб адчыненьні на сродкі Ўсекоппромсаюзу шэрагу музычных і тэатральных школ, у якіх будуць рыхтавацца новыя мастацкія кадры, а таксама адкрыцьцё новых стацыянарных тэатраў, работнікі якіх павінны быць аб'яднаны на коопэрацыйных пачатках.

* 29 верасьня споўніўся год са дня абвяшчэньня РАПП сумесна з УсеЦСПС заклiку ўдарнікаў у пролетарскую літаратуру.

Толькі нядаўна пленум праўленьня РАПП падвёў вынікі першаму этапу заклiку рабочых ударнікаў. Яны гавораць самі за сябе. Ударнік ужо стаў цэнтральнай фігурай літаратурнага руху; за кошт ударніка рух расьце і ўглыбкі, і ўшыркі. На шмат сотняў вырасьлі Раппаўскія організацыі, новым зьместам напоўнілася іх работа. Заклік ударнікаў даў новы, рашаючы разгон барацьбе за проле-

тарскае літаратурнае асяродзьдзе, за новы тып пісьменьніка.

Прыход ударнікаў у РАПП і РОПКП таксама азначае рост творчых кадраў пролетарскай і пролетарска-колгаснай літаратуры—выхоўваецца пісьменьнік, непарыўна зьвязаны з справаю сваёй клясы.

Значэньне закліку ўдарнікаў, такім чынам, вялізарнае. Яно выходзіць за літаратурныя межы, бо ён, заклік, „абумоўлены значнымі посьпехамі культурнай рэволюцыі, якія набываюць пад ленінскім кіраўніцтвам партыі ўсё больш шырокі разгон у нашай краіне“. (З рэзолюцыі пленуму праўленьня РАПП па дакладу тав. Кіршона).

* „Издательство писателей в Ленинграде“ прыступіла да выданьня сэрыі кніг па гісторыі грамадзянскай вайны. Другая масавая сэрыя кніг, якія выпускае выдавецтва—гэта бібліотэка для пачынаючага чытача, на чале рэдакцыі якой стаіць М. Чумадрын.

* Паводле заданьня сакратарыяту РАПП група пролетарскіх драматургаў—В. Кіршон, А. Афінагенаў, Ю. Лебедзінскі—працуе над складаньнем спэцыяльнага „дакументу па тэатру“, які павінен зьявіцца програмнай устаноўкай РАПП у пытаньнях тэатру і творчай тэатральнай практыкі. У кастрычніку распрацаваная дэкларацыя будзе абмяркована на паседжаньні сакратарыяту РАПП.

* Памяшканьне клюбу фэдэрацыі савецкіх пісьменьнікаў не задавальняе патрэбы організацыі і шырокіх мас рабочых-ударнікаў, заклікаными у літаратуру. Зараз пастаўлена пытаньне аб пабудове ў Маскве (па прыкладу Ленінграду) комбінату—палацу культуры. Пытаньне аб пабудове комбінату будзе разглядацца УсеЦСПС.

* У Ленінград выяжджаў Максім Горкі. У тэатры ЛАПП імя Горкага адбылася сустрэча. У гутарцы прынялі ўдзел т. Авербах, Лібедзінскі і інш.

Горкім была склікана нарада Ленінградзкіх пісьменьнікаў па пытаньню выданьня гісторыі грамадзянскай вайны. Ленінградзкаму Вялікаму Драматычнаму Тэатру Горкі перадаў для пастаноўкі сваю новую п'есу „Егор Булачев“.

23 верасьня Максім Горкі выступіў у Выбаргскім Доме Культуры на сходзе працаўнікоў выдавецтваў, пісьменьнікаў, рабкораў і рабочых-ударнікаў.

* Праўленьне ВССП прызнала неабходным выдаць зборнік творчай дыскусіі саюзу пісьменьнікаў і зборнік крытычных артыкулаў па конкрэтных творах пісьменьнікаў—членаў ВССП. Апрача дакладу В. Палонскага „Інтуіцыя і творчасьць“, у програму прац творчай дыскусіі ВССП уваходзяць даклады: Н. Алеева пра поэзію, К. Зелінскага—„Творчасьць і тэхніка“

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Літаратурная грамадзкасьць Савецкай Украіны рыхтуецца да сьвяткаваньня двух юбілеяў—пяцігодзьдзе ўсеукраінскай арганізацыі комсамольскіх пісьменьнікаў „Маладняк“ і пяцігодзьдзя украінскага саюзу пролетарскіх пісьменьнікаў (ВУСПП).

Да пяцігодзьдзя ВУСПП выдавецтва мастацкай літаратуры Украіны („ЛІМ“) выпускае шэраг зборнікаў, якія асьвятляюць работу паасобных нацыянальных сэкцый ВУСПП, і вялікую монографію, прысьвечаную разьвіцьцю літаратуры на Украіне.

Юбілейныя дні будуць праведзены пад знакам барацьбы за далейшую перабудову далейшай работы ВУСПП і „Маладняка“, за замацаваньне вынікаў закліку ўдарнікаў у літаратуру і больш рашучы паварот арганізацый да творчых пытаньняў, да задач авалоданьня дыялектычным матэрыялізмам.

* Асабліва прыемна констатаваць шырокую падрыхтоўку заводзкіх гурткоў ВУСПП да творчае дыскусіі. Сакратарыятам ВУСПП ужо раздадзены кіраўнікам заводзкіх Вуспаўскіх ячэяк адпаведныя тэзісы і літаратура.

Зразумела, дыскусія ня будзе кранацца толькі ўнутрывуспаўскіх творчых пытаньняў.

Проблема перабудаваньня папутніцтва, устанаўленьне больш шчыльнага контакту з пролетарска-колгаснай літаратурай („Плугам)“,—усё гэта будзе закранута дыскусіяй. Ня трэба забывацца на тое, што шмат якія папутнікі на Украіне з прычыны адсутнасьці тут „Саюзу савецкіх пісьменьнікаў“ прабываюць у становішчы „дзікіх“. ВУСПП‘у і „Маладняку“ павінна належыць ініцыятыва ў арганізацыі распыленых папутніцкіх кадраў і спрыяньні паасобным „папутнікам“, што перабудоўваюцца.

* У яўсэкцыі ВУСПП створана першая творчая група „Напоставізм“ у складзе таварышоў І. Фэфера, Х. Гільдзіна, А. Абчук і Я. Вявюрка.

* У бліжэйшыя месяцы будзе апублікованы роман Івана Ле—„Інтэграл“, прысьвечаны Донбасу. Гэты роман, між іншым, пакажа завод, калісьці апісаны А. І. Купрыным у апавяданьні „Молох“.

* Друкуецца роман В. Кузьміча „Турбіны“—пра Днепрабуд. Па сваім абхопе і па колькасьці тэхнолёгічных ведаў ён зьяўляецца своеасаблівай літаратурнай энцыклёпэдыяй Днепрабуду.

* Ів. Кірленка напісаў роман, прысьвечаны Днепрапятроўскаму заводу.

* Вышаў з друку роман Я. Качуры „Ольга“. Зараз пісьменьнік працуе над романам „Адраджэньне“—з жыцьця саўгасаў.

* М. Ірчан працуе над нізкай апавяданьняў з жыцьця Чырвонае арміі.

* Выдавецтва пролетарскіх пісьменьнікаў „Гарт“ выдае альманах з мастацкіх твораў вуспаўцаў пад на-

зваю „Індустрыяльны паход“, які будзе адбіваць творчы ўдзел пролетарскіх пісьменьнікаў у барацьбе за пяцігодку, за соцыялістычную індустрыялізацыю. Альманах выйдзе пад рэдакцыяй Івана Мікітэнка.

* Амаль што на працягу месяцу ў адэскіх лягерах Чырвонай арміі працавала брыгада Укр. ЛАЧАФ'у ў складзе т.т. Галушка, Гаска, Нячай, Квітко; у лягеры 80 дывізіі—Іваноў, Ёгансэн, Мар'янаў; у першай Чырвонаказачай дывізіі—Пацяк, Загрымны; у 25 Чапаеўскай—Пылепенка, Клочча, Першамайскі, Бедзік; у 99 дывізіі—Іваноў, Нядоля, Мар'ямаў і 23 дывізіі—Мінко, Ясны.

* У канцы ліпеня наведалі Харкаў польскі пролетарскі поэт Рышард Стандэ і нямецкі пролетарскі пісьменьнік Альбэрт Готопп.

Госьці наведалі Днепрабуд, а таксама знаёміліся з соцыялістычным будаўніцтвам сталіцы Украіны.

---

## ЗЬМЕСТ

